**Валянцін Жданко. Лісты на Свабоду.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе.) — Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2014. 428 с.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Карэктар *Мікола Раманоўскі*
Мастак *Генадзь Мацур*

Выбраныя старонкі папулярнай радыёперадачы «Паштовая скрынка 111» прысьвечаныя надзённым праблемам сучаснага жыцьця ў Беларусі (2000–2014).

© Радыё Свабодная Эўропа / Радыё Свабода, 2014
FOL
ISBN 978-0-929849-65-2

# *Зьмест*

# *Адрас без двукосьсся*

Чаму пішуць лісты на Свабоду?

Бо:

«...падчас слуханьня Свабоды я адчуваю сябе па-сапраўднаму свабодным чалавекам»
(Міхась Данько, Давыд-Гарадок).

«...хачу атрымаць кнігу С. Дубаўца “Як?”, каб зь яе дапамогай выхоўваць сваіх бацькоў і асабліва — дзядоў. Яе тэксты з маіх вуснаў яны ўжо будуць слухаць напэўна!»
(Ірына Аўгуль, Астравецкі раён).

«... я ўкраінец, але дзякуючы беларускай “Свабодзе”, слухаючы вас, вывучыў беларускую мову. Вашы перадачы мне вельмі падабаюцца, яны надзвычай цікавыя. Нават цікавейшыя за футбольны чэмпіянат сьвету. Таму я нават падчас сусьветнага футбольнага першынства слухаў вас штодня і ўвечары, і раніцай»
(Ігар Земляны, Днепрапятроўская вобласьць).

«...гэта ўсё роўна што пасьля лазьні выпіць кілішак гарэлкі: і сьветла, і весела, і радасна»
(Васіль Завадзкі, Маладэчна).

«...праўдзівую інфармацыю пра падзеі ў Беларусі я атрымліваю толькі ад Свабоды»
(Аляксандар Пекар, Старадароскі раён).

«...рэдакцыя не ўхіляецца ад адказаў нават на “непрычасаныя” пытаньні»
(Міхал Грамыка, Пінск).

«...Радыё Свабода ёсьць адзінай станцыяй, якую можна рэгулярна слухаць, каб мець зьвесткі пра сваю радзіму»
(Мікалай Бусел, Сьветлагорскі раён).

«...уцякаеш ад жыцьцёвай марнасьці і панаваньня расейшчыны»
(Ян Савіцкі, Баранавічы).

«...вы заслужылі давер»
(Валянціна Богуш, Менск).

«...па той самай прычыне, па якой я пішу назву радыёстанцыі без двукосься, успрымаючы яе не як радыёстанцыю, а як форму існаваньня, як стан маёй душы»
(Кастусь Сырэль, Ушачы).

І ёсьць яшчэ адна важкая прычына, чаму слухачы бяруць пяро і аркуш паперы, выводзяць адрас Свабоды і нясуць лісты да паштовай скрыні — таму што іх чытае Валянцін Жданко.

Чытае ўсе — ніводзін з тысячаў лістоў не застаўся безь ягонай увагі. Выбірае самае важнае, сапраўды перажытае і набалелае, што будзе цікава розным людзям у розных кутках Беларусі. Словы аўтараў гучаць у эфіры ягоным роўным, ясным, выразным голасам — і гэта стварае адчуваньне асабістай блізасьці і даверу. Адказвае на развагі, прапановы, крытыку ляканічна і грунтоўна, напрасткі зьвяртаючыся да слухачоў, непахісна трымаючыся

двух правілаў: нікога ніколі не абражаць і гаварыць праўду, якая б яна ні была.

Ёсць і трэцяе правіла — спагадлівасьці, павагі да жыцьця ва ўсіх яго праявах, зычлівасьці, якая спалучаецца зь цьвёрдай верай у спрадвечныя каштоўнасьці і ўпэўненасьцю ў дэмакратычным выбары.

Любы ліст — выхад чалавека на людзі ў шырокі сьвет.

Шмат для каго гэты сьвет гаворыць непаўторным голасам Валянціна Жданко.

Пішыце. Чакаем новых допісаў. Адрас можна пісаць без двукосься.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода.*

# *Пра гэтую кнігу*

Свабоду ў нашай лясной вёсачцы Краснае адкрыта, не хаваючыся, слухалі двое. Абодва былі маімі суседзямі. Худы, самотны, хворы на сухоты Ясь Жданко, управіўшыся ўвечары па гаспадарцы, уключаў сваю радыёлу «Родина» — і завываньне няўстойлівых кароткіх хваляў часта было чуваць нават на нашым панадворку.

Дзядзька Ясь часам заходзіў да нас і, хітра прыжмурыўшы вока, зьвяртаўся да мяне як да вядомага ў вёсцы выдатніка вучобы:

— А казалі вам у школе, чаму Брэжнеў палез у Аўганістан і што там цяпер робіцца?

Не даслухаўшы мой няўцямны адказ, махаў рукой:

— Бальшавікі праўды ня скажуць…

І пераказваў мне і маім спалоханым бацькам апошнія зводкі зь перавалаў Гіндукуша, дзе сотнямі гінулі кінутыя туды на згубу маладыя савецкія хлопцы. Бацькі былі ўстрывожаныя, бо налета ў войска павінны былі прызваць майго старэйшага брата, а яшчэ праз два гады — мяне. У савецкіх газэтах пра вайну фактычна не пісалі.

Яшчэ Свабоду слухаў няшмат старэйшы за мяне Віця Багдзевіч — нязграбны, прастадушны, наіўны. Напрыканцы красавіка 1986 году вечары навылёт мы не адыходзілі ад ягонага VEFа,

ловячы зьвесткі пра тое, у які бок рухаецца чарнобыльскае воблака, і спрабуючы вылічыць, ці накрые яно нашу вёску.

— А чаму нашы маўчаць? Ты ж там у Менску да іх бліжэй… Чаму? — усё дапытваўся ён у мяне ў тыя дні. Пасьля Свабоды мы ўключалі тэлевізар: там паказвалі суцэльныя першамайскія сьвяткаваньні.

А калі праз тыдзень Віцю разам зь ягоным аўтакранам паслалі на Гомельшчыну, у «зону», ён паслухмяна паехаў. На першым часе, пакуль не захварэў, радаваўся, што там плацілі на 50 рублёў болей.

Апошнія пятнаццаць гадоў, чытаючы лісты і спрабуючы адказваць на іх, я часта ўспамінаў гэтых першых у маім жыцьці слухачоў Свабоды, іхнае стаўленьне да паўзабароненага тады радыё, іхную рэакцыю на пачутае. Мне здаецца, гэтыя ўспаміны дапамагалі мне ў размове са слухачамі.

У кнігу ўвайшла толькі невялікая частка дзясяткаў тысяч лістоў, што прыйшлі за мінулыя паўтара дзесяцігодзьдзя на знаёмы для многіх адрас — Менск-5, паштовая скрынка 111. Для кнігі я выбраў пераважна тыя зь іх, дзе няма глыбакадумных развагаў пра лёсы дэмакратыі і незалежнасьці, улады і апазыцыі, а ёсьць аповеды пра штодзённыя абставіны жыцьця — канкрэтныя назіраньні, здарэньні, выпадкі, дэталі побыту. У гэтых лістах — тое, пра што думалі беларусы на пачатку XXI стагодзьдзя, што іх турбавала і непакоіла, забаўляла і трывожыла, на што яны шукалі і не знаходзілі адказу.

Напісаныя пераважна ад рукі, чарнільнымі і шарыкавымі ручкамі і алоўкамі, на аркушах з вучнёўскіх сшыткаў… Я добра ўяўляю, як яны нараджаліся, у якіх умовах былі напісаныя, якіх высілкаў (а часам і грамадзянскай мужнасьці) вымагалі ад аўтараў — асабліва ад тых, якія адважваліся падпісваць іх нявыдуманымі імёнамі і праўдзівымі адрасамі.

Наступная падобная кніга ўжо наўрад ці калі зьявіцца. Амаль зьніклі з гарадзкіх і вясковых вуліц сінія паштовыя скрынкі для лістоў — тыя самыя, якія дваццаць год таму можна было ўбачыць на кожным кроку. Ня толькі ў вёсках, але і ў вялікіх мястэчках адно за адным зачыняюцца паштовыя аддзяленьні. Здымаюцца з вытворчасьці і зьнікаюць з продажу караткахвалевыя прымачы. Нарэшце, не вытрымліваючы канкурэнцыі з інтэрнэтам, зьнікае само радыё на кароткіх хвалях. Неўзабаве змоўкне ў эфіры і Свабода…

І пакрысе адыходзяць у лепшы сьвет тыя, для каго гэтае радыё на працягу многіх дзесяцігодзьдзяў было істотнай і важнай часткай штодзённага існаваньня.

Даўно няма дзядзькі Яся — трагічна загінуў пад коламі трактара п’янага сябрука-трактарыста. У 40-гадовым узросьце ад цяжкай хваробы памёр Віця Багдзевіч. Жывых хатаў у маёй вёсачцы Краснае на гэты дзень засталося шэсьць. Слухаць Свабоду там больш няма каму.

# 2000

*«Мне, былой настаўніцы, сорамна, але часам даводзіцца гандляваць цыгарэтамі ля крамы»*

***Спачатку гэты картэж вылучаўся толькі міліцэйскімі мігалкамі. Потым міліцыя ды спэцслужбы сталі перагароджваць усе прылеглыя вуліцы. А цяпер дайшло да таго, што, калі ён едзе, забараняюць нават адчыняць форткі і выходзіць з хаты. Каго ён так баіцца?***

*Арэнці Дзегіль, Менск*

***16.03.2000***

**Час ад часу я ежджу ў сталічны мікрараён Вясьнянка па крынічную ваду, бо тую хляраваную, што падаецца ў наш дом, піць амаль немагчыма. Крыніца побач з праспэктам Машэрава, па якім з рэзыдэнцыі з Драздоў якраз а восьмай раніцы, калі я прыяжджаю па ваду, праносіцца пад завываньне сырэнаў узброены да зубоў картэж Лукашэнкі. Пры гэтым уздоўж трасы й на прылеглых вуліцах дзяжурыць вялікая колькасьць супрацоўнікаў міліцыі і дарожнай аўтаінспэкцыі.**

**У зьвязку з гэтым згадваю адну адметную падзею, пра якую мне ў маленстве распавяла маці, а пазьней, у сярэдзіне 70-х гадоў, больш падрабязна апісаў настаўнік гісторыі Ўладзімер Томка, які**

**жыў і працаваў у мястэчку Гарадзішча Баранавіцкага раёну. Было гэта ў часе I сусьветнай вайны. Аднойчы сонечным веснавым днём 1915 году зь лініі фронту скіроўваўся ў Баранавічы, дзе тады быў штаб, расейскі імпэратар Мікалай II. Ехаў ён на легкавым аўтамабілі паўзь легендарнае лясное возера Сьвіцязь, на якое жадаў паглядзець, і таму завітаў у наша мястэчка Гарадзішча. Акрамя яго й кіроўцы, у аўтамабілі быў толькі адзін афіцэр — больш аніякай аховы.**

**Дык вось, калі машына пад'яжджала да Гарадзішча, яе заўважыла мясцовая дзятва й з радаснымі воклічамі ад гэткае незвычайнае на той час зьявы кінулася наўздагон. Між тым аўтамабіль пераехаў мост і ўжо ў суправаджэньні дзяцей пачаў павольна падымацца ўгару, да цэнтральнага пляцу мястэчка. Там ён спыніўся ля пошты, і афіцэр выйшаў, каб тэлеграфаваць у Баранавічы. Тым часам ля легкавіка пачаў зьбірацца народ. Пазнаўшы цара, дарослыя сталі перашэптвацца, а некаторыя са старэйшых — маліцца. Што ж да Мікалая II, дык ён адчыніў дзьверцы, паклікаў да сябе дзяцей і, апытваючы ў іх сярод іншага таблічку множаньня, за слушныя адказы ўзнагароджваў цукеркамі.**

**Вось так, узгадваючы тагачасную гісторыю і параўноўваючы зь сёньняшнімі беларускімі рэаліямі, міжволі робіш выснову пра тое, як жа далёка цяпер ад народу Лукашэнка.**

На гэтую праблему зьвяртае ўвагу, бадай, кожны, хто хоць аднойчы назіраў, як рухаецца па дарогах Беларусі Лукашэнкаў картэж браняваных лімузінаў у суправаджэньні тузіна міліцэйскіх

машын з сырэнамі. Усё жывое ў навакольлі павінна замерці дзеля таго, каб Лукашэнка імчаў з хуткасьцю 120 кілямэтраў у гадзіну. Дзеля таго каб перагарадзіць усе навакольныя вуліцы й дарогі, улады кідаюць усе наяўныя сілы міліцыі і КДБ. Пад колы Лукашэнкавага картэжу ўжо не аднойчы траплялі выпадковыя машыны, якія не пасьпелі прыцісьнуцца да абочыны.

Кожны раз, назіраючы гэта, я ўзгадваю першага кіраўніка незалежнае Беларусі Станіслава Шушкевіча зь ягонымі двума ахоўнікамі, з афіцыйнымі візытамі на маленькім самалёце «Як-40» кампаніі «Белавія» і са звычайнай кватэраю на праспэкце Машэрава. Гэта яго дэпутат Лукашэнка абвінавачваў у асабістай нясьціпласьці й злоўжываньні службовым становішчам. У многім дзякуючы тым выкрыцьцям шклоўскі дырэктар саўгасу і стаў прэзыдэнтам.

## *Алесь Кухто, Віцебск*

***23.03.2000***

**Зусім нядаўна ў Віцебску, як і ў іншых абласных цэнтрах, адкрыты вялікі лядовы палац, узьвядзеньне якога кантраляваў асабіста Лукашэнка. Але дзеці простых гараджанаў як не маглі гуляць у хакей без палаца, так ня могуць і цяпер. Хлопчыку, які захоча займацца спортам у лядовым палацы, трэба заплаціць за гадзіну заняткаў 250 тысяч рублёў. А з Новага году адміністрацыя зьбіраецца падвысіць кошты. Ці змогуць нашы дзеці там быць? І каму быў**

**патрэбен гэты лядовы палац, калі ў нас не хапае сродкаў на лекі ды на шмат яшчэ што іншае, без чаго нельга абысьціся?**

Аляксандар Лукашэнка сам любіць паганяць шайбу па лёдзе і раўніва сочыць за посьпехамі й няўдачамі беларускіх хакеістаў. Гэтае ягонае захапленьне выглядала б зусім прыстойна і нават сымпатычна, калі б мела разумныя межы…

Дзясятак лядовых палацаў, якія пабудаваныя ці будуюцца ў розных кутках краіны, абыдзецца Беларусі прыблізна ў 150–200 мільёнаў даляраў. Гэткай раскошы ня могуць дазволіць сабе нават непараўнальна багацейшыя за Беларусь краіны — напрыклад, Польшча ці Вугоршчына.

Праблема ня толькі ў тым, каб пабудаваць лядовую арэну, але і ў тым, каб яе ўтрымліваць. Гэтая дарагая цацка не разьлічаная ані на сьціплыя гарадзкія бюджэты, ані на небагатых беларускіх дзяцей.

## *Ірына Шляймовіч, Менск*

***30.03.2000***

**У 1991 годзе падчас тэрміновае службы ў войску майго сына зьбілі. У выніку ён перанёс дзьве складаныя апэрацыі, страціў здароўе, цяпер ня можа займацца працаю паводле сваёй спэцыяльнасьці. У войску сына запалохвалі, каб не казаў, хто яго зьбіў. У выніку траўму не зарэгістравалі, сын ня быў камісаваны ва ўстаноўленым парадку. І не атрымаў за калецтва аніякае страхоўкі.**

**Колькі мне давялося выхадзіць, паезьдзіць і пераҗыць зьняваг ад усіх, у каго была на прыёме. І амаль усюды зь мяне рабілі дурніцу — настолькі вялікая чэрствасьць і бяздушнасьць вайсковых чыноўнікаў. Яны ўвогуле ня здольныя зразумець, што нехта адважваецца не пагаджацца зь іхнымі довадамі. А довады адны: паколькі ў вайсковай часьці няма матэрыялаў расьсьледаваньня, дык і няма пра што казаць. Не разумею — чаму. Я ж ім у войска аддала здаровага моцнага сыночка, а дамоў вярнуўся хворы чалавек, інвалід. Я не дамагаюся, каб некага за гэта судзілі, пасадзілі ў турму — няхай таго чалавека пакарае Бог. Але няўжо я ня маю права на даведку, паводле якой мой сын мог бы атрымаць хоць якую кампэнсацыю за страчанае здароўе?**

Норавы, якія пануюць у беларускім войску, — гэта савецкая імпэрская спадчына, дзе не было месца асобе, дзе многія казармы былі падобныя да турэмных камэр і дзе за агароджаю вайсковае часьці ўвогуле пераставалі дзейнічаць законы.

Адмаўленьня ад тае спадчыны не адбылося й сёньня — досьвед Ірыны пра гэта сьведчыць. У генэральскіх кабінэтах — тыя самыя, хто дзесяць год таму камандаваў у казармах і дзеля добрых паказьнікаў у справаздачах прымушаў салдатаў маўчаць пра зьдзекі, а часам і трагедыі. Сёньня яны не зьбіраюцца адказваць за ўласныя злачынствы, спасылаючыся ўжо на адсутнасьць дакумэнтаў. Хоць выдатна ведаюць тэхналёгію савецкага разбору падобных спраў, паводле якой нестатутныя адносіны ў Савецкай Арміі ўвогуле не прызнаваліся.

## *Іван Лявоненка, вёска Рудня, Лагойскі раён*

***06.04.2000***

**Уражвае падабенства палітычных біяграфіяў многіх дзеячоў, з імёнамі якіх сёньня часам атаясамліваецца беларуская апазыцыя. Міхаіл Чыгір, Віктар Ганчар, Анатоль Лябедзька, Станіслаў Багданкевіч, Юры Захаранка, Аляксандар Фядута… Вядома, зь якога кубла яны выпалі ў апазыцыю. Вараняня, якое выпала з гнязда (ці то само палезла на край ды звалілася, ці то варона-маці сваім крылом штурхнула неслуха) — і апынулася на зямлі, не становіцца ані жаўруком, ані шпаком.**

**Аднойчы Анатоль Лябедзька, апраўдваючы сваё паплечніцтва з Лукашэнкам, узгадаў нават нейкія дэмакратычныя памкненьні былога шэфа на пачатку прэзыдэнцтва. Сапраўды, герб «Пагоня» ўзьняўся над Домам ураду адразу ж пасьля прыходу Лукашэнкі да ўлады. Але спатрэбілася няшмат часу, каб скінуць ня толькі гэты герб, але й бел-чырвона-белы сьцяг.**

**Можна памыляцца, ацэньваючы напачатку каго-небудзь ці што-небудзь. Але ж што тычыцца Лукашэнкі, то ня трэба быць палітыкам ці нават вельмі дасьведчаным чалавекам, каб вызначыць ягоную сутнасьць пасьля двух-трох выступаў у тагачасным Вярхоўным Савеце. Балазе, сэсіі тады трансьляваліся на ўсю Беларусь. А калі ты гэтага не разгледзеў ці не зразумеў, дык не выдавай сябе за палітыка, тым больш — за руплíўца Бацькаўшчыны.**

**Усе яны сталі апазыцыянэрамі, гэтак як і раней служылі Лукашэнку, зусім не на падставе палітычных ці ідэйных перакананьняў. Іхнае жыцьцёвае крэда мае вельмі празрыстую акрэсьленасьць. На расейскай мове гэта называецца «шкурничеством», а ў беларускай, здаецца, няма адпаведніка. Прыстасаваліся людзі да карыта, а калі страцілі яго, кінуліся шукаць другое. Нечакана ўсе зрабіліся патрыётамі, успомнілі родную мову і... сталі апазыцыянэрамі. Але ад перамены месцаў складнікаў сума не зьмяняецца. Таму і ніякай пагрозы рэжыму такая апазыцыя не ўяўляе. Яна — ня сіла, а толькі цацка ў гульнях Лукашэнкі з Захадам.**

Гэтыя словы нашага слухача, відавочна, крыўдныя для некаторых апазыцыйных палітыкаў, але падобныя думкі падзяляюць многія людзі, якія памятаюць пачатак 90-х і акалічнасьці прыходу Лукашэнкі да ўлады.

На жаль, вельмі нямногія асобы, якія займаюцца палітычнай дзейнасьцю, стала сувымяраюць свае ўчынкі з высокімі маральнымі стандартамі. Лічыцца, што дасягнуць канчатковае мэты — здабыць уладу — надзвычай цяжка (мо і немагчыма), калі не падладжвацца пад момант, не прамаўляць папулісцкія лёзунгі й не авалодваць гэтак званымі «палітычнымі тэхналёгіямі». Гэта зрабілася ледзь не абавязковым атрыбутам прафэсіі палітыка. Такі аспэкт важна ўлічваць, даючы ацэнку тым асобам, пра якіх так катэгарычна напісаў Іван Лявоненка.

## *Юры Канышка, Ворша*

***06.04.2000***

**Няма ўласнага дому — ня можа быць і парадку ў такім жытле. Гэта прахадны двор, дзе ўсе плююць, раскідваюць сьмецьце, зьнішчаюць культуру, падманваюць, крадуць. Вядома, не свая хата…**

**З нас нават афрыканцы насьміхаюцца — кажуць, Беларусь магла б жыць толькі за кошт сваіх вучоных, а жыве ў такой нястачы…**

**Беларусь адкінутая сваім кіраўніцтвам на дзясяткі гадоў назад. Каб купіць набор прадуктаў на месяц у разьліку на дарослага чалавека, у лютым 2000 году трэба было мець 65 даляраў. Гэта звычайныя простыя прадукты, не далікатэсы. Але хто ў нас атрымлівае такія грошы — адзінкі. Іншымі словамі, бальшыня беларусаў харчуецца абы-як, няякаснай ежаю, безь вітамінаў, бязь якасных бялкоў. Адкуль быць здароўю? І ці трэба зьдзіўляцца, калі за тыя гады, што пры ўладзе Лукашэнка, колькасьць жыхароў у Беларусі пачала рэзка скарачацца, а 30 адсоткаў прызыўнікоў штогод прызнаюцца непрыдатнымі да вайсковае службы?**

Сапраўды, гэты паказьнік — сьмяротнасьці насельніцтва й дынамікі нараджальнасьці — вельмі дакладна сьведчыць пра вынікі эканамічнае палітыкі. Колькасьць насельніцтва Беларусі пачала скарачацца якраз у 94-м годзе, калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады. І за шэсьць гадоў ягонага прэзыдэнцтва зьменшылася больш як на паўмільёна чалавек — гэта насельніцтва буйнога гораду.

## *Сымон Яскевіч, Менск*

***04.05.2000***

**Апошнім часам даводзіцца чуць, як вашы карэспандэнты называюць старшыняў абласных выканаўчых камітэтаў «губэрнатарамі»... Хіба мы ўжо жывем у Расеі? Крыўдна, што нашы журналісты робяць такія недаравальныя памылкі. Агульнавядома ж, што губэрнатар ва ўсім сьвеце, як і мэр — пасада выбарная. Іх абірае народ. А нашы гэтак званыя «губэрнатары» й «мэры» вядома кім абраныя.**

**Называючы старшыню абласнога камітэту губэрнатарам, а старшыню гарадзкога выканаўчага камітэту — мэрам, мы, з аднаго боку, уводзім людзей у зман, а з другога — надаем шмат гонару гэтым старшыням.**

Палітычную моду называць старшыняў абласных ды гарадзкіх выканаўчых камітэтаў «губэрнатарамі» й «мэрамі» ўвёў Лукашэнка. Тэрміны, як і шмат што іншае, ён пераймае ў расейцаў. Хоць у сапраўднасьці беларускі гэтак званы «губэрнатар» адрозьніваецца ад губэрнатара расейскага гэтак жа, як за камуністамі проста кампартыйны сакратар адрозьніваўся ад сакратара генэральнага.

Кіраўнік вобласьці ў сёньняшняй Беларусі — гэта якраз старшыня абласнога выканаўчага камітэту ў самым што ні ёсьць савецкім сэнсе гэтае пасады. Лукашэнка ў любы момант можа яго, як Кулічкова, прылюдна зьняважыць, выгнаць з кабінэту й зьняць з пасады. За чыноўнікам няма падтрымкі людзей, няма справядлівых выбараў. Адпаведна,

няма і аніякай адказнасьці перад выбаршчыкамі. Ён залежыць толькі ад Лукашэнкі і толькі яму намагаецца дагадзіць.

## *Уладзіслаў Жыгалка, Менск*

***04.05.2000***

**Часам згадваю такую карцінку савецкай эпохі: набывае чалавек у шапіку газэту, тут жа разгортвае яе, кідае вокам — і адразу камечыць і шпурляе ў сьметніцу. Аказалася, што на ўсіх старонках — матэрыялы чарговага партыйнага пленуму. Сёньня часы, якія, здавалася, назаўсёды мінулі — вяртаюцца. Я таксама ўсё часьцей выкарыстоўваю частку газэты «Рэспубліка» (а часам дык і ўвесь нумар) ня дзеля чытаньня, а, так бы мовіць, дзеля «побытавых патрэбаў». І гэта ня сьмешна, а сумна.**

**У той жа час з газэтамі ды часопісамі, якія не даспадобы ўладам, сытуацыя іншая. Кастрычніцкі нумар часопіса «Крыніца» я атрымаў толькі ў лютым, а нумар за лістапад-сьнежань увогуле ня выйшаў. Кажуць, былы галоўны рэдактар часопіса нечым не дагадзіў Уладзімеру Замяталіну.**

Дэталь паказальная. Хоць цалкам пераняць савецкі досьвед удаецца не заўсёды. Кажуць, нават Аляксандар Лукашэнка абурыўся, калі аднаго разу замест вечаровае «Панарамы» Беларуская тэлевізія адразу запусьціла ягоны трохгадзінны даклад. Так што даклады цяпер крыху скарачаюць — да

прыкладу, замест трох гадзін відэазапіс «уціскаюць» да гадзіны й ставяць пасьля выпуску навінаў; а «Советская Белоруссия» публікуе якія-небудзь чарговыя задачы ўлады не на чатырох палосах, а на дзьвюх. Па форме атрымліваецца ня так адыёзна, як за камуністамі, хоць па сутнасьці — тое самае.

*Іван Садоха, Менск*

***11.05.2000***

**Гэткая была пагалоска пра вайсковы парад, што я, стары дурань, спакусіўся, паабяцаў унукам, што 9 траўня звaджу іх на пляц Незалежнасьці паглядзець на танкі ды ракеты. Прачнуліся рана, апрануліся па-сьвяточнаму, таўкліся ў перапоўненым аўтобусе… Але зь якога боку ні падыходзілі да пляцу, паўсюль упіраліся ў міліцэйскае ачапленьне. Нідзе не дапамаглі нават мае мэдалі — міліцыянты патрабавалі пропуск…**

**Я абураўся: «Чаму патрэбен пропуск, каб хадзіць па сваім родным горадзе?» У адказ чуў кпіны й лаянку. Унукі плакалі, я нэрваваўся. Сьвята было канчаткова сапсутае. Мы стаялі ў нейкім глухім двары, над галовамі зь віскам праносіліся самалёты, і гэта толькі раздражняла.**

**Нас выпусьцілі на пляц толькі пасьля параду. Асфальт, яшчэ днямі такі акуратны, быў пасечаны тракамі вайсковае тэхнікі. Па пляцы бадзяліся нецьвярозыя людзі. Паўсюль прадавалі гарэлку. Было крыўдна й млосна…**

**На такі парад я ўнукаў больш ніколі не павяду. Бо наладжваўся ён не для народу, а для аднаго-**

**адзінага гледача, ад якога ўсіх нас і адгароджвалі тыя тысячы міліцыянтаў.**

Нідзе ані ў Эўропе, ані ў былым Савецкім Саюзе не наладжвалі ў дзень заканчэньня Другое сусьветнае вайны такі парад, як у Менску — з бранятэхнікаю і самалётамі, з трактарамі й сенакасілкамі. Нават у Маскве пашкадавалі на гэта грошы й брук на Красным пляцы, які пасьля сталёвых тракаў давялося б рамантаваць.

У Менску дзеля дэманстрацыі вайсковае магутнасьці не шкадавалі ані грошай, ані нэрваў людзей, якіх спачатку не дапускалі ў цэнтар гораду падчас шматлікіх штовечаровых рэпэтыцыяў параду, а потым прынізілі й тым, што не пусьцілі на само гэтае шоў. Парад, сапраўды, быў не для іх. Ён быў дзеля задавальненьня амбіцыяў аднае асобы. І ў той дзень гэта многія зразумелі.

## *Яўген Бабаеў, Гомель*

***11.05.2000***

**Дзіўлюся, як людзі вераць казкам улады наконт таго, што ў цяперашняй эканамічнай катастрофе Беларусі вінаватыя нібыта дэмакраты — маўляў, гэта Шушкевіч краіну разваліў, вось Лукашэнку цяпер і цяжка ўсё выправіць. Гэта аргумэнт для тых, у каго няма ані памяці, ані здольнасьці лічыць да дзесяці. Колькі часу Шушкевіч быў старшынём Вярхоўнага Савету? Два гады. А колькі Лукашэнка кіруе Беларусьсю, захапіўшы ўсю ўладу й творачы тут усё, што яму**

**заўгодна? Шэсьць гадоў. Ды за такі час краіны з попелу паўстаюць, з пасьляваенных руінаў. Уся Ўсходняя Эўропа, у якой на пачатку 90-х становішча было ня лепшае за наша, устала на ногі. Сярэдні заробак там сягае 300–400 даляраў. Людзі маюць магчымасьць зарабляць, бачаць пэрспэктыву. А нас улада частуе байкамі пра «саюз» ды сацыялізм і ператварыла ў жабракоў. Уся краіна — вялікі калгас. А ў калгасе ж, вядомая справа — калі ня вымакла, дык выгарала, добрага ўраджаю не бывае ніколі.**

Параўнаньне шасьці гадоў фактычнага прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі з тымі двума гадамі, калі Станіслаў Шушкевіч узначальваў Вярхоўны Савет, не зусім карэктнае. Фармальна Шушкевіч лічыўся кіраўніком краіны, але рэальнай улады, каб ажыцьцяўляць уласную палітыку, ня меў. Беларусь тады была парлямэнцкай рэспублікаю, а найбольшай рэальнай уладаю валодаў прэм'ер-міністар Вячаслаў Кебіч. Які, дарэчы, ня быў прыхільнікам ані рынкавай эканомікі, ані незалежнасьці Беларусі. І гэта толькі падмацоўвае вашы высновы, Яўген.

Што да Беларусі як да вялікага калгасу — дык што ж, само жыцьцё пацьвярджае гэтае параўнаньне. Тры гады таму не было ў нас ураджаю, бо пранеслася бура, пазалетась замінала паводка — усё вымакла, летась — засуха (адпаведна, усё высахла). Сёлета вось выглядае, што ўраджай вымерз, бо зь Менску ў калгасы паступіла дырэктыва адсеяцца ў красавіку, а на пачатку траўня надарыліся начныя маразы…

Але самая вялікая калгасная таямніца ў тым, што ўраджаю ўсё роўна ня будзе, нават калі не

перашкодзяць маразы й паводкі… Не даедзе ён да засекаў: пагубляюць па дарозе або раскрадуць. Бо гэта асноўная ўласьцівасьць такое формы гаспадараньня, дзе няма ўласьніка і эканамічнага інтарэсу, а ёсьць толькі прымус, жабрацкі заробак ды крывадушныя заклікі да працы.

## *Мікалай Чыбісаў, мястэчка Казлоўшчына, Дзятлаўскі раён*

***29.06.2000***

**Нядаўна давялося ляжаць у больніцы. Неяк у палаце разгаварыліся пра дэмакратыю ў Беларусі, пра БНФ. Сусед па бальнічным ложку распавёў, як яму выпала сутыкнуцца з КДБ.**

**Прозьвішча ягонае Філарэт, ён быў настаўнік гісторыі, цяпер на пэнсіі. Дык вось, у сваёй вёсцы Дварэц Дзятлаўскага раёну ён у размовах зь людзьмі ўхваляў БНФ, казаў, што дэмакраты — адзіная сіла ў Беларусі, якая можа палепшыць жыцьцё…**

**А праз нейкі час да яго завіталі тры асобы ў цывільным. Спачатку гутарылі пра жыцьцё, а потым папярэдзілі: калі ня спыніш свае палітычныя размовы, дык твае сыны, якія скончылі ВНУ, могуць застацца бяз працы.**

**Вось як яны запалохваюць людзей, і, папраўдзе, гэта вельмі сур’ёзна й важна. Застаўшыся бяз працы, становісься нікім: можаш страціць і сям’ю, і нават асабістую свабоду. І тут табе ані БНФ не дапаможа, ані дэмакраты. Кіраўнікам**

**БНФ там, у Менску, добра: ім з-за мяжы ідуць гранты. Дый працу ў сталіцы знайсьці лягчэй. А пры выпадку — і за мяжу зьехаць можна. А нас, простых беларусаў, яны падстаўляюць пад удар. Прычым выглядае, што чым драбнейшая дэмакратычная партыя, тым цяжэй знайсьці паразуменьне ейным лідэрам. А шараговым сябрам таго ж БНФ тым часам думай, да якой партыі далучыцца — ці да Пазьняковай, ці да Вячоркавай. І тыя дэмакраты, і другія… Бяда ў тым, што ўсе лідэры лічаць сябе надта разумнымі. А з-за іхнага розуму бандыты ўжо сем гадоў абкрадаюць народ Беларусі.**

Вашы абвінавачаньні, Мікалай, падаюцца мне не зусім справядлівымі. Калі вашага знаёмца шантажуюць спэцслужбы за ягоныя палітычныя погляды, дык хто ўсё ж у гэтым вінаваты: Партыя БНФ, пазыцыю якой адстойваў былы настаўнік гісторыі, — ці ўлада, якая такім вось чынам імкнецца не дапусьціць палітычнага іншадумства?

А наконт дабротаў ды замежных грантаў, на якіх нібыта раскашуюць у Менску дэмакратычныя лідэры… Пра гэта варта спытаць у тых палітыкаў, якія пасьля ледзь ня кожнай масавай акцыі апазыцыі апынаюцца ў турэмных камэрах, змушаныя цярпець зьдзек і перасьлед на працы, паўставаць перад судамі й плаціць шматмільённыя штрафы. Пад удар уладаў трапляюць найперш самі яны. Станавіцца пад гэты ўдар вас ніхто не прымушае — гэта ваш асабісты маральны выбар. І наўрад ці варта патрабаваць за гэты выбар падзякі ці абвінавачваць у ім кагосьці іншага.

## *Барыс Валасюк, Берасьце*

***14.09.2000***

**Распавяду пра справы на Берасьцейскай дывановай фабрыцы. Да траўня там плацілі заробкі рэгулярна. Потым пачаліся перабоі. Зарплату ўвесь час затрымліваюць. Вось за ліпень выдалі толькі 44 тысячы. Калі выдадуць за жнівень, ніхто ня ведае.**

**Цяпер асноўная маса людзей на фабрыцы не працуе, усе капаюць бульбу. Бо на фабрыцы няма сыравіны. Полацак не дае валакна, бо не заплачана за раней пастаўленае. Адным словам, паўсюль у даўгах.**

**Ня лепш і на іншых прадпрыемствах. Электрамэханічны завод ледзь дыхае. Раней ён працаваў на ВПК, цяпер няма заказаў. Калі выйшаў указ Лукашэнкі наконт выплаты заробкаў, там адрапартавалі, што разьлічыліся. Хоць у сапраўднасьці гэта — хлусьня. Прыехалі кантралёры і ўсё выявілі. У выніку — скандал. Шукаюць ахвярнага казла. На электралямпавым заводзе таксама няўпраўка. Новае абсталяваньне распрадалі, а на старым далёка не заедзеш.**

**І так паўсюль. Заробкі мізэрныя, спэцыялісты разьбягаюцца, вялікае прыхаванае беспрацоўе. А тыя пераможныя рэляцыі, што гучаць на радыё і тэлевізіі, абсалютна не адпавядаюць сапраўднасьці.**

Барыс апісаў ня нейкую надзвычайную сытуацыю — падобнае становішча на заводах любога беларускага гораду. Паказальна, што пры гэтым

афіцыйна лічыцца, што прадпрыемствы працуюць, а ў гарадах амаль няма беспрацоўных. Зь беспрацоўем увогуле цікавая сытуацыя. Каб атрымліваць мізэрную дапамогу ў беспрацоўі (нешта каля трох даляраў), трэба штомесяц днямі выстойваць у чэргах, ды яшчэ ўдзельнічаць у гэтак званых «грамадзкіх работах» — падмятаць вуліцы ці капаць бульбу. Калі такі парадак захаваецца й надалей, афіцыйных беспрацоўных у Беларусі, можа стацца, увогуле ня будзе. Вось толькі каго гэтым улада зьбіраецца падмануць?

*Алена Судас, Гомель*

***21.09.2000***

**Чамусьці лічыцца, што пэнсіянэры — галоўная апора ўлады Лукашэнкі. Кажуць так, мне здаецца, з-за інэрцыі. Сапраўды, так было ў 94-м, 95-м, 96-м гадах. Але — не цяпер. Тады мы верылі, што Лукашэнка — за нас, што ён верне тыя парадкі, якія былі да 91-га году, калі на пэнсію можна было няблага жыць. Але ж у лепшы бок не зьмянілася нічога — наадварот, стала яшчэ горш. Я на сваю настаўніцкую пэнсію (агульны працоўны стаж — 35 гадоў) не магу нават пракарміцца. Сорамна, але часам даводзіцца гандляваць цыгарэтамі ля крамы. Мяне ганяюць міліцыянты, якіх некалі дзецьмі я вучыла ў школе. Як можна верыць чалавеку, які за сем гадоў ня выканаў сваіх галоўных абяцаньняў?**

**Так разважаю ня толькі я — амаль усе мае знаёмыя, многія зь якіх галасавалі за Лукашэнку на**

**выбарах і на рэфэрэндумах, бо верылі, што яму нехта замінае.**

**Напісала вам, бо апошнім часам часта слухаю Свабоду, і непрыемна чуць, калі некаторыя вашы журналісты выказваюцца пра пэнсіянэраў як пра людзей недалёкіх, якія прагаласуюць за Лукашэнку пры любых абставінах. Паверце, што гэта зусім ня так.**

Грамадзкія настроі мяняюцца, і сярод людзей сталага веку — таксама. Наколькі істотныя гэтыя зьмены? Калі верыць сацыёлягам, усё ж асноўная сацыяльная база, на падтрымку якой абапіраецца ўлада, застаецца пакуль ранейшаю — гэта менавіта пэнсіянэры, жыхары вёскі, некваліфікаваныя работнікі. Хоць, відавочна, варта пагадзіцца з вамі, спадарыня Алена, што любыя абагульненьні тут — справа рызыкоўная.

## *Зьміцер Панкавец, вёска Кастрыца, Барысаўскі раён*

***02.11.2000***

**На маім школьным дзёньніку былі прымацаваныя налепкі «Марш Свабоды» і «Байкот-2000», а таксама выява героя Беларусі Тадэвуша Касьцюшкі. А ў майго сябра Валянціна Буляя на дзёньніку былі выява Пагоні й бел-чырвона-белага сьцяга. Дзёньнікі давялося здаваць на праверку. Калі іх вярнулі, налепкі былі сарваныя. А нас сталі пужаць тым, што паставяць на**

**ўлік у інспэкцыі па справах непаўналетніх. Калі я стаў казаць пра дэмакратыю, мяне выклікалі да дырэктара. Выклікалі ў школу і бацькоў ды загадалі, каб гэта больш не паўтарылася.**

**А настаўнікі, можна лічыць, увогуле вядуць прарасейскую лінію. Настаўніца матэматыкі пры ўсіх узводзіць паклёп на Зянона Пазьняка. Настаўніца ангельскае мовы называе герб «Пагоня» «дебильством». Настаўніца расейскае мовы кажа, як добра было б аднавіць СССР. Калі глядзіш на нашу школу, згадваюцца словы Кастуся Каліноўскага: «У нас, дзецюкі, адно вучаць у школах, каб ты знаў чытаці па-маскоўску. А то для таго, каб цябе зусім перарабіць на маскаля».**

Парадавала ў тваім лісьце, Зьміцер, тое, што пра свае непрыемнасьці распавядаеш ты без панурасьці й роспачы. Уласныя прынцыпы, калі яны не супадаюць з прынцыпамі тых, хто вышэй за цябе ці то па службе, ці ў школе, адстойваць заўсёды складана. Начальству прасьцей з тымі, у каго ўвогуле няма пазыцыі або хто дагодліва падладжваецца пад яго.

Ну, а тым настаўнікам, якія на ўроках матэматыкі вядуць прапаганду супраць Пазьняка, а на ўроках ангельскае мовы ганьбяць гістарычную сьвятыню народу, падобна, увогуле няма чаго рабіць у школе.

*Вікенці Кісель, Гомель*

***23.11.2000***

**Беларускія ўлады дагэтуль апошнімі словамі лаюць Гайдара ды Чубайса — маўляў, тыя сваімі рынкавымі рэформамі загубілі расейскую эканоміку. Я часта бываю ў Расеі, і раней, сапраўды, верыў Лукашэнку. Але цяпер веры няма. У Расеі рэформы прынесьлі плён. Параўнайце цэны й заробкі ў Беларусі й Расеі. Усе расейскія харчы ўжо таньнейшыя за беларускія, і яны паступова запаланяюць Беларусь. Лукашэнкава сацыялістычная эканоміка паступова губляе ўласны ўнутраны рынак. Так адбываецца з тымі, хто ня ўмее гаспадарыць, хто ня ведае эканамічных законаў. А заробкі ў Расеі паўсюль вышэйшыя за беларускія. І гэта пры тым, што Расея вядзе вельмі дарагую вайну на Каўказе, рэфармуе армію, ажыцьцяўляе шматмільярдныя касьмічныя праграмы. Калі ж мы, беларусы, расплюшчым вочы і ўбачым, што нас ужо сем гадоў падманваюць дэмагогі ды гарлахваты, якія ні на што ня здольныя, апроч прыгожае хлусьні?**

Яшчэ нядаўна лічылася, што хоць заробкі ў Беларусі і нізкія, але і жыцьцё тут у параўнаньні з суседзямі таннае. Доказам таму былі міліцэйскія ды мытныя пасты, якія на ўсіх беларускіх межах вылоўлівалі так званых «кантрабандыстаў» з айчыннымі сырамі, маслам ды хлебам. Але за апошнія некалькі месяцаў сытуацыя зьмянілася на супрацьлеглую. Не зь Беларусі, а ў Беларусь вязуць з усходу

ды поўдня танныя харчы, а беларускія вытворцы губляюць нават свой унутраны рынак.

Ведаю аднаго калгаснага старшыню з Гарадзенскае вобласьці — яго вельмі раздражняе рэкляма расейскіх мясных вырабаў, якую цяпер штодня паказваюць па ўсіх каналах у Беларусі. У рэклямным тэксьце роліка ёсьць такія словы: «…*Нас теперь родной Лужков обеспечит мясушком!*». Старшыня лічыць гэта палітычнай і эканамічнай дывэрсіяй супраць калгаснага ладу ў Беларусі. За свае пяцьдзясят гадоў жыцьця ён ня памятае такога выпадку, каб у гарадзенскіх крамах прадавалася маскоўская вяндліна, валагодзкае малако або смаленскае масла…

Цікава, што ён усур'ёз лічыць, што гэта Захад пастаўляе танныя расейскія прадукты ў Беларусь, каб разваліць рынкавы сацыялізм. Паверыць у тое, што Расея без калгасаў удосталь вырабляе харчоў таньнейшых ды больш якасных за беларускія, ён ня можа. Ці ня хоча.

## *Іярэй Аляксандар, праваслаўны сьвятар. Пінскі раён*

***23–30.11.2000***

**Хачу распавесьці пра нялёгкую долю простага вясковага сьвятара. Прыход у мяне ў сяле. Ходзяць адны бабулі, дый тых няшмат. Вялікага заробку няма. Шмат у чым выручае гарод. А за прыход трэба даваць хабар кіраўнікам япархіі, бо йнакш і гэтага ня будзе.**

…Вучуся ў сэмінарыі. Там глядзяць на нас, завочнікаў, як на мяхі з грашыма. Не заплаціў пяць даляраў перад экзамэнам — добрай адзнакі ня ўбачыш. Я неяк не заплаціў — не было грошай — атрымаў двойку, давялося прыяжджаць яшчэ раз. Выдаткі атрымаліся ўтрая большыя.

Ня ведаю, што рабіць далей. Можа, зьявяцца ў нас новыя Гдлян ды Іваноў, якія выведуць гэтую шайку на чыстую ваду?

З усімі сваімі прыхаджанамі я б выйшаў з экзархату мітрапаліта Філарэта, але думаю, што тады адбяруць царкву.

Пасьля распаду СССР мы, сьвятары, чакалі, што нам дадуць магчымасьць пачаць актыўную хрысьціянізацыю. Але гэтага не было і няма. Ані архірэй, ані ягоны сакратар гэта не заахвочваюць. Іхная мэта адна — выпампоўваць з прыходаў як мага болей грошай. За грошы купляюцца ўзнагароды, прыходы, службовае падвышэньне. Да чаго гэта вядзе?

На Піншчыне некалькі сьвятароў Беларускага экзархату ёсьць адначасова сьвятарамі Беларускае аўтакефальнае праваслаўнае царквы ці Украінскае царквы. Яны патаемна выйшлі з экзархату, калі ўбачылі, што ў ім творыцца. Я асабіста знаёмы з адным дыяканам экзархату, які адначасова ёсьць протаярэем Украінскае царквы і таемна абслугоўвае маленькую абшчыну. Для кагосьці гэта падасца сьмешным. А для нас гэта — трагедыя. У якой яшчэ краіне праваслаўныя абшчыны, не зьвязаныя з Маскоўскім патрыярхатам, мусяць быць у падпольлі, як у першыя стагодзьдзі хрысьціянства? А гэта ж не адзінкавая зьява. Колькасьць такіх абшчынаў

**павялічваецца — асабліва пасьля таго, як група студэнтаў з Жыровіцкай сэмінарыі выйшла з-пад юрысдыкцыі экзархату.**

Новыя Гдлян ды Іваноў, відавочна, могуць зьявіцца толькі ў самім асяродзьдзі царквы, між саміх сьвятароў. Мы ўжо ня першы раз атрымліваем такія вось лісты роспачы й бездапаможнасьці ад тых, хто сам закліканы дапамагаць іншым, хто ахоплены роспаччу й безвыходнасьцю. І цяжка паверыць, што ў кіраўніцтве праваслаўнае царквы ня ведаюць пра тое, што творыцца на ніжэйшых паверхах, так бы мовіць, царкоўнай «вэртыкалі ўлады».

А зьява, сапраўды, адметная і сьведчыць пра тое, што ў асяродзьдзі праваслаўнае царквы адбываюцца глыбінныя працэсы, хоць звонку й незаўважныя. І што палітызаванасьць Беларускага экзархату, ягоная дэманстратыўная падтрымка палітыкі Лукашэнкі ды нядобразычлівае стаўленьне да беларускае незалежнасьці непасрэдна адбіваюцца на царкоўным жыцьці, а ўрэшце — і на будучыні царквы.

## *Сьвятлана Кобзева, Менск*

***30.11.2000***

**На ўроках гісторыі, паводле навучальных плянаў, я павінна хваліць сацыяльную скіраванасьць мудрае палітыкі Аляксандра Лукашэнкі. А вярнуўшыся дамоў, вымушаная штодня сутыкацца з рэаліямі гэтае так званае «мудрае палітыкі» — напрыклад, з пытаньнем, як ста грамамі каўбасы накарміць вячэраю сям'ю з ча-**

**тырох чалавек. Бо нічога больш я на свой заробак дазволіць сабе не магу.**

**Маладыя настаўнікі ў нас вельмі ўзрадаваліся, калі днямі Аляксандар Лукашэнка абʼявіў, што ў наступным годзе заробак у бюджэтнікаў падвысіцца да ста даляраў. Гэта пры тым, што сёньня маладому настаўніку плацяць 20–25 даляраў. Мы, старэйшыя, зь іхнай радасьці паблажліва пасьмейваемся. Колькі ўжо на нашым вяку было такіх абяцаньняў. А настаўнік як быў жабраком пры камуністах, гэтак і цяпер ім застаецца. Што да абяцаньняў Лукашэнкі, дык яму абы застацца прэзыдэнтам — а там ён знойдзе адгаворку, растлумачыць, хто яму перашкодзіў падняць настаўніку заробак у чатыры разы.**

Гісторыя з абяцаным чатырохразовым падвышэньнем заробкаў даволі цьмяная. Аляксандар Лукашэнка спачатку казаў пра «сто даляраў», а цяпер чамусьці — пра «сто тысяч беларускіх рублёў». Сто тысяч рублёў ужо нават сёньня — гэта толькі 85 даляраў…

Да таго ж абяцае ён гэта зрабіць да канца наступнага году — гэта значыць, да таго тэрміну, калі прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі ўжо адбудуцца. Такога кшталту абяцаньні ў тых, хто ня раз чуў падобнае перад выбарамі, і праўда, ня могуць ня выклікаць пытаньняў.

*Леанід Бугаёў, Асіповіцкі раён*

***07.12.2000***

**Спытаў я неяк на сходзе ў былога сакратара парткаму (ён цяпер намесьнік калгаснага старшыні, ідэоляг): «Якія дасягненьні ў Лукашэнкі за сем гадоў? Чаго ён дамогся?» Ідэоляг задумаўся, а потым адказвае: «Ён забясьпечыў стабільнасьць».**

**— А стабільнасьць — гэта што такое? — пытаюць мужыкі.**

**— Ну, стабільнасьць — гэта калі нічога не мяняецца, усё застаецца па-ранейшаму.**

**Тут я засьмяяўся. Дык якая заслуга? У тым, што было кепска і кепска засталося? На ліха нам такая стабільнасьць?**

**Тут ідэоляг напаў на мяне — я, маўляў, нічога не разумею. Кажа: гэта Лукашэнка захаваў мір, у Беларусі няма вайны.**

**Але з кім мы без Лукашэнкі ваяваць зьбіраліся? З Польшчай ці Літвой? Наадварот, каб ня ён, закрылі б мы ўсходнюю мяжу ад нелегалаў, наркотыкаў ды рознай навалачы і адкрылі б заходнюю. Бо разумнаму чалавеку патрэбныя тыя шляхі, дзе ёсьць грошы і тэхналёгіі, а ня тыя, дзе жабрацтва, вайна ды бандытызм.**

**На тым наша дыскусія і скончылася. У каго галава на плячах ёсьць, той разумее, якія ў гэтай улады дасягненьні.**

Калі разважаюць пра тое, куды зайшла Беларусь за сем апошніх гадоў, звычайна кажуць пра спробу рэстаўрацыі сацыялізму. Але спробу нель-

га назваць удалай. У Савецкім Саюзе на сходах такіх пытаньняў, якія дазваляў сабе ставіць перад калгасным ідэолягам Леанід Бугаёў, не задавалі. А калі адважваліся, то разьлічваліся потым за гэта ўласным лёсам.

## *Эмілія Шпілеўская, Івейскі раён*

***14.12.2000***

**Я жыву й працую ў невялікім мястэчку. Мясьціны нашы багатыя на гістарычныя падзеі, людзі чулыя і цікавыя, а жыцьцё — як і ўсюды ў Беларусі. Пяць год таму выправіла я сына вучыцца ў недзяржаўную ВНУ. Зараз ён ужо працуе, паводле прафэсіі — юрыст.**

**На той час (а гэта быў 1995 год) у нас былі нядрэнныя зьберажэньні, вялася гаспадарка, у школе была добрая нагрузка, ішла даплата за званьне, катэгорыю. Я падпрацоўвала лекцыямі і ўдзелам у прыёме ўступных экзамэнаў. Мы разьлічвалі на ўласныя сродкі, і ўсё да пары йшло добра. Але потым нахлынулі беды: заробак зьнізіўся, а за навучаньне аплата пачала расьці. Мы з сынам падпрацоўвалі, але ўсё роўна, каб разьлічыцца за апошні курс інстытуту, грошы прыйшлося пазычаць. Часткова я доўг ужо вярнула. Але цяпер ня маю дадатковага заробку, а асноўнага ў школе не хапае.**

**Вяртаць грошы людзям трэба ў поўнай суме, а не па частках, бо ў іх свае вялікія праблемы. Дый маральнага права, як настаўніца, ня маю. Не магу заставацца нядобрасумленнай перад лю-**

**дзьмі, што выручылі ў цяжкі момант. Цяпер кладуся і падымаюся з адной думкаю: дзе зарабіць грошай, каб разьлічыцца. Самае лепшае было б узяць крэдыт у банку, але перада мною паставілі такія ўмовы, што ўзяць яго проста немагчыма.**

**Была б вельмі ўдзячная, каб хто-небудзь унікнуў у мой лёс і прапанаваў работу — няні, прыбіральшчыцы — усё роўна якую, толькі б разьлічыцца з даўгамі… Працаваць я прызвычаілася й навучылася быць цярплівай. Ведаю, што грошы зарабляюцца цяжка. Не асуджайце, бо я не прашу міласьціну. І ліст гэты — мая апошняя надзея, мая бяда, мой сорам і маё прыніжэньне.**

Спадарыня Шпілеўская папрасіла не называць у эфіры яе сапраўднага прозьвішча — ёй няёмка, што гэты ліст пачуюць яе калегі ці вучні. Але для рэдакцыі яна паведаміла дакладныя каардынаты з надзеяй, што нехта, магчыма, адгукнецца й прапануе якую-небудзь працу.

Гэты ліст я вылучыў сярод іншых падобных таму, што боль, які адчуваецца ў ім, гучыць непадробна. Боль чалавека, які не адзін дзясятак гадоў аддаў школе, але, нават ашчаджаючы на ўсім, ня здолеў сабраць на навучаньне сына. А ў маленькім мястэчку, сапраўды, ня знойдзеш іншае працы. І гэтае пакутлівае штодзённае адчуваньне віны… — хоць вінаватая, па сутнасьці, сыстэма, пры якой настаўнік, нават працуючы ад цямна да цямна, пазбаўлены ня тое што лішняга — нават неабходнага дзеля таго, каб выжыць і выгадаваць сваіх дзяцей.

# 2001

*«Мара цяпер адна — трапіць на Захад*
*і выйсьці там замуж…»*

***Недзе крадуць дарагія лімузіны, дыямэнтавыя каралі і залатыя завушніцы. А на Віцебшчыне ў гэты год кралі нават бульбу і дзіравыя алюмініевыя місы зь леціשча... Цяжкі быў год.***

*Войцех Раманаў, Ворша*

***25.01.2001***

**У горадзе поўна міліцыі, але не раскрываюць нават самых прымітыўных злачынстваў. Асабліва квітнеюць крадзяжы. Крадуць усё, што трапіць на вока, але найперш, вядома, каштоўныя рэчы — машыны, кампутары, аргтэхніку. Вось нядаўна друкарню абрабавалі, суседнюю зь ёй рэклямную фірму — таксама.**

**На Новы год у аршанскім раёне Задняпроўе ажно 10 прыватных дамоў абчысьцілі. Бяруць усё — ад бульбы да дзіравай алюмініевай місы. Цяпер, калі беларускае насельніцтва яшчэ больш зьбяднела, бандзюгі з размахам стараюцца перабрацца ў суседні Смаленск. Там ямчэй збываць тое, што ўкрадзена ў нас у Беларусі. Асабліва гэта тычыцца чорных і каляровых мэталаў.**

**Спытаеце: а што ж міліцыя? Ды яны ўсе адны з аднымі даўно знаёмыя, у іх між сабой выдатныя адносіны. Калі хто й трапляецца ў рукі міліцыі, дык па драбязе. Вось нядаўна злавілі некалькі падлеткаў, якія кралі тэлефоны-аўтаматы разам з кабінамі — на мэталалом. Дык міліцыянты іх зьбілі — сінякоў і драпінаў не палічыць. Але нават не спрабавалі высьветліць, хто з дарослых стаіць за гэтымі падлеткамі, каму яны збывалі крадзенае.**

**А што міліцыянты зьбіваюць і зьневажаюць затрыманых, нават пры сьведках — дык пра гэта ўсе ведаюць. Але паспрабуйце давесьці такую справу да суду — няма ніякіх шанцаў.**

Многіх з тых, хто ўпершыню наведвае Беларусь, уражвае колькасьць міліцыянтаў на вуліцах. Дзеля чаго зусім не багатая дзяржава ўтрымлівае 100-тысячную армію міліцыянтаў? І ці адбіваецца гэта на колькасьці злачынстваў і бясьпецы людзей?

Міліцэйскія сілы ў Беларусі павялічваліся цягам усіх сямі гадоў прэзыдэнцтва Аляксандра Лукашэнкі. Адначасова ў гэты ж час усё большала злачыннасьць, у тым ліку тая, якой раней у Беларусі амаль не было. У вёсцы сёньня трэба пільнаваць і хляўчук з свойскай птушкай, і бульбяное поле.

У горадзе злодзей можа пакваціцца нават на зьмесьціва лядоўні ці кладоўкі з гароднінай. І ніякая стотысячная армія міліцыянтаў ад гэтага не абароніць — бо справа тут — у галечы, у немагчымасьці пракарміцца, ад якой пакутуюць дзясяткі й сотні тысяч людзей.

## *Ірына Барысевіч, мястэчка Парэчча, Гарадзенскі раён*

***07.02.2001***

**Мяне не зьдзіўляе, што часам вам пішуць лісты з абразамі. Нічога, перажывяце. Са мной і не такое бывала: вырывалі з рук падпісныя лісты і ўлёткі, скамячыўшы, кідалі іх у твар (ці, у лепшым выпадку, у печ); пасылалі ў Польшчу, у Літву і яшчэ кудысьці далёка. Чаму?**

**Адным не падабаецца, што Пазьняк зьехаў за мяжу, не павялічыўшы пэнсіяў ды заробкаў. Другім не падабаецца, што Лукашэнку замінаюць «нацыяналісты паганыя». Адна настаўніца мне так і сказала: «Адчапіцеся ад прэзыдэнта, а то пакрыўдзіцца і сыдзе. Вось тады паплачаце, як літоўцы цяпер плачуць». Дарэчы, усе гэтыя людзі тутэйшыя.**

**Вельмі ўдалая ваша задума — перадача пра Яна і Яніса. Але хацелася б, каб было больш лічбаў для параўнаньня. Вось нядаўна я, спаткаўшыся са сваячкай зь Літвы, разгаварылася на тэму «як у вас?» ды «як вы?».**

**Яна скардзілася, што ейная дачка-настаўніца атрымлівае 400 даляраў, а за кватэру плаціць 75 даляраў — і таму, маўляў, цяжка пражыць. Але ж у яе застаецца 325 даляраў — гэта па нашых коштах цана каровы.**

**Я ёй патлумачыла, што мая дачка-настаўніца атрымлівае 38 даляраў, і пасьля аплаты камунальных паслугаў (3 даляры) у яе застаецца 35 даляраў. (Гэта крыху больш за 10 кілаграмаў**

**ялавічыны найлепшага гатунку.) Дык каму цяжэй?**

**«Але ж вашы грошы спарнейшыя», — адказала жанчына і яксьці няўпэўнена паціснула плячыма.**

**І ўсё ж раней, калі размова заходзіла пра прэзыдэнта, толькі й чула: «Хто, калі ня ён?», «Толькі ён», «Усе аднолькавыя». Цяпер зьявіўся яшчэ адзін тыповы адказ: «Абы-каго, толькі не яго». Самі дадумаліся ці хто дапамог — ня ведаю, але зьява такая ёсьць.**

Мне таксама даводзілася сутыкацца з гэтай адметнасьцю чалавечай псыхалёгіі, спадарыня Ірына. Цёткі й дзядзькі зь літоўскіх Друскенікаў ды Салечнікаў вельмі зайздросьцяць сваякам з Горадні й Ліды, што тыя плацяць за кватэру 3–5 даляраў. Але пераяжджаць ні ў якім разе ня хочуць, бо ў Літве маюць пэнсію 150 даляраў. Вось каб да літоўскай пэнсіі ды беларускія камунальныя тарыфы…

Але нават пры сёньняшнім раскладзе ніхто зь Літвы ў Беларусь не імкнецца. Простыя арытмэтычныя падлікі, падобныя да тых, што зрабілі вы, паказваюць, дзе чалавеку лепш.

## *Леанід Смоліч, Салігорск*

***07.02.2001***

**У вёсках і мястэчках найпершы памочнік уладаў у часе рознага кшталту прапагандысцкіх і выбарчых кампаніяў — настаўнікі. За дробязную падачку на некалькі тысяч рублёў яны гатовыя**

**і агітаваць за каго скажуць, і выбарчыя бюлетэні, як трэба ўладзе, палічыць.**

**А пасьля адзін аднаму скардзяцца, што зарплаты мізэрныя, на іх пражыць немагчыма, што ўлада іхнюю працу ня цэніць. Але лічацца найперш з тымі, хто сам сябе цэніць і паважае, хто мае ўласную палітычную пазыцыю і гатовы яе адстойваць. А нашы настаўнікі каштуюць роўна столькі, колькі ім плацяць. І ня варта спачуваць і шкадаваць іх. Яны самі выбралі сабе такое жыцьцё. Стануць разумнейшыя — тады й жыць будуць інакш.**

У нашай пошце шмат лістоў менавіта ад вясковых настаўнікаў. Вельмі часта гэта — шчырыя думкі разумных, удумлівых людзей, якія выдатна арыентуюцца ў сёньняшняй сытуацыі, якіх не падманеш палітычным папулізмам, якія кожны на сваім месцы робяць тое, што могуць — а найперш выхоўваюць сапраўдных грамадзян, якія будуць будаваць незалежную Беларусь праз дзесяцьдваццаць гадоў.

І я не лічу, што гэта маральна — патрабаваць ад вясковага настаўніка, які ня мае іншай працы ды іншых пэрспэктываў у сваёй вёсцы, нейкіх палітычных дэмаршаў у часе кампаніяў, што наладжвае ўлада.

*Вячаслаў Ляскевіч, Полацкі раён*

***22.02.2001***

**У вясковых школах дзеці часам трацяць прытомнасьць ад недаяданьня. Сам часта бываю сьведкам, як у школьнай сталоўцы некаторыя знарок застаюцца даўжэй за сталом, каб цішком узяць не даедзеную суседам булачку ці катлету. Відовішча не для слабых нэрваў. Хочацца хоць чым дапамагчы гэтым дзецям, але як, калі й сам не заўсёды бываеш сыты?**

**Хутка выбары, а галасаваць няма за каго. Па тэлебачаньні паказваюць аднаго Лукашэнку, усе астатнія маўчаць, як вады ў рот набралі. І людзям здаецца, што нікога іншага й няма.**

Астатнія не маўчаць, спадар Вячаслаў. Іншая справа, што ўбачыць на тэлеэкранах іншых кандыдатаў, апроч Лукашэнкі, удасца ня хутка. (А ці ўдасца ўвогуле?) Прычыны гэтага зразумелыя большасьці людзей, якія ня толькі глядзяць дзяржаўнае тэлебачаньне, але й здольныя аналізаваць убачанае.

## *Аляксандар Давыдзенка, мястэчка Наваельня, Дзятлаўскі раён*

***01.03.2001***

**Мне 55 гадоў. Часта ўвечары я і мае равесьнікі, а таксама людзі больш сталыя, зьбіраемся ў сваёй вёсцы і слухаем вас. Але чуем зусім ня тое, пра што хацелі б даведацца.**

**Чаму ў вас не знаходзіцца спагадлівага слова для людзей нашага пакаленьня? Мы ж трапілі ў пастку, як ніхто іншы: і з укладамі ў Ашчадным банку, і з працай, і цяпер з пэнсіяй. Чаму вы ня станеце на нашу абарону? Чаму ня кажаце, як нам быць, як можна нашаму пакаленьню дапамагчы?**

**Замест гэтага ў вас адно й тое ж, адна палітыка і адна хлусьня. Вы тут жыць не жылі, а судзіце ўсіх. І гэта адштурхоўвае ад вашай хвалі. Вы ўжо пераўзышлі Гебэльса. Той хацеў паруліць усім сьветам, і вы, панове, таго ж хочаце.**

**Мы ў гэтым асяродзьдзі жывем і ўсё бачым, чуем. Жывучы ў калгасе, ведаем яшчэ па маладосьці пана Шарэцкага. Ён, калі працаваў старшынём калгаса, заўзятым камуністам быў. Усё палохаў: «Выганю з партыі, калі ўнёскаў не заплаціце».**

**Мы верылі Шарэцкаму, галасавалі за яго. Але ён, на жаль, да нас так і не прыехаў, хоць і абяцаў. Ён спазнаў у партшколе смак даляра, а партыі для яго былі (і адна, і другая) толькі кармушкамі.**

**А Чыгір, сын якога займаўся цёмнымі справамі, а вы яго выстаўляеце як ахвяру рэжыму?**

**Чым маліцца на такіх асобаў, як на абраз, лепш дапамаглі б нашаму калгасу імя Заслонава. Вось тады б не было сорамна вам перад людзьмі. І было б вам больш веры. А бруд можна знайсьці ў любой хаце.**

**Апазыцыя ўсё чакае: вось прыедзе АБСЭ і ўсё вырашыць. Ды навошта, каб у маю хату нехта лез разьбірацца? Вось бы дзе прафсаюзам наладзіць мітынг «Рукі прэч ад Беларусі». Тады б іх народ падтрымаў. Захад нам ніколі не дапаможа — гэта ведаюць усе. Так проста нас там ніхто не чакае.**

**А прэзыдэнта мы самі выберам такога, які быў бы дастойны народу. А вы не распускайце плётак і не зьбірайце па сьметніках заразу — яе і так хапае. Лепш распавядзіце, як нам пазбавіцца ад такога жыцьця. А тое, як жывем, мы й самі ведаем, нават болей за вас. Запрашаю ўвесну да нас у калгас, на дапамогу. За абедам вы ўбачыце і пачуеце ад нас усю праўду.**

Магчыма, вам падасца дзіўным, спадар Давыдзенка, але й тады, калі мы распавядаем пра сёньняшнія палітычныя падзеі, і калі агучваем успаміны пра эпоху камуністычнай дыктатуры, і калі зьвяртаем увагу на сытуацыю з правамі чалавека, — мы, па сутнасьці, адказваем на вашы пытаньні наконт таго, хто вінаваты ў тым, што адбылося з вашым пакаленьнем, і як вам можна дапамагчы.

На маю думку, спадар Давыдзенка, на свае пытаньні вы здольны адказаць самі. Магчыма, толькі сфармуляваць гэтыя пытаньні трэба па-іншаму.

Вось вы настойліва клічаце нас прыехаць падымаць ваш калгас імя Заслонава. А ў вас не ўзьнікала

пытаньня, чаму ўся калгасная сыстэма ўвесь час мае патрэбу ў тым, каб яе нехта падымаў, у той час як за нейкую сотню кілямэтраў на захад ад вашай Наваельні польскія фэрмэры нікога ня просяць ні сеяць, ні ўбіраць?

Альбо яшчэ: вы супраць, каб у вашу хату нехта лез з парадамі, як вам жыць і каго выбіраць — самі, маўляў, выбераце дастойнага. А ў вас ніколі не было сумневу: можа, вы жывяце гэтак таму, што гэтак выбіраеце?

## *Пётар Лявіцкі, вёска Грумбіняты, Мядзельскі раён*

***13.04.2001***

**Я ўжо тры гады беспрацоўны. Паўгода атрымліваю аж два мінімальныя заробкі дапамогі. Каб ня маці-пэнсіянэрка, то хоць памірай з голаду альбо ідзі жабраваць. Бо новыя працоўныя месцы нідзе не ствараюцца. А ў дабіты да ручкі калгас, дзе трэба працаваць амаль задарма, няхай ідуць сыны Лукашэнкі, Мясьніковіча ды Замяталіна.**

**Некалькі гадоў я працаваў кіроўцам аўтобуса. Страціў працу з прычыны стану здароўя, але групу інваліднасьці мне не далі — бо за гэта трэба даваць хабар дактарам.**

**І жыві як хочаш. Маўляў, бяры зямлю, якую няма чым абрабляць. Мне няма чаго губляць, бо ня бачу ніякіх пэрспэктываў знайсьці працу, каб жыць больш-менш прыстойна.**

**Каб у мяне былі сродкі прыехаць у Менск, то з ахвотай удзельнічаў бы ў масавых акцыях — як, напрыклад, 25 сакавіка, якія праводзяць Аб'яднаная грамадзянская партыя, Беларускі Народны Фронт.**

**Мне асабіста вельмі імпануе такі лідэр апазыцыі, як спадар Лябедзька. Вось бы такога чалавека ў прэзыдэнты. Колькі добрых спраў зрабіў ён сваім землякам, калі быў дэпутатам Вярхоўнага Савету ад Ашмянаў. Толькі добрыя словы пачуеш пра яго ў Ашмянах.**

**Але ж ведама — расейскія ды беларускія спэцслужбы, маючы такую прапагандысцкую дубіну, як Беларускае тэлебачаньне, са скуры вылезуць — будуць паліваць брудам і хлусьнёй любога, хто адважыцца кінуць выклік Лукашэнку, хто захоча павесьці Беларусь у Эўропу, а не ў галодную азіяцкую Расею.**

**Апірышча Лукашэнкі — састарэлыя людзі, якія радуюцца дробным падачкам, як малыя. І вельмі цяжка пераканаць іх у відавочным — што жывем мы з году ў год усё горш, што думаць трэба ня толькі пра сябе, але й пра тое, як жыць маладому пакаленьню.**

**Часам думаю: навошта Лукашэнку яшчэ адны выбары? Дастаткова прадаць Іраку колькі дзясяткаў танкаў, падкінуць пэнсіянэрам капеек да мізэрнай пэнсіі — і зноў можна рэфэрэндумам прыбавіць сабе яшчэ пяць гадоў улады.**

**Вельмі цяжка ад такіх думак. Ужо сем гадоў — адны абяцаньні, адна дэмагогія, пошук вінаватых, расправа зь іншадумцамі. Хочацца ўдзельнічаць у чым толькі можна, каб хутчэй збавіцца ад**

**ненавіснага рэжыму. Нават зьбіраюся ў Менску ўчыніць акцыю самаспальваньня.**

Хочацца засьцерагчы вас, Пётар, ад пасьпешлівых і неабдуманых учынкаў. У падобнай да вашай сытуацыі — тысячы людзей. Вы зусім лягічна і цьвяроза разважаеце наконт прычынаў такога стану. І зьмяніць яго здольныя толькі вы й такія, як вы. Дзеля гэтага, відавочна, патрэбныя ня жэсты адчаю, а праца — удумлівая й пасьлядоўная.

Звычайна лічыцца, што вёска ў сваёй большасьці падтрымлівае палітыку сёньняшняй улады. Але многія лісты апошняга часу, якія дасылаюць нам слухачы з глыбінных беларускіх вёсак і мястэчак, сьведчаць пра тое, што стэрэатып гэты не зусім дакладны і што настроі ў вёсцы зьменлівыя і супярэчлівыя. Залежыць гэта найперш ад зьменаў самога вясковага жыцьця. А зьмяняецца яно апошнія гады імкліва й істотна. Расповед Пятра Лявіцкага — таму сьведчаньне.

## *Алена Кашыцкая, Менск*

***06.07.2001***

**Большасьць маіх унівэрсытэцкіх сяброўак мараць не пра тое, каб зьмяніць уладу ў краіне, і не пра будучую працу ў Беларусі. Бо заставацца тут большасьць ня хоча. Ніхто ня верыць, што ў Беларусі за працу можна атрымліваць прыстойныя грошы і добра жыць. Таму мара адна — трапіць на Захад і выйсьці там замуж. Лепш за ўсё — за амэрыканца альбо за немца.**

**Часам мне нават здаецца, што празь дзясятак-другі гадоў у Беларусі ўвогуле не застанецца прыстойных інтэлігентных людзей — усе пазьяжджаюць. Застануцца адны пэнсіянэры, алькаголікі ды хворыя — вось ужо будзе ім асалоды ад гэтага сацыялістычнага «раю».**

Сярод беларускай моладзі, сапраўды, нарастае хваля эміграцыі. Але адначасова заўважна павялічваецца колькасьць тых, хто выяўляе ўласную палітычную актыўнасьць, намагаецца нешта зьмяніць у краіне, а значыць, менавіта зь ёй зьвязвае ўласную будучыню. Вось жа і вы, Алена, паводле вашага ліста, удзельнічалі ў некалькіх вулічных акцыях Маладога Фронту. І такіх хлопцаў і дзяўчат шмат, асабліва сярод студэнцкай моладзі.

## *Уладзімер Гайдукевіч, Бабруйск*

***13.07.2001***

**Вось ужо два гады пішу Аляксандру Лукашэнку заявы з просьбай дапамагчы са сплатай падаткаў за хату і ўчастак. Сплаціць я іх не магу, бо ўжо доўгі час нідзе не працую. А не працую, бо за тыя грошы, якія можна ў нас зарабіць, працаваць няма сэнсу.**

**Маю 55 гадоў, але пэнсіі не чакаю, бо пакуль той час настане, атрымліваць яе ня будзе каму. На свае заявы атрымліваю аднолькавыя адпіскі: маўляў, у цябе працаздольны ўзрост, так што плаці. Нядаўна чарговы раз сабраў і паслаў ім усе даведкі. Атрымаў адказ: «Страхоўку плаціць**

**павінен». Вось так: я ім пра падаткі, а яны мне — пра страхоўку. Ці гэта яны знарок прыслалі гэтую бязглуздзіцу, каб зьбіць мяне з панталыку?**

**Лукашэнка маіх скаргаў і заяваў не чытае. А калі б і прачытаў, то, напэўна, не дапамог бы. Ён, напэўна, хутчэй дапаможа расейцу ці арабу, чым свайму беларусу.**

Можна паспачуваць вам, спадар Уладзімер, у вашым бясплённым змаганьні з чыноўнікамі, якія да таго ж нават ня дужа ўважліва чытаюць вашы скаргі й просьбы. Але ці варта траціць сілы і час на тое, каб прасіць міласьціны ад улады? Паглядзіце, колькі наўкола людзей (у тым ліку і ў вас у Бабруйску), якія, нягледзячы нават на вельмі неспрыяльныя ўмовы, створаныя ўладай, займаюцца ўласнай справай.

Так, на дзяржаўных прадпрыемствах і ў калгасах заробкі мізэрныя. Але ёсьць жа дробны гандаль, ёсьць прыватныя майстэрні, ёсьць, урэшце, ваш участак ля хаты. Няўжо вам ня хочацца пачуваць сябе самастойным і незалежным і не прасіць прыніжальна нейкай драбніцы ў чыноўнікаў, якія да таго ж зьневажаюць вас сваім пагардлівым стаўленьнем?

## *Мікола Кантушэвіч, Лагойск*

***24.08.2001***

**Ваш камэнтар лістоў на Свабоду, спадар Жданко, не зусім аб’ектыўны. Вось вы кажаце: Кебіч калісьці таксама зьбіраў кампрамат на Лу-**

**кашэнку, і гэта Кебічу не дапамагло. Але як вы можаце параўноўваць Вячаслава Францавіча зь цяперашнім правіцелем? Палітычныя апанэнты Кебіча не зьнікалі, як зьніклі Ганчар ці Захаранка. Кебіч ня кідаў сваіх супернікаў у турму, як кінуў Лукашэнка Лявонава, Клімава, Кудзінава, Старавойтава.**

**Якое тут можа быць параўнаньне зь Вячаславам Францавічам? Ці не памагаты Лукашэнкі ты, спадар Жданко?**

**Вось я, інвалід 2-й групы, раней, пры Кебічу й Шушкевічу, рэгулярна на льготных умовах атрымліваў спэцтранспарт. А Лукашэнка гэтае права ў мяне адабраў. Ён зрабіў так, што мая чарга на машыну з ручным кіраваньнем надыдзе праз 10 гадоў — гэта калі я ўжо буду ў магіле. Поўзай, інвалід, як можаш.**

**А гэта таму, што інвалід ня можа абараніць сябе. І, ведаеце, ня ўсе інваліды гэта разумеюць. Некаторыя думаюць, што так і трэба.**

Я, спадар Кантушэвіч, параўноўваў не палітыку Кебіча й Лукашэнкі, ня вынікі іхнага кіраваньня, а выключна мэтады перадвыбарчай барацьбы, спробы ачарніць апанэнтаў, не дапусьціць іх да дзяржаўнага тэлебачаньня. Мэтады гэтыя падобныя. Магчыма, і таму, што прапагандысцкай кампаніяй Лукашэнкі кіруе той самы Замяталін, які кіраваў прапагандай Кебіча сем гадоў таму.

*Віктар Скараход, Менск*

***05.10.2001***

**Калі верыць газэце «Советская Белоруссия», сукупны ўнутраны прадукт у Беларусі за апошнія пяць гадоў павялічыўся ажно на 36%. Няўжо такі, так бы мовіць, «росквіт» дасягаецца тады, калі большасьць прадпрыемстваў — стратныя, калі за 10 апошніх гадоў на фабрыках і заводах не памяняўся ніводзін зношаны станок, калі калгасныя фэрмы напалову разваліліся?**

**Ды пры росьце на 36% нашы кашалькі павінны быць пухлымі ад грошай, а што насамрэч? Няўжо рэдактар «Советской Белоруссии» Павал Якубовіч ня бачыць жабракоў на вуліцах, няшчасных калек, бамжоў? Няўжо ня ведае, як рэдка можа дазволіць сабе «сярэдні беларус» кавалак мяса ці рыбіну?**

**Ці ад добрага жыцьця рабочыя трактарнага заводу перакрылі рух на вуліцы Даўгабродзкай у Менску? А колькі яшчэ ў Беларусі такіх рабочых, якія гатовыя перакрываць свае «даўгабродзкія» вуліцы, ды толькі баяцца дубінак і звальненьняў, а таму пакуль церпяць зьдзек!**

Вы, спадар Віктар, напэўна, памятаеце, што ў Савецкім Саюзе афіцыйная статыстыка выконвала галоўным чынам прапагандысцкую функцыю. Савецкія грамадзяне дзякуючы ёй ведалі, якую неверагодную колькасьць мяса, масла і каўбас яны зьядалі, калі параўноўваць зь іншымі краінамі. Магчыма, для кагосьці гэта й магло быць адказам на тое, чаму паліцы ў крамах былі парожнія.

***Раней беларусы ўцякалі ў Менск пераважна зь вёсак — ад калгаснага прыгону і напаўгалоднага існаваньня. Апошнім часам бягуць і з пасёлкаў, і з райцэнтраў, і нават з параўнальна буйных гарадоў. Чаму ўцякаюць? Ад чаго ратуюцца? Чаго шукаюць?***

## *Уладзімер Фрыцко, Менск*

***11.01.2002***

**У Менску нават чалавек зь нізкім заробкам здольны забясьпечыць сябе якасным харчаваньнем. Узяць хоць бы мяне. Заробак мой наогул вельмі нізкі. У мяне няма ні машыны, ні лецішча, ні нават відэамагнітафона. Але ж у маёй лядоўні ёсьць і мяса, і яйкі, і малако са сьмятанай. А вось у вёсцы, сапраўды, жывецца дрэнна.**

**Лукашэнка, я лічу, атрымаў заслужаную перамогу на выбарах, і ніякія Ганчарыкі яму не канкурэнты. Спадар Лукашэнка — гэта, на мой погляд, магутны палітык. Я падтрымліваю ўсе**

**ягоныя крокі і вельмі шкадую, што ён ня можа абірацца на трэці тэрмін.**

**Што да мяне, то працую я на піўзаводзе «Крыніца», і мяне трывожыць думка пра хуткую перадачу кантрольнага пакету акцыяў нашага заводу расейскай «Балтыцы». З аднаго боку, гэта і добра, бо ўстановяць новае абсталяваньне, падвысіцца якасьць, піва лягчэй будзе прадаць. Як вынік — вырасьце даход прадпрыемства і заробкі рабочых. Але, зь іншага боку, мяне бянтэжыць думка пра магчымае скарачэньне працоўных месцаў.**

Даволі дзіўна чытаць пра захапленьне палітыкай Лукашэнкі пры тым, што зарплаты вам хапае толькі каб пракарміцца. Няўжо вы сапраўды лічыце такую сытуацыю нармальнай? Ці вас супакойвае думка пра тое, што ў калгасах ня маюць і гэтага? І гэта пры тым, што Лукашэнка пры ўладзе ўжо восьмы год.

Што да «Крыніцы», то яна, як і іншыя беларускія бровары, не вытрымлівае канкурэнцыі з расейскімі вытворцамі нават на ўнутраным рынку. Відавочна, што завод ня можа болей існаваць без інвэстыцыяў і эканамічнага аздараўленьня. І без скарачэньняў на заводзе наўрад ці абыдзецца — дужа неэфэктыўнай была структура ўсіх дзяржаўных прадпрыемстваў у Беларусі. Затое тыя рабочыя, хто застанецца, напэўна ж, здолеюць на свой заробак купляць ня толькі харчы. Амаль усе былыя сацыялістычныя краіны пайшлі гэтым шляхам яшчэ на пачатку 1990-х гадоў — і ўжо дасягнулі значных вынікаў.

## *Бярнард Пакульніцкі, вёска Буйкі, Мядзельскі раён*

***28.01.2002***

**Сумна і непрыемна на душы нават на сьвяты. Рэаліі жыцьця дадаюць яшчэ больш расчараваньня і заклапочанасьці. Наведаў навагодні ранішнік і навагодні вечар у школе. Школа — вясковая, лічыцца беларускай, а ўвесь сцэнар сьвята — на расейскай мове. Толькі адна маленькая дзяўчынка прачытала прыгожы верш на беларускай мове, дзякуючы настаўніцы пачатковых клясаў, якая дала ёй гэты верш вывучыць. Дзеці блытаюцца, калі пераходзяць на «великий и могучий язык». Часам сядзіш і адчуваеш сябе як дзесьці ў Тамбоўскай губэрні. Але — як цяжка ламаць гэтых беларусаў. Лічу, што вялікая віна настаўнікаў, бо ніхто сілай не змушае даваць дзецям сцэнар на расейскай мове. У сваёй большасьці настаўніцтва — сацыяльна рахманы, лёгкакіраваны жаночы натоўп, зь якім у чынавенства няма асаблівых праблемаў.**

**...За акном вые завіруха. Нешта зіма разьюшылася, даўно ўжо не было такой завеі. Сьнегавое покрыва дасягнула вышыні плоту і вокнаў. Трэція суткі не працуе тэлефон. Аўталаўка з хлебам не прыехала, бо занесла сьнегам дарогу.**

**Калегі па працы мелі яшчэ наіўныя спадзяваньні, што мізэрны настаўніцкі заробак за сьнежань дадуць напярэдадні Новага году, каб набыць што-небудзь смачнейшае на навагодні стол. Даверлівы народ — яны ніяк ня могуць зразумець, што справа не ў начальніках, на якіх**

грозна крычыць «бацька», а ў той сыстэме, якую падтрымлівае той самы «бацька» і якая цягне Беларусь у бездань.

Успамінаюцца некаторыя эпізоды зь мінулага лета. Неяк завіталі да мяне ў школу францускія сябры, якія прыехалі сваім аўтамабілем з Францыі. Яны першы раз былі ў Беларусі, шмат што іх зьдзіўляла. Адзін з французаў убачыў цераз акно школы афармленьне ваеннага кабінэту і запытаў дазволу наведаць гэты кляс. Ён зь нейкім жахам і насьцярожанасьцю разглядаў тыповыя для ўсіх школаў наглядныя дапаможнікі з выявамі зброі і вайсковай тэхнікі. Потым запытаў: «А ці можна вывучаць у школе што-небудзь іншае?» Мне было вельмі цяжка даць тлумачэньне на яго пытаньне. Нядаўна трапіла ў рукі «Праграма патрыятычнага выхаваньня» — там у кожным разьдзеле сустракаецца слова «ваенны».

Замежныя госьці праявілі цікавасьць і наведалі вясковую краму. Цяпер ужо я запытаўся ў іх — пра асартымэнт тавараў. Адзін зь іх адказаў: «У нас шок ад вашай крамы».

Цяжка працаваць і назіраць за станам сучаснай вясковай школы. Асабліва цяпер, калі ўлада вырашыла пацешыцца школьнай рэформай. Ужо трэці год школьная бібліятэка не атрымлівае ніводнай газэты і часопіса. Скардзяцца, што не хапае грошай на падпіску. Відавочна, улады лічаць, што ўкладаць грошы ў адукацыю — недапушчальнае марнатраўства. Людзі далучаюцца да інтэрнэту, а тут — поўная інфармацыйная ізаляцыя падчас так званага «рэфармаваньня» школы. Дзякуючы добрым людзям, якія прысылалі на мой адрас некалькі асобнікаў «Нашай

**Нівы» і «Беларускай Маладзёжнай», інфармацыя ў школу ўсё ж трапляла. Што будзе далей — ня ведаю, але ходзяць чуткі, што сёлета выдаткі на адукацыю яшчэ зьменшацца. Адзін чыноўнік ад адукацыі на гэта злосна сказаў аднойчы: «Ты дзякуй, што табе яшчэ заробак даюць».**

Да гэтых вельмі слушных заўваг настаўніка Бярнарда Пакульніцкага варта дадаць хіба тое, што, відавочна, ня толькі настаўнікі — увогуле ўся інтэлігенцыя адказная за гэта: і бібліятэкар, і чыноўнік, і доктар, і выхавацель. У большасьці сваёй усе яны выдатна ўсьведамляюць, якая небясьпека навісла над самім існаваньнем мовы. І вялікага ціску на іх з боку ўлады ў гэтым пытаньні сёньня няма — ніхто зь Менску дырэктыўна не загадвае весьці дакумэнты альбо размаўляць з наведнікамі толькі па-расейску. Пытаньне, відавочна, найперш у настроях і сутнасьці самой беларускай інтэлігенцыі, у тым, як яе выхоўваюць.

Бярнард Пакульніцкі, спрабуючы знайсьці прычыны гэтага агульнага заняпаду, бачыць іх, сярод іншага, у тым, што грамадзтва маўкліва пагаджаецца зь любымі дзеяньнямі ўлады, у тым ліку і з маніпуляцыямі ў часе выбараў. А калі так, разважае слухач, то, значыць, беларускаму народу падабаецца і патрэбна менавіта такое жыцьцё, бяз будучыні.

Ня думаю, спадар Бярнард, што вы самі згодны з гэтым сьцьвярджэньнем. Беларусы ня ёсьць нейкім надзвычайным выключэньнем і гэтак жа імкнуцца да лепшай будучыні для сябе і сваіх дзяцей, як і іншыя народы. Але імкненьне гэтае мае свае, часам вельмі спэцыфічныя, формы.

## *Тацяна Барэль, Асіповічы*

***01.02.2002***

**Апошнія гадоў адзінаццаць я назіраю тэндэнцыю павелічэньня сардэчна-сасудзістых захворваньняў у дзяцей. Мае калегі ў дзіцячай кансультацыі ня раз мне заўважалі: «Ну што ты ўсім запісваеш гэтыя шумы ды дыстаніі — яны цяпер амаль ва ўсіх — што на іх зьвяртаць увагу?» Ня вытрымала ўзрастаючай нагрузкі адна наша лекарка, якая сумяшчала на паўстаўкі кардыялягічныя прыёмы: адмовілася ад сумяшчэньня.**

**Прывяду прыклад: у 10-м садку Асіповічаў 186 дзяцей. У 119 зь іх выслухоўваецца сысталічны шум у сэрцы — а гэта каля 63 адсоткаў дзяцей. На жаль, больш дакладнае дасьледаваньне правесьці немагчыма, бо ў раёне няма спэцыяліста і адпаведнай тэхнікі. А да абласнога шпіталя — тры гадзіны язды прыгарадным цягнікам, які да таго ж адыходзіць а 4-й гадзіне раніцы.**

**Знайсьці прычыну гэтых фактаў мне не ўдавалася. Адказ на сваё пытаньне я знайшла раптоўна, калі на Чарнобыльскім шляху-2001 прачытала артыкул пра дасьледаваньне прафэсара-вязьня Бандажэўскага ў спэцвыпуску газэты «Рабочы». Прафэсар сьцьвярджае, што сэрца і сасуды маладога арганізму выбарачна назапашваюць радыеактыўны элемэнт, і гэта прыводзіць да іх пашкоджаньня і парушэньня функцыі. Прафэсар вынайшаў эфэктыўны сродак ачышчэньня арганізму ад радыяцыі — пэктын.**

**Пра слушнасьць дасьледаваньняў прафэсара Бандажэўскага сьведчыць факт імклівага выміраньня насельніцтва Беларусі, асабліва апошнія сем гадоў. Напрыклад, у Асіповіцкім раёне летась памерла 1013 чалавек, а нарадзілася ўсяго 462. Першае месца сярод прычынаў сьмерці — сардэчна-сасудзістыя захворваньні: 37 адсоткаў.**

**...Часта з адчаем думаю пра тое, што прафэсар Бандажэўскі застаецца за кратамі. Мэдык ня можа бяз практыкі: гэта яго прафэсійная сьмерць.**

Тацяна Барэль з Асіповічаў таксама зьвяртаецца ў лісьце да сваіх калегаў — пэдыятраў, тэрапэўтаў, нэўрапатолягаў, кардыёлягаў — з просьбай не хаваць фактычны матэрыял, падзяліцца ім, выступіць у падтрымку прафэсара Бандажэўскага, бо гэта — справа жыцьця нацыі.

Мы досыць часта нагадваем пра лёс прафэсара Бандажэўскага, распавядаем пра ягоныя працы, аналізуем чарнобыльскую праблему. Апошнім часам улада заўважна менш стала аддаваць увагі людзям, якія пацярпелі ад чарнобыльскай бяды. Дый у грамадзтве няма тае першапачатковае вастрыні адчуваньня небясьпекі. Тым больш каштоўныя вашы, Тацяна, сьведчаньні — чалавека, які, адчуваецца, блізка да сэрца прымае гэты дзіцячы боль, што, на жаль, для многіх стаў чужым.

## *Васіль Серадаў, Рагачоў*

***15.02.2002***

**3-га лютага слухаў вашу перадачу «Праскі акцэнт» — у ёй шмат гаварылася пра страхі беларусаў перад уладай Лукашэнкі. І згадалася мне даўняя гісторыя. Памятаю, мой старэйшы брат спытаў у бацькі, які шмат што пабачыў, ваяваў на флёце ў руска-японскую вайну, потым перажыў рэвалюцыю — як у галодныя гады ўдавалася даведвацца, у каго ёсьць схаваны хлеб, ніхто ж не прызнаваўся? Бацька казаў так: калі гаспадар плача, што ў яго хлеба няма — значыць, хлеб дакладна ёсьць. А вось калі сьмяецца — шукаць няма сэнсу.**

**Тое ж цяпер у Беларусі. Калі беларусы яшчэ баяцца ўлады Лукашэнкі — значыць, яны яшчэ не галодныя і ня голыя. Так што працягвай іх цісьнуць, Аляксандар Рыгоравіч, «да плешкі», няхай адчуюць сілу ўлады. Ім яшчэ ёсьць што губляць, яшчэ ня ўсё адабрана.**

**Чыны ўсе, як клапы, сядзяць у шчылінах і толькі вякаюць з-пад веніка, нічога ня робячы — ні лепшага жыцьця для сваіх дзяцей, ні для Беларусі. Як прусакі: падбяруць крошкі на кухні — і назад у схованку.**

**Самае страшнае, за што нам вельмі хутка давядзецца разьлічыцца, — гэта за нашу мужчынскую баязьлівасьць. Няма ў нас нічога ад абаронцаў сям'і і дзяцей, ёсьць сьпітыя мужыцкія морды. І хутка Аляксандар Рыгоравіч нам скажа: «Ну што, баязьліўцы і панікёры — а ну, зрабіць бледны выгляд і падрыхтавацца да сьмерці».**

**І мы пакорліва паслухаемся. Сілай волі даб'есься чаго заўгодна. А апроч Лукашэнкі, ніхто нічога дабівацца ня ўмее.**

**Добра, што ёсьць баязьліўцам куды ўцякаць: хто ў Польшчу, хто ў Нямеччыну, хто ў ЗША. А вось у падпольле — ніхто, баяцца. Езьдзяць па чужых краінах і просяць як стракозы: «Мілы муравей, пакармі ды абагрэй».**

**Жыцьцё так прапелі, хутка і сьмерць прыйдзе. А дзетак сваіх хворых і галодных пакінем, хай самі выжываюць як хочуць. Гнеў і ганьба. Ім, дзецям, давядзецца разьлічвацца за нашу баязьлівасьць і абыякавасьць.**

Пры ўсёй катэгарычнасьці і патаснасьці гэтых гнеўных абвінавачаньняў, і нават пры ўсёй іхнай відавочнай аднабаковасьці, на маю думку, добра, што зьяўляюцца і такія ацэнкі й самаацэнкі. Яшчэ нядаўна ледзь не абавязковым лічылася, апісваючы ўласьцівасьці беларускага насельніцтва, казаць выключна пра рахманасьць, талерантнасьць і добразычлівасьць.

*Васіль Лемзін, Менск*

***01.03.2002***

**Вы на Свабодзе заклікаеце, каб Беларусь стала на шлях, які прынясе народу незьлічоныя пакуты. Каму стане лепш, калі паводле рэцэптаў вашых гаспадароў у Беларусі разбураць калгасы? Калгасьнікі застануцца бяз грошай, без заробкаў.**

**А дзе яны возьмуць каня, каб пасадзіць бульбу, хто выдзеліць сена пэнсіянэрцы?**

**Гэта вашы гаспадары ўгаварылі, каб Лукашэнка адпусьціў цэны. І што адбылося? Каўбасы гніюць у магазыне — ніхто ня можа купіць. Я вось даношваю чаравікі, якія купіў яшчэ пры савецкай уладзе — на новыя не магу назьбіраць з пэнсіі.**

**Дарэмна прэзыдэнт слухаецца вашых буржуйскіх дарадцаў. Мы яго выбіралі за тое, што ён наш, разумее простага чалавека і не распрадае краіну. Але і яго ламаюць праз калена. Падманўў жа яго нехта — інакш чаму за люты мне трэба, каб заплаціць за кватэру і камунальныя паслугі, аддаць ледзь не паўпэнсіі? Такога яшчэ ніколі не было.**

**Лукашэнку вы і да вас падобныя сьвядома ўводзіце ў зман, каб ён скакаў пад вашу дудку. А гэта сьмерць — і для людзей, і для Лукашэнкі. Бо калі ён будзе праводзіць такую палітыку, яго больш ня выберуць. А якраз гэтага і дабіваецца апазыцыя.**

Дакладна такія спасылкі — страх перад «незьлічонымі пакутамі» і клопат пра няшчасных пэнсіянэраў — гучалі дзесяць-пятнаццаць гадоў таму, калі пачаліся размовы пра неабходнасьць рэформы калгаснай сыстэмы. Заўважце, спадар Лемзін, тады яшчэ ў вёсцы было што рэфармаваць — была тэхніка, сякія-такія грошы ў калгасаў.

Але ўлады ў Беларусі паступілі дакладна ў адпаведнасьці з вашымі пажаданьнямі — чапаць калгасы было забаронена. У выніку калгасы засталіся — але грошы калгасьнікам бальшыня зь іх

або зусім ня плаціць, або плаціць такія мізэрныя, што пражыць на іх немагчыма.

Што да парадаў заходніх эканамістаў, то стаўленьне да іх у спадара Лукашэнкі прыблізна такое ж, як і ў вас, спадар Лемзін. І ён ня раз паказваў, што ня мае намеру лічыцца зь імі. Няўжо вы ўсур'ёз думаеце, што пасьля досьведу васьмі гадоў бескампраміснага змаганьня з Захадам Лукашэнку нехта мог падмануць альбо ўгаварыць зьмяніць пазыцыю?

Ёсьць, аднак, законы, якія Лукашэнку непадуладныя — ні адмяніць іх, ні замяніць сваімі дэкрэтамі ён ня можа. Гэта — законы эканомікі. Нейкі час іх можна ігнараваць, але рабіць гэта працяглы час немагчыма. Якраз з наступствамі такога ігнараваньня і мае цяпер справу беларуская ўлада.

## *Ігар Жураўлёў, Ёнава, Літва*

***12.04.2002***

**Я — вайсковы пэнсіянэр. Раней служыў у савецкай арміі і жыў у Беларусі. Але некалькі гадоў таму зь сямейных прычынаў перасяліўся ў Літву. І са зьдзіўленьнем даведаўся, што пасьля гэтага беларуская дзяржава, грамадзянінам якой я застаўся, ня лічыць патрэбным плаціць мне пэнсію.**

**З таго часу ўжо некалькі гадоў пішу Аляксандру Лукашэнку і ва ўсе іншыя дзяржаўныя органы Беларусі. Атрымаў больш як дваццаць адказаў-адпісак. Асабліва ўразіў адказ з Канстытуцыйнага суду, у якім сказана, што паводле**

**Канстытуцыі права на пэнсію я маю, але эканамічная сытуацыя не дазваляе вырашыць гэтую праблему. А сам Канстытуцыйны суд не валодае правам заканадаўчай ініцыятывы. Цікава, навошта патрэбны такі Канстытуцыйны суд, які ня мае права абараняць канстытуцыйныя правы грамадзянаў? І хіба можна, спасылаючыся на эканамічныя праблемы, апраўдваць парушэньні правоў чалавека? Міністар замежных спраў Беларусі Хвастоў у хуткім часе павінен выступаць у Жэнэве на сэсіі ААН у галіне правоў чалавека. Што ён можа сказаць, калі кіраўніцтва Беларусі адкрыта парушае правы сваіх грамадзянаў?**

**Аляксандар Лукашэнка часта і ахвотна гаворыць пра роўнасьць беларускіх і расейскіх грамадзянаў. Але пра якую роўнасьць можна казаць, калі каля 9000 расейскіх вайсковых пэнсіянэраў, жывучы ў Літве, спакойна атрымліваюць свае вайсковыя пэнсіі, а ў пяцёх грамадзянаў Беларусі, якія жывуць у трох балтыйскіх краінах, урад Беларусі зарobленыя імі вайсковыя пэнсіі адабраў?**

**Паміж прыгожымі заявамі і рэальнымі адносінамі да забесьпячэньня грамадзянскіх правоў кіраўніцтвам Беларусі — вялізная розьніца.**

Справа, спадар Жураўлёў, ня толькі ў вас і яшчэ ў чатырох беларускіх пэнсіянэрах, якія наважыліся перасяліцца ў Балтыю. Такія ж, як і вы, пытаньні задаюць дзясяткі тысяч нядаўніх беларускіх грамадзянаў, якія жывуць цяпер у Амэрыцы, Ізраілі, Нямеччыне. Многія зь іх большую частку жыцьця працавалі на беларускіх дзяржаўных прадпрыемствах, зь іхных заробкаў забіралі грошы ў пэнсій-

ныя фонды. І за іхную працу беларуская дзяржава ня плаціць ні капейкі.

Практыка гэтая яшчэ савецкая. Тады любы, хто перасяляўся з СССР за мяжу, лічыўся ледзь ня здраднікам. Якая там пэнсія: былі ўдзячныя ўжо за тое, што выпусьцілі з таго так званага «разьвітага сацыялізму». Цяпер сытуацыя зьмянілася, і калі б у Беларусі існаваў незалежны Канстытуцыйны суд — ён бы мусіў аднавіць справядлівасьць. Але незалежнага суду няма, а той, што ёсьць, абслугоўвае ўладу, якой выгадная савецкая практыка.

## *Алесь Цадко, Маладэчна*

***10.05.2002***

**Абыякавасьць беларускага грамадзтва да ўласнага лёсу выклікае шмат пытаньняў. Асабіста для сябе я знаходжу наступнае тлумачэньне гэтай зьявы. Нават паводле афіцыйнай статыстыкі, за 2001 год жыхары Беларусі выпілі чыстага алькаголю па 30 літраў на чалавека — на мільярд даляраў. Пры гэтым норма генэтычнай бясьпекі — ня больш за 9 літраў. А паколькі статыстыка ня ўлічвае спажываньня самагону і алькагольных сурагатаў, то лічбу 30 можна сьмела падвойваць.**

**Якія дзеці будуць нараджацца ў бацькоў-алькаголікаў? І ці трэба зьдзіўляцца, што на гэты момант у Беларусі 10 тысяч дзяцей-сірот пры жывых бацьках?**

**Па-мойму, у нас паўтараецца тая ж трагічная гісторыя, якая напаткала абарыгенаў у Новым Сьвеце, што ўрэшце выразджаліся ад «вогненнай**

**вады» каляністаў. І ў многім тут вінаватыя ўлады, якія бачаць, да чаго прыводзіць бескантрольны продаж алькаголю, але не жадаюць мяняць такую палітыку.**

Пытаньні вашы, спадар Алесь, збольшага рытарычныя. Зразумела, найперш на дзяржаве ляжыць адказнасьць за тое, што п’янства і алькагалізм у Беларусі набылі такія маштабы. Моцныя алькагольныя напоі ў Беларусі надзвычай танныя, нават у параўнаньні зь нізкімі заробкамі беларусаў. У той жа час якасныя натуральныя віны для большасьці людзей недаступныя з прычыны высокіх коштаў, а дзяржаўныя ды калгасныя сьпіртзаводы зусім легальна выпускаюць алькагольныя сурагаты на аснове хімічнай сыравіны, што згубна для здароўя тых, хто ўжывае такія напоі.

Улады ўсьведамляюць, да чаго вядзе такая палітыка, але не адмаўляюцца ад яе толькі з адной прычыны: з дапамогай гэтых так званых «п’яных» рублёў трымаецца бюджэт, напоўніць які іншым шляхам цяперашнія беларускія чыноўнікі ня ўмеюць.

## *Алесь Шустоўскі, Барысаў*

***24.05.2002***

**Усе гады, што пры ўладзе Лукашэнка, колькасьць насельніцтва Беларусі скарачаецца. Нас ужо менш як 10 мільёнаў, і кожны год гэтая лічба зьмяншаецца на 50–100 тысяч чалавек. Чаму так адбываецца? Вось некалькі статыстычных**

**зьвестак, якія сьведчаць пра сытуацыю ў Барысаве. На працягу апошняга паўгоду тут кожны тыдзень паміралі 30–35 чалавек ва ўзросьце 20–28 гадоў. Прычына сьмерці — алькаголь. Таксама кожны тыдзень паміралі 6–8 маладых барысаўцаў ад перадазіроўкі наркотыкаў.**

**Для параўнаньня прывяду лічбы з замежнага выданьня National Geographic наконт дынамікі зьменаў насельніцтва Аўганістану, на зямлі якога ўжо 23 гады не сьціхае вайна. Дык вось, аказваецца, насельніцтва гэтай краіны з 1979 да 2002 году павялічылася з 15 да 26 мільёнаў чалавек. Хоць паказчык сярэдняй працягласьці жыцьця там выглядае драматычным — 46 гадоў, а дзіцячая сьмяротнасьць — 147 выпадкаў на 1000 немаўлят. Але, дзякуючы стопрацэнтнай рэлігійнасьці аўганцаў, інстытут сям'і там вельмі надзейны і трывалы. Да таго ж строгія законы шарыяту не дазваляюць ім разбэшчвацца... Таму аніякія войны, землятрусы, эпідэміі не зьнішчаюць аўганскую нацыю.**

**А сям'я — гэта падмурак, апора ўсяго нацыянальнага. Будзе моцнай яна — непахіснай будзе і краіна — наша Бацькаўшчына. Таму менавіта пра ўмацаваньне сям'і трэба клапаціцца нам, беларусам, каб у выніку выпрабаваньняў лёсу ня зьнікнуць з геаграфічнай мапы сьвету.**

Ня думаю, спадар Алесь, што беларусам можа спатрэбіцца аўгансκі досьвед вырашэньня дэмаграфічнай праблемы. Увогуле, найбольш імклівымі тэмпамі павялічваецца насельніцтва якраз у самых эканамічна і культурна адсталых рэгіёнах сьвету — у Азіі ды Афрыцы. У эўрапейскіх краі-

нах і ў Злучаных Штатах нараджальнасьць нізкая, і ў шэрагу выпадкаў колькасьць жыхароў расьце толькі за кошт імігрантаў.

У Беларусі, аднак, праблема ня столькі ў тым, што мала немаўлят, колькі ў нізкай працягласьці жыцьця. Прычыны вядомыя: якасная мэдычная дапамога становіцца ўсё больш недаступнай (як і якасныя прадукты харчаваньня), затое паўсюдна даступныя танная гарэлка і нізкаякасныя алькагольныя сурагаты. І віна за гэта ляжыць найперш на ўладзе.

## *Вольга Шэмет, Магілёў*

***24.05.2002***

**Ведаю, што на Захадзе людзі жывуць, як пры камунізьме: зарабляюць штомесяц па некалькі тысяч даляраў, маюць шыкоўныя дамы, машыны, езьдзяць па ўсім сьвеце. Вы кажаце, што Захад хоча, каб мы жылі гэтак жа.**

**Я працую на заводзе, зарабляю 150–160 тысяч рублёў у месяц. На гэтыя грошы я ня тое што на машыну — на ровар не магу назьбіраць ужо два гады. Надакучыла мне такое жыцьцё. Чаму я не магу жыць як чалавек? Паехала ў амбасаду Нямеччыны. Але там сказалі, што ў такіх, як я, Нямеччына патрэбы ня мае. Ні працы, ні нават нямецкай візы мне даць ня могуць.**

**Дзе ж справядлівасьць? Адны купаюцца ў раскошы, а другія гаруюць і перабіваюцца з хлеба на квас. Дзе ж ваша хвалёная дэмакратыя? Чаму мы ня маем права жыць гэтаксама, як немцы?**

Пяцьдзясят пяць гадоў таму, спадарыня Шэмет, Нямеччына гэтак жа, як і тагачасная Беларусь, ляжала ў руінах. Людзі там таксама недаядалі і многага ня мелі. Той дабрабыт, які маюць немцы сёньня, створаны іх уласнай працай. Яны знайшлі ў сабе сілы назаўсёды адмовіцца ад спадчыны нацыянал-сацыялізму і пабудаваць сучасную дэмакратычную дзяржаву. І яны маюць права абараняць гэты свой дабрабыт — свой рынак працы, сваю ўладкаванасьць, свой парадак. Так, Захад хацеў бы, каб беларусы жылі гэтак жа, як іншыя эўрапейцы — заўсёды лепш мець суседа заможнага і памяркоўнага, чым беднага і агрэсіўнага. Але гэта ня значыць, што немцы ці іншыя эўрапейцы павінны ўзяць на ўтрыманьне вас і яшчэ дзевяць з паловай мільёнаў беларусаў — гэта немагчыма, дый яны ніколі не абяцалі гэтага і нічога не павінны Беларусі.

Але адначасова Захад гатовы дапамагаць у тым выпадку, калі беларусы (і найперш беларуская ўлада) будуць імкнуцца пабудаваць у сябе сапраўды дэмакратычную дзяржаву і рынкавую эканоміку на тых жа прынцыпах, што і Эўропа. І гэта справядліва, спадарыня Шэмет. У любой краіне людзі жывуць так, як працуюць і за якую ўладу галасуюць на выбарах.

## *Калектыўны ліст ад супрацоўнікаў абласнога шпіталя, Берасьце*

***09.08.2002***

**У нашага галоўнага лекара сёлета юбілей. З гэтай нагоды з усіх загадчыкаў аддзяленьняў шпіталя і палiклiнiкі ў загадным парадку на сьвяткаваньне зьбіралі па 20 даляраў, а са старшых мэдсясьцёр — па 10 тысяч рублёў. У рэстаране на вакзале адбыўся банкет, на якім прысутнічалі 125 чалавек (гэта пры тым, што зарплата ў галоўнага лекара — 116 тысяч).**

**Мы напісалі скаргу — прыехаў праверальшчык. Але ён, замест каб пагутарыць з работнікамі шпіталя сам-насам, разам з адміністрацыяй па адным выклікаў загадчыкаў аддзяленьняў, і яны пісьмова павінны былі пісаць абвяржэньні — нібыта збор грошай не праводзіўся. Але няўжо людзі, якія цалкам залежныя ад галоўнага лекара і баяцца страціць працу, маглі ў такой сытуацыі паступіць па-іншаму?**

**Галоўны лекар езьдзіць на нарады ў Менск на службовай машыне, хоць таньней было б карыстацца дзеля гэтага чыгункай. У гаражы шпіталя адкрытая майстэрня для рамонту ў рабочы час іншамарак прыватных асобаў. Машыны зьнікаюць, як толькі паступаюць паведамленьні, што хутка праверка.**

**Прэміі разьмяркоўваюцца толькі набліжаным і патрэбным галоўлекару асобам. Іншыя гэтых прэміяў увогуле ня бачаць.**

Лічыцца, што ў Беларусі створаная жорсткая сыстэма дзяржаўнага ўліку і кантролю. На гэта трацяцца вялізныя бюджэтныя сродкі, задзейнічаная разгалінаваная сыстэма разнастайных кантрольных органаў зь вялікімі штатамі супрацоўнікаў. А вось як дзейнічае гэтая сыстэма, наколькі яна эфэктыўная — пра гэта, сярод іншага, сьведчыць і працытаваны ліст зь Берасьця. Апісаная схема працы правяральшчыкаў стандартная — такі ж лёс многіх скаргаў, якія мяхамі прыносяць у дзяржаўныя канторы.

*Віктар Баранаў, Рагачоў*

***16.08.2002***

**Ва ўсіх іншых краінах жніво, а ў Беларусі — палітычны спэктакль. Калі збожжавыя ўжо пасьпелі і калгасы пачалі іх убіраць, Аляксандар Рыгоравіч раптам абвяшчае надзвычайнае становішча, паказвае на ўсю краіну сэлектарную нараду, лае сваіх чыноўнікаў. Дзеля чаго ён гэта робіць? Напэўна, дзеля таго, каб паказаць усім сваю значнасьць — глядзіце, маўляў, безь мяне нічога тут ня зрушыцца зь месца.**

**Я так лічу: кепская ацэнка ўраду — гэта найперш кепская ацэнка самому прэзыдэнту. А ён усім сваім урадам увесь час дае такія ацэнкі, накіроўвае іх у адстаўку, а сам ніякай адказнасьці не нясе. Суседнія краіны даўно пайшлі наперад, а мы ўсё марым, калі ж у нас будзе стодаляравая зарплата. Ёсьць сродкі на лядовыя палацы, на**

**славянскія базары, а вось на зарплату грошай няма.**

**Лічыцца, што бітва за ўраджай пасьпяхова завершаная. І ніхто ня кажа, што ў нас, на ўсходніх тэрыторыях, усё выгарала ад засухі. Ясна, што кошты на харчаваньне будуць высокія. А ўлады нічога ня робяць, каб яны зьніжаліся. Днямі размаўляў з прадаўцом прыватнай крамы. Высьветлілася, што гомельскія ўлады забараняюць купляць больш танныя харчы ў іншых рэгіёнах рэспублікі, прымушаюць купляюць сваё, мясцовае. Дзеля чаго ўсё гэта робіцца?**

Вырашэньне эканамічных праблемаў шляхам правядзеньня надзвычайных кампаніяў — не вынаходка Аляксандра Лукашэнкі. Усе гэтыя «бітвы за ўраджай», «працоўныя вахты», «пяцігодкі якасьці» — савецкі прапагандысцкі арсэнал. Неэфэктыўная савецкая эканоміка мела вострую патрэбу ў рэфармаваньні. Савецкія лідэры гэта ўсьведамлялі, але замест рэальных рэформаў, якіх баяліся, спадзяваліся на адміністратыўныя рычагі ды гэтую так званую «мабілізацыю мас» пад сьцягамі разнастайных кампаніяў.

Магчыма, на першым часе, у 20–30-я гады эксплюатацыя энтузіязму і давала нейкі плён — былі стаханаўцы, былі камуны, якія, зрэшты, хутка разваліліся. Але пазьней, у брэжнеўскую эпоху, усе гэтыя кампаніі ператварыліся ў аб'ект кпінаў і цікавілі хіба толькі тых, хто прафэсійна займаўся палітычнай агітацыяй і атрымліваў за гэта грошы. Казаць пра якісьці рэальны эканамічны эфэкт гэтых кампаніяў не выпадала. Наступны эканамічны крах савецкай імпэрыі толькі пацьвердзіў гэта.

*Яўгенія Казлова, Ворша*

***06.09.2002***

**Я часта размаўляю зь людзьмі. Адчуваецца, што жыцьцё пагаршаецца. Але ня ўсе разумеюць — чаму. Многія апасаюцца, што цяперашні кіраўнік правядзе яшчэ адзін рэфэрэндум, перапіша Канстытуцыю і зробіцца пажыцьцёвым дыктатарам.**

**Я ў роспачы. Баліць душа. У нас быў такі патэнцыял — а яго змарнавалі.**

**Што засталося ад беларушчыны!.. У дзіцячых садках (і то ня ў кожным) ёсьць гэтак званыя «беларускія куткі». Беларушчыну яны загналі ў кут. Сымбалічна для сёньняшняга кіраўніцтва.**

**Няма духоўнай ежы ў дзяцей. За апошнія 6–8 гадоў значна пагоршылася і харчаваньне звычайнае. Я часта бываю ў садках дзеля службовага абавязку. Вывучаю мэню-раскладку. Дык вось, нормы харчаваньня заніжаныя — і ўсё роўна не вытрымліваюцца. Мяса і рыбу дзеці ў дзяржаўных садках (ад ГарАНА) атрымліваюць у лепшым выпадку раз на тыдзень. А бывае, што й па два тыдні няма ні мяса, ні рыбы. Нават бульбы сьвежай уволю няма, ня кажучы пра садавіну. Ужо нават стаіць пытаньне пра пераход на аднаразовае харчаваньне. А ў многіх сем'ях дзяцей няма чым карміць. Заробкі нізкія, дый тыя выплачваюць несвоечасова.**

**...Божа, дапамажы нам! Але Бог дапамагае тым, хто сам сабе ня вораг і хто змагаецца за лепшае, Боскае, сьветлае...**

Так, спадарыня, Яўгенія, вы маеце рацыю, спадзявацца даводзіцца галоўным чынам на ўласныя сілы, уласнае імкненьне да справядлівасьці і годнага жыцьця. Абапіраючыся на разьняволеную асобу, на прыватную ініцыятыву, на асабістую зацікаўленасьць кожнага, будавалі свой дабрабыт усе заходнія дзяржавы, у якіх сёньня дасягнутыя высокія стандарты жыцьця.

*Канстанцін Міронаў, Менск*

***13.09.2002***

**Я індывідуальны прадпрымальнік, гандлюю на адным з гарадзкіх рынкаў. У мяне шмат такіх жа знаёмых. Некаторыя лічаць, што ўсе дробныя гандляры — у апазыцыі да ўлады. Але гэта зусім ня так. Летась, перад прэзыдэнцкімі выбарамі, пытаюся ў аднаго: «За каго будзеш галасаваць?» — «За Лукашэнку», — адказвае.**

**А чаму? Ды таму, што цяперашніх дробных чыноўнікаў я ўжо «падмазаў», а зьменіцца ўлада — прыйдуць новыя чыноўнікі, давядзецца зноў дамаўляцца, плаціць.**

**Чамусьці лічыцца, што індывідуальны прадпрымальнік — гэта рашучы, упэўнены ў сабе чалавек. Але гэта зусім не адпавядае сапраўднасьці. Якраз у тым выпадку, калі чалавеку ёсьць што губляць, ён адчувае сябе зусім безабаронным перад нашай непрадказальнай уладай, а таму менш за ўсё схільны да бунту.**

**Кіраўнікі прадпрымальніцкіх страйкаў робяць усё магчымае, але... На рынках даўно існуе**

**адпрацаваная сыстэма замены адных гандляроў другімі. Страйкуеш, ня плаціш арэнду — заўсёды знойдзецца ахвотнік на тваё месца.**

Мне не выпадае з вамі спрачацца, Канстанцін, вы сваё прафэсійнае асяродзьдзе, відавочна, ведаеце знутры. Аднак калі я нядаўна назіраў за сходам прадпрымальнікаў на менскім рынку «Дынама», то бачыў, як мне падалося, зусім не зламаных уладай і не запалоханых людзей. Наадварот, сярод іх было вельмі шмат рашучых, дзейных і ўпэўненых у сабе асобаў — якраз такіх, якія адпавядаюць стэрэатыпным уяўленьням.

*Тамара Сялюн, Вялейка*

***06.12.2002***

**Ёсьць у народзе такі выраз — «вылузвацца са скуры». Вось і я цяпер у такім становішчы. Выхоўваю двух хлопчыкаў-двайнятак — па 12 гадоў. Жывем з мамай у прыватным доме. Бацька памёр шэсьць гадоў таму. Я тады ж разышлася з былым мужам (лепш бы яго ніколі не сустракала). Цяпер не працую, не магу ўладкавацца. Усе абяцаньні працы аказваюцца падманам. Існуем на мізэрную маміну пэнсію. У такім гарадку, як Вялейка, вольна жывецца толькі афэрыстам.**

**Вельмі шкада дзетак. Я не магу ім цяпер даць нават самае неабходнае — харчаваньне, ня кажучы ўжо пра іншае. Мой былы муж аліментаў ня плаціць і нічым не дапамагае.**

**Я ўспамінаю час, калі наша сям'я жыла добра. Бацькі заўсёды трымалі гаспадарку — парасят, курэй, качак, гусей, трусоў. Усім хапала працы. Заўсёды было і для сябе, і на пачастунак гасьцям. А цяпер мы сталі жабракамі. Многія перасталі з намі нават размаўляць, ня тое што заходзіць. Я расчаравалася ва ўсіх і ва ўсім. Так хочацца зьехаць з гэтай, так бы мовіць, «добрай», «хвалёнай» краіны. Так надакучыла весьці змаганьне зь непрыстойнасьцю.**

**Наша кіраўніцтва, відаць, зацікаўленае ў тым, каб не працавалі, сьпіваліся, разводзіліся... Толькі ў Вялейцы паўсюль гоняць, прадаюць, перапрадаюць самагон. Усе цудоўна ведаюць пра гэта, але ніхто нічога ня робіць.**

Сумна, але гэта досыць тыповая гісторыя для невялікіх гарадоў і мястэчак, большая частка жыхароў якіх да нядаўняга часу працавала на адным-двух мясцовых прадпрыемствах. Заводы гэтыя са сваім састарэлым абсталяваньнем, без інвэстыцыяў і прыватызацыі, пазачыняліся альбо на мяжы закрыцьця. Людзі страцілі працу і стабільны даход, многія сьпіліся, пакідалі сям'ю і дзяцей…

«У чым тут віна дзяржавы?» — спытаеце. Ці ня самі гэтыя людзі вінаватыя, што ва ўсім прывыклі спадзявацца на дзяржаву, што не гатовыя да сытуацыяў, калі самастойна даводзіцца вырашаць многія праблемы?

Але ж яшчэ дзесяць гадоў таму было бачна, што старыя савецкія прадпрыемствы асуджаныя, як і сыстэма кіраваньня імі. Тады са значна меншымі стратамі можна было распачынаць рэформы, навучаць людзей, якім пагражала страта працы, новым

прафэсіям, у тым ліку прыватнаму бізнэсу; нарэшце, псыхалягічна рыхтаваць іх да жыцьця ў новых умовах, калі многае вырашае ўласная ініцыятыва і прадпрымальнасьць.

Цяжка параіць нешта пэўнае вам, Тамара. Я зьвярнуў увагу на тое месца ліста, дзе вы настальгічна згадваеце час, калі ваша сям'я трымала ўласную гаспадарку і мела дастатак. А ці нельга вярнуцца да ўласнай справы? Тым больш — падрастаюць сыны. Калі не жывёлу заводзіць, дык дробным гандлем заняцца, дапамагаць старым па гаспадарцы ці ў хатніх клопатах?

## *Ўладзімер Гардзейка, Смалявічы*

***06.12.2002***

**16 лістапада ў Смалявічах ладзілі «Дажынкі». Кажуць, у дзяржаве няма грошай, але на паказуху знайшлі. Цэлымі днямі пад дажджом і сьнегам фарбавалі, бялілі, чысьцілі, рамантавалі... Прычым прыгладжвалі толькі той бок дамоў, які бачны з вуліцы, другі заставаўся як быў. Глядзелі людзі, як плюхаюць грошы ў гразь, ды чухалі патыліцы... Навошта ўсё гэта патрэбна? Нібыта дзеля таго, каб іншым здалося, што мы не жабракі: хоць галодныя, але вясёлыя.**

**А 23 лістапада былі яшчэ адны «Дажынкі», у меншым памеры. Людзей мала: цэны не па кішэні. Бульба прыкладна 480 і 500 рублёў за кіляграм: даражэй за хлеб. Такога Беларусь яшчэ ня ведала.**

**І чым жа ўзнагародзілі тых, што суткамі, не выходзячы з кабінаў камбайнаў, пякліся на сонцы ды глыталі пыл? Прэмія за першае месца — 111 тысяч рублёў; за другое — 77 700; за трэцяе — 55 500. Затое старшыня райвыканкаму атрымаў машыну «Волга» — напэўна, ён праліў найбольш поту ў мінулае сьпякотнае лета.**

Звычайна, калі высокія чыноўнікі адказваюць на падобныя папрокі, спасылаюцца на тое, што людзям, маўляў, патрэбнае сьвята, узнагарода за працу. А запрашаючы гасьцей, мясцовыя ўлады прыхарошваюць горад як могуць, на што хапае грошай. Людзям, маўляў, усё роўна гэта падабаецца.

Але пра тое і размова, што пафарбаваныя ў непагадзь фасады аблупяцца ўжо ў наступную вясну. А немалыя грошы, змарнаваныя на гэта ды на сумнеўныя гульбішчы, потым даводзіцца ашчаджаць, адключаючы ад цяпла школы і дзіцячыя садкі, ня плацячы мізэрныя заробкі калгасьнікам, ня кормячы школьнікаў. Ці не задарагая плата за такія «Дажынкі»?

## *Аляксей Плескацэвіч, вёска Дарава, Ляхавіцкі раён*

***20.12.2002***

**У вас хапае сумленьня сьцьвярджаць, што народны прэзыдэнт Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка — дыктатар. Яго вы абвінавачваеце ва ўсіх бедах і ня хочаце ўсьвядоміць, што гэтым**

**абвінавачваеце наш народ, які Лукашэнку выбраў. А жывем мы дакладна гэтак, як працуем. І някепска жывем. І вялікія, і малыя гарады ў нас аперазаныя «царскімі сёламі» з палацамі. З-за патоку прыватных машын цяжка перайсьці вуліцу. Сядзім у цяпле, вельмі нават танным. Што яшчэ патрэбна?**

**Магазыны і рынкі ў нас заваленыя сьвіным сьвежым салам, якое нашмат таньнейшае за вараную каўбасу. Нават спэкуляцыю дазволілі, хоць і сарамліва называюць яе бізнэсам. Вы ўсё плачаце — як мала і зь вялікімі затрымкамі плацяць у калгасах. І ні слова пра тое, як выйсьці з гэтага становішча. А выйсьце ёсьць. Раз вам так кепска ў тым Менску — едзьце ў вёску. Вазьміце зямлі столькі, колькі можаце апрацаваць — рыдлёўкай, канём ці трактарам. На зямлі працуючы, багатым ня будзеш, а будзеш гарбатым. Але з голаду не памрэш. І ня трэба будзе вам станавіцца на шлях здрады і паклёпу.**

**Вялікага правакатара-дывэрсанта Віктара Івашкевіча нарэшце паставілі на месца. Толькі трэба было саслаць яго не ў Баранавічы — адзін з найлепшых гарадоў Беларусі, а куды-небудзь у Слаўгарад-Прапойск, Брагін ці Хойнікі. Там ён паразумнеў бы хутчэй, чым у Баранавічах, дзе хапае такіх жа, як ён. Тут улады далі маху. Відаць, нямала перапала тым, хто адказвае ў міністэрстве за пакараньні. Толькі б тэрмін яму ня зьменшылі.**

Маю вялікі сумнеў, спадар Плескацэвіч, што гэтыя «царскія сёлы», пра якія вы згадваеце, можна лічыць паказьнікам высокага дабрабыту беларусаў.

Пабудаваныя яны ў асноўным на пачатку 1990-х гадоў, калі ва ўмовах гіпэрінфляцыі намэнклятура, карыстаючыся ўладай, набрала ў дзяржавы крэдытаў (а фактычна бязвыплатных пазыкаў) і за іх набудавала безгустоўных і неэканамічных гмахаў. Большасьць іх дагэтуль не даведзеныя да ладу — бясплатных крэдытаў больш няма. У многіх немагчыма жыць узімку, настолькі высокія выдаткі на ацяпленьне.

Ваша цьверджаньне пра тое, што мы, як вы пішаце, «сядзім у танным цяпле», многія палічаць зьдзекам. Асабліва тыя, у каго тэмпэратура ў кватэрах у выніку абвешчанай дзяржавай кампаніі эканоміі энэрганосьбітаў не паднімаецца вышэй за 15 градусаў.

У першай палове 1990-х гадоў, калі Аляксандар Лукашэнка яшчэ толькі прыйшоў да ўлады, было вельмі шмат ахвотных узяць зямлю, стаць фэрмэрамі... Што яны атрымлівалі ад дзяржавы? Ні крэдытаў, ні тэхнікі. Зямлю — як правіла, аддаленыя няўдобіцы, пясок ці балота...

Адначасова сотні мільёнаў даляраў штогод накіроўваліся на падтрымку неэфэктыўнай калгаснай сыстэмы. Сёньня, калі калгасы на вачах распадаюцца, калі ў іх няма ні грошай, ні тэхнікі — улада ўжо гатовая раздаваць зямлю. Але час страчаны.

А тое сьвежае сьвіное сала, таннасьць якога так уражвае вас, спадар Плескацэвіч, хутчэй за ўсё, прывезенае з Польшчы, дзе яго ў прыватнага гаспадара можна купіць удвая таньней, чым на беларускім рынку, і дзе яно даўно ўжо ня ёсьць асноўным харчам польскага селяніна.

Мяркуючы па вашым лісьце, спадар Плескацэвіч, вы часта й вельмі ўважліва слухаеце Бела-

рускую Свабоду — ведаеце многія прозьвішчы, тэмы, сюжэты... Дзіўна, што пры такой нянавісьці да нас і нашай працы (словы «банда» і «дывэрсія» ў вашым лексыконе — самыя мяккія) вы, тым ня менш, ледзь не штовечар настройваецеся на нашу хвалю. Паведамленьняў «Советской Белоруссии», якая піша пра Лукашэнку гэтак жа, як вы ў сваім лісьце, вам чамусьці недастаткова. Думаю, вы самі ведаеце — чаму.

Дзяржава, у якой журналістаў пазбаўляюць волі за крытыку ўлады, ня мае шанцаў быць далучанай да дэмакратычнай Эўропы. І ня думаю, што большасьць людзей у Беларусі задавальняе такая пэрспэктыва і што для іх паказьнік дабрабыту — шматок таннага сала на стале.

***Як пагадзіцца з тым, што большую частку жыцьця ішоў не туды, верыў фальшывым правадырам, адстойваў ганебныя ідэі? Многія перад неабвержнай сілай відавочных фактаў знаходзяць у сабе сілы, каб прыняць і зьмірыцца зь відавочным. Многія, але ня ўсе.***

*Зыгмунт Зяліньскі, Дзятлава*

***10.01.2003***

**Дакуль вы будзеце выціраць ногі аб наш добрапаважаны народ? Што наш Лукашэнка зрабіў кепскага? Яго нам сам Бог прыхіліў. Каб пабылі яшчэ пры ўладзе Шушкевіч, Пазьняк, Грыб, Шарэцкі, Чыгір і да іх падобныя, то мы даўно былі б у магіле альбо хадзілі б з торбай па сьвеце.**

**Дзякуй Лукашэнку, што даў нам жыцьцё. Пры Шушкевічу мы былі бяз хлеба, хадзілі за 10 кілямэтраў, стаялі ў чарзе, каб купіць буханку. Пан Шушкевіч развалію бы калгасы — а хто абрабляў бы гэтую зямлю? Ён прадаў бы нас і нашу зямлю праклятаму Захаду, ад якога да нас ідуць усе беды.**

**Я слухаю ваша радыё і дзіву даюся: да чаго вы дайшлі. Як толькі якога-небудзь злодзея,**

**хабарніка асудзяць — тут як тут Соўсь, Лунёва, Цыганкоў, Грузьдзіловіч ды іншыя... Аплакваюць, шкадуюць прайдзісьветаў. А Маркевіч і Мажэйка? Хіба гэта пакараньне за паклёп на прэзыдэнта? Іх бы ў Магадан гадоў на 25... А ты, пане Жданко, чытай усе лісты, у тым ліку тыя, якія колюць вам вочы за сваю праўду.**

(Пра сябе Зыгмунт Зяліньскі паведамляе, што яму ўжо за шэсьцьдзесят і што ён выгнаньнік зь Беласточчыны. Выгналі яго адтуль, паводле яго, за тое, што ён праваслаўны і што вёў барацьбу за свабоду ў Польшчы).

Ня памятаю, спадар Зяліньскі, каб у часы Шушкевіча і Грыба беларусы сядзелі бяз хлеба альбо стаялі ў чэргах па буханку. Прытым хлеб тады быў нават у пераліку на валюту разоў у дзесяць таньнейшы, чым цяпер. Але справа нават ня ў тым. Ні Шушкевіч, ні Грыб, ні Шарэцкі ня мелі і дзясятай часткі тых уладных паўнамоцтваў, якія мае сёньня Аляксандар Лукашэнка. Тым больш немагчыма сьцьвярджаць, што пры ўладзе ў Беларусі быў Зянон Пазьняк.

Што да калгасаў — тут вы маеце рацыю. Быў бы Шушкевіч ці Пазьняк пры ўладзе — калгасаў не засталося б. Як не засталося іх у Польшчы, Усходняй Нямеччыне, Чэхіі, краінах Балтыі... І нідзе, спадар Зяліньскі, сяляне не смуткуюць з гэтай нагоды. Пасьпяхова працуюць на зямлі без сэлектарных нарадаў і каштоўных прэзыдэнцкіх дырэктываў.

Шкада, спадар Зяліньскі, што не напісалі, чым вы займаліся ў пасьляваенны час. Калі меркаваць па вашым узросьце, вы павінны былі памятаць і масавыя раскулачваньні ў Заходняй Беларусі, і

эшалёны зь людзьмі (настаўнікамі, мэдыкамі, заможнымі сялянамі) у вагонах для быдла, якія ішлі ў Сыбір, адкуль большасьць гэтых людзей ужо ніколі ня вернецца... Іх пазбаўлялі волі, маёмасьці, а часам і жыцьця толькі за тое, што ўлада падазравала іх у неляяльнасьці — яны маглі не любіць камуністычную дыктатуру.

У вашым лісьце, спадар Зяліньскі, шмат лаянкі й праклёнаў на адрас Польшчы. І ў той жа час ліст свой, напісаны галоўным чынам па-расейску, вы падпісалі па-польску. Чаму?

Магчыма, памыляюся, але мне здаецца: і гэтай лаянкай, і несправядлівымі абвінавачаньнямі, і адмаўленьнем відавочнага вы спрабуеце калі ня іншых, дык хоць самога сябе пераканаць і апраўдаць перад гісторыяй, перад уласным мінулым. Не сумняюся, што вы пільна сочыце за тым, як жывуць вашы равесьнікі на радзіме, якую вы пры цьмяных абставінах пакінулі. І ўяўляю, як балюча вам усьведамляць тое, што недзе пад Беластокам былы ваш сусед мае ўласную зямлю, гаспадарку, і пры гэтым атрымлівае пэнсію прынамсі ў чатыры разы большую, чым вы.

## *Аляксей Балабашкін, Наваполацак*

***14.02.2003***

**Неяк, едучы ў аўтобусе, пачуў, як дзьве бабулі дзяліліся ўражаньнямі наконт выбараў. Адна распавядае:**

**— Што гэта за выбары — прыйдзе старшыня сельсавету з чырвонай сьметніцай і такога ж**

колеру тоўстым сшыткам, і ў ім адзначыць, хто і як прагаласаваў.

— А калі прагаласуеш супраць? — пытаецца другая.

— Ой, што ты. Яны ж цябе са сьвету зжывуць і на пахаваньне грошай не дадуць.

...Што цяперашняе пакаленьне будзе жыць пры росквіце камунізму, я ня вельмі сумняваўся. І таму зьбіраў грошы. Дзівак быў. Што цікава: кожны раз, калі прыходжу ў ашчадны банк па сваю пэнсію на 77 тысяч рублёў, зь якіх 57 тысяч трэба аддаць за камунальныя паслугі, з акенца мілагучны жаночы голас на расейскай мове пытаецца: «Снимать всё будете? Оставлять не будете?»

Падыходжу да другога акенца, загадзя падрыхтаваўшы свае 57 тысяч 41 рубель за камунальныя паслугі. А трэба 57 045 — чую з акенца.

— Гэта яны так акругляюць, — кажа мне жанчына, што стаяла побач.

Потым пайшоў па хлеб:

— Выбачайце, няма трох рублёў рэшты, — кажуць. Нічога, адказваю, я на дзяржаўным забесьпячэньні. А сам сабе думаю: калі так справы пойдуць і далей, то хутка настане час, калі і з роднай хаты пагоняць вон. Па дзяржаўным радыё ўжо цяпер апрацоўваюць: ня маеш чым плаціць за кватэру — перасяляйся ў «маласямейку».

Вось такія справы. Як раней казалі: «Жить стало лучше, стало веселей: шея стала тоньше, но зато длинней»...

Раней рэдка калі даводзілася бачыць п’яніцадзіночак, якія зазіраюць у пошуках парожніх бутэлек у сьметніцы. Цяпер жа кожную раніцу

**з акна сваёй кухні назіраю, як пералапачваюць гэтыя сьметніцы рукамі па некалькі разоў — як мужчыны, так і жанчыны. Надакучаюць, жаласьліва гледзячы ў вочы, і жабракі. Просяць і на бутэльку, але часта і на хлеб, на лекі. Словам, «вясёлае» ў нас настала жыцьцё.**

Згадваю, спадар Балабашкін, як на пачатку і ў сярэдзіне 90-х гадоў беларускія ўлады, палохаючы людзей рынкам, у якасьці аргумэнтаў супраць рынкавай эканомікі якраз і распавядалі пра тое, колькі вымушаныя плаціць за камунальныя паслугі грамадзяне краінаў Балтыі й Польшчы. Беларусаў гэтым шляхам абяцалі ня весьці — казалі пра нейкі свой адмысловы шлях, бяз гвалту і ўзрушэньняў.

Дзесяць гадоў гэты асаблівы шлях шукалі — а ў выніку выявілася, што вярнуліся ў той самы пункт адліку, які суседзі даўно прайшлі. Яно б, можа, і нічога — лепш позна, чым ніколі. Бяда ў тым, што змарнаваны час вельмі дорага каштуе — няма тых рэсурсаў, якія былі на пачатку 90-х, даўно зношаная матэрыяльная база, безнадзейна сапсаваныя адносіны са зьнешнім сьветам, адкуль можна было чакаць інвэстыцыяў ды эканамічнай дапамогі... Няма і людзкога цярпеньня.

Так, у суседняй Літве становішча пэнсіянэраў таксама ня дужа лёгкае. За камунальныя паслугі пры пэнсіі 150 даляраў трэба заплаціць 70–80 даляраў. Але гэта зусім ня так, як у вас, спадар Балабашкін (40 даляраў пэнсія, а 30 трэба аддаць за кватэру). І гэта пры тым, што кошты на ўсё астатняе (ежа, адзеньне, прамысловыя вырабы) у Беларусі ўжо не ніжэйшыя, а часам і вышэйшыя, чым у Літве.

## *Ганна Валатоўская, Баранавічы*

***21.02.2003***

**Мне 69 гадоў, я жыву ў Баранавічах — недалёка, дарэчы, ад пасёлку Дарава, адкуль вам пісаў Аляксей Плескацэвіч. Дык вось, хачу зьвярнуцца да таварыша Плескацэвіча. Напэўна, шаноўны, вы трымаеце гаспадарку, маеце карову, сьвіней, курэй, якіх я ў гарадзкой кватэры трымаць не магу. Інакш бы вы часьцей хадзілі па крамах і ведалі, што цэны растуць як грыбы.**

**У сьнежні я атрымала 10 тысяч рублёў надбаўкі да пэнсіі. Але адначасова ўлады адабралі ў мяне ўдвая болей: плата за 2-пакаёвую кватэру ўзрасла з 25 да 45 тысяч. А на гэтую пэнсію я вучу дачку ў інстытуце (даю ёй 25 тысяч). 10 тысяч штомесяц аддаю на лекі. На ежу застаецца 17–20 тысяч. Жыву на хлебе і малацэ. Зрэдку купляю цукар.**

**І хто ў гэтым вінаваты, таварыш Плескацэвіч? Дэмакраты, якія ніколі не былі пры ўладзе ў Беларусі? Ці тая ўлада, якая ўжо дзевяць гадоў вядзе нас невядома куды? Я, былы савецкі інжынэр, не магу са сваёй пэнсіі назьбіраць сабе на боты: хаджу ў старых, парваных. Мне сорамна. У якой яшчэ краіне такое бывае? Але мая крыўда — ня самая вялікая. Аказваецца, і я, просты інжынэр, і былы галоўны інжынэр заводу атрымліваем аднолькавыя пэнсіі. Так ня можа быць...**

**Зьвяртаюся да прэзыдэнта. Аляксандар Рыгоравіч, павярніцеся тварам да бедных старых. Дайце нам тую пэнсію, якую вы абяцалі — каб мы змаглі дажываць і лячыцца.**

Сапраўды, спадарыня Валатоўская, нястрымны рост цэнаў і тарыфаў найбольш балюча адбіўся на гарадзкіх пэнсіянэрах. Згадваю сваю вёсачку Краснае Шчучынскага раёну. Камунальных выгодаў там ніколі ня мелі: ваду насілі й носяць з уласных калодзежаў, у печах палілі й паляць дровамі, што самі ж нарыхтоўваюць у лесе. Газавыя трасы туды не дайшлі, а газ у балёнах яшчэ дапрасіся, каб прывезьлі за шэсьць кілямэтраў. Таму на тыя балёны ня дужа і спадзяюцца.

А спадзяюцца галоўным чынам на сябе, на ўласныя рукі ды на дапамогу дзяцей. Натуральна, на гэтых людзях узрушэньні апошняга часу з новымі камунальнымі тарыфамі адбіліся менш, чым на іншых. Але наўрад ці варта зайздросьціць ім, спадарыня Валатоўская. Саўгасныя пэнсіі значна ніжэйшыя, чым нават ваша інжынэрская, на якую вы ня можаце пражыць. А ўласны агарод ды жывёла патрабуюць вельмі шмат сілаў і выдаткаў. Ні аднаго, ні другога ў многіх проста не засталося.

## *Якаў Ішчук, Наваполацак*

***28.03.2003***

**Хацелася б ведаць, чаму нашым дактарам плацяць толькі за тое, што яны велікадушна зьяўляюцца на працы (прытым нярэдка — зь вялікім спазьненьнем)? Яны шмат і ахвотна ныюць, што ім мала плацяць. А за што плаціць? Хто зь іх калі адказаў за пакутніцкую сьмерць пацыента? Лечаць яны абы з рук, як атрымаецца.**

**А вось пісаніну ў дакумэнтах вядуць старанна, не падкапаесься.**

**Кладзеш потым на стол у пракуратуру мэдычную карту хворага, распавядаеш, як зь яго зьдзекаваліся, а там нават заяву адмаўляюцца браць. Кажуць: «Ня маем права».**

**Летась у Польшчы выкрылі дактароў-злачынцаў, якія злоўжывалі становішчам, губілі пацыентаў. Але там ім не далі разгуляцца — злавілі, давялося адказваць. І гонар белага халата, гонар краіны ад гэтага не пацярпеў. А ў нас гэты гонар разумеюць па-свойму. Калі бракароб, злачынца — дзяржаўны, то яго судзіць нельга. Свой свайго абараняе. І ніякага табе народнага кантролю, ніякай непажаданай прэсы.**

Сапраўды, спадар Ішчук, ад беларускіх дактароў у адказ на прэтэнзіі да якасьці іхнай працы часам нават адкрыта можна пачуць апраўданьне: «Як нам плацяць, так мы і лечым». Натуральна, такія словы ня могуць служыць аргумэнтам у сытуацыі, якую апісваеце вы — калі спрэчка даходзіць да судовага разбору. Адпаведныя законы пра адказнасьць мэдыцыны ў Беларусі ёсьць, іншая справа — як яны дзейнічаюць. І калі грунтоўна аналізаваць гэтую праблему, у любым выпадку размова вернецца да пытаньняў фінансаваньня мэдыцыны, матэрыяльнай зацікаўленасьці пэрсаналу, забесьпячэньня шпіталяў сучасным абсталяваньнем. Пагадзіцеся, немагчыма спадзявацца, што вас якасна абслужаць у шпіталі, у якім фактычна няма лекаў, а зарплата доктара роўная зарплаце грузчыка і на яе немагчыма пракарміць сям’ю.

## *Іван Яскевіч, вёска Новыя Гавяды, Шклоўскі раён*

***30.03.2003***

**Горкі Чарнобыль адабраў у нас малую Радзіму — вёску Ўшакі Чэрыкаўскага раёну. Былі гэта цудоўныя санаторныя мясьціны... Часта ўспамінаецца той дачарнобыльскі час. У нашым калгасе «Маладая гвардыя» доўгі час не было дзіцячага садку. Дык нашых малых, пакуль мы, настаўнікі, працавалі ў школе, даглядала пэнсіянэрка Соф'я Ларыёнаўна Яскевіч. Гуляла зь імі, выхоўвала, кнігі чытала.**

**У сваю чаргу, бацькі-настаўнікі дапамагалі нам на гародзе бульбу пасадзіць і выкапаць, дроваў, сена нарыхтаваць і прывезьці. Дагэтуль памятаю тую нядзельку, калі бацькі зь дзеткамі прыйшлі да нас у госьці з падарункамі. Соф'я Ларыёнаўна частавала гасьцей чым толькі магла. А Таня Любчанка з хлопчыкамі й дзяўчаткамі выступілі зь невялікім канцэртам: сьпявалі, расказвалі вершы, байкі, танцавалі. У маленькай бацькоўскай хатцы нашай усім месца ставала...**

Былы настаўнік, інвалід савецкай арміі Іван Яскевіч жыве далёка ад сваіх родных мясьцін, часта згадвае той час, які лічыць шчасьлівым, шкадуе, што родныя людзі цяпер далёка ад яго. І піша, што дагэтуль чакае хоць бы вестачкі-паштоўкі ад тых дзетак, якіх і сёньня лічыць сваімі ўнукамі і ўнучкамі.

## *Алег Раманкевіч, Ворша*

***04.04.2003***

**Цяпер я працую на заводзе «Чырвоны Барацьбіт», жонка працуе ў стаматалягічнай паліклініцы. Наша дачка вучыцца на другім курсе пэдунівэрсытэту, сын ходзіць у сёмую клясу. Ад бацькоў у мяне ў вёсцы засталася драўляная хата. Я даўно думаў заняцца якой-небудзь уласнай справай. Мне ўжо 51 год, і хацелася б ня жыць у чаканьні так званай «зарплаты», якую ўвесь час затрымліваюць, а зрабіць нешта ня толькі для сябе, але і пакінуць дзецям. Думаў апроч сельскай гаспадаркі заняцца дрэваапрацоўкай (расьпілоўкай, рамамі, дзьвярыма). Але каб адразу купіць абсталяваньне, няма такіх грошай. А крэдыт нашых банкаў я не адужаю.**

Ведаю, што падобнымі думкамі ды ідэямі апанаваныя многія сталыя і самастойныя людзі, якія большую частку жыцьця адпрацавалі на дзяржаўных прадпрыемствах.Назіраючы, як гэтыя заводы прыходзяць у заняпад, пакутуючы ад нястачы і прыніжэньняў, людзі (падобна як Алег Раманкевіч) усё часьцей задумваюцца пра ўласную справу.

На жаль, дзяржава зь недаверам ставіцца да прыватнай ініцыятывы. Атрымаць ільготы альбо бязвыплатную дапамогу прадпрымальніку-пачаткоўцу ва ўмовах Беларусі нерэальна. Хоць сама дзяржава ні зь беспрацоўем, ні з рэканструкцыяй дзяржаўных прадпрыемстваў, ні з сацыяльнымі праграмамі не спраўляецца.

У такіх умовах чалавеку, які задумаў распачаць уласную справу, дзеля атрыманьня стартавага капіталу звычайна даводзіцца займацца дробным гандлем. Сёньняшнія ўладальнікі невялікіх прыватных цэхаў і майстэрняў — у мінулым, як правіла, так званыя «чаўнакі», якім па некалькі гадоў давялося езьдзіць па рынках Турэччыны, Польшчы ды Расеі.

## *Якаў Ішчук, Наваполацак*

***13.04.2003***

**Што жывем кепска, самі ведаем, штодня ў гэтым пераконваемся, і ўжо не адзін год. Урад таксама мянялі ня раз — не дапамагло. Палова заводаў стратныя, а спытаць няма з каго. На складах прадукцыі на трыльёны, а зарплаты няма. Фэрмэраў задушылі, калгасы распадаюцца, а на рынках — бэльгійская морква 1200 рублёў за кілаграм, азэрбайджанская капуста, расейская грэчка. Бульба ў краме каштуе даражэй за муку вышэйшага гатунку. Не, браткі, тут ня дах трэба мяняць, а падмурак.**

**Больш чакаць няма чаго. Апошні сродак — вярнуць уладу народу. І дзеля гэтага ня трэба ніякіх рэвалюцыяў. Дастаткова імем закону сыстэматычна, няўхільна патрабаваць ад начальнікаў усіх узроўняў выкананьня іхных абавязкаў і тлумачэньня іхных учынкаў. Калі ён будзе ўпэўнены, што схопяць за руку — не рызыкне парушаць закон.**

Сытуацыю вы, спадар Ішчук, пазначылі дэталёва, глыбока, зь веданьнем справы. А вось прапанаванае вымі выйсьце выклікае нямала пытаньняў. «Вярнуць уладу народу», паводле вашага тлумачэньня, азначае прыставіць да ўсіх начальнікаў кантралёраў, каб сачылі, патрабавалі, засьцерагалі...

Наўрад ці такі шлях плённы. Сыстэма ўлады ў Беларусі заганная не таму, што мала кантралёраў (у гэтым якраз недахопу няма — армія чыноўнікаў вялізная). У людзей няма магчымасьці ўзьдзейнічаць на тых, хто мае рэальную ўладу. Той жа старшыня райвыканкаму не залежыць ад насельніцтва раёну (яно яго не выбірае) і фактычна можа не лічыцца з раённым саветам (у саветаў вельмі абмежаваныя паўнамоцтвы). Няма ў Беларусі і незалежнага суду, і амаль усе сродкі масавай інфармацыі падначаленыя прэзыдэнцкай вэртыкалі. Вось гэты падмурак, відавочна, і трэба мяняць, каб дамагчыся рэальных зьменаў.

## *Сяргей Ярмолін, Бабруйск*

***16.04.2003***

**Мне сорак пяць гадоў. Слухаю вас ужо гадоў трыццаць. Працую вадзіцелем аўтапарку № 2 у Бабруйску. Яшчэ нядаўна зарплата ў мяне была 240 000 «чыстымі» — за 150 гадзін працы. Цяпер — 140 000 «чыстымі» за 170 гадзін. Я заўсёды працаваў на такіх лініях, дзе шмат пасажыраў і шмат наяўных грошай: Бабруйск — Магілёў і Бабруйск — Салігорск. Адміністрацыя аўтапарку абяцала: вось вам 30% надбаўкі за абілечваньне і**

**6% з кожнага прывезенага рубля. Потым на працягу некалькіх гадоў ад 6% засталося 1,5%.**

**Далей — болей. За прывезеную выручку плату ўвогуле скасавалі, а ад 30% за абілечваньне пакінулі толькі 15%. Такім чынам, стымулу працаваць сумленна амаль не засталося. Атрымліваецца, што адміністрацыя не зацікаўленая ў тых работніках, якія імкнуцца працаваць сумленна. Бо нас такіх — адзінкі, усе астатнія працавалі без напругі. І цяпер яны пасьміхаюцца зь мяне: маўляў, ну што — гнаў плян на сваю бяду? Цяпер чым больш працуеш, тым менш зарабляеш.**

**Выснову я раблю такую: трэба падладжвацца пад іншых, цішком красьці, выкручвацца, каб зарабіць. Бо ў нас ня цэніцца высокапрадукцыйная праца. Яна не патрэбная, бо інакш будзе беспрацоўе. Я так думаю, што гэта адбываецца ва ўсёй краіне, таму ў нас і жыцьцё такое. І, напэўна, гэта выгадна чыноўнікам розных узроўняў. Але трэба нешта рабіць, інакш эканоміка ня вытрымае.**

**...Увогуле, жыць у гэтай рэчаіснасьці лепш ня думаючы, бо жыць сумленна — значыць толькі існаваць. Я пакуль у стане купляць праўдзівыя газэты, а вось пэнсіянэры і многія іншыя людзі гэта ўжо дазволіць сабе ня могуць. Калі і купляюць, то «Советскую Белоруссию» — яна танная.**

Зьява, якую вы, спадар Ярмолін, даволі падрабязна апісалі, абапіраючыся на ўласны досьвед, за савецкім часам называлася «ўраўнілаўкай». Партыйныя органы тады пільна сачылі, каб савецкі грамадзянін, ня дай Бог, ня стаў багатым, не зарабіў значна больш, чым ягоны калега — нават калі той

калега гультай і горкі п’яніца. Пры гэтым ня мела значэньня, як чалавек працуе, колькі нормаў ён выконвае, як ставіцца да сваёй працы.

Нельга было ўявіць сытуацыю, каб работнік, які дзякуючы сваёй працавітасьці і вынаходлівасьці выканаў, да прыкладу, тры месячныя заданьні, атрымаў за гэта не 120 рублёў, а 360. Нейкую падвышку яму, вядома, далі б, але ўсьлед за гэтым паднялі б норму і скарацілі б расцэнкі. Савецкі чалавек ня мог зарабляць утрая больш, чым ягоны нядбайны і лянівы калега, гэта ня ўпісвалася ў прынцыпы так званай «сацыяльнай справядлівасьці».

Зьява гэтая была паўсюднай: працаваць эфэктыўна і якасна было нявыгадна — дзеля гэтага не было матэрыяльных стымулаў. Урэшце адсутнасьць матывацыі да працы і стала адной з галоўных прычынаў краху ўсёй савецкай эканомікі.

Ваш, спадар Ярмолін, расповед сьведчыць пра тое, што колішняя «ўраўнілаўка» ва ўмовах Беларусі вяртаецца, прынамсі, на дзяржаўных прадпрыемствах.

## *Аляксей Вабішэвіч, Маладэчна*

***08.06.2003***

**Я ўжо даўно на пэнсіі. Маю працоўнага стажу пяцьдзясят гадоў, а пэнсію мне плацяць сорак пяць даляраў. Зь іх трыццаць даляраў трэба аддаць за кватэру. А як пражыць за астатнія грошы, чым харчавацца — ня ведаю. Даводзіцца абыходзіцца ў асноўным супам ды малаком. Ці ёсьць такое дзе-небудзь яшчэ ў Эўропе?**

**На выбарах я галасаваў за Лукашэнку. Цяпер вельмі шкадую, бо бачу, што памыляўся. Ён дае жыць толькі сваім вэртыкальшчыкам, міліцыі, КДБ ды вайсковым камандзірам.**

**Многія кажуць, што выйсьця няма. А я ведаю, што ёсьць. Навошта нам столькі вайскоўцаў, міліцыянтаў, чыноўнікаў? А галоўнае, ня трэба марнаваць грошы на калгасы. Ня можа калгас апрацоўваць тысячу гектараў зямлі — няхай апрацоўвае пяцьсот. А пяцьсот няхай аддасьць фэрмэрам. А дзяржава павінна дапамагчы фэрмэрам з крэдытамі на тэхніку. Праз два-тры гады, калі іх не душыць, яны заваляць краіну танным хлебам.**

**Тое ж і з прамысловымі прадпрыемствамі. Ты зьменш падаткі, дай ім жыць. Яны падвысяць заробкі, людзі пачнуць больш купляць прамысловых тавараў, эканоміка пачне ўзьнімацца... Але ж не — улады ўсё робяць якраз наадварот.**

**Сапраўднае сваё прозьвішча не называю. А чаму — вы і самі павінны ведаць. На старасьці гадоў уцякаць ды адбівацца ад сабак цяжка, так што выбачайце. Магчыма, роздум мой і ня надта пісьменны, адукацыя ў мяне слабая, але напісаў як думаў.**

Развагі вашы, спадар Вабішэвіч, зусім лягічныя і слушныя. Любому чалавеку зь вялікім жыцьцёвым досьведам відавочна: ня будзе плённай працы і добрага выніку там, дзе няма стымулу, асабістай зацікаўленасьці чалавека.

Ці ведаюць гэта тыя, у каго сёньня ўлада ў Беларусі? Безумоўна. Але чалавек-гаспадар, чалавек-уласьнік іх палохае і непакоіць. Найперш тым,

што такім чалавекам цяжка, а часам і немагчыма камандаваць, што ён адчувае сябе самастойным і незалежным. А галоўнае — тым, што ён будзе імкнуцца займець такую ўладу ў краіне, якая б абараніла гэтую ягоную свабоду і ўласнасьць. Прырода сёньняшняй беларускай улады зусім іншая. Яна абапіраецца на тых, у каго зусім іншае становішча ды іншыя мэты.

## *Сяржук Макееў, мястэчка Коханава, Талачынскі раён*

***18.06.2003***

**У нашым раёне ёсьць моцны дзяржаўны манапаліст — хлебазавод у райцэнтры. У 1995 годзе канкурэнцыю яму паспрабаваў скласьці прыватны прадпрымальнік, які набыў і ўсталяваў уласную хлебапякарню. Справы ў яго ішлі нядблага. Хлеб ягоны быў таньнейшы і смачнейшы, чым зь дзяржаўнага хлебазаводу. Натуральна, людзі пацягнуліся па хлеб да прыватніка. Вось тут і пачалося супрацьстаяньне прыватнага гаспадара з чыноўнікамі й дырэктарам хлебазаводу. Скончылася ўсё тым, што прадпрымальнік вымушаны быў адмовіцца ад выпечкі хлеба, а рабочых звольніў. Пасьля гэтага ніхто ў раёне больш не адважваецца на такую рызыкоўную справу.**

**Гісторыя гэтая мела працяг ужо ў самім мястэчку Коханава. Пазбавіўшыся ад канкурэнта, дзяржаўны хлебазавод працягваў пячы той жа дарагі і нясмачны хлеб. Месьцачкоўцы ведалі —**

**праз суткі талачынскі хлеб кісьне, а праз паўтара-двое сутак пакрываецца цьвільлю. Тым часам як аршанскі хлеб таньнейшы, а захоўвацца можа да пяці сутак. І вось у Кохanaве знайшоўся прыватны прадпрымальнік, які на ўласнай машыне пачаў прывозіць хлеб з Воршы. І для коханаўцаў, і для жыхароў суседніх вёсак — Багданаўкі, Вялікіх Ліпнікаў, Пуськоў, Кругоў — гэта вельмі зручна. Але раённыя чыноўнікі кожны год пачалі ўводзіць так званую «часовую» забарону на гандаль прывазным хлебам. А прадпрымальніку казалі — «гандлюй талачынскім хлебам». Той, натуральна, не пагаджаецца: хлеб кепскі й дарагі. Жыхары мястэчка кожны год пішуць калектыўныя скаргі ў Менск, але праблема не вырашаецца.**

**Раней падчас такіх забаронаў многія жыхары Коханава езьдзілі па хлеб электрычкаю ў Воршу, але пасьля таго як падаражэў праезд, гэта стала не па кішэні. Асабіста я для сябе вырашыў: талачынскі хлеб набываць ня буду да таго часу, пакуль ён ня стане ня горшы і не даражэйшы за аршанскі.**

Гісторыя гэтая, Сяржук, тыповая для многіх сельскіх раёнаў Беларусі. Аргумэнты, якімі апраўдваюцца чыноўнікі, на першы погляд нібыта слушныя. Трэба, маўляў, падтрымліваць уласнага вытворцу: ён плаціць падаткі ў мясцовы бюджэт, дае працу мясцовым жыхарам. Якраз гэтага і дамагаецца манапаліст: навошта ламаць галаву над мадэрнізацыяй вытворчасьці, навошта шукаць грошы на сучаснае абсталяваньне, калі ўсё можна вырашыць з дапамогай загаду мясцовай вэртыкалі?

Інтарэсы спажыўцоў, якія вымушаныя пераплачваць за няякасны хлеб, не бяруць да ўвагі ні чыноўнікі, ні манапаліст.

А цяпер уявім, што прыватным хлебапякарням чыноўнікі перастануць чыніць перашкоды. Што адбудзецца зь дзяржаўным хлебазаводам? Так, ён вымушаны будзе альбо пячы іншы хлеб, альбо збанкрутуе. Ці прайграе ад гэтага мясцовы бюджэт? Наўрад ці: ён зможа атрымліваць падаткі з рэнтабэльных прыватных хлебапякарняў. Дый дасьведчаныя хлебапёкі змогуць там знайсьці занятак. Бяз працы застануцца хіба што начальнікі.

*Павал Станкевіч, Берасьце*

***18.06.2003***

**Нядаўна быў па справах у памежным Тэрэспалі й назіраў за акцыяй польскіх спэцслужбаў у справе адлову і дэпартацыі беларускіх грамадзянаў. Пад'яжджаюць да рынку некалькі цёмнасініх аўтобусаў, адтуль выскокваюць 5–6 мужчын у цывільным — і пачынаецца паляваньне. Усе на рынку разьбягаюцца хто куды.**

**Мясцовыя палякі кажуць, што гэтыя «зачысткі» прымеркаваныя да рэфэрэндуму наконт уступленьня Польшчы ў Эўразьвяз. Тым часам ваша радыё перадае з Польшчы толькі бадзёрыя рапарты пра перамовы наконт увядзеньня візаў. А трэба распавядаць пра жыцьцё, пра тое, як нас там прыніжаюць.**

Пытаньне наконт таго, хто каго ў гэтым выпадку прыніжае, спадар Станкевіч, — спрэчнае. Ці не прыніжаюць самі сябе тыя людзі, якія цішком спрабуюць правезьці праз мяжу цыгарэты і гарэлку, а потым нелегальна прадаюць усё гэта на польскіх рынках? Натуральна, улады Польшчы супрацьстаяць гэтаму, бо нелегальны гандаль шкодзіць нацыянальнай эканоміцы.

Зрэшты, у гэтай праблемы ёсьць і іншы аспэкт. Не ад добрага жыцьця многія ўчорашнія беларускія настаўнікі, мэдыкі, рабочыя ператварыліся ў так званых «сьпіртавозаў». Для многіх гэта адзіны спосаб пракарміць сям'ю.

## *Міхаіл Шавель, пасёлак Навінкі, Менскі раён*

***25.06.2003***

**Мы з жонкай — былыя настаўнікі. Ужо больш як дзесяць гадоў на пэнсіі, нідзе не працуем. Пэнсія наша на дваіх склала ў сакавіку 213 тысяч 170 рублёў. Трэцяя ў сям'і — дачка, якая ўжо шмат гадоў ня можа знайсьці працу і грашовай дапамогі ніадкуль не атрымлівае. За сакавік за камунальныя паслугі мы заплацілі амаль 70 000 рублёў — гэта значна больш за чвэрць сямейнага даходу. І я вырашыў дамагчыся абяцаных уладай субсыдыяў.**

**Два дні разам з жонкай патрацілі на атрыманьне даведак, абышоўшы каля дзясятка**

**розных кабінэтаў. На трэці дзень накіраваліся грамадзкім транспартам з мноствам перасадак, а потым пешшу — у Ждановічы, дзе месьціцца раённая камунальная служба. А там бухгальтарка, прагледзеўшы нашы паперы, сказала: «Ваш даход вялікі, субсыдыі не паложана. У нас каля сямі тысяч кватэранаймальнікаў, а субсыдыі мы выплацілі толькі сямі ці дзесяці адзінокім старэнькім...»**

**Вярталіся дамоў абураныя, з сапсаваным настроем. Цешыла толькі думка, што за травень атрымаем крыху большыя пэнсіі. Але і тут надзеі нашы былі марныя. Аказваецца, падвышэньне, пра якое ўлады столькі гаварылі, на нас не распаўсюджваецца. Нас, былых настаўнікаў, інвалідаў (па сутнасьці — амаль жабракоў), чыноўнікі лічаць багатымі й ня вартымі падвышэньня пэнсіі.**

У беларускіх вёсках пэнсіянэры ўвогуле лічацца заможнымі — на тле даярак і трактарыстаў, якія ў асобныя месяцы, бывае, ня могуць зарабіць і дваццаці тысяч рублёў. Выглядае, што гэтак жа глядзяць на пэнсіянэраў і чыноўнікі, ад якіх залежыць, ці выдаваць жыльлёвыя субсыдыі. Зь іншага боку, зразумела, што мясцовыя бюджэты ня маюць грошай на такія субсыдыі. Але навошта ў такім разе публічна ўводзіць людзей у зман, марна ганяючы пэнсіянэраў па чыноўніцкіх кабінэтах?

*Алена Кавальчук, Менск*

***20.07.2003***

**Пяць год я выкладала ў школе беларускую мову і літаратуру. Праца мне вельмі падабалася, але як за шэсьцьдзесят даляраў пракорміш дваіх дзяцей, калі ў мужа, таксама настаўніка, заробак ня большы за мой? Давялося ісьці працаваць на рынак. Зарабіць тут можна 200–300 даляраў, але ніякага задавальненьня ад свайго цяперашняга занятку я не атрымліваю. Сумую па школе, па сваіх дзецях, па беларускай мове.**

**Чаму дзяржава так паступае з настаўнікамі? На словах — ім гонар і пашана, а ў сапраўднасьці — жабрацтва і прыніжэньне? Навошта пяць гадоў вучыцца ва ўнівэрсытэце, калі дыплём не гарантуе нічога, апроч жабрацкай зарплаты?**

Вы, напэўна, і самі ведаеце, Алена, што такі ж, як вас, лёс напаткаў тысячы іншых настаўнікаў, мэдыкаў, інжынэраў... Зразумела, гэта марнатраўства і зьдзек зь людзей — змушаць дыплямаваных спэцыялістаў займацца некваліфікаванай працай. Хоць на пераходным этапе, калі рухнула старая савецкая сыстэма, а рынак яшчэ не ўсталяваўся, падобныя зьявы, напэўна, непазьбежныя. Іх перажылі і Польшча, і Чэхія, і нашы балтыйскія суседзі. Іншая рэч, як доўга гэты пераходны этап працягнецца. У Цэнтральнай Эўропе школьнага настаўніка ўжо не прывабіш гандлёвым месцам на рынку. У Беларусі ж на заробак настаўніка па-ранейшаму немагчыма пракарміць сям’ю.

*Алег Ціхвінчук, Полацкі раён*

***17.08.2003***

**Для адных эпоха Лукашэнкі — гэта лядовыя палацы, для другіх — зьнішчаны бел-чырвона-белы сьцяг і герб «Пагоня». А для мяне, старога настаўніка, гады ягонага кіраваньня — гэта сотні закрытых вясковых школаў. Грамадзтва на гэта ня надта зьвяртае ўвагу, а дарма. Справа ня толькі ў тым, што колішні асяродак адукацыі, культуры, выхаваньня ператвараецца ў мёртвы будынак, ад якога празь некалькі гадоў застануцца голыя сьцены безь дзьвярэй і вокнаў. Бяз школы вёска пражыве нядоўга. А тысячы і тысячы малых дзетак у выніку гэтай так званай «эканоміі» асуджаныя на пакуты і непаўнацэнную адукацыю.**

**Адно — што зачыняюць пераважна беларускамоўныя школы, а дзяцей пераводзяць, як правіла, у расейскамоўныя. А другое — як малым дабірацца ў іншую вёску, часам за дзясяткі кілямэтраў? Абяцаюць, што на зэканомленыя грошы купяць аўтобусы. Але хто ня ведае, якая цана такім абяцанкам? Той аўтобус калі й купяць, дык ясна, як ён будзе хадзіць. Будуць казаць: то бэнзіну няма, то зламалася нешта...**

**Канечне, вясковыя малыя ўсё сьцерпяць, абараніць іх няма каму. Але ўладзе яны гэтага не даруюць. Як не даруем і мы — настаўнікі, што засталіся бяз працы, якая была сэнсам жыцьця і безь якой гэты сэнс страчаны.**

Кампанія ў справе ліквідацыі вясковых школаў, што разгарнулася ў апошнія гады — сапраўды маштабная, такой дагэтуль у Беларусі не было ніколі. Закрываюць ня толькі тыя школы, дзе засталося ўсяго колькі вучняў, і ня толькі тыя, што былі ў старых драўляных будынках. Улада санкцыянавала ліквідацыю нават тых школаў, у якіх дзясяткі дзяцей і якія месьціліся ў параўнальна новых цагляных будынках. Аргумэнт пры гэтым адзін: эканомія грошай. Тое, што наступствы гэтай эканоміі — пакуты маленькіх дзетак, непаўнацэнная адукацыя і беспрацоўе настаўнікаў, у разьлік ня надта бярэцца.

Дый спасылкі на нерэнтабэльнасьць выклікаюць шмат пытаньняў. А лядовыя палацы прыбытковыя? А гарналыжны комплекс у краіне, у якой няма гор? А пампэзныя будоўлі, безь якіх можна было абысьціся?

*Віктар Скараход, Менск*

***19.10.2003***

**Быў на нашай вуліцы шапік, у якім прыватнікі гандлявалі разнастайнымі гатункамі рыбы. Стаўрыду халоднага вэнджаньня ці сярэдняга памеру скумбрыю я набываў у іх за 3 тысячы (а калі і за 2700 рублёў). Цяпер шапіка няма — іх загадалі зьліквідаваць. Іду ў краму «Обжора» на вуліцы Валгаградзкай. Там за такую ж рыбіну зь мяне бяруць 5 тысяч рублёў. Вельмі яскравая розьніца ў цане. На чыю яна карысьць? Народу? Вось я і думаю: якой крывадушнай была ўлада**

**так званага «разьвітага сацыялізму», такой жа крывадушнай яна засталася і пры сацыялізьме, так бы мовіць, «рынкавым».**

Адметна, што ўсе харчовыя шапікі на менскіх вуліцах улады зьнішчылі, абгрунтоўваючы свае дзеяньні барацьбой за эстэтычны эўрапейскі выгляд сталіцы. Мэта як быццам неблагая. Толькі ці ня больш лягічна было б пачаць са змаганьня за эўрапейскія пэнсіі для менскіх пэнсіянэраў?

Атрымалася так, што зусім не багатых беларускіх спажыўцоў, многія зь якіх (як тыя ж пэнсіянэры) увогуле ледзь зводзяць канцы з канцамі, пазбавілі танных прадуктаў. Калі раней таннае харчаваньне гэтыя людзі маглі купіць недалёка ад дому, дык цяпер вымушаныя ехаць на дробнаоптовыя рынкі, за межы гораду. Пры гэтым у двухмільённым горадзе, улады якога хваляцца эўрапейскасьцю, дагэтуль няма ніводнага гіпэрмаркету.

## *Генадзь Арлукевіч, вёска Багданаўцы, Шчучынскі раён*

***09.11.2003***

**Мне 40 гадоў. Я інвалід другой групы па зроку. Жыву ў вёсцы разам з мамай (ёй 80 гадоў) і братам, якому 43 гады. Брат — таксама інвалід, у яго псыхічнае захворваньне. Пэнсіі ў нас маленькія (у мамы — 67 тысяч рублёў, у брата — 64 тысячы, у мяне — 78 тысяч). Уласнай гаспадаркі з прычыны стану здароўя трымаць ня можам.**

**Беларускую Свабоду слухаю ўжо два гады. У мяне старэнькі «Акіян»: яшчэ крыху цягне. Слухаю вашы навіны, перадачы «Экспэртыза Свабоды», «Паштовая скрынка», іншыя. Шмат у чым вы маеце рацыю, але ў некаторых момантах я з вамі не пагаджаюся. Хоць бы наконт жыцьця ў Савецкім Саюзе. Да развалу Саюзу пэнсіі ў нас былі хоць і невялікія, але іх усё ж хапала на тое, каб апрануцца, абуцца, ды і на лекі, і на харчаваньне... А цяпер у нас нічога не засталося. Калі б летась па лініі райсабесу нам з гуманітарнай дапамогі ня выдалі крыху адзеньня — хадзілі б голыя і босыя. Босыя мы і так ходзім: купіць абутку ня можам. Ад цяперашніх цэнаў галава ідзе кругам. Мы адмовіліся амаль ад усяго. Купляем толькі самыя неабходныя лекі (а яны вельмі патрэбныя) ды хлеб. Дагэтуль ня можам выплаціць абавязковай страхоўкі — 7340 рублёў. Тэлевізара няма, абутку няма. Хата халодная: дроў мала, трэба купляць — а за якія грошы? Добра хоць — з саўгаса далі крыху бульбы.**

**У вёсцы даўно закрылі школу, бібліятэку... Чытаць я люблю — але дзе возьмеш кнігі ды газэты? Ва ўладаў усё толькі на словах. Толькі й чуеш: закрываюць незалежныя выданьні, ліквідуюць грамадзкія арганізацыі, зьнікаюць незалежныя палітыкі... Усё больш прыціскаюць прадпрымальнікаў. Дый увесь народ стаў жыць значна горш. Ня ведаю, калі што-небудзь ня зьменіцца, мы загінем.**

Мы ўсё часьцей атрымліваем падобныя лісты даведзеных да адчаю людзей. Звычайна гэта лісты расчараваньня: чалавек спадзяваўся, што Лука-

шэнка верне абясцэненыя грашовыя ашчаджэньні, альбо падвысіць пэнсію, альбо абавяжа калгас бясплатна выдаваць тэхніку для апрацоўкі прысядзібнага ўчастку. З экрана тэлевізара Лукашэнка сапраўды абяцае гэта зрабіць — але ў калгаснай канторы чалавек у адказ на свае патрабаваньні чуе зусім іншае. Я ў падобных выпадках звычайна раю людзям больш спадзявацца на ўласныя сілы ды меней разьлічваць на прыгожыя абяцаньні палітыкаў.

Выпадак зь сям’ёй Генадзя Арлукевіча, аднак, выключны. Разьлічваць на ўласныя сілы яму не выпадае, а дзяржаўнай дапамогі не хапае нават на самае неабходнае. Ва ўмовах вялікага гораду ў такіх бедакоў хоць нейкія шанцы ёсьць: можна пайсьці ў райвыканкам, адшукаць нейкую гуманітарную арганізацыю. А як быць у маленькай вёсцы, калі адзіны аўтобус да райцэнтру даўно адмянілі, а ў мясцовага сельсавету няма грошай нават на канцылярскі клей для старшыні? Ваш ліст, спадар Арлукевіч, мы перадамо ў адну з гуманітарных арганізацыяў і папросім, каб вам пры магчымасьці дапамаглі.

## *Ганна Богдан, Касьцюковіцкі раён*

***23.11.2003***

**Вы часта без прычыны лаеце Лукашэнку. У краіне разруха, беспрацоўе. Моладзь працаваць ня хоча. Паўсюль алькаголікі, наркаманы. Кожны толькі і цікуе, каб што-небудзь у цябе скрасьці. Гэты час мне вельмі нагадвае пасьля-**

**ваенны. Тады таксама жылі бедна і галодна. Але цяпер усё ж такой галечы, як тады, няма. Хоць у калгасе на добрыя чаравікі за месяц і не заробіш, але і з голаду ніхто ня пухне. На крайні выпадак, заўсёды можна што-небудзь з калгаснага поля прынесьці — якую бульбіну ці моркву... Што адзін Лукашэнка з такімі людзьмі можа зрабіць? Яшчэ добра, што вайны няма.**

Дзіўна, спадарыня Богдан, што пунктам адліку для сваіх параўнаньняў вы абралі пасьляваенны час. Якая вайна была ў Беларусі за апошнія дзесяць гадоў? Нават калі ўзяць пад увагу, што распад у 1991 годзе Савецкага Саюзу быў хваравіты і меў шматлікія нэгатыўныя наступствы для эканомікі і сацыяльнай сфэры, дзесяцігодзьдзе — гэта зусім дастатковы час, каб пры разумнай палітыцы забясьпечыць людзям годнае жыцьцё. У свой час за дзесяць год эўрапейскія краіны паўсталі з пасьляваенных руінаў. У Беларусі ж, як вядома, у 1990-я гады руінаў і катаклізмаў не было, акупантаў не назіралася, а ўлада рабіла ўсё, што толькі хацела.

Чаму ж зноў вярнулася галеча? Чаму чалавек за месяц цяжкай працы ў калгасе ня можа зарабіць на чаравікі? Чаму выпускнік унівэрсытэту ня можа знайсьці працы, якая б яго карміла? І адкуль, спадарыня Богдан, разруха ў краіне, якая выгнала апошняга акупанта амаль шэсьцьдзесят гадоў таму?

***Знаўцы «чарніла» сьцьвярджаюць: якасьць гэтага народнага напою ў параўнаньні з брэжнеўскай эпохай упала — ніжэй няма куды. Ня той смак, ня той водар, ня тыя інгрэдыенты. Затое якія гульлівыя назвы! Гэта вам не «Агдам» і ня «Яблычнае моцнае».***

*Андрэй Табаленка, Менск*

***25.01.2004***

**Калі падысьці да любога на вуліцы ды спытаць, што можа аб'ядноўваць назвы «Крыжачок», «Волшебная флейта», «Василиса», «Солнцедар», «Охотничье», «Казанова», то, бадай, кожны вам адкажа, што гэта пералік назваў пладовых вінаў беларускай вытворчасьці, якія ўжывае значная частка нашага насельніцтва. На мой погляд, гэтыя так званыя «віны» мала чым адрозьніваюцца адно ад аднаго (сам я не ўжываў, але нюхаў): вадкасьць аднолькавага колеру і паху, мацунак 18%, нейкія фарбавальнікі. Гэтыя напоі каштуюць вельмі танна — таньней, чым вялікая бутэлька фанты ці кока-колы. І купіць іх можна амаль у кожнай краме.**

**У 2000 годзе я працаваў на будаўніцтве ТЭЦ-5, гэта 50 км ад Менску. Аднойчы пасьля працы ўбачыў вялікі натоўп людзей, якія стаялі ў чарзе ў рудзенскай краме. Я зайшоў з другога боку, каб пабачыць, што там такое прадаецца. Усе куплялі так званае «віно», якое мела назву «Радасьць»... Тады мяне гэта вельмі ўразіла. На мой погляд, не зусім добрая тая ўлада, пры якой жыцьцё простага чалавека дзень пры дні становіцца ўсё больш складаным, а адзіная ўцеха — у такой так званай «Радасьці».**

**Пляшкі з танным віном стаяць на паліцах разам зь дзіцячай радасьцю — цукеркамі, шакалядам. І калі дзеці бачаць, як дарослыя купляюць «Волшебную флейту», то і ў іх можа зьявіцца ўражаньне, нібы гэта — цудоўны напой. А чалавеку, які прыехаў зь іншай краіны, убачыў бутэльку ды пытаецца: «Што такое крыжачок?», няма чаго адказаць, таму што няма ніякай сувязі паміж прыгожым беларускім танцам і гэтай атрутай. Хочацца паразважаць на тэму: каму гэта выгадна?**

**Я лічу, што гэта ўсё ж хітрыкі дыктатарскага рэжыму, які быў у савецкія гады і ёсьць сёньня ў нашай краіне. Вельмі небясьпечна, але ж і вельмі выгадна мець алькаголіка ў грамадзтве для палітычнай улады. Чалавек, які мае алькагольную залежнасьць, усё меней думае пра сваю будучыню, сваю сям'ю, нармальны дабрабыт, яго больш турбуе, дзе ўзяць яшчэ і дзе выпіць. З такімі цудоўнымі назвамі і невялікім коштам напоі прываньваюць да сябе падлеткаў і дарослых, якія падчас шукаюць выйсьця ў нашым цяжкім жыцьці праз ужываньне гэтай атруты,**

**але потым знаходзяць для сябе толькі новыя хваробы, і здаровыя людзі пачынаюць пазьбягаць іх: распадаюцца сем'і, дзеці перастаюць любіць бацькоў, ускладняецца крымінальная сытуацыя ў краіне.**

Ня думаю, спадар Табаленка, што якая б там ні было дзяржава (няхай нават і аўтарытарная) зацікаўленая ў грамадзянах, залежных ад алькаголю. Іншая рэч, што ў так званых «п'яных» рублях зацікаўлены бюджэт: прыбыткі ад вытворчасьці і продажу танных алькагольных сурагатаў хуткія і значныя. Дзеля таго каб атрымаць іх, не патрэбныя ні вялікія інвэстыцыі, ні новыя тэхналёгіі. Гэткім мэтадам вельмі ахвотна вырашалі бюджэтныя праблемы ў брэжнеўскім Савецкім Саюзе. Адным разам гэта быў і спосаб адцягнуць грамадзкую ўвагу ад значных сацыяльных праблемаў: на паліцах часта не было мяса і масла, затое таннае так званае «чарніла» было абавязкова.

Аднак наступствы масавага алькагалізму, зь якімі ўрэшце сутыкнуўся савецкі рэжым, былі непараўнальныя з часовымі бюджэтнымі выгодамі. І скончылася шматгадовае спойваньне маштабнай антыалькагольнай кампаніяй, распачатай у 1986 годзе. З таго, як яна праводзілася, шмат іранізавалі і пацьвельваліся, але насамрэч заліваць грамадзтва танным алькаголем Савецкі Саюз на той час сапраўды ўжо больш ня мог у ранейшых маштабах.

## *Зінаіда Горбач, Бераставіца*

***29.02.2004***

**Заўсёды слухаю перадачы Беларускай Свабоды, а ўзяцца за аловак вырашыла пасьля таго, як пачула некалькі тэлефанаваньняў прыхільнікаў цяперашняй улады.**

**Для сябе я зрабіла выснову пра тых, хто звоніць вам і гаворыць пра добрае жыцьцё ў нашай дзяржаве. Гэта чыноўнікі, якія дарваліся да ўлады. Просты чалавек у нас нічога не даб'ецца, што б зь ім ні зрабілі. Прэзыдэнт кажа, што ўлада народная, а гэта зусім ня так, усё наадварот. Чыноўнікі зьдзекуюцца з простага люду, і няма куды скардзіцца, бо падтрымкі нідзе ня знойдзеш.**

**Раскажу пра ўласную трагічную гісторыю. Майму мужу стала кепска, выклікалі хуткую дапамогу. Доктар прыехала, паглядзела і пачала гаварыць, што ён п'яны. Мы кажам: ён ня піў, яму кепска, забярыце ў шпіталь, бо мы ня ведаем, што рабіць. Тады яна пачала абурацца і ўрэшце зьехала, пакінуўшы хворага ў крытычным стане. Ён так праляжаў без мэдычнай дапамогі дзевяць гадзін і ўрэшце памёр. Ужо трэці год я пішу пра гэта розным начальнікам і дамагаюся, каб доктарку за гэта пакаралі. Але безвынікова. Каля дваццаці лістоў напісала нават у адміністрацыю прэзыдэнта. Але адтуль лісты перасылаюць да тых самых начальнікаў, на якіх я скарджуся. І ўсё на тым самым месцы. Нідзе ніякай праўды ня знойдзеш. Што хочуць, тое і робяць з намі. І галодна, і цяжка. Гэта не жыцьцё, а пакута.**

Шчыра спачуваем вашаму гору, спадарыня Горбач. Калі б падобная трагічная гісторыя здарылася ў краіне, дзе існуе незалежны суд, а мэдыкі нясуць жорсткую адказнасьць (у тым ліку грашовую) за свае памылкі, гэты канфлікт вельмі хутка стаў бы прадметам судовага разбору з прыцягненьнем незалежных мэдычных экспэртаў. У Беларусі, на жаль, іншыя суды, іншая мэдыцына, іншая практыка. Фармальна мэдыка можна прыцягнуць да суду і спагнаць матэрыяльную кампэнсацыю. Але ў рэчаіснасьці выпадкі такія надзвычай рэдкія. Фактычна ўся мэдыцына (асабліва ў раёнах) застаецца дзяржаўнай, незалежнага кантролю за ёй няма. А фінансаваньне цалкам залежыць ад чыноўнікаў, якія ўвогуле не прадугледжваюць у бюджэтах сродкаў на выплату кампэнсацыяў ахвярам памылак мэдыкаў.

*Віталь Кляўдзін, Віцебск*

***29.02.2004***

**Слухаю перадачы Свабоды з 1969 году. Раней працаваў лесаінжынэрам у Сібіры, потым пераехаў у Беларусь, на радзіму жонкі.**

**Усё, што мы зьбіралі капейка да капейкі, у нас подлым чынам адабралі, і няма нават размовы наконт кампэнсацыі. У гэтай справе пасьля двух гадоў хаджэньня па беларускіх судах я дайшоў да Страсбурскага суду па правах чалавека. Ад беларусаў там заяваў не прымаюць, але ж я выяжджаў з Расеі. І вось пасьля адказу са Страсбуру**

**я канчаткова адчуў сябе «голым сярод ваўкоў». У адказе гаварылася, што мае правы чалавека нібыта не парушаныя. Відаць, у Страсбурскі суд паступае мноства такіх зваротаў, а там на іх даюць аднолькавыя фармальныя адпіскі. Больш пісаць, мне здаецца, ужо няма куды. Я і мая цяжка хворая жонка апынуліся сам-насам зь несправядлівасьцю. Пішу на Свабоду хаця б дзеля таго, каб выказацца.**

У выніку краху савецкай фінансавай сыстэмы, што адбыўся на пачатку 1990-х гадоў, пацярпелі некалькі дзясяткаў мільёнаў людзей — фактычна ўсе, у каго былі грошы ў Ашчадным банку СССР. Страты склалі, паводле розных падлікаў, ад некалькіх дзясяткаў да некалькіх сотняў мільярдаў даляраў. Нават калі б міжнародныя суды прымалі да разгляду гэтыя справы і выносілі рашэньні на карысьць пацярпелых, разьлічваць на тое, што гэтая праблема хутка вырашыцца, не выпадае, спадар Кляўдзін. Былыя савецкія рэспублікі кожная па-свойму спрабуюць разьлічыцца з падманутымі людзьмі. Напрыклад, у Літве пачалі кампэнсаваць страты з разьліку адзін даляр за чатыры савецкія рублі — людзі сталага веку ўжо атрымліваюць такія кампэнсацыі. У Беларусі ж памер кампэнсацыяў сымбалічны — многія нават адмаўляюцца стаяць у чэргах ды зьбіраць дакумэнты дзеля сумы, на якую можна набыць хіба што некалькі боханаў хлеба.

## *Раіса Мазура, Наваградак*

***14.04.2004***

**Працу я страціла, бо часта хварэла, стала інвалідам 3-й групы. І як цяпер жыць? На прыём да кіраўніка гораду ісьці бескарысна — толькі слухаць ягоныя пагрозы да насьмешкі. Жыву я ў старой спарахнелай хаце, якой ужо гадоў сто. Траіх дзяцей часта няма чым карміць. Папрасіла дроваў — далі два мэтры са зьніжкай 50%. А што значаць гэтыя два мэтры? На Новы год не было за што купіць паесьці і дзецям на цукеркі. Хаджу па сьметніках, падбіраю дровы са сьмецьця — і так палю ў печы. Ня маю ні працы, ні грошай, ні нармальнай кватэры. З мужам у разводзе. Алімэнты 40 тысяч на траіх дзяцей. Пэнсія мая — 50 тысяч. Дапамога на траіх дзяцей — 90 тысяч. І жыві як хочаш.**

**Пры канцы году патэлефанаваў начальнік райсабесу. «Прыходзьце па гуманітарную дапамогу», — кажа. А там не было чаго выбіраць. Далі тры пары красовак. Дзеці іх два разы ў школу абулі — і яны парваліся. І ў такія маразы, у завею мае дзеці мусілі хадзіць у школу ў туфлях. А там жа было 80 скрынак «гуманітаркі». Куды пайшло астатняе? У невядомым кірунку. Абяцалі, што зноў выклічуць, але клічуць і да сёньня. Са школы з фонду ўсенавуча выдзелілі мне 49 тысяч. На гэтыя грошы я толькі аднаму купіла добрую куртку. Астатнія ходзяць у школу ў летніх куртках.**

**Дык што мне — можа, у наш час браць торбу і ісьці з працягнутай рукой, жабраваць? Калі да**

**мяне неяк прыехаў начальнік райсабесу Урбан, дык абвінавадціў, што я ня ўмею жыць і ня ўмею здабываць грошай. Дык навучыце мяне, як здабываць грошы. Ці, можа, ісьці красьці, забіваць? Вельмі прашу, можа, вы мне чым-небудзь дапаможаце.**

Па тым, колькі намаганьняў вы, спадарыня Мазура, прыклалі дзеля таго, каб дамагчыся ад чыноўнікаў гуманітарнай і фінансавай дапамогі — відаць, што чалавек вы настойлівы, энэргічны і свайго ўмееце дабівацца. Якасьці гэтыя ў жыцьці надзвычай неабходныя. Як на маю думку, дык праблема ў тым, на што вы скіроўваеце гэтую энэргію. Я ня ведаю ніводнай сям'і, якая б дасягнула дастатку, жывучы на гуманітарную дапамогу альбо на сьціплыя аднаразовыя выплаты ад райсабесу ці раённага аддзелу адукацыі. І справа тут далёка не заўсёды ў тым, што хтосьці з чыноўнікаў імкнецца вас падмануць альбо абдзяліць. Сацыяльныя бюджэты сельскіх раёнаў у Беларусі такія, што цалкам узяць на ўтрыманьне вашу сям'ю коштам гэтых грошай ніякі начальнік ня зможа. Тым больш што малазабясьпечаных у Беларусі становіцца ўсё больш.

Мне здаецца, калі б усе гэтыя вялізныя намаганьні вы, спадарыня Мазура, скіравалі не на патрабаваньне дапамогі, а на пошукі (а то і патрабаваньне) працы, плён быў бы значна большы. А працаваць вы са сваёй 3-й групай інваліднасьці, наколькі я разумею, можаце — хоць, натуральна, не на цяжкой працы. Няхай і невялікі будзе заробак, але стабільны дадатак да вашай пэнсіі і дапамогаў. Адпала б патрэба ў прыніжэньнях і шматгадзінных

чэргах да розных начальнікаў. Вы б адчулі, што ваша будучыня — у вашых уласных руках. Дый для траіх вашых дзяцей, што падрастаюць, гэта быў бы лепшы прыклад. А вельмі ж хутка настане момант, калі яны павінны стаць вам памочнікамі, і найперш на іх дапамогу вы будзеце разлічваць.

*Уладзімер Гардзейка, Смалявічы*

***18.08.2004***

**У першай палове красавіка гэтага году выклікае мяне дырэктар — падпісаць кантракт на працяг працы. І папярэджвае: не падпішаш кантракту — з працай разьвітаесься. І прафсаюз тут ні пры чым, ён нічога зрабіць ня зможа. Як жа так? Застаесься бяспраўным служакам, нібы той сабака. Што рабіць: падпісаць ды працягваць працаваць — ці апынуцца без кавалка хлеба? Каб не застацца бяз працы, вымушаны быў падпісаць. Няма сумневу, што гэтыя кантракты могуць быць выкарыстаныя падчас выбараў і рэфэрэндумаў: будуць застрашваць людзей пагрозай звальненьня. Але я ўсё роўна за Лукашэнку ніколі не галасаваў і не прагаласую. І ня думаю, што цяпер большасьць беларусаў за яго прагаласуе.**

**Працую я ў бюджэтнай сыстэме. За месяц працы плацяць 120 тысяч беларускіх рублёў. Але і з гэтага нядаўна пералічыў добраахвотна-прымусова чатыры тысячы на суботнік. Абяцаных ста даляраў няма, як ні лічы. Вось і думай, каму ў**

**Беларусі жывецца вельмі добра. Відаць, таму, хто душыць сабой іншых. А крыкнеш «Ратуйце!» — апынесься за кратамі. Гэта стары камуністычны спосаб прымусу — пазбавіць чалавека сродкаў на існаваньне. Цяпер гэта робяць ужо прызначэнцы прэзыдэнта, але ж — тыя самыя камуністы.**

**Успамінаецца 1950 год, Заходняя Беларусь, калі гвалтоўна заганялі людзей у калгасы. А перад тым сялян рабавалі, забіралі ўсё, што для спажывы. А больш заможных, тых, у каго больш мазалёў, высылалі беззваротна. Вось і цяпер вяртаюцца чырвоныя парадкі. Калі б сам гэтага не перажыў, цяжка б верылася ў такое. Трубілі ўсім у галовы: «Верным путём идём!» Вось і цяпер той самай дарогай ідзем, з тымі ж камуністычнымі сымбалямі. Тупаем зноў у тое самае нікуды. Нацыянальную культуру ўлады з кожным годам заганяюць усё глыбей у нябыт. А людзям абяцаюць сьветлую будучыню ў выглядзе высокіх заробкаў. А вось пра цэны — маўчок. Але каб да лепшага жыцьцё памяняць, найперш варта было б вырашыць, як галоднага ад п’янага адрозьніць. Бо ўжо і прыстойныя цьвярозыя людзі вымушаныя шукаць спажывы ў кантэйнэрах для сьмецьця.**

Разам зь лістом слухач даслаў стандартны блянк паведамленьня пра перавод на кантракт — такія паведамленьні атрымалі ўсе супрацоўнікі ягонай установы. Невялікі фрагмэнт гэтага дакумэнту: «У выпадку, калі Вы адмовіцеся працягваць працу на ўмовах кантракту, то праз месяц будзеце звольненыя на падставе артыкула Працоўнага кодэксу “За адмову работніка ад працягу працы ў сувязі са зьменай істотных умоваў працы”. Згода

прафсаюзаў пры звальненьні на гэтай падставе не патрабуецца».

Нібыта і няма нічога надзвычайнага ў кантрактнай сыстэме найманьня на працу, амаль увесь цывілізаваны сьвет прызвычаіўся да такога парадку. Ва ўмовах Беларусі, аднак, ёсьць істотныя акалічнасьці, якія выклікаюць шмат слушных пытаньняў у тых, каго пераводзяць на кантракт. У заходніх краінах — магутныя незалежныя прафсаюзы, якія абараняюць інтарэсы найманых работнікаў. Там жа і незалежны ад чыноўнікаў суд, якому ніводзін начальнік, ніякая адміністрацыя буйнога прадпрыемства не адважыцца дыктаваць сваю волю. У Беларусі ж дзейнічае фактычна старая савецкая сыстэма, у якой і прафсаюзамі, і судамі кіруюць з аднаго ўсім вядомага кабінэту. Кантракт у гэтых умовах — напраўду яшчэ адзін спосаб зрабіць і без таго не абцяжаранага правамі работніка яшчэ больш бяспраўным і залежным ад адміністрацыі.

*Уладзіслаў Ліпніцкі, Менск*

***01.09.2004***

**Увесь свой і жончын заробак давялося аддаць на тое, каб выправіць дзяцей у школу. Цэны ў параўнаньні зь мінулым годам вырасьлі ўдвая. З трывогай думаю пра тое, што пачнецца ў школе: трэба грошы на падручнікі, на сьняданкі, на рамонт клясы, на дадатковыя заняткі й гурткі... У мой час усё гэта было бясплатна. Фармальна і цяпер адукацыя нібыта бясплатная, але фактычна**

**мы за ўсё плацім, і вельмі немалыя грошы. Што ж гэта за «рынкавы сацыялізм» такі? Заробкі ў нас «сацыялістычныя», гэта значыць — нізкія, а вось у школах, ВНУ, паліклініках і шпіталях ужо даўно рынак: за ўсё плаці. А не заплаціш — будзеш марынавацца ў чэргах і нічога не атрымаеш.**

Пра ідэю так званага «рынкавага сацыялізму», якую вынайшлі й актыўна прапагандавалі беларускія ўлады ў другой палове 1990-х гадоў, сёньня тыя ж улады стараюцца ўвогуле ня згадваць. Ні якаснай адукацыі, ні грунтоўнай мэдычнай дапамогі ў Беларусі не атрымаеш, калі ў цябе няма грошай альбо высокай намэнклятурнай пасады (якая дае права на спэцабслугоўваньне ў закрытых паліклініках і шпіталях — так званай «лечкамісіі»). Праўда, у Канстытуцыі права на бясплатную адукацыю і мэдыцыну замацавана, але там і шмат іншых прывабных рэчаў запісана — напрыклад, права на жыльлё альбо на годны ўзровень жыцьця. Паспрабуйце суцешыць гэтымі правамі беларускіх жабракоў ці бяздомных.

*Мікола Канаховіч, Пружаны*

***08.11.2004***

**Улада выхваляецца: пры Лукашэнку нібыта паўсюдны росквіт — небывалымі тэмпамі разьвіваецца прамысловасьць, а вёска вырошчвае нечуваныя ўраджаі. Нібы людзі ня бачаць, што прадукцыя нашых прадпрыемстваў ляжыць**

**на складах, а вёска паўсюль вымірае. Які там росквіт, калі, напрыклад, у нашым Пружанскім раёне за апошнія дзесяць год закрылі амаль усе вясковыя бальніцы, толькі дзе-нідзе пакінулі фэльчарска-акушэрскія пункты. У раёне амаль не засталося беларускамоўных школаў. Спартовымі залямі могуць карыстацца толькі абраныя. У нашых суседзяў, якія ўступілі ў Эўразьвяз, заробкі ў некалькі разоў вышэйшыя, а цэны на харчы ў шэрагу выпадкаў ніжэйшыя, чым у нас. Моладзь, якая ня можа знайсьці сабе прыстойную працу на радзіме, усё часьцей зьяжджае за мяжу, на Захад.**

З гэтай супярэчнасьцю, спадар Канаховіч, цяпер сутыкаюцца многія, асабліва на вёсцы. Глядзяць беларускія тэлеканалы — там бадзёрыя рэпартажы пра адраджэньне калгасаў, багатыя ўраджаі й высокія надоі ды шчасьлівых калгасьнікаў, што спраўляюць наваасельлі; паглядзяць за акно ўласнай спарахнелай хаты — там разваленая фэрма, зарослае быльнягом поле ды п’яны брыгадзір ля паламанага трактара. Напэўна, з гэтай супярэчнасьцю многія зьмірыліся і проста не заўважаюць яе. Тым больш што не такі ўжо далёкі час, калі ўсё гэта было звычайнай справай: згадайце, пра што расказвалі газэты, радыё ды тэлебачаньне за камуністамі.

## *Павал Сац, вёска Асавая, Маларыцкі раён*

***08.11.2004***

**Лукашэнка кажа, што народ наш жыве ўсё лепш і лепш. Але гэта — народ. А вось сям’я жыхара вёскі Кажухі Макранскага сельсавету Маларыцкага раёну Сьцяпана Апанасавіча Самасюка жыве, як пры фэадальным ладзе — без электрычнасьці. Вечарамі гаспадар, яго жонка і сын Сяргей запальваюць лямпу. Калі ў лямпе газа, дык яшчэ сяк-так, а калі салярка — уся хата ў куродыме. Таму стараюцца зрабіць усю хатнюю працу да цемры.**

**Ад хаты да электралініі — мэтраў 500–700. Гаспадар ня раз зьвяртаўся да ўлады, каб нарэшце хоць у 21 стагодзьдзі электрыфікацыя дайшла і да ягонай хаты. Але на ўсе звароты — адзін адказ: «Жывеш на хутары, электрычнасьць падводзіць нельга, бо хата твая ў аварыйным стане…» А дзе ж яму яшчэ жыць? Кватэры ж ніхто не дае.**

Цікава, спадар Сац, што, калі верыць беларускім падручнікам гісторыі, поўная электрыфікацыя на Беларусі адбылася яшчэ ў даваенныя гады. Праўда, асабіста я памятаю вёсачкі, у якіх не было электрычнасьці нават на пачатку 1970-х гадоў. Аказалася, жывуць некаторыя беларусы без электрасьвятла і ў новым тысячагодзьдзі. Ня мае магчымасьці Сьцяпан Апанасавіч Самасюк глядзець беларускае тэлебачаньне і ня ведае, як шчасьліва і заможна жыве беларускі народ.

*Аляксандар Мазго, Віцебск*

***24.11.2004***

**Пішу ў вашу рэдакцыю першы раз. Мне 14 год, вучуся ў 8 клясе. Хачу вас пакрытыкаваць. Вось вы кажаце, што Лукашэнка не набраў на рэфэрэндуме столькі галасоў, як абвешчана. А я вам адкажу: за яго ўся мая кляса, мае родныя, суседзі, дзьве мае вёскі Савіна Дубровенскага раёну, а таксама вёскі побач зь Лепелем. Калі я на наступны дзень пасьля рэфэрэндуму прыйшоў у клясу, то першае, што пачуў, было віншаваньне зь перамогай. Усе казалі: «Хоць ён у нас і калхозьнік, але мужык харошы…»**

**А вы ўсё гэта робіце, каб разваліць нашу дзяржаву, каб у нас не працаваў ніводзін завод. А Захад тым часам будзе пастаўляць сваю прадукцыю. Ягоная прамысловасьць будзе працаваць, а наша — стаяць. Нядаўна пачуў, што Шушкевічу плацяць тры даляры пэнсіі. Так яму і трэба. Ён думаў, калі разваліў СССР, дык яго будуць насіць на руках, а яму замест гэтага далі па шапцы. Амэрыка вучыць нас дэмакратыі. Няхай лепш на сябе паглядзіць: нашых назіральнікаў на прэзыдэнцкіх выбарах у ЗША не дапускалі да ўчасткаў бліжэй чым на дзевяць мэтраў. А ўвогуле, уся ваша валтузьня з Кебічам ды БНФ усім надакучыла. Зубрам бы вашым галовы адкруціць, каб не хадзілі на мітынгі — адмарозкі 14-гадовыя. А яшчэ нядаўна пачуў, як вам званіў нейкі тып і казаў, што за мяжой толькі ад вас упершыню пачуў беларускую мову. Цікава, для каго тады працуе дзяржаўнае радыё з моцнымі перадатчыкамі на**

**Эўропу і Расею? Яны нават больш магутныя, чым перадатчыкі Беларускай Свабоды.**

**Ёсьць надзея, што прачытаеце мой ліст у эфіры Свабоды. Маю таксама невялікую просьбу. Можа, вышлеце мне расклад перадачаў, а таксама каляндарыкі Беларускай Свабоды.**

Ахвотна, Аляксандар, выконваем вашу просьбу — высылаем новыя каляндарыкі зь зімовым раскладам. Што да вашых сьцьвярджэньняў і крытыкі на наш адрас… У асноўным вы пераказалі тое, што, верагодна, часта чуеце на палітзанятках ад выкладчыкаў, адказных за ідэалягічнае выхаваньне. І вы, напэўна, ведаеце, што настаўнікі ў беларускіх школах ня могуць выказваць меркаваньні й даваць ацэнкі, якія супярэчаць афіцыйнай ідэалёгіі альбо ў яе ня ўпісваюцца. Прыблізна такая ж сытуацыя была ў савецкіх школах. На ўроках нам казалі пра шчасьлівую савецкую рэчаіснасьць і гнілы крызісны Захад. А ад тых, каму пашчасьціла пабываць на Захадзе, мы чулі расповеды, якія здаваліся нам неверагоднымі — пра тое, што простыя рабочыя езьдзяць на працу на ўласных аўтамабілях, а ў крамах няма чэргаў і ёсьць па трыццаць гатункаў каўбасы… Вызначаць, хто кажа праўду, а хто хлусіць, даводзілася самастойна.

Мяне радуе, Аляксандар, што вы захапіліся слуханьнем замежных радыёстанцыяў, у тым ліку Свабоды. Слухайце, аналізуйце, параўноўвайце пачутае з тым, што бачыце вакол сябе ў штодзённым жыцьці, чуеце ад бацькоў і сяброў. І рана ці позна вы здолееце самастойна рабіць высновы.

## *Мікалай Чыбісаў, мястэчка Казлоўшчына, Дзятлаўскі раён*

***01.12.2004***

**Хачу выказацца пра нядаўна агучаны намер улады забараніць аздараўленьне беларускіх дзяцей за мяжой, якое паўтара дзясятка гадоў праводзяць заходнія дабрачынныя арганізацыі. Прэзыдэнт спалохаўся, што дзеці пабачаць нармальнае жыцьцё на Захадзе і задумаюцца над тым, чаму ў Беларусі ўсё па-іншаму. Дык няхай гэтыя дзеці замест заходняй раскошы назіраюць за так званай «гераічнай» працай сваіх бацькоў на калгасным полі, за якую тыя атрымліваюць мізэрны заробак, якога хапае на кавалак хлеба ды бутэльку гарэлкі. Нядаўна я прачытаў: у Эўропе бамжу плацяць пяць эўра на дзень. А калі прыйдзе па дапамогу з сабакам — будзе мець сем з паловай эўра. Пералічыце на нашы грошы. Гэта ж атрымліваецца, што эўрапейскі беспрацоўны жыве за кошт сацыяльнай дапамогі лепш за нашага рабочага.**

Дапамога беспрацоўным у большасьці краінаў Эўропы, спадар Чыбісаў, вымяраецца зусім не пяцьцю эўра на дзень. Напрыклад, у Нямеччыне і Францыі штомесячная выплата чалавеку, які не з уласнай віны страціў працу, складае больш як тысячу эўра. Тут увогуле ня можа быць ніякага параўнаньня з заробкамі ў беларускіх калгасах альбо на заводах. Вы, напэўна, маеце на ўвазе беспрытульных бадзягаў, якія і не імкнуцца шукаць

працу, не стаяць на ўліку на біржах. Такія людзі на Захадзе таксама маюць права на дапамогу, якой хапае на харчаваньне. І гэтая дапамога, сапраўды, сувымерная зь сярэднімі заробкамі ў Беларусі.

## *Мікалай Бусел, вёска Дуброва, Сьветлагорскі раён*

***06.12.2004***

**Я трыццаць гадоў адрабіў у школе і зусім не пагаджаюся са спадаром Алесем Лозкам, які кажа, што школьная адукацыя ў нас добрая. На маю думку, яна кепская, прынамсі ў масавай школе (што ў горадзе, што ў вёсцы). І як жа яна можа быць добрай, калі 99 працэнтаў пэдагогаў — жанчыны? Самі па сабе жанкі — неблагі фактар, але калі іх зашмат ці супэршмат, гэта ўжо бяда. Гэта — масавы канфармізм, згодніцтва, сьляпое выканаўства, дробныя інтрыгі… Гэтае засільле жанчын адмоўна ўплывае на фармаваньне псыхалёгіі дзіцяці, фэмінізуе (у горшым сэнсе) усё, што ахапляе.**

**Прычына гэтага — кепскае фінансаваньне. Цяпер прэсінг на настаўніц значна ўзрос. Бязглуздая татальная кантрактызацыя падвысіла дыскамфорт, што ня можа не адбіцца на вучнях. А ўжо пайшла пагалоска пра пляны на ўразаньне працягласьці настаўніцкага адпачынку. Гэта будзе асінавы кол для прафэсіі.**

**Адукацыя ня можа быць добрай, калі настаўнік ня ў стане папаўняць свае веды (а рабіць**

**гэта трэба ўвесь час). З прычыны беднага заробку мала хто купляе кнігі. Кампутар дома ды інтэрнэт пакуль што для бальшыні — па-за межамі656 мараў. А ці багата настаўнікаў бачылі белы сьвет? Як прыходзіць летні адпачынак, я мушу брацца за нарыхтоўку сена, дроваў, за бульбу. «Заліты потам горкім вочы…»**

Думаю, спадар Бусел, не выпадае спрачацца з вашымі высновамі адносна беларускага настаўніцтва. Вам — чалавеку, які гэтулькі гадоў аддаў школе — усе гэтыя праблемы знаёмыя значна лепш, чым любым сталічным тэарэтыкам. Заўважу: вельмі значная частка сябраў выбарчых камісіяў усіх узроўняў (і ў горадзе, і асабліва на вёсцы) — гэта якраз тыя настаўніцы, пра якіх вы, спадар Бусел, пішаце. Гэта іх рукамі альбо пры іх маўклівай згодзе праведзеныя апошнія выбары і рэфэрэндум, у выніку якіх у Палату прадстаўнікоў не дапушчаны ніводзін непажаданы для ўлады палітык, а Аляксандар Лукашэнка атрымаў права да канца сваіх дзён балятавацца на пасаду прэзыдэнта. І многае тут тлумачыцца якраз прыніжаным станам беларускага настаўніцтва, яго поўнай залежнасьцю ад мясцовага начальства, яго жабрацкімі заробкамі, неабходнасьцю трымаць гаспадарку і аддаваць час, які патрэбен для самаадукацыі, на сьвінагадоўлю ды нарыхтоўку сена для каровы.

## *Аляксей Рэдкі, Магілёў*

***06.12.2004***

**Апішу вам сцэнку, сьведкам якой я стаў у цэнтры гораду напярэдадні дзяржаўнага сьвята 7 лістапада. Дык вось — мізансцэна. Неахайны каржакаваты мужчына з грузам сабраных на сьметніку бутэлек і паперы яўна ня ўпісваецца ў выгляд сьвяточнага праспэкту, што зіхаціць агнямі. І паставы міліцыянэр разам з грамадзянінам у цывільным перагарадзілі бамжу дарогу і паспрабавалі даставіць яго ў так званы «грамадзкі пункт аховы парадку».**

**Ох ужо гэты пункт аховы парадку! Аднаго разу і мне з кумам давялося пабываць там. Але ж і доўга пасьля гэтага ў нас нылі бакі… Але гэта — асобная гісторыя. Напэўна, затрыманы бомж таксама ведаў, што яго чакае, а таму стаў апантана супраціўляцца. Ён, відаць, не здагадваўся, як моцна адным сваім выглядам псуе агульную карціну нашага беларускага дабрабыту, ды яшчэ напярэдадні сьвята вялікай кастрычніцкай рэвалюцыі.**

**На дапамогу міліцыянту і чалавеку ў цывільным прыехаў цэлы мікрааўтобус з амапаўцамі ў плямістых строях. Як галодныя сабакі на мяса, накінуліся яны на зламысьніка. А той мёртвай хваткай ашчаперыў дрэва — і ні ў якую. Як тыя ні спрабавалі разьняць ягоныя рукі, як ні зьбівалі з ног цяжкімі чаравікамі, так і не адарвалі бедака ад дрэва. Побач пачалі зьбірацца людзі. Некаторыя сталі абурацца дзеяньнямі доблеснага АМАПу, спачуваць бамжу. І амапаўцы**

**ўрэшце здаліся, не дамогшыся свайго, хуценька зьехалі. Яшчэ хвілін пяць грамадзянін у цывільным пра нешта гаварыў з бамжом, пасьля чаго той нарэшце зь цяжкасьцю адарваў сябе ад дрэва, паслухмяна сабраў раскіданую паперу і разьбітыя бутэлькі — і сышоў у бок кінатэатру «Чырвоная зорка».**

Гэтак жа імгненна падразьдзяленьні АМАПу зьяўляюцца ў баявой амуніцыі, як толькі паступае сыгнал пра тое, што на цэнтральнай плошчы сабралася некалькі хлопцаў зь бел-чырвона-белым сьцягам альбо нехта расклейвае ўлёткі падазронага зьместу. Іншая рэч, калі вас абрабавалі на вуліцы альбо ў транспарце, калі дзе-небудзь у цёмным двары зь мінакоў зьдзекуецца зграя п'яных хуліганаў… Тут вы можаце чакаць выкліканай міліцыі і гадзіну, і дзьве… І зьявіцца на выклік не атрад АМАПу з аўтаматамі, а стомлены пажылы ўчастковы альбо двое задыханых пузатых сяржантаў з гумовымі палкамі, якія самі гатовыя ўцякаць, убачыўшы зграю агрэсіўных недаросткаў.

*Віктар Зотаў, Смаргонь*

***22.12.2004***

**Аднае раніцы зазірнуў у спартыўна-аздараўляльны комплекс прадстаўнік вэртыкалі па ідэалягічнай працы. Акінуўшы строгім позіркам усе куткі, не знайшоў, за што можна было б укалоць. Урэшце зайшоў у пакой, у якім мы захоўваем**

**інвэнтар. І ўзрадавана выявіў недахоп, тут жа запатрабаваўшы ўладным голасам:**

**— Чаму прэзыдэнт ляжыць, а не вісіць?**

**Настаўнік паспрабаваў пярэчыць:**

**— Гэта не кабінэт, а інвэнтарны пакой. Я не вінаваты, што нампаліт прынёс і паклаў яго сюды.**

**Але работнік ідэалёгіі быў няўмольны:**

**— Стол стаіць — значыць, кабінэт. Вы што, павесіць яго ня можаце?**

**— Павесім, абавязкова павесім, — бойка абяцае настаўнік, выpraваджваючы госьця за дзьверы. А вярнуўшыся, хапае партрэт і з грукатам шпурляе ў каналізацыйны люк, прыгаворваючы: «Я на яго глядзець не магу, а тут яшчэ і наганяй за яго атрымліваю».**

**Як пісаў Максім Горкі свайму сыну: «Патрыятызм — добра, і нават вельмі някепска, але патрыятызм дурнаваты і тупы — гэта бяда».**

Ёсьць, спадар Зотаў, такі цыркуляр, спушчаны некалькі год таму з прэзыдэнцкай адміністрацыі, паводле якога партрэты Аляксандра Рыгоравіча павінны вісець ва ўсіх чыноўніцкіх і кіраўніцкіх кабінэтах. Розныя ведамствы ініцыятыву падхапілі і пашырылі, распаўсюдзіўшы патрабаваньне на школьныя клясы, студэнцкія аўдыторыі і нават на некаторыя заводзкія цэхі. Магчыма, што справа дойдзе і да падсобных памяшканьняў. Ці дадае гэта патрыятызму — пытаньне спрэчнае. Старэйшае пакаленьне добра памятае час, калі партрэты вялікага правадыра таксама былі абавязковыя паўсюль, у тым ліку на гарадзкіх плошчах і ў вагонах мэтро. Потым гэтыя партрэты дружна спальвалі,

змагаючыся з наступствамі культу асобы. І, дарэчы, пазьней ужо ніводзін савецкі генсек не адважыўся паўтараць тую практыку з абавязковымі прыжыццёвымі партрэтамі. Нават за часы ахвочага да знакаў пашаны Леаніда Ільіча Брэжнева ў кабінэтах партыйнай і савецкай намэнклятуры абавязковым быў партрэт Леніна, але ня Брэжнева.

# 2005

*«Цётка Вера — сьціплая працаўніца самагоннай справы: сваёй віны ніколі не адмаўляе…»*

***Няма нічога прасьцей, чым уступіць у БРСМ. Гэта пры залічэньні ў камсамол трэба было ведаць імёны членаў Палітбюро і час правядзеньня партыйных зьездаў. А ў БРСМ прымаюць проста так — не пытаючы пра пэрсанальны склад Адміністрацыі прэзыдэнта і колькасьць Усебеларускіх народных сходаў. І ўсё роўна ўступаць у БРСМ ня хочуць…***

## *Натальля Бойка, Мазыр*

***14.02.2005***

**Вучуся я ў дзясятай клясе адной з мазырскіх школаў. Школа мая, як, на жаль, і ўсе астатнія гарадзкія школы — расейскамоўная. Мне пакуль толькі пятнаццаць год, але ўжо амаль тры гады як я пачала цікавіцца лёсам нашае мовы, культуры і краіны ўвогуле. Штодзень слухаю ваша радыё, чытаю «Нашу Ніву» ды іншыя беларускія газэты і часопісы.**

**Распавяду, як у нас агітавалі за ўступленьне ў БРСМ. Агітатар прыйшоў на клясную гадзіну. Агітацыю пачаў з пахвальбы: маўляў, члены гэтай арганізацыі маюць права на бясплатны пра-**

**езд у аўтобусах. Скончыў тым, што без БРСМаўскага пасьведчаньня ня возьмуць ва ўнівэрсытэт. Яшчэ распавёў пра заробкі на ўборцы ўраджаю дзесьці ў Краснадары. Потым я ў яго запытала: «А чым канкрэтна займаецца ваша арганізацыя?» На нейкі час ён разгубіўся. А потым зноў замахаў сваім плястыкавым пасьведчаньнем, загаварыў пра нейкія сходы ды паседжаньні, пра важныя пытаньні, якія там абмяркоўваюцца.**

**Зь першага разу ў сьпіс запісаліся восем чалавек. Тады агітатар яшчэ раз зрабіў упор на праблемы з унівэрам і заробкі ў Краснадары. Колькасьць завэрбаваных павялічылася да 21 чалавека. І гэта дэмакратыя? Пад канец агітатар зьвярнуўся асабіста да мяне: «А вам, дзевушка, была бы асобенна палезна ўступіць у рады БРСМ». Я не стрымалася, кажу: «Лепш я ў каровіну ляпёшку ўступлю, чым у гэты ваш БРСМ». Агітатар прыгразіў: «Вы яшчо пажалееце, да позна будзет». А клясная на мяне адразу накінулася: «Ты што, як так можна гаварыць…»**

Ніводзін беларускі закон, Наташа, не дае ўладальнікам бээрсээмаўскіх пасьведчаньняў пераватаў пры паступленьні ў ВНУ альбо дазволу на бясплатны праезд у грамадзкім транспарце. І калі вам і вашым аднаклясьнікам абяцаў усё гэта райкамаўскі функцыянэр, дык ён папросту хлусіў. Відавочна, як і ў колішнія камуністычныя часы, яму давялі разнарадку — колькі моладзі ён павінен, так бы мовіць, «уцягнуць у шэрагі» — вось і пайшоў таварыш па школах: там падлеткі легкаверныя, недасьведчаныя, на іх лёгка паўплываць з дапамогай настаўнікаў. Гэта ж ня тое, што на заводзе альбо

ва ўстанове суполкі ствараць — там фантазіямі на тэму высокіх заробкаў у кубанскіх калгасах ня дужа каго зацягнеш у палітычную арганізацыю, мэта якой — падтрымка дзейнай улады.

Мэтады цалкам камсамольскія: да 1991 году школьнікаў дакладна гэтак жа гуртом заганялі на бюро райкамаў камсамолу, выдавалі камсамольскія білеты, вабілі высокімі заробкамі на камсамольскіх будоўлях ды прымушалі зьбіраць складкі невядома на што. Праўда, тады ўсё ж любы агітатар пачынаў размову не з ільготаў і прывілеяў, а з высокай адказнасьці за выхаваньне маладога пакаленьня будаўнікоў камунізму. Потым, аднак, выявілася, што многія высокапастаўленыя камсамольскія функцыянэры першымі здрадзілі сваім высокім камуністычным ідэалам і апынуліся ў першых шэрагах тых, хто пачаў прыватызаваць былую партыйную і камсамольскую маёмасьць. Многія колішнія камсамольскія сакратары, якія ў свой час апантана заклікалі змагацца з капіталізмам, сталі банкірамі, уладальнікамі прыватных кампаніяў, пасьпяховымі мэнэджэрамі. Можна толькі здагадвацца, які лёс чакае сёньняшніх бээрсээмаўскіх сакратароў, якія зацята змагаюцца з дэмакратычнай апазыцыяй, прымушаючы моладзь калі ня верыць, то хоць бы рабіць выгляд, што толькі сёньняшняя ўлада мае права кіраваць беларускай дзяржавай.

## *Алег Астаповіч, Асіповіцкі раён*

***15.03.2005***

**У вёсцы, дзе жыве мая маці, закрылі адзіны ў акрузе фэльчарска-акушэрскі пункт. Цяпер да бліжэйшай паліклінікі — дваццаць пяць кілямэтраў. Хуткай дапамогі часам чакаем суткамі: у іх то бэнзіну няма, то машына сапсавалася, то дарогу сьнегам замяло. Пайшоў я ў райвыканкам, а там мае скаргі і слухаць ня хочуць. Нявыгадна, кажуць, утрымліваць вясковы ФАП — дорага, у раёне на гэта няма грошай. І ўвогуле, гэта дзяржаўная палітыка — называецца «аптымізацыя сеткі ўстановаў аховы здароўя». У перакладзе з чыноўніцкай мовы на беларускую гэта азначае, што ні шпіталяў, ні паліклінік, ні ФАПаў у большасьці вёсак увогуле не застанецца: лячыцеся, калгасьнікі, як хочаце. У райвыканкаме мне яшчэ і параду Лукашэнкі нагадалі: шукайце, кажуць, здароўе не ў паліклініцы, а на стадыёне ці ў спартзалі. Вельмі дарэчы гэтая парада дзьвюм сотням адзінокіх старых, якім і ў маладосьці было не да спортпляцовак. Для іх замест лыжных трасаў ды канькоў былі каса на сенажаці ды плуг на ворыве.**

Сапраўды, спадар Астаповіч, утрымліваць шырокую сетку вясковых ФАПаў ды паліклінік, якая існавала апошнія дзесяцігодзьдзі, справа нятанная. Праўда, гэта не даражэй, чым будаўніцтва ды ўтрыманьне лядовых палацаў ва ўсіх абласных цэнтрах, а таксама гарналыжных комплексаў ды футбольных манэжаў у сталіцы і яе ваколіцах. Каб

аплачваць і адно, і другое, грошай у ня надта багатай беларускай дзяржавы не хапае. На карысьць чаго зрабіла выбар улада — многія вясковыя жыхары бачаць на прыкладзе ўласных вёсак. І гэта пры тым, што ніякай бясплатнай мэдыцыны гэтыя старыя вясковыя людзі ніколі ня мелі. Сьціплыя амбуляторыі ды ФАПы даўно і на шмат гадоў наперад аплачаныя дзесяцігодзьдзямі цяжкой працы, за якую нашым бацькам і маці ў калгасах спачатку нічога не плацілі, а потым плацілі капейкі.

*Галіна Сутула, Глыбокае*

***16.03.2005***

**Адна мая знаёмая мае сваякоў у Аўстраліі. Раз на тры месяцы яны высылаюць ёй дапамогу. Мая знаёмая не гуляе, не раскашуе на яе. Працуе на дзяржаўнай службе, мае соткі, трымае скаціну. А за замежную дапамогу купляе неабходнае, на што ня здольная зарабіць на працы — сабе і дзеткам абутак, мэблю, дабудоўвае хату. Атрымліваецца, замежныя даляры і эўра ідуць на пад'ём нашых беларускіх вытворцаў. Чыноўнікі павінны б дзякуй сказаць грамадзянам за гэтыя інвэстыцыі, за тое, што людзі самі робяць тое, што павінна рабіць дзяржава. Дык жа не — замест гэтага прэзыдэнцкім указам уведзена абавязковая рэгістрацыя такой дапамогі, а ўсе банкі і пошты павінны здаваць у падатковыя інспэкцыі зьвесткі аб прыбытках, якія пералічаныя беларусам з-за мяжы. Гэты дэкрэт ставіць крыж на тых**

**невялікіх інвэстыцыях, якія зь неймавернай цяжкасьцю здабываюць нашы суайчыньнікі.**

Дэкрэт, пра які вы, спадарыня Сутула, згадваеце, выклікаў вялікае абурэньне сярод дзясяткаў тысяч беларусаў, якім родныя і сябры час ад часу дасылаюць з-за мяжы невялікую дапамогу. Атрымліваецца, нават калі табе належыць атрымаць сьціплую суму, некалькі дзясяткаў даляраў — спачатку трэба зарэгістраваць яе ў Менску і паведаміць чыноўнікам, на што зьбіраесься патраціць грошы. А ўжо яны вырашаюць, ці варта даваць такі дазвол. Для многіх адна толькі дарога ў Менск і назад каштуе болей, чым той грашовы перавод. А колькі патрэбна чыноўнікаў, каб усё гэта рэгістраваць, улічваць, даваць дазволы…

Відавочна, рабілася ўсё гэта дзеля таго, каб кантраляваць замежную дапамогу, не дапусьціць фінансаваньня апазыцыі, абкласьці падаткам кожны даляр з-за мяжы. Але праіснуе ўказ у сваім першапачатковым выглядзе, відаць, нядоўга. Прынамсі, днямі ўлады заявілі пра свой намер унесьці ў яго істотныя зьмены: абяцаюць, што з 1 красавіка сумы прыблізна да трохсот трыццаці даляраў рэгістраваць не спатрэбіцца. Чыноўнікі мусілі гэта зрабіць, бо, з аднаго боку, былі закіданыя шматлікімі скаргамі, а з другога — ніякага істотнага эфэкту жорсткі парадак не прынёс. Апазыцыю ён не напалохаў, а вось паток грашовых пераводаў у Беларусь у выніку істотна скараціўся. Чыноўнікі ня толькі не атрымалі новых падаткаў, на якія разьлічвалі: празь неразумнае рашэньне дзяржава страціла дадатковыя рэсурсы, якія ў канчатковым выніку ішлі на разьвіцьцё нацыянальнай эканомікі.

## *Міхаіл Валошка, Маладэчна*

***04.05.2005***

**Заўважаю, наколькі больш стала ў нас хворых. Калі, напрыклад, у Маладэчне яшчэ некалькі год таму цяжка было трапіць толькі да стаматоляга, дык цяпер, каб узяць талён нават да тэрапэўта (ня кажучы ўжо пра кардыёляга, эндакрынолёга, нэўрапатоляга ці ўроляга), трэба быць ля дзьвярэй палікленікі ўжо а пятай гадзіне раніцы. І то — трапіш, калі пашанцуе. А колькі стала хворых на шчытападобную залозу! А гэта ж хвароба, непасрэдна зьвязаная з Чарнобылем. І выяўляюць яе часта выпадкова, пры абшырным дасьледаваньні, альбо ўжо тады, як яна адчувальна заяўляе пра сябе.**

**Людзі застаюцца жыць на забруджаных тэрыторыях з прычыны сваёй непісьменнасьці ў гэтым пытаньні, толкам не ўяўляючы, якая бяда чакае калі ня іх, дык іхных дзяцей, унукаў, праўнукаў. А ўлады, замест таго каб праўдзіва і кваліфікавана інфармаваць свой народ пра гэтую бяду, замоўчваюць альбо нават дэзынфармуюць людзей. Ды яшчэ накіроўваюць туды маладых спэцыялістаў, загадваюць вырошчваць там прадукты харчаваньня. Што гэта, калі не злачынства супраць свайго народу? І калі будзе суд над цяперашняй уладай (а ён абавязкова будзе), то галоўным абвінавачаньнем, лічу, стане гэта. Навукоўцы, якія маўчаць пра сапраўдныя маштабы бяды, таксама не застануцца без увагі правасудзьдзя.**

**Самае жахлівае, калі нашы ўнукі ці праўнукі зададуць нам простае і страшнае пытаньне: «Навошта вы, самі хворыя, нараджалі на гэты сьвет нас — яшчэ больш хворых? І як нам цяпер жыць?» А яшчэ скажуць, што трэба было ад гэтай бяды ўцякаць куды вочы глядзяць, як калісьці ўцякалі ад фашысцкай чумы нашы продкі.**

Ня ўсе, спадар Валошка, уцякалі ад фашысцкай чумы. Многім не было куды і не было як уцякаць. А многія засталіся сьвядома, бо ніколі не пакідалі сваёй зямлі, які б акупант ні прыходзіў. Гэтак было і ў часе Чарнобылю. Цяжка дакараць людзей, якія ня ведалі і ня ведаюць усёй праўды пра тое, што чакае іх ды іхных дзяцей. Хоць тут трэба мець на ўвазе і тое, што адзінай думкі пра сапраўдныя наступствы катастрофы няма і сярод спэцыялістаў. Але, у кожным разе, калі існуе рызыка і небясьпека для жыцьця ды здароўя, лепш перастрахавацца, чым рызыкаваць дзеля прывідных матэрыяльных даброт аў. І тут вы, спадар Валошка, маеце рацыю: вялізная адказнасьць кладзецца на ўладу, бо менавіта ад яе рашэньняў залежала і залежыць тое, ці будуць людзі ведаць праўду і ці будзе ў іх права на сьвядомы, асэнсаваны выбар.

*Аляксандар Івановіч, Менск*

***10.05.2005***

**Няўжо можна паверыць, што людзям усё гэта падабаецца: кантрактная сыстэма, прымусовыя суботнікі, на якіх трэба бясплатна працаваць на скразьняках у халодных цэхах, розныя паборы,**

**пастаянны рост цэнаў на ўсе прадукты, паслугі і асабліва на лекі? Я пацікавіўся статыстыкай: імклівае скарачэньне насельніцтва Беларусі пачалося ў 1994 годзе, калі адбыліся першыя прэзыдэнцкія выбары. Мяне гэта не зьдзіўляе. Просты рабочы, пэнсіянэр ня могуць купіць патрэбных лекаў, кепска харчуюцца, п'юць розную дрэнь. Многія не дажываюць да пэнсіі. За дзесяць год беларусаў стала меней амаль на мільён. І гэта ўлада называе «стабільнасьцю» ды «ростам дабрабыту»? Стабільна ў нас цяпер працуюць хіба што пахавальныя канторы.**

**Хто аддаў загад засяваць чарнобыльскую зону? Нядаўна я зайшоў у гарадзкі анкалягічны дыспансэр. А там народу, як у Маскве на Казанскім вакзале. Каб трапіць да доктара, трэба запісацца ды месяц чакаць. А што зь лекамі? Нібыта пэнсіянэры ды інваліды могуць атрымаць іх па льготных рэцэптах. Але, аказваецца, лекары атрымалі загад не выпісваць ільготнікам дарагіх (а гэта значыць — якасных, эфэктыўных) лекаў. Я паслаў міністру аховы здароўя Пастаялцы тры лісты на гэтую тэму — ніводнага адказу не атрымаў.**

Паводле афіцыйнай статыстыкі, сярэдняя працягласьць жыцьця мужчын у Беларусі ў 1986 годзе складала больш як 67 гадоў, у 2001-м — толькі 63 гады. Такім чынам, сярэдні беларус атрымлівае пэнсію на працягу ўсяго трох гадоў. Для дзяржаўнага Пэнсійнага фонду — вялікая эканомія. Калі верыць афіцыйным зьвесткам, эканоміка Беларусі дасягнула і перавысіла ўзровень самых пасьпяховых савецкіх гадоў. Але ні на працягласьці жыцьця,

ні на нараджальнасьці гэта чамусьці не адбіваецца. Насельніцтва Беларусі скарачаецца ўжо адзінаццаты год запар.

## *Кірыл Макееў, Менск*

***15.06.2005***

**Распавяду пра тое, як у студэнцкім асяродзьдзі ўспрынялі нядаўні загад міністра адукацыі Аляксандра Радзькова, паводле якога студэнты, што ўдзельнічаюць у апазыцыйных акцыях пратэсту, могуць быць выключаныя са сваіх навучальных установаў.**

**Вядома, гэта спыніць студэнтаў. Асабліва тых, якія вучацца на бюджэтныя грошы, атрымліваюць стыпэндыю. У іх проста няма выбару. Страціш месца вучобы — застанесься ні з чым. Асабліва калі твае бацькі ў вёсцы і жывуць на мізэрную зарплату. Але гэта ня значыць, што студэнты пачнуць думаць па-іншаму. У сваёй групе я ўвогуле ня ведаю ніводнага чалавека, які б падтрымліваў палітыку Лукашэнкі. Дый выкладчыкі ня надта стараюцца прапагандаваць палітыку кіраўніцтва. Многія зь іх скрозь пальцы глядзяць на апазыцыйныя погляды студэнтаў і нават цішком падтрымліваюць апазыцыянэраў.**

Многія з вашых выкладчыкаў, Кірыл, за апошнія дзесяцігодзьдзі перажылі не адну зьмену ўлады і на ўласным досьведзе пераканаліся, як ператвараюцца ў пыл учорашнія ідалы, якіх абагаўлялі

і якім пакорна служылі. Адсюль, напэўна, і такое стаўленьне многіх выкладчыкаў да намаганьняў сёньняшняй улады зноў зрабіць іх інструмэнтамі прапаганды і агітацыі.

## *Зыгмунт Дзякевіч, вёска Пяньценішкі, Воранаўскі раён*

***29.06.2005***

**Апошнім часам Расею захліснула хваля п'янства ды наркаманіі. Паступова гэтая хваля перакідваецца і на тэрыторыю нашай незалежнай дзяржавы. Таму шмат цяпер клопатаў у міліцыянтаў — шукаюць самагоншчыкаў ды гандляроў, якія займаюцца нелегальнай рэалізацыяй гарэлкі. У адну зь мінулых суботаў у адной толькі вёсцы Пашкавічы выявілі адразу тры такія падпольныя гарэлачныя «пункты».**

**А самыя дасьведчаныя самагоншчыкі ў нашай акрузе — у вёсцы Больцішкі. Усе там ведаюць цётку Веру. Стаж у яе ў гэтай справе велізарны, і пратаколаў з гэтай нагоды пісана-перапісана. Але можна яе і пахваліць, гэтую сьціплую працаўніцу самагоннай справы: сваёй віны яна ніколі не адмаўляе, адразу пагаджаецца з усімі абвінавачаньнямі.**

Ня сёньня і ня ўчора, спадар Дзякевіч, прыйшлі п'янства і самагонны бізнэс у беларускую вёску. І для Расеі гэтая праблема стала вострай зусім не цяпер, а шмат год (калі не стагодзьдзяў) таму. А памятаеце апошнюю антыалькагольную кампанію

канца 1980-х гадоў? Зачынялі вінна-гарэлачныя заводы, абмяжоўвалі час працы крамаў, высякалі вінаграднікі, нават стварылі Ўсесаюзнае таварыства барацьбы за цьвярозасьць… А самагоншчыкаў судзілі выязныя суды ў вёсках, на месцы, так бы мовіць, «злачынства». Зьбіралі людзей у мясцовых клюбах, прыяжджала начальства… Быў разьлік на выхаваўчы эфэкт грамадзкага асуджэньня.

На адным такім судзе ў вашых, спадар Дзякевіч, мясьцінах мне давялося пабываць у 1987 годзе (я працаваў тады карэспандэнтам у шчучынскай раённай газэце). Было прылюднае зьнішчэньне трохсот літраў брагі, быў суд, былі сьлёзы асуджанай жанчыны, якая адна выхоўвала чатырох дзяцей. І было спачуваньне ўсіх прысутных аднавяскоўцаў, многія зь якіх самі займаліся гэтай жа справай, бо без «паўлітра» на вёсцы ні каня здабыць, ні соткі апрацаваць. І ніякага грамадзкага асуджэньня ў тым вясковым клюбе я не заўважыў. Думаю, нямногае зьмянілася ў гэтай справе і цяпер, амаль праз дваццаць гадоў.

## *Мікалай Пуцейка, Магілёў*

***04.07.2005***

**Амаль усе мае суседзі — беспрацоўныя. Адзін вымушаны быў звольніцца зь «ляжачага» заводу, на якім па паўгода не плацілі мізэрных заробкаў. Другі кінуў працу ў школе, бо ня мог за сьціплую настаўніцкую зарплату пракарміць вялікую сям'ю. Трэцяга скарацілі з навукова-дасьледчага інстытуту. І ў той жа час амаль штодня я чую і**

**бачу, як улада хваліцца, што ў Беларусі амаль няма беспрацоўя. Статыстыка падае, што беспрацоўных — 1,5%. А вось у Нямеччыне ажно 10%. І там, маўляў, людзі гаруюць. Але ж гэта хлусьня. Адкуль яны бяруць гэтыя лічбы?**

**Я часта еджджу ў вёску ў Касьцюковіцкі раён. Бяз працы там кожны другі. Ісьці ў калгас за сорак тысяч рублёў ня хочуць, гэта мізэрныя грошы. А на ўлік у службе занятасьці іх ня ставяць. Кажуць: «Вы не беспрацоўныя, ідзеце ў калгас: такім, як вы, дапамогу па беспрацоўі плаціць ня можам».**

Вы самі, спадар Пуцейка, апісалі мэханізм таго, як ствараецца гэткая нібыта суцяшальная статыстыка адносна беспрацоўя. Адно — што ня ставяць на ўлік тых, хто ня хоча працаваць на нізкааплатных месцах. А другое — дапамогі па беспрацоўі ў Беларусі настолькі мізэрныя, а іх атрыманьне абстаўлена такімі складанымі бюракратычнымі працэдурамі (а яшчэ і абавязковымі прыніжальнымі грамадзкімі працамі), што многія людзі, страціўшы працу, не становяцца на афіцыйны ўлік. Самастойна шукаюць спосабаў выжываньня: выяжджаюць на заробкі за мяжу, займаюцца нелегальнай альбо паўлегальнай дзейнасьцю — дробным гандлем, рамёствамі, транспартнымі паслугамі.

Рэальнае беспрацоўе ў Беларусі, як сьцьвярджаюць многія адмыслоўцы, прынамсі ў некалькі разоў вышэйшае за той нізкі ўзровень, які абвяшчаецца афіцыйна. Але дакладная лічба невядомая. Вызначыць яе даволі проста, калі выкарыстаць тыя мэтодыкі, якімі карыстаюцца ў заходніх краінах. Але ў Беларусі такога жаданьня не выяўляюць.

## *Яўгенія Казлова, Ворша*

***11.07.2005***

**Пішу вам на просьбу некалькіх знаёмых жанчын, якія падзяліліся сваімі праблемамі. Работа ў гэтых жанчын сэзонная, на час працы аздараўляльнага дзіцячага лягера. Сталую працу яны страцілі пасьля таго, як закрылі прафілякторый, які наведвалі ў асноўным рабочыя льнокамбінату. У выніку жанчыны даведзеныя да галечы. «А навошта ж вы, даражэнькія, у такім разе хадзілі на выбары і рэфэрэндумы?» — пытаюся. — «Дык жа гналі», — быў адказ. Людзі даведзеныя да адчаю. Толькі адны выказваюцца, а другія маўчаць. На заводзе швейных машын заробак у многіх — 40–60 тысяч. Тры дні працуюць, чатыры гуляюць. Пра гэта я даведалася ад жанчыны, якая там працуе. Калі, кажа, скончыцца гэты зьдзек?**

**А адну маю добрую знаёмую, якая працавала ў раддоме, звольнілі на наступны дзень пасьля таго, як ёй споўнілася 55 год. Не працягнулі так званы «кантракт». І няма куды паскардзіцца, бо гэта ўзаконена. Людзі безабаронныя і бяспраўныя. А я шмат каму казала і 10, і 8, і 6 год таму: будзеце яшчэ плакаць з прычыны такога выбару. Плаціць грошай паўсюль мала, а вось забраць хочуць як мага болей. Напрыклад, пры аплаце камунальных паслуг налічваюць дадатковую плату за так званую «лішнюю» плошчу. Якую лішнюю? Я за кожны сантымэтар сваёй каапэратыўнай кватэры заплаціла яшчэ ў 1991 годзе. Да мяне прыяжджаюць дзеці, прыходзяць сябры.**

**У гэтай кватэры я пражыла 19 год. Хто вырашыў, што 56 квадратных мэтраў — гэта замнога? Гвалт. Усе абураюцца. А вынікаў ад нашага абурэньня ніякіх.**

У сёньняшняй Беларусі гэта, спадарыня Казлова, масавая зьява — калі людзі працуюць па некалькі дзён на тыдзень, калі іх на доўгі час выпраўляюць у вымушаныя адпачынкі альбо пераводзяць на сэзонную працу. Пры гэтым яны ня лічацца беспрацоўнымі, і, адпаведна, афіцыйная лічба беспрацоўя ў Беларусі застаецца надзвычай нізкай, на ўзроўні аднаго-двух працэнтаў. Вось толькі ці можна гэта лічыць дасягненьнем і паказьнікам пасьпяховай сацыяльнай палітыкі?

Вядома, было б іншай крайнасьцю — увогуле ліквідаваць нерэнтабэльную вытворчасьць і пакінуць людзей бяз працы: улада небеспадстаўна пабойваецца такога разьвіцьця падзеяў. Але ёсьць і іншыя варыянты (і яны, дарэчы, апрабаваныя ў многіх краінах Усходняй Эўропы), калі буйныя нерэнтабэльныя вытворчасьці, якія засталіся ў спадчыну ад сацыялізму, прыватызуюць і рэарганізуюць паступова, абавязваючы ў той жа час новых уласьнікаў ствараць працоўныя месцы для скарочаных работнікаў ды інвэставаць у сацыяльную сфэру.

## *Мікалай Бельскі, вёска Малая Беліца, Сеньненскі раён*

***01.08.2005***

**Усё пачалося з таго, што я, добра ведаючы тэхніку, зацікавіўся старым збожжаўборачным камбайнам, які ўжо некалькі гадоў ржавеў, напаўразабраны, у быльнягу. Гэта быў стары савецкі СК-5 «Ніва». Дакладней, у тым выглядзе, у якім я за яго ўзяўся, гэта была хутчэй гара мурзатага, нікому не патрэбнага мэталалому. Раней я шмат часу займаўся рамонтам і рэканструкцыяй саўгаснай тэхнікі. І падумаў: чаму б не паспрабаваць вярнуць гэты лом да жыцьця? Камбайн начальства пагадзілася аддаць — замест заробленых мной грошай. Я нямала папацеў над ім і такі паставіў на колы, якія валяліся і яшчэ дзе-нідзе валяюцца на прасторах саўгасных палёў, раскіданыя ды паўзасыпаныя ў канавах.**

**Працаваў на ім, малаціў людзям збожжа. Але пасьля таго як зламаў нагу (і дагэтуль кульгаю), камбайн гэты я вырашыў прадаць, каб паставіць помнік на бацькавай магіле. І прадаў, але ненадоўга. Аказалася, улада апомнілася і ўжо ня лічыць мой камбайн мэталаломам. Чалавек, якому я яго прадаў, спалохаўся: начальнікі яму сказалі, што гэты камбайн на балянсе сельсавету.**

Амаль у кожным калгасе знойдзецца хаця б адзін такі майстар залатыя рукі, здольны ўдыхнуць жыцьцё ў даўно сьпісаную тэхніку, якая гадамі зарастае быльнягом, псуючы навакольныя кра-

явіды. І заўсёды такія майстры сутыкаліся зь непрыемнасьцямі, калі ім удавалася дасягнуць сваёй мэты. Ламачынай, якая раней толькі мазоліла вочы ды раздражняла начальнікаў, гэтыя ж начальнікі пачыналі жыва цікавіцца, як толькі яна атрымлівала здольнасьць рухацца па дарозе ды працаваць. Знаходзіліся раптам дакумэнты пра тое, што гэтая тэхніка дагэтуль у некага на балянсе, што яна на ўліку ў дзяржаўтаінспэкцыі. А майстра адразу падазравалі ў атрыманьні так званых «непрацоўных даходаў». У савецкі час такія гісторыі заканчваліся, як правіла, аднолькавым фіналам: тэхніку ў майстра забіралі, вярталі ў калгас, а самога яго часам яшчэ і да адказнасьці прыцягвалі. Рэквізаваны трактар ці камбайн, адпрацаваўшы нейкі час, бяз дбайных рук зноў ламаўся. І ўрэшце займаў сваё звыклае месца пад плотам.

Не сумняюся, спадар Бельскі, што так будзе і ў выпадку з вашым камбайнам. Калі толькі ня знойдзецца ў калгасе ці раёне начальнік, здольны справядліва разабрацца ў гэтай гісторыі і прадбачыць яе найбольш верагодны вынік.

## *Яніна Кучынская, Воранава*

***10.08.2005***

**Я — пэнсіянэрка, вольнага часу хапае, слухаю розныя радыёстанцыі й цудоўна бачу, дзе праўда, а дзе хлусьня. Вось вы раіце нашаму народу браць прыклад з польскай рэвалюцыі 1980 году. Але навошта нам іхная рэвалюцыя? Я й мае знаёмыя ня хочам жыць так, як жывуць у Польшчы.**

**Там для простага чалавека няма нічога добрага. Вялікае беспрацоўе. Уся моладзь бегае па Эўропе — шукае, дзе зарабіць капейку. Пэнсіянэры аддаюць усе свае пэнсіі на камунальныя паслугі, лекі ды дактароў… Я ўсё гэта добра ведаю, бо ў мяне там сваякі.**

**А як жыве Прыбалтыка? У вёсках уся гаспадарка закінута. Дый у гарадох працы няма. Моладзь па Эўропе чысьціць туалеты капіталістам. Старыя дажываюць свой век. Уся іхная тэрыторыя неўзабаве будзе аддадзена амэрыканцам пад базы й палігоны. Калёнія, адным словам.**

**А ў нас у Беларусі ўлада народная, а жыцьцё з кожным годам становіцца ўсё лепшым. За ўсё маё жыцьцё ў нас такога добрага ўраду яшчэ не было. Лукашэнка аддае ўсё сваё здароўе, усе сілы для свайго народу. А ня дай бог, уладу возьме апазыцыя — усе мы станем рабамі капіталістаў.**

**Балюча слухаць пра ўсю гэтую бойку, якую распачалі палякі супраць Беларусі пад дыктоўку Буша. Якой свабоды нам не хапае? Глядзім што хочам, чытаем што ўздумаецца. Усяго хапае: жыві ды радуйся. Міліцыя ахоўвае ад хуліганаў. Жывем спакойна, добра. Чаго яшчэ трэба? Засумавалі па алігархах? Каб усё, што належыць народу, перайшло ў рукі некалькіх багацеяў і яны намі кіравалі? Ня дай бог, каб такое з намі калінебудзь адбылося.**

Так, спадарыня Кучынская, моладзь і ў Польшчы, і ў краінах Балтыі шмат падарожнічае, часта езьдзіць на заробкі ў эўрапейскія краіны. Аднак, заўважце, ніхто адтуль ня едзе на заробкі альбо на сталае месца жыхарства ў Беларусь. Вы не за-

думваліся, зь якой прычыны так адбываецца, калі, паводле вас, у Беларусі і беспрацоўя няма, і заробкі добрыя, і жыцьцё спакойнае?

З тым, што ў Беларусі можна чытаць і глядзець што хочаш, таксама хочацца паспрачацца. Беларускія тэлеканалы (а іншыя на большай частцы тэрыторыі Беларусі прымаць немагчыма) — усе дзяржаўныя, на іх адлюстроўваецца толькі адзін пункт гледжаньня, іншадумцам допуску туды няма. Недзяржаўнай палітычнай прэсы ў Беларусі таксама амаль не засталося: некалькі газэт, якія пакуль друкуюцца, зазнаюць вялікі ўціск, перашкоды з распаўсюдам — і таму да правінцыі часта не даходзяць.

І апошняе. Свабода не распаўсюджвае заклікаў да якіх бы там ні было рэвалюцыяў, як і ўвогуле падбухторваньняў ці падахвочваньняў да гвалтоўных дзеяньняў. Мы распаўсюджваем навіны й меркаваньні. Для Беларусі гэта асабліва актуальна, бо многія людзі ня маюць вольнага доступу да аб’ектыўнай і рознабаковай інфармацыі пра жыцьцё ў сваёй краіне.

## *Васіль Валошка, Радашкавічы, Маладэчанскі раён*

***24.08.2005***

**Зьвярнуў увагу на нядаўняе выказваньне прэзыдэнта Лукашэнкі на адной з нарадаў — пра тое, што дзяржава сёньня на 98 працэнтаў уласнай сілаю забясьпечвае патрэбы сваіх грамадзян у**

**харчаваньні. Сумняюся ў гэтай лічбе. Да якіх працэнтаў аднесьці тое, што вырашчана ў прыватным гарадзкім сэктары, на прысядзібных дзялках у вёсцы, на лецішчах? А тое, што прывозіцца з Расеі, — алей, мука, рыба, каўбасныя вырабы? А цытрусавыя? Пахадзіце па кірмашы: яблыкі — з Малдовы, морква — з Галяндыі. Дарэчы, пра моркву. Увесну й узімку кошт гэтай гародніны быў вышэйшы, чым бананаў. Дый буракі былі не нашмат таньнейшыя. І гэта ў нас — у Беларусі. А на нарадзе ж прэзыдэнт сказаў, што гароднінай дзяржава нас забясьпечыла цалкам. Ды ў гарадах амаль не засталося гароднінных крамаў. Усё купляецца на кірмашах, у прадпрымальнікаў. Гародніна з калгасаў бывае толькі ўвосень, на адмысловых «ярмарках».**

**А што ўяўляе сабою «беларускі эканамічны цуд»? Цуд ёсьць, толькі ня там, дзе яго шукаюць. Сапраўдны цуд — гэта нашы прадпрымальнікі. Яны нас і кормяць, і апранаюць. Цуд тое, што, нягледзячы на ўціск, перасьлед і зьнявагі, яны, як трава праз асфальт, прабіваюцца й жывуць. Паглядзіце, куды большасьць нашых людзей ідзе й едзе па прадукты? На кірмаш. Тут і мяса, і гародніна, і садавіна. Ды, бадай, усё, апроч хлеба. Але калі б ім дазволілі, то — я ўпэўнены — быў бы ў іх і хлеб. Ведаючы гэта, нашы правіцелі з усяе моцы стараюцца іх далей, чым ёсьць, не пускаць. Бо трэба ж даказаць, што толькі калгасы кормяць нас хлебам. А цяпер вось зь вялікай упартасьцю вядуць бітву за хлеб. Толькі атрымліваецца, што хлеб гэты — з гаркавым прысмакам несвабоды. А хацелася б хлеба, вырашчанага й выпечанага свабодным, шчасьлівым чалавекам.**

Думаю, спадар Валошка, дойдзе чарга й да хлеба. Прычым як толькі гэты сэктар рынку пяройдзе ў прыватныя рукі, як толькі складзецца канкурэнцыя, — імгненна зьявяцца дзясяткі новых гатункаў і хлеба, і розных прысмакаў. Дарэчы, гэта асабліва важна якраз для сельскіх раёнаў, якія самі вырошчваюць зерне, а якаснага хлеба ніколі ня бачылі. Як правіла, ёсьць у кожным з такіх раёнаў свая «сельпоўская» пякарня з састарэлым тэхналягічным абсталяваньнем. Яна — манапаліст, і дзесяцігодзьдзямі выпякае адны й тыя ж гатункі хлеба, да якога нават у непатрабавальных вясковых людзей вялікія прэтэнзіі.

На адной з такіх пякарань мне неяк давялося пабываць. Дык зьдзівіўся, убачыўшы, што ў цеста пекары замест мукі дабаўляюць нейкую незразумелую шэрую масу. Аказалася, гэта — счарсьцьвелы хлеб, не прададзены крамамі й вернуты ў пякарню. На маё запытаньне ў пякарні адказалі: «Ну не выкідаць жа яго. Мы заўсёды так рабілі». А ў вёсцы людзям падзецца няма куды — купяць і гэткі хлеб. І купляюць. Але як толькі зьявіцца прыватнік, а разам зь ім і канкурэнцыя, — гэтыя «сельпоўскія» пякарні змушаны будуць альбо збанкрутаваць, альбо выпякаць тое, што будзе ня горшым, чым у прыватніка.

## *Міхаіл Тоса, Наваградак*

***24.10.2005***

**Я фанатычны змагар за праўду і справядлівасьць. Ваюю ўжо 25 год, а толку — ніякага. Спачатку мяне ўціскалі камуністы, а цяпер бюракраты, якія, хутчэй за ўсё, тыя ж камуністы, толькі больш нахабныя і зладзюгі.**

**Яшчэ ў 1998 годзе я напісаў прэзыдэнту тры скаргі — на наваградзкую вэртыкаль і камунальную службу, якія несправядліва паставіліся да мяне. Тады я яшчэ верыў Аляксандру Рыгоравічу. Але на ўсе тры скаргі атрымаў фармальныя адпіскі. І вось здароўе я страціў, а нічога не дабіўся. Мяне проста зрабілі дурнем у райвыканкаме. Увогуле, я пераканаўся, што ўлада акружыла сябе рознымі зладзюгамі і прайдзісьветамі, хабарнікамі і нягоднікамі. Гаварыць Аляксандар Рыгоравіч умее, а вось вызваліцца ад прайдзісьветаў, якія круцяцца вакол яго — ня можа. Доўга іх шукаць ня трэба, дастаткова праверыць так званыя «царскія сёлы» вакол гарадоў. Хто іхныя гаспадары? Ды ўсё тыя ж людзі, якія намі кіруюць, альбо іхныя памагатыя.**

Тое, што чыноўнік пабудаваў дом, яшчэ ня значыць, спадар Тоса, што ён хабарнік і прайдзісьвет. Хоць у Беларусі на афіцыйным узроўні шмат гавораць пра «рынкавы сацыялізм» і сацыяльную роўнасьць, насамрэч расслаеньне грамадзтва на багатых і бедных ужо адбылося. І яно працягваецца. Вяртаньне назад, у эпоху, калі маёмасьць адбіралі ў багатых і спрабавалі падзяліць паміж беднымі,

наўрад ці адбудзецца. Ні да якіх станоўчых вынікаў тая дзяльба не прывяла.

Людзі ад нараджэньня розныя — такімі стварыў іх Бог. Іншая рэч, што ў дэмакратычнай дзяржаве яны маюць роўныя магчымасьці, каб рэалізаваць сябе — у тым ліку і дамагчыся матэрыяльнага дабрабыту. А вось у колішнім СССР афіцыйная ідэалёгія многім пакаленьням савецкіх людзей спрабавала давесьці, што багатых быць не павінна, а бедным усё дасьць дзяржава. Багатых тады вынішчылі, але бедныя з гэтага багацейшымі ня сталі.

## *Уладзімер Гайдукевіч, Бабруйск*

***26.10.2005***

**Мне 59 гадоў, шмат чаго на гэтым сьвеце пабачыў, але ня думаў, што гэтак цяжка даводзіцца ў Беларусі чалавеку, які апынуўся ў бядзе. Усё пачалося з таго, што трапіў у аўтамабільную аварыю. У шпіталі людзей лячылі, як быдла. Калі прыехаў у гіпсе дамоў, то на працягу пяці месяцаў, пакуль не напісаў скаргу, ніводзін доктар мяне не праверыў і не дапамог. Пасьля стала яшчэ горш. Дактары абыякавыя, лячыць ня ўмеюць і ня хочуць. А паколькі я на іх скардзіўся, дык яны да мяне сталі ставіцца яшчэ больш нахабна. Скаргі я пісаў у тым ліку Лукашэнку. Але ён іх не чытаў — напэўна, няма калі яму за справамі. Дый ягоныя памагатыя таксама ня надта цікавяцца нашымі бедамі — перасылаюць іх тым, на каго гэтая скарга напісана. Ну, а тыя ўжо лютуюць.**

**Напрыклад, хварэў ты год, а даведку табе дадуць заднім чыслом за паўгода.**

**На іхны зьдзек я адказаў сваім зьдзекам. Ведаючы, што маю скаргу будзе чытаць той, на каго скарджуся, я стаў пісаць усё, што пра яго думаю. Паганымі словамі, праўда, ня лаяў, але добрай народнай мовай распавядаў пра ўсё — і пра разумовыя здольнасьці, і пра прафэсійную каштоўнасьць. І, напэўна, трохі дапёк яго ды ягоных хаўрусьнікаў. Сабралі мае скаргі аж з Магілёва і падгаварылі падаць на мяне ў суд за зьняваrу. 11 кастрычніка суд адбыўся. І мяне фактычна за тое, што дамагаўся праўды, асудзілі да выплаты пакрыўджанаму пэўнай сумы грошай.**

**Можа, прэзыдэнт Лукашэнка даведаецца пра гэта і зразумее, што тыя кнігі скаргаў, якія ён прымусіў усіх увесьці, пасьля майго расповеду будуць пуставаць. Бо калі пра злодзея і прайдзісьвета напішаш, што ён злодзей і прайдзісьвет, дык назаўтра ён пацягне цябе ў суд.**

Вашы пачуцьці, спадар Гайдукевіч, няцяжка зразумець: сутыкаючыся зь несправядлівасьцю і крыўдай, цяжка ўстрымацца ад эмоцыяў і самых вострых выказваньняў. Але калі хочаце перамагчы ў сур’ёзных спрэчках, давядзецца навучыцца гаварыць і пісаць на мове фактаў, а не суб’ектыўных ацэнак і эмоцыяў. Калі б вы ў сваіх скаргах проста апісалі ўсе пакуты, праз якія давялося прайсьці, зь пералікам канкрэтных падзеяў і асобаў, ня робячы ўласных высноваў пра разумовыя здольнасьці дактароў, зь якімі сутыкаліся, то, напэўна, і ў судзе разбор мог скласьціся зусім па-іншаму, зь іншымі для вас судовымі рашэньнямі ды пастановамі.

## *Анатоль Шапялевіч, Рагачоў*

***12.12.2005***

**Памятаю, у 1972 годзе райвыканкам у Рагачове разьмяшчаўся ў двухпавярховым даваенным будынку па вуліцы Леніна (былой Быхаўскай). Цяпер жа будынак райвыканкаму, які месьціцца на цэнтральнай плошчы, — чатырохпавярховы. Пацікавіўся, які ў ім апошні нумар пакоя — аказалася, 416-ты. Але гэта яшчэ ня ўсё. Аддзел адукацыі райвыканкаму заняў былы двухпавярховы будынак гаркаму партыі. А нядаўна зьявіўся яшчэ адзін двухпавярховы будынак, у якім разьмяшчаецца ўпраўленьне сацыяльнай абароны — са штатам 28 спэцыялістаў. (Раней, памятаю, быў аддзел з двух чалавек — і хапала.) Людзі жартуюць: трэба будаваць чацьвертае памяшканьне, бо і гэтых не хапае: у будынку ПМК разьмяшчаюцца спэцыялісты аховы прыроды. Бачыце, як раздуўся штат чыноўнікаў. Колькі іх — невядома, але, думаю, вялікая рацьць. Цяпер адзін з сошкай, а семдзесят з лыжкай. А колькі бэнзіну спальваюць рознага кшталту начальнікі на службовых легкавых машынках! Пры гэтым многія самі за рулём не сядзяць, у іх службовыя кіроўцы. Вось інфармацыя для роздуму — і Мілінкевічу, і вам.**

Да напісанага вамі, спадар Шапялевіч, дадам, што насельніцтва большасьці сельскіх раёнаў Беларусі ў параўнаньні са згаданым вамі 1972 годам скарацілася ўдвая. А колькасьць рознага кшталту столаначальнікаў пры гэтым несувымерна павя-

лічылася. Чаму? Сам чыноўніцкі апарат, які дамагаецца пашырэньня штатаў, лёгка знаходзіць для гэтага тлумачэньні і аргумэнты. Напрыклад, чаму ў некалькі разоў павялічылі штат управы сацыяльнай абароны? Вам адкажуць: бо вёска старэе, амаль усе сталі пэнсіянэрамі, павялічылася колькасьць пэнсійных спраў. І ніхто зь іх не згадае, што ў 1972 годзе два спэцыялісты «сабесу» спраўляліся з усімі пэнсійнымі справамі раёну (якія захоўваліся, дарэчы, у папяровых тэчках) з дапамогай арытмомэтраў і драўляных лічыльнікаў. Чаму ж цяпер патрэбныя дваццаць чалавек, калі паўсюль ёсьць кампутары і ўсе патрэбныя зьвесткі можна атрымаць за лічаныя сэкунды? Ці не таму, што тыя кампутары многія чыноўнікі баяцца нават уключаць, але пры гэтым моцна трымаюцца за ўласныя прывілеі і працоўныя месцы?

## *Віктар Дубчык, Навагрэдак*

***14.12.2005***

**У свае 39 год я тут, у Навагрэдзкім лячэбна-працоўным прафілякторыі, ужо трэці раз. Ужо тройчы спрабаваў скончыць жыцьцё самагубствам. Гэтыя страшныя словы я пішу ад чыстага сэрца, гэта, як кажуць, крык маёй душы. Колькі словаў пра маё невялікае і няшчаснае жыцьцё. Трапіў я сюды сёлета ў траўні — паводле рашэньня раённага суду — на 12 месяцаў. Лічыцца гэтае месца прафілякторыем, але фактычна тут яшчэ горш, чым у калёніі. Для даведкі: я тройчы быў пад судом, адседзеў агулам дзесяць год. Але гэта**

**было даўно: апошні раз я выйшаў на волю ў 1995 годзе. І вось у гэтым ЛПП спачатку я працаваў на нарыхтоўцы сена. За першы месяц зарабіў на пяць пачкаў цыгарэтаў «Прыма». За другі месячны заробак змог купіць ужо 14 пачкаў «Прымы».**

**Потым за тое, што ня выйшаў на працу ў суботу, мяне пасадзілі на трое сутак у «дызо» (гэта камэра закрытага тыпу) і перавялі на іншую працу — у сталярны цэх. Заробкі там у мяне былі наступныя: першы месяц — 900 рублёў, другі — 1400. А на трэці пайшоў «атаварвацца» ў шапік, а мне там сказалі, што я яшчэ і застаўся вінен 1170 рублёў. Так я адбыў палову тэрміну. Пасьля гэтага, калі ёсьць хадайніцтва ад жонкі ці маці, можна вярнуцца дамоў. Але калі патэлефанаваў дамоў, усё скончылася вялікім скандалам з роднымі. Ад нэрвовага стрэсу я сарваўся і выпіў грамаў дзьвесьце гарэлкі. Тут усё і пачалося. Каб трапіць у шпіталь на волю, я парэзаў сабе жывот. Зашылі і пасадзілі ў «дызо» на сем сутак. Тады я парэзаў горла, вены. Сукамэрнікі двойчы вымалі мяне зь пятлі. Разумееце, я страціў увесь сэнс жыцьця. І такіх, як я, тут набярэцца не адзін дзясятак.**

Гэтыя так званыя «лячэбна-працоўныя прафілякторыі» — савецкая вынаходка, якая ўзьнікла на хвалі вялізнага распаўсюду алькагалізму ў СССР. У Беларусі адзін час яны былі зьліквідаваныя як неэфэктыўныя і прыніжальныя для годнасьці людзей. Але потым іх зноў аднавілі. Іхная сутнасьць, якую зь веданьнем справы апісаў слухач, — гэта ізаляваць хворых на алькагалізм людзей ад грамадзтва,

выкарыстоўваць іх фактычна бясплатную працу, а лячыць з дапамогай гвалту і прыніжэньняў. Іншы шлях барацьбы з алькагалізацыяй — гэта рэзкае скарачэньне вытворчасьці алькаголю (асабліва алькагольных сурагатаў), абмежаваньне даступнасьці гарэлкі (асабліва для падлеткаў), кваліфікаванае лячэньне — прычым у нармальных цывілізаваных умовах, а не ў так званых «прафілякторыях» турэмнага тыпу… Так, усё гэта патрабуе вялікіх бюджэтных выдаткаў. Але хто, калі не дзяржава, якая цягам дзесяцігодзьдзяў атрымлівала звышпрыбыткі ад продажу таннага алькаголю, павінен разьлічвацца за гэтыя скалечаныя лёсы і разбураныя сем'і, за зьнявечаную псыхіку людзей і падарванае здароўе?

*Адасьь Качаноўскі, Маладэчна*

***28.12.2005***

**Вось які выпадак назіраў я нядаўна ў нас у Маладэчне. Заканчвалася будаўніцтва Палаца культуры. Чакалі Лукашэнку. А якраз насупраць палаца, праз дарогу — трухлявыя драўляныя жылыя дамкі, дахі якіх пакрытыя старым толем ды кавалкамі ржавай бляхі. Напэўна, каб Лукашэнка іх ня ўбачыў, збудавалі велізарную драўляную заслону. Пафарбавалі. А потым вялікімі літарамі напісалі: «Радзіма мая дарагая, ты ў шчасьці жаданым жыві!». Ну проста Эдэм. Дык вось, гэта — з вонкавага боку, навідавоку. А папраўкі ж у Крымінальным кодэксе схаваныя.**

**Чаму б не сказаць людзям так, як ёсьць: Беларусь імкнецца ў архіпэляг ГУЛАГ.**

**Згадваюцца справядлівыя словы Анатоля Стрэлянага: «Сапраўдны твар улады ня той, які яна паказвае, а той, які ўтойвае». Свайго сапраўднага імя не называю, бо памятаю словы Васіля Быкава: «КДБ бачыць скрозь зямлю». Гэта я адчуў і на сваёй скуры.**

Такія вялізныя шчыты, агароджы ды заслоны людзі бачылі ў Беларусі, бадай, паўсюль, дзе чакалі ці чакаюць з высокім візытам першую асобу. Што хаваюць за гэтымі агароджамі? Старыя пахілыя хаткі ды занядбаныя гаспадарчыя пабудовы. Адметна, што ніякага практычнага сэнсу ў гэтым камуфляжы няма. І мясцовыя жыхары, і начальства, і сам Аляксандар Лукашэнка выдатна ведаюць, што хаваецца за шчытамі і пасьпешліва пастаўленымі ды пафарбаванымі агароджамі. Людзі з гэтага цішком пасьмейваюцца, але ставяцца паблажліва. Чыноўнікі ж разважаюць так: пэнсіянэраў, якія жывуць у хатках-развалюхах, фарбаваць фасады ды мяняць дах не прымусіш, а ў бюджэце грошай на гэта няма. Дзеля эстэтыкі, каб не псаваць краявіду і не раздражняць начальства непажаданым кантрастам, паставім лепш шчыт ды напішам патрыятычны лёзунг.

Вынаходка гэтая, заўважу, не беларуская. У былым Савецкім Саюзе шматмэтровыя бігборды з траскучымі камуністычнымі лёзунгамі можна было бачыць на кожным кроку. І вельмі часта было так: чым большы шчыт — тым большую занядбанасьць і ўбоства ён засланяў.

***Яны памятаюць смак лебяды і мерзлай бульбы, ведаюць, што такое цяжкая праца ад цямна да цямна на калгаснай паншчыне «за працадні» — можа, таму і баяцца любых зьменаў у краіне.***

## *Уладзімер Капаеў, Касьцюковічы*

***16.01.2006***

**Калі ў вялікіх гарадах жыць яшчэ можна, дык у райцэнтры, на пэрыфэрыі — не жыцьцё, а адно існаваньне. Значная частка гаспадарак у раёне стратныя. Каб неяк стачыць канцы з канцамі, калгасы сталі аб'ядноўваць. Але такі «шлюб» вялікіх вынікаў не дае. Сельская гаспадарка трашчыць па швах. Не ратуюць нават гарадзкія арганізацыі, якія пад прымусам павінны, апроч сваёй асноўнай дзейнасьці, рамантаваць калгасную тэхніку ды яшчэ зь вясны да восені займацца сельгасработамі.**

**Вялікае марнатраўства — прымусовае будаўніцтва жыльля ў вёсцы. Будуюць яго часам там, дзе яно зусім не патрэбна. А менавіта — у малапэрспэктыўных вёсках, у радыяцыйнай зоне, куды маладога спэцыяліста на вяроўцы не**

**зацягнеш. У нашым гарадку прадпрыемстваў мала, уладкавацца на працу бяз блату — вельмі праблематычна. Каб неяк выжыць, дзясяткі і сотні людзей езьдзяць «батракамі» ў Маскву, Піцер, а то і ў далёкае замежжа. Бо ва ўласнай краіне добрыя заробкі — хіба што ў начальнікаў.**

**Мая маці аддала дзяржаве 44 працоўныя гады. З 10-гадовага ўзросту працавала нароўні з дарослымі за працадні. У яе ніколі не было часу пачытаць кнігу ці газэту. І што ж атрымала за гэта? Адзін толькі просьценькі мэдаль «Вэтэран працы». А на дадатак — кучу хваробаў. Ці вось дах у доме цячэ, і нікому да гэтага няма справы. Аднак маці, нягледзячы на ўсё гэта, гатовая да апошняга абараняць Лукашэнку. «Ён добры, лае ўсіх міністраў і галоўнае — своечасова плаціць пэнсію». На гэтым яе аргумэнты заканчваюцца. Дзякуючы такім людзям, як мая маці, якіх дзяржава зрабіла рабамі і ў якіх дагэтуль у галовах сядзіць савецкая ідэалёгія, Аляксандар Рыгоравіч і надалей будзе заставацца пры ўладзе.**

Ваша маці, спадар Капаеў, як і сотні тысяч іншых вясковых людзей, памятае час, калі пэнсіяў калгасьнікам увогуле не плацілі, а з падворкаў забіралі апошняе, калі за цяжкую працу ў калгасе чалавек не атрымліваў ні капейкі. Відавочна, той цяжкі жыцьцёвы досьвед і прымушае людзей сталага веку быць на схіле гадоў асьцярожнымі і цаніць тое, што ёсьць. Нават калі ёсьць ня так шмат, і яно вам падаецца ня вартым увагі. Гэта адметнасьць ня толькі беларускіх старых. І ставіцца да гэтых псыхалягічных асаблівасьцяў даводзіцца цярпіма і з разуменьнем. Гэта нашы бацькі і дзяды:

перарабіць, перавыхаваць, прымусіць іх памяняць погляды наўрад ці магчыма. А без агульнай мовы не абысьціся. Асабліва палітыкам, якія разьлічваюць на тое, што рана ці позна зьмены ў Беларусі ўсё ж насьпеюць і адбудуцца.

## *Міхаіл Коржаль, Гомель*

***20.02.2006***

**Мне 86 гадоў, інвалід Вялікай Айчыннай вайны па раненьні. 15 студзеня ў аглядзе пошты пачуў ліст Уладзімера Капаева з Касьцюковічаў. Ён распавядаў пра жыцьцё ў вёсцы і разважаў пра тое, чаму многія людзі сталага веку ня хочуць зьменаў.**

**Ёсьць твая праўда, Капаеў. І нялёгка жывецца на вёсцы; і ня ўсюды вясковыя людзі сытна ядуць; і гараджане «выцягваюць» вёску; і будаўнікі і чыноўнікі не заўсёды робяць як трэба… Добра, Капаеў, што ведаеш, якое жыцьцё пражыла твая маці. І я схіляю сваю сівую галаву і цалую мазолістыя рукі тых маці, дзякуючы якім у мяне, гараджаніна, ёсьць на стале буханачка духмянага хлеба, а на кухні жонка смажыць хоць невялікі шмандэлак сала. На блакітным газавым агеньчыку. І я б паверыў у сыноўскую спагаду Капаева, каб у эфіры не прагучалі яго словы пра тое, што ў матчынай хаце цячэ дах і нікому няма да гэтага справы. Як гэта нікому? А сын? Што ён, чакае, што нейкі чужы дзядзька (а то і сам Лукашэнка?) возьме пад паху пару дранак ці кавалак рубэроіду, малаток у кішэню, тузін цьвічкоў у**

**зубы — і палезе на дах? І падумалася мне, што ў маці Капаева цячэ ня толькі вада з прагнілага даху, але і горкія патаемныя сьлёзы з вачэй за такога сына.**

**І яшчэ я падумаў, што Ўладзімер Капаеў — гэта тыповая адзінка з той грамадзкай гнілі, якая складае (з локшынамі на вушах) электарат кандыдатаў у прэзыдэнты ад ліпавай дэмакратыі, што так рвецца да ўлады. Адзін з тых, хто прагна чакае абяцаных невядома якіх і адкуль інвэстыцыяў, чакае дармавога сыру, у запале забываючы, што такі бывае толькі ў пастцы. А маці Ўладзімера розумам, сэрцам цягнецца да таго чалавека, які цэніць і паважае працавітых людзей і ўсе свае фізычныя і духоўныя сілы аддае ім. Стараецца, каб нам усім (у тым ліку вяскоўцам) жылося сытней і вальней.**

Думаю, Міхаіл Міхайлавіч, вы агучылі ня толькі ўласныя думкі, а ў пэўнай ступені — пазыцыю, сьветапогляд, стаўленьне да сёньняшняй рэчаіснасьці значнай часткі ўсяго вашага пакаленьня. Не выпадае сумнявацца ў вашай шчырасьці і перакананасьці. І ваша водпаведзь наконт дзіравага даху і сыноўскага абавязку — пранікнёная і неабвержная.

А вось з агульнымі вашымі высновамі — пра тое, чаго хочуць дэмакраты і тыя, хто іх падтрымлівае, і ці варта мяняць уладу ў Беларусі — хацелася б паспрачацца. На чым грунтуецца ваша безаглядная перакананасьць у тым, што толькі Лукашэнка ажыцьцяўляе патрэбную народу палітыку, а ўсе астатнія — карысьлівыя прыстасаванцы, якія «рвуцца да ўлады», каб «прадаць Беларусь Захаду»?

Паспрабую працягнуць лягічны ланцужок вашых развагаў.

Ён, Лукашэнка, шчыра хоча дабра для людзей, а таму давайце глядзець скрозь пальцы на тое, што няма ў краіне свабодных і справядлівых выбараў, што амаль зьнішчаны незалежны друк, што не дазваляюць людзям зьбірацца і адкрыта выказваць свае думкі, пратэставаць на плошчы. Што з таго, што ўсё гэта замацавана ў Канстытуцыі? Улада ж забараняе ўсё гэта дзеля стабільнасьці, каб быў парадак у дзяржаве, каб працавала эканоміка, каб нам жылося лепей.

Але тут вось якая штука. Там, дзе разьлічваюць, што, адмовіўшыся ад дэмакратыі на карысьць «цьвёрдай рукі», атрымаюць парадак і высокі ўзровень жыцьця, найчасьцей застаюцца і без дэмакратычных свабодаў, і без дастатку ў доме. Пры жалезным сталінскім парадку маці Ўладзімера Капаева аддавала апошнія сілы на калгасных палях — і атрымлівала за гэта замест грошай «палачкі за працадні». У той самы час яе равесьніцы ў пераможанай Нямеччыне, якая выбрала дэмакратычны шлях і рынкавую эканоміку, гэтак жа паднімалі з руінаў сваю радзіму і цяжка працавалі, але — мелі за сваю працу такія грошы, за якія ўжо ў 1960-х гадах маглі купляць асабістыя аўто і штогод адпачываць за мяжой.

І ў сёньняшняй Беларусі, цяжка і старанна працуючы, ці то на зямлі, ці на заводзе, ці ва ўстанове, людзі хочуць годна жыць ужо сёньня. Ім ужо недастаткова кавалка хлеба і «невялікага шмандэлка сала». Яны бачаць, як жывуць у той жа суседняй Польшчы, дзе няма аўтарытарнай улады (а паводле вас, Міхаіл Міхайлавіч, няма і парадку) — і зада-

юць пытаньне: чаму сьлесар на заводзе ў Гданьску зарабляе 600 даляраў за месяц, а сьлесар у Гомелі, праца якога ня менш цяжкая — толькі 150 (у чатыры разы меней)?

## *Іван Гурскі, вёска Лапічы, Асіповіцкі раён*

***09.03.2006***

**Па Свабодзе часта гавораць, што ўсе пэнсіянэры — за Лукашэнку. Я з гэтым катэгарычна ня згодны. Ведаю: у 1994 годзе многія настаўнікі нашага раёну (тады яшчэ не пэнсіянэры) прагаласавалі за маладога Лукашэнку. Але глыбока памыліліся. Ён, стаўшы прэзыдэнтам, нам «аддзячыў»: адабраў тыя невялікія камунальныя льготы, што мелі вясковыя настаўнікі — права на бясплатныя прычэп дроваў і 192 кіляват-гадзіны электраэнэргіі. Знайшоў на кім эканоміць. Цяпер маладыя настаўнікі жыць у вёсцы ня хочуць — езьдзяць на працу з гораду. Дзяржава ім аплачвае праезд. Прычым гэтая кампэнсацыя значна большая, чым адабраная ў нас камунальная льгота. Для тых людзей, якія аддалі вясковай школе ўсё жыцьцё, гэта — вялікая крыўда. Прычэп дроваў на сёньня каштуе 120 тысяч рублёў, а гэта палова пэнсіі.**

**Што да выбараў, то ва ўчастковыя камісіі ў нас, як заўсёды, уключылі тых жа людзей, што і раней. Няцяжка прадбачыць, што і на датэрміновае галасаваньне будуць гнаць, як заўсёды, гвалтам.**

**У нас на выбарах звычайна так: ідзеш у краму па хлеб — а тут цябе ловяць і ў загадным парадку: «Ідзі і галасуй!». Я заўсёды адмаўляюся, дык яны называюць мяне «бээнэфаўцам».**

**...Мілінкевічу і Казуліну трэба ісьці ў народ. Вось едзе Мілінкевіч зь Менску ў Бабруйск — дык чаму б яму дарогай не спыняцца ў вёсках ды пасёлках, не сустракацца зь мясцовымі людзьмі?**

Дазволеная ўладамі агітацыйная кампанія ў Беларусі, спадар Гурскі, працягваецца ўсяго месяц. Колькі, на вашу думку, сустрэчаў з выбарцамі здольны фізычна правесьці за гэты час адзін чалавек? Ня тое што вёскі — нават многія буйныя гарады не пасьпеюць наведаць за некалькі тыдняў кандыдаты на прэзыдэнта. Тым больш што ў многіх мясьцінах ім чыняцца розныя перашкоды — то памяшканьняў для сустрэчы не даюць, то пасылаюць у залю загадзя падрыхтаваную публіку, якая замест размовы і дыскусіі наладжвае дэбош, то агітацыйныя абвесткі раптам нечакана зьнікаюць... Дадайце да гэтага татальны перасьлед, затрыманьні, арышты, канфіскацыі, зь якімі даводзіцца сутыкацца сябрам ініцыятыўных групаў дэмакратычных кандыдатаў. Пастукацца ў кожныя дзьверы — добры і прыгожы лёзунг. Але ў сёньняшніх беларускіх умовах ён малараэальны.

## *Юрась Навіцкі, Менск*

***01.05.2006***

**Не магу сказаць, што я гэтых людзей ненавіджу. Як ні круці, камусьці трэба і гэтую работу выконваць. У мяне дома на пачэсным месцы нават вісіць міліцэйская фуражка, падараваная сябрам — маёрам міліцыі. Падчас 10-суткавага арышту ў Асіповіцкім ізалятары давялося пагаварыць аб правах зьняволеных з тамтэйшым загадчыкам. Дык, ведаеце, быў прыемна зьдзіўлены літасьцю і чалавечым стаўленьнем гэтага міліцэйскага начальніка. А аднойчы афіцэра міліцыі, зьбітага і абрабаванага, ледзьве не на сабе давялося цягнуць да ягоных калегаў.**

**Але ёсьць сярод іх і іншыя. Я ня ведаю, хто зь міліцыянтаў 25 сакавіка падчас шэсьця ўдарыў маю жонку проста ў твар на мітынгу, але мяркую, што гэтая брудная пляма кладзецца на ўсю міліцыю. Тым больш што сёньня ўжо вельмі шмат відавочцаў, сьведак і ахвяраў зьдзекаў і гвалту над затрыманымі і ўдзельнікамі мірных акцыяў, у тым ліку жанчынамі. Думаю, беларускі народ ня мае патрэбы ў тым, каб нашай міліцыяй пагарджаў увесь цывілізаваны сьвет. Няўжо самі гэтыя людзі не адчуваюць, што сваімі ўчынкамі ганьбяць уласныя гонар і сумленьне, што можа настаць момант, калі зь імі проста перастануць вітацца прыстойныя людзі?**

Як вы і самі, спадар Навіцкі, пераканаліся, у міліцыі служаць розныя людзі — сумленныя і абыякавыя, літасьцівыя і жорсткія, прыстойныя і

ня вельмі… Ня думаю, што існаваў нейкі адмысловы загад зьбіваць падчас мірных дэманстрацыяў жанчын ці падлеткаў. Іншая рэч, што міліцыянты ня раз пераконваліся: на каго б яны ні паднялі руку ў такой сытуацыі — на жанчыну, старога, падлетка, — ніякай адказнасьці не панясуць. Гэтае адчуваньне беспакаранасьці дзейнічае на людзей у пагонах па-рознаму. Спагадлівымі, велікадушнымі й прыстойнымі застаюцца далёка ня ўсе.

*Ігар Пасноў, Віцебск*

***15.05.2006***

**Я не магу ня дзякаваць Лукашэнку за тое, што сваім здаровым ладам жыцьця, вонкавым выглядам ён служыць узорам санітарна-асьветнай працы. Бачу простых хлопчыкаў і дзяўчатак, захопленых спортам, у новых палацах, на спортпляцоўках. У кожнай школе ўзімку заліваюць каток, кожную суботу — спартовае сьвята.**

**…А колькі зьявілася аздараўляльных, дыягнастычных цэнтраў з сучасным абсталяваньнем. Столькі не збудаваў ніводзін прэзыдэнт. І я прашу вас: спыніце бруд і хлусьню, а грошы аддайце на ахову здароўя й барацьбу з Чарнобылем.**

**Ніводзін прэзыдэнт не зрабіў для народу, для здароўя столькі, як наш Лукашэнка. У эканоміцы я не разьбіраюся, але бачу, што жывем мы ня горш за іншых. І сокі п’ем, і мяса ямо, і рыбу. А тое, што любім мучное ды салодкае, — віна наша. Вось таму й хварэем.**

**…Я не настолькі наіўны, каб думаць, што вы зачытаеце мой ліст у эфіры. Канечне, вы яго згубіце. Але тады я яшчэ раз пераканаюся, што свабоды на вашай Свабодзе ня больш, чым у лягеры «Гуантанама».**

Як бачыце, спадар Пасноў, ліста вашага мы не згубілі й яго кампліментарны стыль нас не зьбянтэжыў і не спалохаў. Многія людзі ў Беларусі думаюць і ацэньваюць дзейную ўладу гэтак жа, як і вы. Для выказваньня такіх ацэнак і кампліментаў у краіне шмат магчымасьцяў: усе дзяржаўныя мэдыі расказваюць пра жыцьцё ў Беларусі пераважна якраз у такой стылістыцы.

Але нямала й іншых людзей. Вы ім, спадар Пасноў, пра новы дыягнастычны цэнтар у Віцебску, а яны вам — пра дзясяткі зьліквідаваных фэльчарска-акушэрскіх пунктаў у аддаленых вёсках; вы — пра лядовыя палацы й каткі ў гарадзкіх школах, а яны — пра кампанію вынішчэньня малакамплектных вясковых школ, у выніку якой многім дзецям да месца вучобы даводзіцца дабірацца гадзінамі за дзясяткі кілямэтраў…

І вось гэтым людзям, спадар Пасноў, выказацца няма дзе: іхныя галасы ў дзяржаўных мэдыях не гучаць. Сыстэму такую, калі людзі пазбаўлены магчымасьці распаўсюджваць і атрымліваць аб'ектыўную й поўную інфармацыю, стварыла якраз гэтая ўлада, якой вы так захапляецеся.

*Ірына Бялевіч, Горадня*

***21.06.2006***

**Апошнія дванаццаць год я прадпрымальнік. Бізнэс невялікі, але на жыцьцё хапае. Ня скарджуся. Але апошнім часам вось пра што я стала задумвацца. Чаму нас так ня любіць наша дзяржава? Нас — гэта прадпрымальнікаў, незалежных прадстаўнікоў сярэдняга і малога бізнэсу. І вось да якой несуцяшальнай высновы я прыйшла. У таталітарнай дзяржаве ўсё павінна быць пад жорсткім кантролем.**

**Кожны жук і жаба ў чыноўніцкім крэсьле лічыць свой дакумэнт больш важным, чым дакумэнт суседняга міністэрства. Вось бы іх зь цёплых крэслаў выправіць для прафіляктыкі на вольны хлеб. Можа, тады яны зірнулі б на нашу працу па-іншаму. А то — ня жнуць, не аруць, а толькі майстры пладзіць пустыя паперкі. Ведаю многіх сваіх калегаў — жанчын-прадпрымальніц. Дзейных, надзейных, энэргічных, настойлівых, прафэсіяналаў у сваёй справе. Гэта проста залаты фонд дзяржавы, які трэба ўсяляк падтрымліваць. А што можа стварыць чыноўнік? Цыркуляры, нарматывы, інструкцыі — тоны макулятуры, напісаныя такой кандовай цяжкой мовай, што пасьля прачытаньня рукі апускаюцца. Няхай спачатку здадуць тэсты на валоданьне нармальнай мовай, на якой можна папулярна выкладаць свае крывыя думкі, а потым ужо працуюць на дзяржаўным кармленьні.**

**Працуеш-працуеш без выходных і адпачынкаў — і ўсяго баісься. Баісься, што прыйдуць**

**аднаго разу такія бравыя браткі і ўмомант цябе разуюць-распрануць. А ў іх, звыклых да карных санкцыяў, няма да нас ніякай спагады. Адзін голы цынізм і зьдзекі. Чым не грамадзянская вайна ў мірны час? Я чалавек аптымістычны, але пасьля дванаццаці гадоў вольнага прадпрымальніцтва гляджу ў будучыню без усялякай надзеі. Ня будзе ў Беларусі пэрспэктыўнага заўтра, пакуль прадпрымальнікі застаюцца ў такім незайздросным, вартым жалю стане. Да таго часу, пакуль чыноўнік не навучыцца паважаць нас, нашу працу і ўклад у агульную справу, не засвоіць простай ісьціны, што дзяржава павінна найперш падтрымліваць бізнэс хоць бы на роўных, — будзе і далей у нашай краіне такі выродлівы лад.**

**Свабодныя грамадзяне ня могуць быць залежнымі ад дзяржавы. Разьвяжыце ім рукі — і яны самі сябе пракормяць, абуюць, апрануць і яшчэ дадуць працу іншым. Але тады гэта ўжо будуць іншыя людзі, якія самі здолеюць паклапаціцца пра сябе. А гэта вельмі небясьпечна для таталітарнай дзяржавы. Наша сыстэма пабудаваная так, каб мы прасілі, прыніжаліся, станавіліся ў чаргу перад чыноўнікамі, якія разьмяркоўваюць даброты. Таталітарнаму рэжыму выгодна мець не свабодных грамадзянаў, а палахлівых і залежных падданых, якіх цікавіць толькі стойла і пойла…**

**Трэба аддаць належнае таму галоўнаму чалавеку ў нашай краіне, які здолеў пад сябе, пад свой сьветапогляд і сьветаўспрыманьне адбудаваць свой уласны сьвет і пасьпяхова прымусіў нас жыць у ім. Часам мне нават шчыра шкада гэтага чалавека — ён жа стараецца ў меру свайго разу-**

**меньня зрабіць нас шчасьлівымі любымі шляхамі й спосабамі, нават карнымі. Але я не хачу жыць у яго сыстэме. Не хачу. Ды толькі выбару ў мяне няма. Пазбавілі мяне выбару. Я ўсім сэрцам за перамены ў краіне. Бо дзяржаўная машына расьперазалася і чыніць беззаконьне паўсюль — у эканоміцы, палітыцы, культуры. Паўсюднае хамства ўлады, прымітыўнае жлобства любых начальнікаў, нізкі адукацыйны ўзровень высокіх дзяржчыноўнікаў, таптаньне роднай культуры і мовы — усё гэта дало жахлівы плён. За апошняе дзесяцігодзьдзе вырасла цэлае пакаленьне маладых людзей, якім глыбока абыякава ўсё, што адбываецца ў краіне. Галоўнае, каб іх не чапалі, калі яны ідуць па вуліцы і пацягваюць піўко, лянiва лаюцца (дакладней, размаўляюць на сваім прымітыўна-мацерным слэнгу). І гэта — вельмі вялікі працэнт страчанага пакаленьня. Яны не цікавяцца ня толькі палітыкай. Яны інэртныя і аморфныя ў любых грамадзкіх справах. Можа, сапраўды, трэба спачатку страціць, каб потым набыць?**

Дзякуй вам, Ірына, за шчыры, цікавы ліст, за глыбокія развагі і мудрыя высновы. Наўрад ці можна нешта дадаць да вашага аналізу той сыстэмы, якая склалася ў Беларусі ў дачыненьнях паміж уладай і прыватным бізнэсам. Адчуваецца, што гэтыя развагі грунтуюцца на глыбокім веданьні справы, на шматгадовым уласным досьведзе, уласных стратах, расчараваньнях і адкрыцьцях. Вось толькі што да высноваў пра сучасную моладзь... І цяпер, і дзесяць гадоў таму, і заўсёды былі канфармісты, прыстасаванцы, абыякавыя да палітыкі

й нават да ўласнай будучыні. Але вось жа ў сёлетнім сьцюдзёным сакавіку на Кастрычніцкай плошчы Менску невядома адкуль зьявіліся гэтыя маладыя бясстрашныя людзі. І гэта пасьля дзесяцігодзьдзя татальнай ідэалягічнай апрацоўкі, ва ўмовах усеагульнай запалоханасьці й падазронасьці. Такіх людзей (ня толькі маладых) у Беларусі шмат. Мяркую так, сярод іншага, па пошце Свабоды, у тым ліку і па вашым, Ірына, лісьце.

## *Іван Цімафейчык, вёска Мадзейкі, Зэльвенскі раён*

***12.07.2006***

**Жыву разам з калегамі ў васьмікватэрным настаўніцкім доме пры школе. Камунальныя беды для нас пачаліся ў далёкім ужо 1995 годзе. З надыходам восеньскіх халадоў спачатку, як у нас бывае, выйшла з ладу водазаборная сьвідравіна. А пазьней размарозілі ўсе батарэі ў школе. Лічы, усю зіму былі безь цяпла. Тым, хто пасьпеў змайстраваць печку, было лягчэй. А мне... Вада ў вядры ў кватэры перамярзала. Тройчы я наведваў адміністрацыю прэзыдэнта і Саўмін. Усё марна: там мае скаргі прапускалі міма вушэй. А ў райвыканкаме, каб зручней было адгаворвацца, склалі паперу, што ў маёй кватэры нібыта як «очаг обогрева» ўладкаваныя дзьве мэталічныя печкі. Былы старшыня райвыканкаму Віктар Будрэвіч называў іх «душагрэйкамі». Гэта звычайныя печкі-«буржуйкі». Але ніякага**

**іх уладкаваньня не было. Неяк прынесьлі са школы такую печку, паставілі ў кутку кватэры і пра ўладкаваньне забыліся.**

**Доўгі час гэтую печ не маглі змантаваць. Потым нарэшце змантавалі, але няправільна вывелі комін праз вэнтыляцыйныя шахты, у выніку чаго парушылася вэнтыляцыя, і ў кватэры стала занадта вільготна, сыра.**

**З гэтай прычыны ў мяне пастаянныя бранхіты. І куды я толькі ні зьвяртаўся: у адказ — адны адпіскі. Скончылася ўсё тым, што губэрнатар Гарадзенскай вобласьці Саўчанка выдаў адмысловае распараджэньне ад 29 сьнежня мінулага году: на мае звароты не рэагаваць. Вось ён, клопат пра інвалідаў і састарэлых.**

Разам зь лістом Іван Цімафейчык даслаў фатаздымкі свайго шматпакутнага жытла. Што ў іх уражвае — ня столькі брудныя рагі вільгаці на столі й сьценах, колькі выгляд мэталічнай печкі-буржуйкі ў інтэр’еры цеснай кухні тыпавога шматкватэрнага дому. Шматмэтровы комін печкі вужакай агінае ўсё памяшканьне й хаваецца ў адтуліне вэнтыляцыі. І гэта — у XXI стагодзьдзі, у сучаснай беларускай вёсцы, у якой нават трыццаць і сорак гадоў таму гэтыя дамы будавалі, прадугледжваючы ў іх сыстэмы цэнтральнага ацяпленьня й каналізацыі. Атрыбут галечы і грамадзянскай вайны зрабілі нормай. А чалавека, які імкнецца даказаць абсурднасьць, ненармальнасьць такой сытуацыі, запісалі ў суцяжнікі й на ўзроўні кіраўніка вобласьці забаранілі рэагаваць на ягоныя звароты й заявы.

## *Аляксандар Макараў, Ліда*

***02.08.2006***

**Калі чую па дзяржаўным тэлебачаньні й радыё казкі пра «ўздым эканомікі» і «рост заробкаў» — мне робіцца сьмешна. Ведаю, што на большасьці прадпрыемстваў Лідчыны, акрамя рэдкіх выключэньняў, заробкі ад ста да трохсот тысяч рублёў. Калі ў прымусовым парадку людзі працуюць па дванаццаць гадзін у дзень і па сьвятах, тады заробак можа даходзіць да трохсот-пяцісот тысяч, але гэта — ня праца, а зьдзекі. Такая зьява ёсьць на некаторых прадпрыемствах. А на некаторых, наадварот, працуюць па тры-чатыры дні на тыдзень. Вось такая ў нас «заможная й квітнеючая Беларусь».**

У ліпені я аб'езьдзіў шмат беларускіх вёсак. Быў і ў вас на Лідчыне, спадар Макараў. Калі вясковыя людзі чуюць, што сярэдні заробак у Беларусі, згодна з афіцыйнымі зьвесткамі, набліжаецца да шасьцісот тысяч рублёў, дык абураюцца й лаюцца. У большасьці калгасаў зарабіць хоць бы дзьвесьце тысяч — вялікая ўдача. Таму шмат хто ў працаздольным узросьце зайздросьціць пэнсіянэрам і чакае, каб хутчэй выйсьці на пэнсію.

У пераліку на замежную валюту заробкі й пэнсіі за апошнія гады сапраўды вырасьлі. Але ці вырас з гэтай прычыны ўзровень жыцьця? Адметны факт: раней у памежнай зоне некаторыя мелі неблагі прыбытак з таго, што вазілі танныя беларускія тавары ў суседнія раёны Літвы й Польшчы. Цяпер такі бізнэс зусім заняпаў, бо практычна ўсё ў Беларусі

даражэйшае, чым у суседзяў. А беларуская мытня цяпер сочыць, каб ужо з-за мяжы людзі ня ўвозілі значна таньнейшых харчовых і прамысловых тавараў.

*Зьміцер Марчук, Менск*

***02.08.2006***

**Вельмі часта можна ўбачыць у менскіх дварах кампаніі, якія адкрыта расьпіваюць спіртовыя напоі — з крыкамі, лаянкай, а часам і з бойкамі, нават з нажамі. Пасьля іх застаюцца ня толькі сьмецьце й пляшкі, але, здараецца, і крывавыя плямы — на зямлі й на душы. Страшна выпускаць дзяцей на вуліцу. Масавае п'янства ў дварах становіцца звычайнай зьявай, ад якой адно гора! Праз п'янства губляюць працу, хварэюць і рана паміраюць. Распадаюцца сем'і. Дзеці жывуць у сораме за сваіх п'яных бацькоў, якія ня могуць іх пракарміць і апрануць. Як жа хутка падае духоўнасьць грамадзтва! Суседзі дому № 22 (корпус 1) па вуліцы Адзінцова ўжо больш за 5 гадоў змагаюцца з раённай уладай і кампаніямі алькаголікаў за законнае права адпачываць і жыць у ціхім і чыстым горадзе. Навошта тады плаціць падаткі, калі ўлада не выконвае сваіх функцыяў? У нашым доме цягам толькі аднаго тыдня ў п'янках паранілі двух чалавек. Адзін ад ран памёр! А мы якраз за дзень перад забойствам, 12 ліпеня, накіравалі заказнымі лістамі чарговую калектыўную заяву з 45 подпісамі ў раённы аддзел міліцыі й адміністрацыю Фрунзэнскага**

**раёну — каб забясьпечылі парадак. Адразу прыгадваюцца словы клясыка савецкай паэзіі, што лепш за савецкую міліцыю нас сьцеражэ наша інтуіцыя. Адказу ўсё яшчэ няма, хоць мінула ўжо амаль 3 тыдні.**

Амаль у кожным менскім (дый ці толькі менскім?) двары можна назіраць падобную ж карціну, спадар Марчук. Паводле афіцыйнай статыстыкі, у Беларусі цяпер больш за 170 тысяч зарэгістраваных алькаголікаў. Але гэта толькі тыя, хто стаіць на ўліку ў нарколягаў. У сапраўднасьці залежных ад алькаголю людзей у некалькі разоў болей — гэта прызнаюць усе мэдыкі. Прычым толькі за адзін год колькасьць хворых на алькагалізм, паводле афіцыйных зьвестак, павялічылася на сем працэнтаў.

## *Генадзь Зотаў, вёска Загародзьдзе, Талачынскі раён*

***09.08.2006***

**Асабіста ў мяне жыцьцё за гады, калі пры ўладзе Лукашэнка, зьмянілася катастрафічна. І галоўная прычына ў тым, што я страціў павагу да сваёй дзяржавы, гордасьць за яе. Мне балюча глядзець і слухаць, што цяпер у нас адбываецца. Гэта жахліва, але зьдзек з простага чалавека стаў звыклай справай.**

**Выяўляецца гэта часта ў самых простых, будзённых рэчах. Вось купіў я ў вёсцы Загародзьдзе старую хатку. Пакрысе перавожу туды розныя рэчы. 21-га чэрвеня на сваім старэнькім**

**«Масквічы» вёз вулей. Перасек Крупскі раён. На ўезьдзе ў Талачынскі мяне спынілі й прымусілі заплаціць «Белаўтастрадзе» за карыстаньне дарогаю 11 тысяч рублёў. Для мяне, пэнсіянэра, гэта — вялізныя грошы. А я ж у маладосьці гэтую дарогу ўласнымі рукамі рыдлёўкай адсыпаў. Гэта мая ўласная дарога. За што ж я плачу такія грошы? Вось вам і параўнаньне — як было раней і як стала цяпер.**

Уводзячы плату за карыстаньне дарогамі, улады зазвычай спасылаюцца на досьвед заходніх дзяржаў: там такая плата — даўняя практыка. Ёсьць, аднак, некалькі істотных момантаў, якія пры гэтым ня ўлічваюцца. Адна справа — заплаціць пяць даляраў за дарогу французу, у якога пэнсія — тры тысячы эўра, і зусім іншая — беларускаму пэнсіянэру аддаць тыя ж пяць даляраў, маючы 100 даляраў пэнсіі. У Беларусі, уводзячы дарожныя зборы, чамусьці вырашылі арыентавацца на заходнія кошты, а не на рэальныя прыбыткі ўласных грамадзянаў. Пры гэтым якасьць платных дарог у Беларусі вельмі адрозьніваецца ад заходняй.

## *Алег Александровіч, пасёлак Бярозаўка, Лідзкі раён*

***06.09.2006***

**Адзінае буйное прадпрыемства ў Бярозаўцы — шклозавод, ад якога ў большай ці меншай ступені залежыць дабрабыт усіх мясцовых жыхароў, паколькі іншых значных працадаўцаў у рэгіёне няма. На шклозаводзе працую і я. Пай-**

**шоў наш цэх у адпачынак, зьявіўся вольны час. Мы з жонкай вырашылі за гэтыя некалькі тыдняў зрабіць дома рамонт. Разьлічвалі на адпускныя. Большасьць рабочых нашага заводу жыве, як кажуць, ад зарплаты да зарплаты, бо заробкі маленькія. У адпаведнасьці з законам грошы нам павінны выплаціць у трохдзённы тэрмін пасьля пачатку адпачынку. На гэта я і разьлічваў. А што атрымалася?**

**Да заводзкага банкамату я хадзіў цэлы месяц. Ведаеце, станавілася неяк сьмешна і сумна, калі дзясяты і дваццаты раз банкамат паказваў на маім і жончыным рахунках нулі. А сьцены і дзьверы заводу тым часам завешаныя стракатымі плякатамі «За квітнеючую Беларусь!», «За працоўную Беларусь!», «За заможную Беларусь!».**

**Заробленыя грошы мне ўдалося атрымаць толькі праз два тыдні пасьля адпачынку. Адказ на ўсе прэтэнзіі адзін: у заводу цяжкасьці з грашыма. Затое на прахадной заводу і ў заводакіраўніцтве ідзе эўрарамонт. Тым часам на самім заводзе, у цэхах няма часам самага неабходнага — напрыклад, электрычных разэтак. Перад прэзыдэнцкімі выбарамі наш дырэктар папярэджваў: «Спадзяюся, вы ведаеце, за каго трэба галасаваць. Як Бярозаўка прагаласуе, такая ёй будзе і дапамога ад улады». Перамог, як вядома, той чалавек, на якога намякаў дырэктар. Але дапамогі пакуль не відаць — акрамя паказухі на прахадной у выглядзе эўрарамонту.**

У Беларусі нямала такіх невялікіх гарадкоў, якія цалкам залежныя ад аднаго буйнога прадпрыемства, разьмешчанага на іхнай тэрыторыі. Многія

з гэтых заводаў маральна і фізычна састарэлі, выпускаюць не запатрабаваную на рынку і неканкурэнтаздольную прадукцыю. Улада імкнецца захаваць такія горадаўтваральныя прадпрыемствы, зусім слушна апасаючыся, што ў іншым выпадку давядзецца сутыкнуцца з масавым беспрацоўем і мноствам іншых сацыяльных праблемаў. Пытаньне ў тым, якім шляхам гэта спрабуюць зрабіць.

Як правіла, схема адна: дзяржава адмаўляецца ад прыватызацыі альбо продажу прадпрыемства, пакідае за сабой кантроль над ім і дае на нейкі пэрыяд падатковыя ды іншыя льготы. Гэта дазваляе прадпрыемству існаваць, выплачваць нейкія невялікія заробкі, але ні пра новыя тэхналёгіі, ні пра пераабсталяваньне размова ісьці ня можа. І наўрад ці, спадар Александровіч, у доўгатэрміновай пэрспэктыве такі падыход можа прывесьці да росквіту вашага заводу і ўсёй Бярозаўкі.

## *Леанід Пецюкевіч, Гарадзенскі раён*

***25.10.2006***

**Калі Лукашэнку хто-небудзь і адолее, дык гэта будуць зусім не апазыцыя і ня Захад, а сама вэртыкаль улады, рознага кшталту начальнікі. Лукашэнку нашы людзі ў асноўным вераць, бачаць, што ён стараецца зрабіць жыцьцё лепшым. І сёе-тое яму ўдаецца. А вось пра мясцовую ўладу можна сказаць толькі адным словам: «Крадуць». Прычым крадуць бязбожна.**

**Усе бачаць «царскія сёлы» вакол вялікіх і малых гарадоў. Хто будуецца? Начальнікі. Афарм-**

**ляюць маёнткі на сваіх дзяцей, унукаў, цешчаў. Але і гэтага мала. Усе ведаюць, як узьляцелі цэны на кватэры ў Менску. Чаму так вырас попыт? У любым агенцтве нерухомасьці вам скажуць, што асноўныя іх пакупнікі — не бяздомныя менчукі й не багатыя расейцы, а якраз людзі зь беларускай правінцыі. Што гэта за людзі? Можа, калгасьнікі ці настаўнікі? Здагадайцеся, хто з жыхароў беларускага райцэнтру можа выкласьці сто тысяч даляраў за кватэру ў Менску? Афармляюць нерухомасьць яны, вядома, не на сябе, а на падстаўных асобаў. Але ні для кога гэта не таямніца.**

**Афіцыйныя заробкі нават самых высокіх раённых начальнікаў — 700–800 даляраў. А жывуць яны як мільянэры. Як да іх могуць ставіцца людзі, якія жывуць ад зарплаты да зарплаты, ледзь сточваючы канцы з канцамі? Шкада, што няма чалавека, які б расказаў і паказаў усё гэта Лукашэнку. Бо ніякая апазыцыя не дыскрэдытуе ўладу ў вачах людзей так, як робяць гэта вэртыкальныя чыноўнікі, якія страцілі ўсялякі сорам.**

Думаю, спадар Пецюкевіч, дарэмна вы лічыце, што прэзыдэнт у гэтай справе малаінфармаваны. Новыя катэджныя пасёлкі ў ваколіцах Менску добра відаць з акна прэзыдэнцкага лімузіна. А даведацца імёны сапраўдных гаспадароў, на чые грошы будуюцца палацы коштам каля мільёна даляраў кожны, для шматлікіх беларускіх спэцслужбаў ня надта складаная задача.

Не сумняюся, што на стол Аляксандра Лукашэнкі кладуцца сотні адпаведных дакумэнтаў, дзе фігуруюць імёны вельмі многіх ягоных падначаленых,

якія займаюць высокія пасады на ўсіх узроўнях уладнай вэртыкалі. Іншая рэч, які працяг маюць гэтыя гісторыі.

Ёсьць выпадкі, калі высокапастаўленыя чыноўнікі ў выніку пазбаўляюцца элітнай нерухомасьці й асуджаюцца на працяглыя тэрміны турэмнага зьняволеньня (так было, напрыклад, з колішнім кіраўніком Белтэлерадыёкампаніі Ягорам Рыбаковым). Але ёсьць і іншыя прыклады — калі прэзыдэнт сам даваў дазвол на катэджнае будаўніцтва ў прэстыжным раёне побач з уласнай рэзыдэнцыяй некаторым высокім начальнікам са свайго блізкага атачэньня.

## *Алесь Васілеўскі, вёска Клетнае, Барысаўскі раён*

***06.11.2006***

**Улады паведамілі, што ў Беларусі зьбіраюцца пабудаваць дзесяць новых дрэваапрацоўчых заводаў. Для мяне гэтая навіна — як абухом па галаве. Няўжо чыноўнікі, якія давалі на тое згоду, ні разу апошнім часам не выяжджалі за горад і ня бачылі, што робіцца зь лесам, які яны зьбіраюцца яшчэ больш вынішчыць? Ці ж вытрымае той падлесак гэтыя заводы? Няўжо яны ня ў курсе, колькі лесапілак павырастала пасьля перабудовы ва ўсіх кутках Беларусі? І каго гэта яны так цынічна заклікаюць «Берагите лес!» размаляванымі валунамі ўзбоч дарог?**

**Да кожнага дрэўца прырастаеш душой, а нехта без усялякай на тое маёй згоды па-бальшавіцку пілуе і прадае. Якія тут заводы! Тут прынамсі на пяцьдзясят гадоў трэба заглушыць пілы — асабліва тыя мадэрновыя, што падсунуў Захад. Такое ўражаньне, што яны самі рвуцца з рук, каб пілаваць. А вось ці ўмеюць тыя пілы спыняцца перад зусім яшчэ нясьпелым, маладым лесам? Бо сьпелы лёг яшчэ на пачатку ўсяго бізнэс-вэрхалу.**

**Лес — лёгкія грошы. І такім заманлівым падаўся гэты бізнэс, што нават палі былыя саўгасныя пачалі засяваць саджанцамі, нібы бульбаю — радочкамі. Тыя палі, што ў свой час неверагоднымі высілкамі пасьля вайны галодныя жанчыны й дзеці ачышчалі ад валуноў ды карчоў.**

**Лес лёгка пілаваць, асабліва радамі — як лёгка маніпуляваць людзьмі, калі іх паставіць у шарэнгу альбо сагнаць у статак. Так яно ў бальшавікоў і склалася. Толькі вось ці дачакаюцца іхныя дзеткі таго часу, бо сеяны (ды яшчэ так густа, у радкі-траншэі) лес — найвялікшы зьдзек з жывой прыроды й насьмешка з Тварца. У лесе ўжо ў футбол можна гуляць, а яны ўсё зь піламі ды сякерамі туды…**

Сапраўды, спадар Васілеўскі, многія колішнія калгасныя ды саўгасныя палі сёньня засаджваюцца лесам. Ня думаю, што гэта варта лічыць гвалтам над прыродай. Памятаю, як гадоў трыццаць — трыццаць пяць таму пясчаныя пусткі за маёй вёскай засаджвалі маладымі саджанцамі: сёньня там шуміць высокі бор. На пясчанай глебе, успамінаюць старыя людзі, не расьлі ні бульба, ні жыта. А што пасаджаныя гэтыя дрэвы радамі, вы праз сорак

год і не здагадаецеся. Ня ўсе яны прыжывуцца. Дый прарэджваць будуць маладыя пасадкі.

Саўгасныя палі засаджваюць сёньня лесам не ад добрага жыцьця. Вёскі абязьлюдзелі, апрацоўваць гэтыя землі няма каму. Вазіць людзей з гораду — дорага і эканамічна неабгрунтавана. Можа, і нябблага, што замест бур'яну і лебяды будуць расьці там сосны?

Вядома, душы чалавека, які вырас сярод лесу, цяжка зьмірыцца з тым, што гэты лес пілуюць, што мяняюцца краявіды, якія зь дзяцінства былі роднымі й блізкімі. І зразумець вас, спадар Васілеўскі, няцяжка. Хоць і цалкам абысьціся бяз гэтых высечак, напэўна, наўрад ці магчыма.

## *Георгі Крупскі, Полацак*

***18.12.2006***

**Пішу на Свабоду пасьля шматлікіх няўдалых спробаў сустрэцца з тым палітыкам, за якога я зьбіраў подпісы падчас прэзыдэнцкіх выбараў 1994 году. Паважаны Аляксандар Рыгоравіч! Калі я ў 1994 годзе зьбіраў за вас подпісы (і быў лідэрам у гэтай справе), то мяне жывіла надзея: вось выберам дастойнага чалавека, і будзе ў нас абарона ад беззаконьня й парадак у грамадзтве, магчымасьць зьвярнуцца ня толькі да чыноўнікаў рознага ўзроўню, але і да вас асабіста. А атрымалася ўсё наадварот. Былыя апазыцыянэры Кебіча і БНФ — пры ўладзе, а вы — у ізаляцыі ад нас. Нават Сьвету Галаванаву з групы збору подпісаў і былую вашу суседку вы, калі былі ў**

**Полацку, не прынялі. Яна плакала, перажываючы за вас. Мы таксама былі абураныя вашымі целаахоўнікамі, якія не дазволілі падысьці да вас і перадаць запіску.**

**Колішнія вашы паплечнікі Кучынскі і Харужык, зь якімі я меў кантакт па працы ў 1994 годзе, страцілі ўладу, займаюцца бізнэсам. І якая ім справа да мяне — у іх няма часу. Уся апазыцыя Кебіча і БНФ трыюмфуе, як і падчас вашага выступу ў актавай залі ў Наваполацку ў 1994 годзе. Памятаеце, як то ўключалі, то выключалі сьвятло, як запускалі правакацыйныя рэплікі… Але што атрымалі мы? Не абарону, а суцэльную адкрытую вакханалію.**

**Я для адмарозкаў Кебіча і БНФ так і застаўся косткай у горле. Увесь гэты час яны зь мяне зьдзекуюцца — не даюць спакойна дажыць. Пэнсію мне яны прызначылі мізэрную — 300 тысяч рублёў — і гэта з чарнобыльскім працэнтам і 43-гадовым стажам. А што застаецца ад пэнсіі, калі трэба заплаціць 200 тысяч за кватэру і 100 тысяч за вучобу дачкі ў Менскім мэдычным унівэрсытэце?**

***(Далей Георгі Крупскі падрабязна апісвае сваё жыцьцё за апошнія дванаццаць гадоў — як яго звальнялі то з гарадзкога шпіталя, дзе ён працаваў доктарам, то з парку, дзе быў вартаўніком, то з гарадзкога рынку, дзе працаваў лябарантам… Слухач лічыць, што гэтак яму помсьцілі за ягоныя пошукі справядлівасьці. На заканчэньне паведамляе, што кожны год зьвяртаўся й зьвяртаецца да прэзыдэнта Лукашэнкі — але на прыём ні разу ня трапіў, і нават лісты, як ён лічыць, да прэзыдэнта не даходзяць. Вылучаўся***

***кандыдатам у дэпутаты — але няўдала: як піша слухач, «блякавалі па месцы жыхарства». — В.Ж.).***

Такая вось гісторыя чалавека, які калісьці дапамагаў дэпутату Лукашэнку зьбіраць подпісы й цяпер крыўдуе на тое, што ягоныя намаганьні, як ён лічыць, не былі як сьлед ацэненыя.

Ня ўпэўнены, спадар Крупскі, што вашы крыўды абгрунтаваныя. Вы ж зьбіралі подпісы ня дзеля таго, каб атрымаць ад будучага прэзыдэнта высокую пасаду альбо ў любы час трапляць да яго на прыём? І каго, цікава, вы маеце на ўвазе пад апазыцыянэрамі БНФ, якія нібыта засталіся пры ўладзе і цяпер трыюмфуюць? Прыхільнікі БНФ ня мелі рэальнай улады і да 1994 году, а пазьней для іх ня тое што ўладныя пасады — нават звычайная праца шараговых чыноўнікаў у дзяржаўных установах стала недаступнай.

І апошняя заўвага — наконт вашай крыўды на пэнсію. Вышэй я цытаваў ліст інваліда з Маларыцкага раёну Паўла Саца, які атрымлівае пэнсію 106 тысяч рублёў. Паверце, для яго вашы 300 тысяч — недасягальная раскоша. І, бадай, ён мае нашмат большыя падставы разважаць пра парушаную сацыяльную справядлівасьць.

# 2007

*«Мой дзед Сямён Маркавіч не крыўдуе, калі яго называюць „старым маразматыкам”»*

***Кажуць, што вечарамі некаторыя мясьціны Менску падобныя да Лас-Вэгаса. Казіно і гульнявых клюбаў тут стала болей, чым грамадзкіх прыбіральняў. У казіно перароблены навват некаторыя пункты прыёму шклатары і студэнцкія сталоўкі.***

*Міхал Сантаровіч-Чыкун, Дзяржынск*

***09.01.2007***

**Людзі быццам звар'яцелі: гульні, лятарэі, казіно зрабіліся навалай. Радыё, тэлебачаньне і друк робяць сваю справу: абвесткі гучаць ледзь не штохвіліны. Многім заманулася на дурніцу мець грошы, аўтамабілі, жытло… Сумленнай працай зарабіць няма здольнасьцяў. Дый дзяржава не дае такой магчымасьці. Вось таму й гуляюць.**

**Заўважана: чым больш неадукаваная і незапатрабаваная публіка, тым лепшы грунт для такіх вось гульняў. Як я прыкмеціў: гульцамі парабіліся пераважна прыхільнікі цяперашняга рэжыму. Многіх ведаю асабіста. Дык яны й так**

**адчуваюць сябе шчасьлівымі. А цяпер чакаюць яшчэ й дадатковага шчасьця ад гульні. Вось-вось яно абрынецца зь нябёсаў у выглядзе «халяўнай» кватэры. Адзін мне так і сказаў: «Выйграю буйную суму — можна будзе ўвогуле не працаваць: буду жыць з адсоткаў ад сумы выйгрышу...» Летуценьні, летуценьні... Дасьведчаныя людзі, якія крыху ведаюць матэматыку, разумеюць, што шанцы атрымаць выйгрыш — амаль нулявыя. Плойма атрымае вялізную дулю. Але ж надзея не пакідае задаволеных сваёй галотай ды бездухоўнасьцю.**

Сапраўды, спадар Сантаровіч, гэтыя гульні ў Беларусі набылі шырокі маштаб. Сам днямі быў сьведкам, як адна бабуля, атрымаўшы ў ашчадным банку пэнсію, ледзь ня чвэрць яе адразу ж, не адыходзячы ад акенца, патраціла на цэлую кіпу разнастайных лятарэй...

Рознага кшталту таталізатары папулярныя і ў іншых краінах. Але мала дзе дзяржава так спрыяе гэтаму сумнеўнаму бізнэсу, які эксплюатуе далёка ня самыя здаровыя і высакародныя схільнасьці некаторых грамадзян.

У любым выпадку важна, каб у гэтай справе людзі дакладна ведалі правілы гульні і каб гэта не ператварылася ў фінансавую піраміду, ад якіх у свой час пацярпелі мільёны былых савецкіх грамадзян, што апантана паверылі ў цуд імгненнага ўзбагачэньня і панесьлі апошнія ашчаджэньні прайдзісьветам.

*Любоў Альшэўская, пасёлак Друя, Браслаўскі раён*

***22.01.2007***

**Насельніцтва Друі — больш як 1100 чалавек. Яшчэ нядаўна тут быў шпіталь, але ўлады яго закрылі. Пакінулі некалькі так званых «сацыяльных» ложкаў — для беспрытульных ды адзінокіх старых. Хочацца ведаць: каму гэта выгадна? Хто вырашыў эканоміць на здароўі людзей? Цяпер хуткая дапамога прыяжджае да нас з райцэнтру — гэта 32 кілямэтры. Толькі з гэтай прычыны ў нас памерла некалькі чалавек — не дачакаліся хуткай. Да людзей сталага веку хуткая часам увогуле не выяжджае, а часам у іх няма бэнзіну — таму ня едуць. Няўжо краіна так шмат зэканоміць на нас, жыхарах Друі? А паспрабуй легчы на лячэньне ў райбальніцу. У іх жа месцаў для нас амаль не бывае. Жанчыне, вэтэрану вайны, стала кепска, а ў іх адзін адказ: «Няма месцаў». Яе сыну давялося моцна пасварыцца з дактарамі — толькі тады яе паклалі. Аказалася, тры месцы ўсё ж былі. А як даехаць хвораму чалавеку да таго райцэнтру — дзьве гадзіны на аўтобусе? Гэта ж і грошы немалыя. Мы ня можам выкладваць на гэта апошнія капейкі. Зьвярталіся зь лістом у Міністэрства аховы здароўя. Адтуль пераслалі зварот у раён. Галоўурач Макарэвіч даў адказ: «У нас у Друі ёсьць пяць ложкаў стацыянарнага лекаваньня». Бачыла я гэтае лекаваньне. Вядуць сваякі пад рукі бедную жанчыну, каб атрымаць няшчасную кропельніцу... Сьмяротнасьць**

**пасьля закрыцьця шпіталя ў нас падвысілася. Мы зноў зьбіраем подпісы. Людзі ня проста плачуць — яны енчаць. Мне балюча глядзець на заплаканых дзядуль і бабуль — сэрца крывёю абліваецца. Людзі просяць мяне, каб дапамагла. Але што я магу? Хіба што напісаць ліст — каб пра гэтую бяду ведалі.**

Праблема гэтая ўласьцівая ня толькі Друі — такі ж лёс напаткаў шпіталі і амбуляторыі і ў дзясятках іншых беларускіх пасёлкаў. Пасёлкі гэтыя найчасьцей зусім не малыя — насельніцтва іх часам большае, чым у іншым райцэнтры. Але ініцыятары маштабнай кампаніі закрыцьця мэдычных установаў на гэта ня надта зважалі. Кіраваліся ў асноўным адным прынцыпам: шпіталь — толькі ў райцэнтры. Маўляў, там лепшыя спэцыялісты, лепшае будзе і лекаваньне. А за кошт закрыцьця шпіталяў у пасёлках можна зэканоміць вунь колькі грошай. Грошы, сапраўды, зэканомілі — пра што высокапастаўленыя чыноўнікі ад мэдыцыны адрапартавалі прэзыдэнту, назваўшы гэта ледзь не рэформай усёй сыстэмы аховы здароўя. Вось толькі ці патрэбная была такая рэформа, калі ў выніку яе дзясяткі тысяч старых хворых людзей адчулі сябе пакрыўджанымі і кінутымі на волю лёсу?

## *Вікенці Шымак, вёска Чырканцы, Воранаўскі раён*

***22.01.2007***

**Мы з матуляй увесь свой век працавалі на саветаў — і што з таго маем? Ужо трэці год, як не саджаем нават агарода — ніводнай баразны бульбы. Ня кажучы ўжо пра збожжа. Нам не даюць ні трактара, ні каня… Жывем з матулінай пэнсіі — 155 тысяч 850 беларускіх рублёў. Спытаеце, ці можна пражыць на гэтыя грошы? Можна. Вядома, катэдж не будуем, за мяжу ня езьдзім, на моры не адпачываем. Жабрацкае жыцьцё, але, калі ня страчанае Божае Блаславеньне, то лепей жыць на гэтыя грошы, чым у граху ў палацах. Матулі ўжо 83 гады, яна патрабуе дапамогі ва ўсім. У калгасе нашым (на новы лад — СПК) работы няма. А калі і ёсьць, дык заробку чакай да Новага году. На дадатак жывем мы ў памежнай зоне. Куды ні ступіш — памежнікі, міліцыя, КДБ. Вёскі абязьлюдзелі зусім — аж вачам ня верыцца. У нашым калгасе набудавалі новых домікаў — аж пяць штук. І ніхто ў іх не засяляецца. Каля дамоў няма ніякіх гаспадарчых пабудоў. Дый адкуль браць грошы на камунальныя паслугі? Жывёлагадоўчыя фэрмы пачалі распускаць. Раней трымалі кароў-ялавак па 5–6 гадоў. Навошта трымалі, калі ад іх — ні малака, ні мяса? Затое старшыні набудавалі сабе катэджаў, накуплялі не абы-якіх іншамарак. Адкуль толькі ў іх грошы? Ні ў Амэрыку, ні ў Нямеччыну на заробкі яны ня езьдзілі. Калісьці я служыў у ракетных войсках.**

**Аб’езьдзіў Расею, Казахстан… Тая служба забрала ў мяне здароўе. Застаўся нікому не патрэбны. Сям’і не стварыў, дзяцей ня маю. Ведаю, што даглядаць мяне ня будзе ніхто — ні сацыяльнае забесьпячэньне, ні старшыня, ні доктар, ні настаўнік… Што з таго, што я служыў, працаваў… Нікому тое не было патрэбна. Многія мае равесьнікі і нават аднапалчане, зь якімі служыў невядома каму і за што, ужо даўно ў сырой магіле.**

Ведаю вашы мясьціны, спадар Шымак. Сапраўды, у гэтых памежных раёнах Заходняй Беларусі за апошнія дзесяцігодзьдзі адбыліся імклівыя зьмены. Яшчэ ў 70–80-я гады гэта былі параўнальна густанаселеныя мясьціны — шмат вёсак, вёсачак, хутароў, дагледжаныя палі, даволі моцныя калгасы. Апрацоўваўся кожны лапік зямлі. На ўласных падворках людзі трымалі столькі скаціны, што былі праблемы з пашай — часам даводзілася пасьвіць уласных кароў у лесе. Усё гэта зьнікла на працягу жыцьця аднаго пакаленьня. Тыповая карціна гэтай мясцовасьці цяпер іншая: ператвораныя ў руіны фэрмы, зарослыя быльнягом палі, занядбаныя пакінутыя вёскі… Усяго гэтага можна было не дапусьціць яшчэ 30–20 год таму. Але пра будучыню вёскі, пра гаспадара на зямлі тагачасныя ўлады ня надта думалі.

*Ірына Зарэчная, Барысаў*

***05.03.2007***

**Я былая настаўніца, цяпер на пэнсіі. На тыя грошы, якія я зарабіла, пражыць цяжка. Спажываем і даношваем усё старое. Купіць новы тэлевізар або іншую рэч пэнсіянэру-настаўніку немагчыма — дзеля гэтага давялося б галадаць. Але побач з намі жывуць намэнклятурныя пэнсіянэры, і ў іх жыцьцё зусім іншае. Яны дазваляюць сабе шыкоўныя машыны, дарагія рэчы і многае іншае.**

**Думаю, вы разумееце, каго я маю на ўвазе. Гэта былыя чыноўнікі, вайскоўцы, міліцыянты. Вось пра каго ў дзяржавы сапраўдны клопат. У 45 год яны ўжо на пэнсіі. І не абы-якой — 500–700 тысяч рублёў. Выйшаўшы на пэнсію, тут жа з дапамогай старых сувязяў знаходзяць сабе неблагую працу. Пэнсія плюс зарплата — гэта больш як мільён рублёў. Гэта не мае 300 тысяч.**

**Гэтыя так званыя «пэнсіянэры» другі й трэці раз жэняцца, нараджаюць дзяцей. 45 гадоў — гэта ж самы ўзрост, калі маеш грошы. На тле іх я адчуваю сябе нейкай непатрэбнай істотай. У мяне вышэйшая адукацыя, стаж 35 гадоў, а сацыяльна мы зь імі зусім на розных прыступках. Няўжо дзяржава лічыць гэта нармальнай зьявай у мірны час — утрымліваць на сваім карку 45-гадовых мужыкоў толькі за тое, што яны насілі штаны зь лямпасамі й ахоўвалі гэты рэжым?**

**І ў чым мая віна? Хіба ў тым, што я не нарадзілася мужчынам і ня стала вайскоўцам або міліцыянтам? І што лёс не паслаў мне мужа з**

**пагонамі? Вось такі сумны ліст атрымаўся. Хацелася б ведаць вашу думку на гэты конт.**

Мая маці, якая значную частку жыцьця адпрацавала ў саўгасе, полючы буракі ды капаючы бульбу, атрымлівае сёньня пэнсію 150 тысяч рублёў, спадарыня Зарэчная. У яе былі вялікія перапынкі ў працоўным стажы — малых дзяцей не было з кім пакінуць, а пра дзіцячы сад у вёсцы тады нават ня чулі.

Да таго ж заробкі на вёсцы ў той час (як, зрэшты, і цяпер) не ішлі ні ў якае параўнаньне з тым, што дзяржава плаціла (і плаціць) якому-небудзь сяржанту міліцыі, які пільнуе дзьверы ў будынку аблвыканкаму.

Супастаўляючы і аналізуючы такія вось лічбы і факты, няцяжка здагадацца, якім чынам дасягаецца высокі сярэдні памер пэнсіі й як мала агульнага мае гэтая сярэдняя лічба з паўсядзённым жыцьцём мільёнаў беларускіх пэнсіянэраў, якія да гэтага ўзроўню не дацягваюць і наўрад ці калі дацягнуць. Такая вось ілюстрацыя з жыцьця дзяржавы, якую ўлада абвясьціла сацыяльна арыентаванай і справядлівай.

## *Павал Сац, вёска Асавая, Маларыцкі раён*

***14.03.2007***

**Многія хлопцы з нашай мясцовасьці едуць на заробкі ў Расею. Але ня ўсе вяртаюцца з грашыма. У мяне ёсьць знаёмы, Сяргей, дык зь ім летась увосень здарылася такая гісторыя.**

**Пасьля некалькіх месяцаў працы разам са знаёмымі вярталіся дамоў. На аўтобусным прыпынку падышлі расейскія бандыты. Кажуць: «Рэкет, даставайце ўсё з кішэняў!» Што было рабіць — давялося падпарадкавацца. А што не забралі бандыты, празь некаторы час адабрала расейская міліцыя. Добра, што яшчэ жывых адпусьцілі. А бывае ж і па-іншаму...**

**Сяргей вярнуўся хутка, бо ў яго яшчэ заставаліся грошы на дарогу, якія ён абачліва пакінуў у гаспадыні, дзе кватараваў. А іншыя засталіся без капейкі, і ім давялося яшчэ на нейкі час застацца, каб зарабіць на квіткі на зваротную дарогу. Вось вам і Расея, і заробкі.**

Так, спадар Сац, гісторыя гэтая, на жаль, тыповая. На працягу апошніх гадоў наша радыё ня раз паведамляла і пра значна больш драматычныя выпадкі, калі, паехаўшы на заробкі ў Расею, людзі ўвогуле не вярталіся жывымі да сваіх сем’яў.

На дзяржаўным узроўні паміж Беларусьсю і Расеяй падпісана мноства дамоваў, якія нібыта гарантуюць роўныя правы расейцам і беларусам, у

тым ліку ў працаўладкаваньні на тэрыторыі абедзьвюх дзяржаваў.

У сапраўднасьці ж беларускія гастарбайтэры часта адчуваюць сябе на расейскай тэрыторыі безабароннымі й кінутымі на волю лёсу. Пашанцуе — вернесься дамоў з заробленымі грашыма, не — паўторыш лёс Сяргея і ягоных таварышаў…

Чаму беларусы так часта становяцца аб'ектамі бандыцкіх нападаў? Усе пра гэта выдатна ведаюць: бо вяртаюцца з заробкаў, маючы пры сабе буйныя сумы грошай. А паслугамі банкаў не карыстаюцца, бо беларуская дзяржава ўвяла жорсткі кантроль за грашовымі пераводамі, абкладаючы іх атрымальнікаў вялізнымі падаткамі.

## *Мікалай Зайко, Менск*

***18.04.2007***

**З абурэньнем даведаўся пра тое, што сёлета зноў будзе скарочаная колькасьць «бюджэтных» месцаў у вышэйшых навучальных установах — ажно на сямсот. Гэта значыць, конкурс на бясплатныя месцы ўзрасьце да завоблачных вышыняў.**

**Мой сын у гэтым годзе заканчвае школу. Я вельмі разьлічваў на тое, што ён паступіць ва ўнівэрсытэт, будзе вучыцца за кошт дзяржавы, атрымліваць стыпэндыю. Цяпер бачу, што шанцаў у нас няшмат. Конкурс будзе, відаць, нават сярод мэдалістаў, а мой сын на мэдаль ня цягне.**

**І што ў такім разе ў нас наперадзе? Наш агульны сямейны бюджэт — каля васьмісот тысяч рублёў на месяц.**

**Калі сын паступіць на платнае, за вучобу давядзецца выкладваць больш як тры мільёны на год — трыста тысяч на месяц. Дзьвесьце тысяч ужо цяпер даводзіцца выкладваць за камунальныя паслугі, электрычнасьць, тэлефон. Што застанецца? Трыста тысяч на сям'ю з чатырох чалавек? Гэтага ня хопіць нават на харчаваньне. І як жыць далей?**

**Кіраўнікі Міністэрства адукацыі хлусяць, калі кажуць, што скарачэньне бюджэтных месцаў у ВНУ тлумачыцца тым, што ў Беларусі зьнізілася нараджальнасьць. Насельніцтва ў Беларусі пачало скарачацца з 1995 году, калі Лукашэнка прыйшоў да ўлады. А сёлетнія выпускнікі школаў нарадзіліся ў 1990 годзе, калі з нараджальнасьцю яшчэ ўсё было ў парадку. Дык дзе ж лёгіка ў такім скарачэньні?**

Лёгіка, спадар Зайко, у тым, што ні чыноўнікі Міністэрства адукацыі, ні кіраўніцтва ўраду асабліва не хаваюць, што ў пэрспэктыве бачаць сыстэму вышэйшай адукацыі цалкам пераведзенай на камэрцыйныя рэйкі, платнай.

Іншымі словамі, колькасьць бюджэтных месцаў у ВНУ скарачалася ўсе апошнія гады й будзе скарачацца ў далейшым — аж пакуль такіх месцаў не застанецца ўвогуле (альбо застанецца нязначная колькасьць для льготнікаў).

Думаю, ня толькі вы, спадар Зайко, лічыце, што з прынцыпамі сацыяльна арыентаванай дзяржавы такая стратэгія мае мала агульнага.

Асабліва ўлічваючы той факт, што для сям'і зь сярэднім паводле беларускіх стандартаў дастаткам (у якой муж і жонка атрымліваюць 200–250 даляраў на месяц) платная вышэйшая адукацыя дзяцей становіцца фактычна недаступнай.

## *Андрэй Сякач, Ашмяны*

***25.05.2007***

**У нас у Ашмянах ля старых могілак створаны сапраўдны вялізны сьметнік. Дасылаю разам зь лістом фатаздымкі, якія пацьвярджаюць гэта. Лічу, што старшыню райвыканкаму за такое трэба зьняць з пасады, паколькі ён не адпавядае ёй. А гэтыя здымкі варта было б надрукаваць у замежных выданьнях: можа, Свабода паспрыяла б гэтаму?**

Ня думаю, Андрэй, што замежныя выданьні могуць зацікавіцца сьметнікам на ўскрайку беларускага мястэчка. Дарэчы, прыблізна такую ж карціну можна ўбачыць ля могілак у шмат якіх беларускіх вёсках і невялікіх гарадах — асабліва ўвесну, пасьля Радуніцы, калі людзі ўжо прыбралі магілы сваіх родных.

Куды падзелася сьмецьце пасьля вялікай веснавой прыборкі? Натуральна, яго вынесьлі за агароджу могілак — там і пакінулі. Кантэйнэраў для сьмецьця там (і ня толькі там, але і на вуліцах большасьці беларускіх вёсак) няма, цэнтралізаваным вывазам сьмецьця ніхто не займаецца.

Для Беларусі гэта — вялікая праблема, якую ніхто не вырашае дзесяцігодзьдзямі. І рэч тут ня толькі ў бязьдзейнасьці канкрэтнага чыноўніка, але яшчэ і ў агульнай побытавай культуры ўсёй нацыі.

## *Юрась Навіцкі, Менск*

***30.05.2007***

**Часта ежджу трамваем. На канцавым прыпынку ў Серабранцы нярэдка назіраю адну і тую ж цікавую сцэнку: высадзіўшы пасажыраў, вагонаважатая бярэ ў рукі лом і ідзе «пераключаць» гэным ломам рэйкі — ну, кшталту «самастрэлачніца». Вось вам цудоўная ілюстрацыя так званага «беларускага эканамічнага цуду», пра які столькі распавядаецца на ўладным тэлебачаньні.**

Гэтую карцінку, спадар Навіцкі, дзесяцігодзьдзямі назірае не адно пакаленьне жыхароў Менску. Пры гэтым і большасьць трамваяў на вуліцах беларускай сталіцы — тыя самыя старыя савецкія вагоны вытворчасьці Рыскага заводу, якія бегалі па менскіх вуліцах і ў 60-я, і ў 70-я гады.

Дарэчы, у самой Рызе, дзе яны вырабляліся, іх не куплялі — каб не псавалі выгляду эўрапейскага гораду.

## *Уладзімер Стрэчань, Чарнаўцы, Украіна*

***08.06.2007***

**Ужо каторы год штодня слухаю вашы перадачы зь вялікай цікавасьцю, і вельмі задаволены іх праўдзівасьцю. Я карэнны беларус, але цяпер жыву ва Ўкраіне і сумую па сваёй роднай Беларусі. Што зробіш, так склаўся зласьлівы лёс. Напэўна, і памерці давядзецца на чужыне.**

**У вас на Свабодзе пастаянна вядзецца палеміка наконт ролі ў жыцьці дзяржавы «бацькі» Лукашэнкі. Тут у мяне свой пункт гледжаньня. Ні зь Мілінкевічам, ні зь іншымі апазыцыянэрамі я не пагаджаюся. Хочаце прыклад?**

**Вось я, былы галоўны інжынэр з 25-гадовым стажам працы ў сыстэме Абаронпраму і 45-гадовым агульным працоўным стажам атрымаў ва ўкраінскай дзяржаве пэнсію — аж 80 даляраў. А мая сястра, сельская настаўніца, якая жыве ў Беларусі, атрымлівае пэнсію 160 даляраў. Дзе ж праўда?**

**У той час як украінскія гора-палітыкі імкнуцца ўладкавацца пад крыло Амэрыкі, Лукашэнка паслаў іх куды трэба — і Амэрыку, і іншых. Хто такі Лукашэнка? Як і я, выхадзец зь вёскі. Быў галавою саўгасу і дайшоў да прэзыдэнта. Гонар яму і хвала! Няхай крытыкуюць яго, лаюць, але ён умела трымае ўладу ў руках.**

Уладу ў сваіх руках прэзыдэнт Лукашэнка трымае цьвёрда, гэта праўда, спадар Стрэчань. Трымае

ўжо трынаццаць год, ня надта зважаючы на тое, што ў далёкім 1994-м абіралі яго паводле Канстытуцыі, якая не дазваляла затрымлівацца на прэзыдэнцкай пасадзе больш за дзесяць гадоў.

Як не аддаваць уладу іншым, з гісторыі аўтарытарных рэжымаў добра вядома. Ліквідацыя падзелу ўлады, скасаваньне справядлівых выбараў, уціск дэмакратычных інстытутаў…

Усё гэта рэаліі сёньняшняй Беларусі. Як рэальнасьцю ёсьць і самаізаляцыя дзяржавы ад цывілізаванага сьвету, якая дорага каштуе беларускай эканоміцы.

А цяпер — колькі словаў адносна становішча беларускіх пэнсіянэраў. Тут варта мець на ўвазе некалькі важных акалічнасьцяў, спадар Стрэчань. Па-першае, даляр у Беларусі мае не адну і тую ж вартасьць, што ва Ўкраіне. У Беларусі ў пераліку на даляры даражэй, чым у вас, каштуюць харчаваньне, камунальныя паслугі, паліва.

Так, сапраўды, да 2007 году многія сацыяльныя праграмы ў Беларусі мелі немалое фінансаваньне коштам таго, што краіна атрымлівала танныя расейскія энэрганосьбіты. Але гэтая сытуацыя імкліва мяняецца.

Адно з апошніх рашэньняў улады, якое адаб’ецца на дабрабыце мільёнаў беларускіх пэнсіянэраў — адмена сацыяльных ільготаў. Праезд за паўцаны, бясплатныя лекі, зьніжкі пры аплаце камунальных паслугаў — усё гэта для большасьці беларускіх старых застанецца ў мінулым.

## *Марк Саньнікаў, Добруш*

***13.06.2007***

**Напісаць вам мяне прымусіў мой 90-гадовы дзед Сямён Маркавіч. Доўгія гады ён слухае разнастайныя заходнія радыёстанцыі, і ваша радыё ў прыватнасьці. З раніцы начытаўшыся і наглядзеўшыся афіцыйных газэтаў і тэлебачаньня, зь вялікім нецярпеньнем чакае 18.00, калі выйдзе ў эфір чарговы выпуск Свабоды.**

**Пасьля салодкіх «рэкордаў» і «посьпехаў» ужо вельмі хочацца яму рэальнага інфармацыйнага расолу дзеля адэкватнага ўспрыманьня таго асяродзьдзя, у якім ён жыве. Ягоны аналітычны розум старога чалавека часам захапляе нават маладых людзей. Ну, а высновы і пытаньні могуць загнаць у кут нават самых дасьведчаных прамоўцаў.**

**Ён шмат памятае. Напрыклад, пасьляваеннае зьніжэньне цэнаў на харчы. Альбо савецкі хлеб коштам 16–20 капеек. А вось цяпер ніяк ня можа зразумець, чаму бохан сёньняшняга хлеба каштуе больш за мільён рублёў (з улікам «неадрэзаных» падчас дэнамінацыі нулёў).**

**Дазваляючы сабе на вялікія сьвяты гарэлку, не забывае нагадаць, што купіў яе ў краме больш за пяць мільёнаў «лукеранак», — гэтак жа, як ягоны дзед некалі траціў на гэта мільёны «керанак».**

**Ён не крыўдуе, калі яго называюць «старым маразматыкам», але заўсёды згадвае таго дурня, які сваімі разумнымі пытаньнямі абламаў дзясятак мудрацоў.**

**Паражыўшы бацьку ўсіх народаў таварыша Сталіна і назьбіраўшы сабе на асабістае пахаваньне мільён рублёў пры цяперашнім «бацьку», Сямён Маркавіч наказвае пахаваць яго як «мільярдэра» — на што мае поўнае права, зыходзячы зь лёгікі сваіх развагаў.**

**Ну, а што датычыць адмены льготаў для састарэлых «мільярдэраў», то якія могуць быць ільготы мультыбагатым старым, якія дзяцінеюць ад неразуменьня таго, што адбываецца наўкол?**

**Яшчэ ён ня можа зразумець канцэртных праграмаў «За незалежную Беларусь» і часта пытаецца: «Што, мы ў сябе ў краіне ўжо дастаткова здабываем нафты і газу, каб быць незалежнымі? Відаць, у нас зьявілася сакрэтная зброя ў выглядзе скразной сьвідравіны аж да Вэнэсуэлы ды Ірану».**

**Хоць я стаўлюся да свайго дзеда з павагай, але на пастаўленыя ім пытаньні адказаць часам не магу, хоць абмежаваным сябе не лічу. Можа, вы яму больш даходліва патлумачыце ў сваіх перадачах, чаму ён у такой квітнеючай краіне і пры такіх вялізных грошах — і не алігарх.**

**Патлумачце яму, старому, што ў нашай краіне не прынята пытаць уладу, дзе грошы. Інакш адказ давядзецца шукаць у мясьцінах ня надта аддаленых на працягу пяці з паловай гадоў. З павагай — унук прагрэсіўнага дзеда Марк Саньнікаў.**

Ваш дзед, спадар Саньнікаў, цудоўна разумее тое, што наўкол адбываецца, і ня мае патрэбы ні ў якіх асаблівых дадатковых тлумачэньнях.

Ягоныя іранічныя пытаньні й саркастычныя камэнтары — гэта рэакцыя на сёньняшнюю рэчаіснасьць старога мудрага чалавека, які столькі перажыў і гэтулькі ўсяго пабачыў, што ўжо мала чаму зьдзіўляецца. Хіба толькі чалавечаму глупству, якое качуе зь веку ў век, з эпохі ў эпоху.

Кожнаму новаму правадыру здаецца, што ўжо ён разумнейшы за сваіх папярэднікаў, што пазьбегне іхных памылак і хібаў. І тым ня менш гэтак жа наступае на тыя самыя граблі. Можа, таму, што прага ўлады й імкненьне любой цаной утрымаць гэтую ўладу ў сваіх руках мала мяняюцца на працягу стагодзьдзяў.

А ўвогуле Сямёну Маркавічу, хутчэй за ўсё, патрэбны ня столькі адказы на свае вострыя іранічныя пытаньні, колькі зацікаўлены суразмоўца, жывая душа побач. Думаю, спадар Саньнікаў, вы і самі гэта разумееце.

## *Пётар Навіцкі, Менск*

***13.06.2007***

**Я ведаю, куды зьнікаюць грошы, якія мы штомесяц плацім за камунальныя паслугі. Нядаўна мне самому давялося сутыкнуцца з гэтай сыстэмай. Я быў у шоку.**

**На працы ў камунальнікаў лічыцца вялізная колькасьць так званых «мёртвых душ». Сваякі начальства, майстроў, юрыстаў, бухгальтараў, эканамістаў... Далучаюць да справы нават п'яніц ды інвалідаў. Іхныя карткі на атрыманьне гро-**

**шай — у кішэні брыгадзіра ці майстра. А ім выдаецца нейкая нязначная сума толькі на прапой.**

**Падвойныя стандарты — паўсюль. Так, для скаргаў насельніцтва вядзецца «чорная» кніга, а для праверак кантралёраў ёсьць кніга «белая», дзе ўсё нібыта ў парадку.**

**Сьлесары, сантэхнікі працуюць па заяўках толькі за наяўны разьлік. Грошы робяцца на ўсім — спэцадзеньні, мыйных сродках, прыладах, веніках… Усё толькі на паперы, фактычна нічога не выдаецца.**

**Ёсьць ЖЭСы, дзе начальнікі мяняюцца штогод: нажываюцца і сыходзяць. Асабліва калі вядзецца капітальны рамонт дому. Вось дзе залатое дно для прайдзісьветаў.**

**Скаргі ад жыхароў ідуць па ўсіх інстанцыях. Але ўрэшце яны перасылаюцца тым, на каго людзі скардзяцца. Атрымліваецца нейкае зачараванае кола, у якім начальнікі розных ЖРЭУ і ЖЭСаў адчуваюць сваю поўную беспакаранасьць і ўсёдазволенасьць.**

**Да чаго мы дажыліся: нармальны чалавек ня мае ніякіх шанцаў, каб прыстойна жыць.**

Магчыма, у чымсьці вы, спадар Навіцкі, згушчаеце фарбы, але ў цэлым усе гэтыя хібы, сапраўды, уласьцівыя беларускай камунальнай гаспадарцы. Нават дзяржаўныя чыноўнікі ўсьведамляюць, што манапалізм ЖЭСаў завёў усю сыстэму ў тупік.

Але сытуацыя не такая безнадзейная. Альтэрнатыва дзяржаўным ЖЭСам ёсьць — гэта таварыствы ўласьнікаў, так званыя «кандамініюмы». У Менску ды іншых буйных гарадах іх створана ўжо нямала.

За ўзор узятая сыстэма, якая даўно дзейнічае ў заходніх краінах. Людзі самі выбіраюць сабе кіраўніцтва дому, самі наймаюць на працу сантэхнікаў і прыбіральшчыц, самі кантралююць, як трацяцца грошы.

У доме, дзе я жыву, таксама нядаўна стварылі такое таварыства. Мушу сказаць, што за некалькі месяцаў усе жыхары заўважылі зьмены ў лепшы бок. І гэта пры тым, што плата за камунальныя паслугі ў параўнаньні з папярэднім часам нават зьнізілася.

*Тадэвуш Ляшчынскі, Горадня*

***18.06.2007***

**Днямі пачуў па Свабодзе, што ў Беларусі не хапае трох тысяч лекараў. А куды ж яны падзеліся, калі ўсе мэдычныя ўнівэрсытэты ў нас працуюць на поўную моц і нават пашыраюць прыём студэнтаў? Я ведаю адказ, паколькі мой сын у свой час скончыў мэдінстытут і некалькі гадоў працаваў доктарам у Менску. За цяжкую і адказную працу ў шпіталі яму плацілі 100 даляраў у месяц. А за кватэру ён тады павінен быў аддаваць 120.**

**Ужо некалькі гадоў ён працуе лекарам у Польшчы. Заробак у яго цяпер — каля тысячы эўра за месяц. Кажа, што і там, відаць, доўга не затрымаецца: новыя сябры і калегі клічуць у Вялікую Брытанію, дзе самы нізкі заробак у доктара-замежніка — больш за тры тысячы эўра. Многія польскія мэдыкі менавіта туды едуць на заробкі,**

**з прычыны чаго сама польская мэдыцына адчувае дэфіцыт кадраў.**

**Беларускім дактарам за апошнія гады заробкі крыху падвысілі. Але якое гэта падвышэньне, калі ўлічваць, як хутка ў нас расьце кошт жыцьця? На што можа разьлічваць малады доктар у дзяржаўным шпіталі? На 200 даляраў? А самая танная аднапакаёвая кватэра ў Менску каштуе 60 000 даляраў. Дык за колькі гадоў ён здолее назьбіраць на ўласнае жыльлё? Акурат перад пэнсіяй. І то, калі кошты на кватэры ня зьменяцца (у што верыцца зь цяжкасьцю) . Пры такім стаўленьні дзяржавы да сыстэмы аховы здароўя ў нас добрых дактароў хутка ўвогуле не застанецца, а самі мы будзем душыцца ў яшчэ даўжэйшых чэргах у паліклініках. І асабіста я выйсьця з гэтай сытуацыі ня бачу. У дзяржавы ў сёньняшніх умовах проста няма грошай на тое, каб плаціць дактарам тыя грошы, якія варта даваць за такую складаную і адказную працу.**

З грашыма на мэдыцыну ня ўсё так проста, спадар Ляшчынскі. У дзяржавы знаходзяцца сотні мільёнаў даляраў на дарагія новабудоўлі — спартовыя арэны, лядовыя палацы... Чаму ж гэтых грошай няма на зарплату мэдыкам? Як магло стацца, што дробны столаначальнік, які перакладвае паперкі ў райвыканкаме, атрымлівае ад дзяржавы — у выглядзе заробкаў, прэміяў, санаторных пуцёвак і рознага кшталту льготаў пры атрыманьні жыльля і пэнсіі — у некалькі разоў болей, чым кваліфікаваны доктар, які працуе ў паліклініцы?

Усю сыстэму аховы здароўя ў Беларусі, хутчэй за ўсё, чакае кардынальная рэформа. Адукаваны

і дасьведчаны доктар ня будзе працаваць за тыя ж грошы, якія плацяць прыбіральшчыцы ў якім-небудзь «Белтрансгазе». Ён альбо знойдзе месца ў платным мэдцэнтры, альбо зьедзе за мяжу. Альбо зьменіць працу і стане прыватным прадпрымальнікам. І дзяржаўная сыстэма аховы здароўя ў выніку сутыкнецца зь яшчэ большай кадравай праблемай, з натоўпамі незадаволеных хворых і катастрафічным зьніжэньнем прафэсійнага ўзроўню.

*Ільля Копыл, Менск*

***11.07.2007***

**Калі дзяржава папярэдзіла, што прыватызацыйныя чэкі будуць дзейнічаць толькі да канца 2003 году, я пасьпяшаўся іх укласьці туды, куды прапаноўваў Беларусбанк. У выніку за свае 262 чэкі мы набылі акцыі некалькіх прадпрыемстваў — «Мінскпраектмэблі», Мінскага домабудаўнічага камбінату, «Спэцрадыёналадкі» і «Мінскгрузаўтатранса».**

**І вось у лютым 2006 году «Мінскпраектмэбля» пералічыла нам дывідэнды: за два гады 25 акцыяў (100 чэкаў) прынесьлі мне аж 720 рублёў (30 амэрыканскіх цэнтаў). Такую абразьлівую суму я атрымліваць адмовіўся.**

**А 13 красавіка я атрымаў яшчэ больш абразьлівую суму. Гэтым разам грашовы перавод на 340 рублёў мне даслалі зь «Мінскгрузаўтатранса». Гэта прыбытак за тры з паловай гады за 62 мае акцыі. За такія грошы нават у трамваі не праедзеш. Атрымліваць іх я зноў адмовіўся.**

**На Камароўскім рынку ў мяне ёсьць знаёмы бомж. Прывітаўшыся, ён звычайна зьвяртаецца да мяне з адной і той жа просьбай: «Ільля Піліпавіч, дай тысячу». Мне сорамна даваць адну тысячу: што за яе купіш? Таму даю ад 5 да 10 тысяч. Ведаю, гарэлку ён ня п’е, грошы пойдуць на хлеб... Мне сорамна, а вось дзяржаве чамусьці не...**

Чэкавая прыватызацыя ў Беларусі задумвалася на пачатку 90-х гадоў паводле прыкладу Расеі і краін Усходняй Эўропы дзеля таго, каб больш-менш справядліва падзяліць дзяржаўную ўласнасьць, якую меркавалася перадаць у прыватныя рукі. І хоць у той жа Расеі чэкавую прыватызацыю многія называюць грабежніцкай і падманнай, але тыя расейскія грамадзяне, якія за свае чэкі набылі акцыі, напрыклад, «Газпрома» альбо «Роснефти», сёньня атрымліваюць дывідэнды, якія вымяраюцца тысячамі і дзясяткамі тысяч даляраў.

У Беларусі ўлады вырашылі па-іншаму: акцыі ўсіх высокарэнтабэльных прадпрыемстваў дазволілі набываць толькі за жывыя грошы, а пад чэкавую прыватызацыю пусьцілі тыя прадпрыемствы, жыцьцё на якіх ледзь цепліцца. І тое, што прыбыткі даверлівых грамадзянаў будуць вымярацца зьдзеклівымі сумамі, для адказных чыноўнікаў нечаканасьцю не было.

Іншая справа, што большасьць уладальнікаў чэкаў у падмане ўдзельнічаць не пажадала і дагэтуль, нягледзячы на пагрозу ўлады ўвогуле спыніць чэкавую прыватызацыю, чэкі трымае пры сабе.

## *Леанід Цыбульскі, Рэчыца*

***22.08.2007***

**Мне 71-шы год. За плячыма — галоднае ваеннае і пасьляваеннае дзяцінства, ня надта заможнае юнацтва… У вайну хлопчыкам мне давялося сядзець разам з маці ў хляве, дзе людзі чакалі сьмерці. Немцы нас ганялі, як мінёраў, па шляху — каб у выпадку выбуху ўзарваліся мы, а не яны… Мы галадавалі, харчаваліся лебядой, гнілой бульбай, жалудамі. А скончылася вайна — улада гатовая была задушыць нас падаткамі. Але й сёньня, перажыўшы столькі пакут, я ня бачу палёгкі.**

**Сын на выдатна скончыў вэттэхнікум і вэтакадэмію. Працуе галоўным лекарам у адным з калгасаў Лоеўскага раёну. Аклад у яго — 246 тысяч рублёў. Заробак выдаецца залежна ад наяўнасьці грошай у калгасе. Напрыклад, за травень заплацілі 160 тысяч. За гэты час у гаспадарцы зьмяніліся тры дырэктары. Сын абслугоўвае тры фэрмы — больш за тысячу галоў быдла. З зарплаты вылічваюць за нізкую якасьць малака, за падзёж. Быў выпадак: племянны бык зламаў агароджу і ўтапіўся ў сіласнай яме. Дык вінаватым чамусьці палічылі вэтдоктара — і вылічваюць 357 тысяч рублёў. Вось так ставяцца да маладых спэцыялістаў. Спачатку давялося за свой кошт вучыць сына, а цяпер мушу і ўтрымліваць яго на сваю пэнсію.**

**Дачка зь зяцем і ўнукам жывуць у мяне. Ужо дзявяты год будуюцца. Былі праблемы з электрычнасьцю, з водаправодам. Цяпер вось — з га-**

**зам. Трэба пракласьці 300 мэтраў трубы па вуліцы. Зьвярнуліся да ўлады. Адказ: «Няма грошай, стварайце каапэратыў». А на нашай жа вуліцы жывуць пераважна дзеці вайны, пэнсіянэры. Тым ня менш каапэратыў стварылі, унесьлі год таму больш як мільён рублёў. Грошы «круцяцца», прыносяць газавым магнатам прыбытак, а мы па-ранейшаму нічога ня маем. Вось такі клопат пра чалавека. За мінулы год куды я толькі не пісаў — і прэзыдэнту, і ў газэты. Усе інстанцыі займаюцца адпіскамі, а скаргі ў канчатковым выніку перасылаюцца мясцовым чыноўнікам.**

Рэчыца — нагадаю — якраз той самы горад, дзе сёлета будуць сьвяткаваць усебеларускія «Дажынкі». З гэтай прычыны ў райцэнтры працуюць дзясяткі будаўнічых брыгад з усёй Магілёўшчыны: фарбуюць фасады, мяняюць дахі, кладуць тратуарную плітку і новы асфальт на вуліцах. А на ўзьбярэжжы Дняпра будуюць нават амфітэатар. «Дажынкі» забяруць зь бюджэту мільёны даляраў. Пры гэтым старшыня мясцовай вэртыкалі спадар Баранаў на афіцыйным сайце Рэчыцкага райвыканкаму паведамляе, што зь фінансаваньнем пытаньняў няма, ёсьць пытаньні толькі да будаўнікоў, да якасьці іх працы. Турботы з газавай трубой, на якую нестае грошай і ад якой гэтулькі гадоў залежыць сям’я Цыбульскіх, у праграму падрыхтоўкі да «Дажынак» ня ўпісваюцца. Відаць, таму, што на вонкавае аблічча гораду адсутнасьць газавай трубы ніяк не ўплывае.

*Андрэй Паско, Берасьце*

***31.08.2007***

**Згадваю сваё нядаўняе школьнае жыцьцё. Успаміны гэтыя ня вельмі прыемныя. І вось чаму.**

**У 5-й клясе аднаклясьнік Гена гуляў з п’яным настаўнікам замежнай мовы ў «бэрыка» (даганялку) падчас уроку.**

**У 6-й клясе Гена, Сяргей ды іншыя на ўроку геаграфіі бегалі па партах, пускалі папяровыя самалёцікі, а настаўніка геаграфіі ў вочы называлі «Кефірам».**

**Тады ж, у 6-й клясе, у верасьні падчас нейкай забаўляльнай імпрэзы на прыродзе некалькі аднаклясьнікаў у намёце напіліся сьпірту і не змаглі самі дайсьці дамоў: давялося іх цягнуць за рукі і ногі.**

**...З хлопцам, якога звалі Пеця, я вучыўся ў 8-й і 9-й клясах. Яго білі ўсе два гады безь перапынку. Плявалі, выкручвалі рукі, прымушалі, каб даваў сьпісваць. Аднаго разу выкінулі з трэцяга паверху Пецеў ранец на сьнег. На летняй практыцы Пеця пастаянна цягаў дзьве поўныя палівачкі, у той час як некаторыя не цягалі ніводнай.**

**У 9-й клясе палова хлопцаў курыла, піла і ўжывала «насвай» (лёгкі наркотык).**

**Шмат сустракаў я і добрых, таленавітых аднагодкаў, але згадваецца цяпер чамусьці менавіта гэта.**

Пра жорсткія норавы, якія пануюць у многіх школьных калектывах, у Беларусі пішуць мала —

хіба толькі тады, калі даходзіць да адкрытага крыміналу і трагічных здарэньняў.

Тым больш цікавыя гэтыя сьведчаньні Андрэя Паско, што зусім нядаўна вучыўся ў школе і захаваў у памяці эпізоды, у праўдзівасьці якіх не выпадае сумнявацца і якія хіба толькі ў выключных выпадках становяцца прадметам грамадзкага абмеркаваньня. Хоць пакуль настаўнікі, бацькі і дзеці не пачнуць адкрыта гаварыць пра гэтую праблему — пазбавіцца ад ганебнай зьявы, ад гвалту і прыніжэньня ў школах наўрад ці магчыма.

## *Кастусь Сырэль, Ушачы*

***07.11.2007***

**Недзе каля трох гадоў таму на беразе маляўнічага возера Пліна ля Ўшачаў пачалося будаўніцтва шыкоўнага аб'екту, які вядомы мясцовым жыхарам пад кодавай назвай «Дача Канаплёва».**

**На будоўлю ракой плылі будматэрыялы, а з будоўлі, адпаведна, — неверагодныя чуткі пра трохпавярховы асабняк: пра мядзяныя трубы ацяпленьня, дубовыя шклопакеты за неверагодныя грошы, велічны жалезабэтонны пірс на возеры, «сьціплую» лазьню памерам 6 на 14 мэтраў і фарбу сто даляраў за бляшанку, якой фарбавалі плот вакол лецішча.**

**Але вось надышоў верасень 2007-га, а разам зь ім — адстаўка Канаплёва. Па райцэнтры папаўзьлі чуткі іншага кшталту. Быццам дача тая пабудаваная ня тое што ў водаахоўнай зоне, а**

нават у прыбярэжнай паласе. Быццам наагул не існуе ніякага рашэньня аб адводзе зямельнага ўчастку. Быццам там парушаныя ўсе нормы і законы, якія толькі існуюць.

А 6 кастрычніка ў раённай газэце «Патрыёт» зьявіўся артыкул «Захаваць для нашчадкаў» за подпісам начальніка раённай прыродаахоўнай інспэкцыі.

У публікацыі паведамлялася, што аб'ект на возеры Пліна пабудаваны з парушэньнямі, што лазьня, пірс і плот, якія знаходзяцца ў прыбярэжнай паласе возера, падлягаюць зносу да 2 лістапада. І што калі гэта ня будзе выканана, то вышэйназваныя аб'екты ліквідуюць прымусова.

Цуд дый годзе! Быццам толькі месяц таму даведаліся пра будаўніцтва, якое доўжыцца каля трох гадоў! Але самае цікавае і дзіўнае, што гаспадарамі ўсяго гэтага хараства ды багацьця чамусьці, згодна з артыкулам у раёнцы, аказаўся не Канаплёў, а дзьве нікому не вядомыя асобы…

А можа, і на самай справе Ўладзімер Мікалаевіч ня мае аніякага дачыненьня да гэтага шыкоўнага лецішча? Наўрад ці нам пашчасьціць даведацца праўду, бо ўжо як чыноўнікі ўмеюць вешаць локшыну на нашы разьвесістыя вушы, то гэта проста найвышэйшы пілятаж.

...А лазьню ўсё ж пачалі разьбіраць. Хто-кольвечы з маіх знаёмых ужо марыць, што ў наступным годзе зноў пашчасьціць падзарабіць на гэтай будоўлі — трэба ж і лазьню ізноў ставіць, і плот...

На заканчэньне павінен дадаць, што ў раёне гэта не адзінае лецішча такога кшталту і маштабу.

У сярэдзіне 1990-х гадоў, толькі прыйшоўшы да ўлады, Аляксандар Лукашэнка ўжо спрабаваў распачаць барацьбу з гаспадарамі палацаў, якія якраз тады шпаркімі тэмпамі пачалі расьці ў прадмесьцях Менску ды іншых буйных гарадоў.

Магчымасьць весьці маштабнае будаўніцтва ў той час мелі галоўным чынам чыноўнікі, якія выкарыстоўвалі доступ да дзяржаўных крэдытаў і да фактычна бясплатных зямельных участкаў. Буйныя крэдыты пад нізкі працэнт проста праз год у выніку гіпэрынфляцыі ператвараліся ў мізэрныя сумы, якія чыноўнік вяртаў, не патраціўшы на гэта нават месячнай зарплаты.

Малады прэзыдэнт неаднойчы казаў, што з махлярамі разьбярэцца і пабудаваныя такім чынам катэджы адбярэ.

Але пра адабраныя палацы зьвестак пасьля гэтага не было. А маштабнае будаўніцтва на пачатку новага стагодзьдзя аднавілася, у тым ліку ў запаведных мясьцінах, у водаахоўных зонах.

Цяпер вось улада ініцыявала новую кампанію барацьбы з гаспадарамі палацаў. Ці будзе яна плённай? Улічваючы тое, што фактычныя гаспадары многіх з гэтых катэджаў, лазьняў і пірсаў — самі высокапастаўленыя чыноўнікі, іхныя сваякі, сябры ды зьвязаныя зь імі бізнэсоўцы — наўрад ці.

Іншая рэч — апальныя чыноўнікі, якія страцілі пасады і ўплыў. Але такіх адзінкі.

# 2008

*«Калгасьнікам — граматы і канцэрт,<br>начальнікам — выпіўка і закусь»*

***Пералічваючы купюры з чатырма, а то і пяцьцю нулямі, яны часта блытаюцца ў гэтых сотнях тысяч і мільёнах беларускіх рублёў. І часам спрабуюць прыкінуць: а колькі гэта будзе ў буханках хлеба ці бутэльках малака? Мільянэры ў Беларусі — усе пагалоўна.***

*Аляксандра Булай, Барысаў*

***04.01.2007***

**У цяперашніх скачках цэнаў цяжка нават разабрацца. Калісьці, у савецкі час, я атрымлівала пэнсію 132 рублі. Цяпер атрымліваю каля 400 тысяч. Сума нібыта значная. Але я неяк параўнала яе з цаной на самы неабходны прадукт — хлеб. І жахнулася. Аказваецца, сёньняшняя тысяча беларускіх рублёў роўная 10 савецкім капейкам. То атрымліваецца, што ў пераліку на савецкія грошы мне плацяць усяго 40 рублёў — утрая менш, чым у Савецкім Саюзе. А куды ж ідуць заробленыя намі грошы? На абарону, на спорт, на катэджы для начальнікаў?**

**Але мы — ладна, сваё пражылі. А дзеці? Мне балюча глядзець на іх. Дзе іх шчасьлівае дзяцінства? Мяне і раней абурала, што малых прымушалі аплачваць палову кошту праезду ў аўтобусе. А цяпер, калі іх прымусілі плаціць як дарослых? У некаторых сем’ях па двое ці трое дзяцей. Раніцай маці, даючы грошы на праезд, выціраюць сьлёзы і праклінаюць нашу рэчаіснасьць.**

Хлеб у Савецкім Саюзе, сапраўды, быў танны — ягоная цана лічылася пытаньнем палітычным, за гэтым пільна сачылі. У савецкіх грамадзянаў забіралі іхныя працоўныя рублі (якія потым ішлі, сярод іншага, і на датацыі стратнай сельскай гаспадарцы) іншым чынам. Напрыклад, каб купіць каляровы тэлевізар, вам, спадарыня Булай, давялося б тады адкладаць пэнсію паўгода. І нават маючы грошы, ці купілі б вы яго ў гады перабудовы — пытаньне: чэргі на тэлевізары ды іншую тэхніку тады былі неймаверныя. Цяпер на такую куплю хопіць, напэўна, і месячнай пэнсіі. Так што ў пераліку на тэлевізары вы цяпер атрымліваеце болей. А ўвогуле, каб аб’ектыўна параўнаць тагачасныя і цяперашнія ўмовы, трэба ўлічваць кошт цэлага шэрагу тавараў і паслугаў. Нешта цяпер таньнейшае, а нешта — значна даражэйшае, чым за камуністамі. Хоць увогуле наўрад ці цяперашнія пэнсіянэры адчуваюць сябе больш заможнымі, чым пэнсіянэры 80-х гадоў мінулага стагодзьдзя.

## *Павал Ялец, вёска Губерня, Драгічынскі раён*

***18.01.2008***

**Мая дачка Аляксандра, якой 12 год, заняла першае месца на раённых спаборніцтвах па беларускай мове сярод вучняў шостых клясаў. У якасьці прыза яе ўзнагародзілі паездкай у нацыянальны дзіцячы лягер «Зубраня». Але аказалася, што за ўзнагароду я павінен заплаціць каля трохсот тысяч рублёў (кошт пуцёўкі плюс праезд).**

**Назіраю па тэлевізары, як прэзыдэнт праводзіць хакейны турнір з запрашэньнем аматараў з усяго сьвету. Для іх дарагія гатэлі, прыёмы, экскурсіі — усё бясплатна. Гэта — для замежнікаў. Чаму ж мая дачка — маленькая грамадзянка Беларусі, якая перамагла на алімпіядзе па роднай мове, павінна плаціць за сваю заслужаную ўзнагароду? Дзе справядлівасьць?**

У аналягічнай сытуацыі апынаюцца многія школьнікі, якім прапануюць заплаціць за сваю ўзнагароду. Чыноўнікі Міністэрства адукацыі пры гэтым спасылаюцца на фінансавыя праблемы ведамства: дзяржава, маўляў, здольная аплаціць толькі частку пуцёўкі — рэшту павінны ўзяць на сябе бацькі.

Але трыста тысяч рублёў для многіх беларускіх сем’яў (асабліва ў рэгіёнах) — вялізная сума, непад’ёмная для сямейных бюджэтаў. Ці варта дзівіцца, што такая ўзнагарода падаецца ім падаз-

ронай, нагадвае махлярства вулічных «лахатроншчыкаў»?

Успамінаю сваё дзяцінства. Мяне неаднойчы ўзнагароджвалі пуцёўкамі ў дзіцячыя лягеры «Зубраня», «Артэк». Тады бацькі не плацілі за ўзнагароды сваіх дзяцей ні капейкі.

Жыхары многіх беларускіх вёсак і мястэчак часта сутыкаюцца з праблемай беспрацоўя. Вырашаюць яе па-рознаму. Адны едуць на заробкі за мяжу, пераважна на расейскія будоўлі; іншыя спрабуюць знайсьці працу ў Менску, дабіраючыся туды штодня за дзясяткі кілямэтраў.

## *Леанід Кніга, вёска Сьвіслач, Асіповіцкі раён*

***16.02.2008***

**Непрыемнасьці ў мяне пачаліся пасьля таго, як стаў беспрацоўным — страціў працу спачатку на шклозаводзе ў пасёлку Ялізава, а потым у мясцовым саўгасе. За апошнія адзінаццаць год я толькі ў Адміністрацыю прэзыдэнта зьвяртаўся 15 разоў. І кожны раз мае скаргі пераадрасоўваліся ніжэйшым чыноўнікам. У канчатковым выніку я кожны раз у рэшце рэшт атрымліваў толькі адпіскі. Па-мойму, гэтак адбываецца таму, што ніхто ні за што не нясе ніякай адказнасьці. Адфутболілі — зьнялі з кантролю — паставілі птушачку — і на гэтым праца разам з адказнасьцю скончылася.**

**Дасылаю вам частку сваёй перапіскі. Увогуле, у мяне ўжо набралася больш як сто аркушаў розных адказаў, якія часта супярэчаць і адзін аднаму, і заканадаўству. Мне ўжо ўвогуле нічога не зразумела: хто за кім стаіць, хто каго прыкрывае. У нашай нібыта прававой дзяржаве чыноўнікі ўсіх рангаў ня робяць ніякіх захадаў, каб дапамагчы чалавеку. А да прэзыдэнта дагрукацца немагчыма.**

**Ні ў якія палітычныя партыі я не ўступаў. Але ўладкавацца на працу ў адпаведнасьці са спэцыяльнасьцю па месцы жыхарства не магу — з палітычных матываў. Калі і ўдавалася знайсьці працу — празь нейкі час спрацоўвала «тэлефоннае права» і мяне звальнялі, знайшоўшы якуюнебудзь прычыну.**

**Пры гэтым сьпіртовыя напоі я ўжываю рэдка, а алькагольных сурагатаў увогуле ня п’ю.**

Апошнім часам мы досыць часта атрымліваем такія бандэролі са шматлікімі афіцыйнымі лістамі — шматгадовай перапіскай слухачоў з чыноўнікамі рознага маштабу. Зварот такіх людзей на Радыё Свабода — гэта хутчэй жэст адчаю, імкненьне быць пачутымі. Гартаючы гэтыя тамы нявыдуманых драматычных гісторый, міжволі думаеш: колькі працоўнага часу патрацілі высокааплатныя дзяржаўныя чыноўнікі на тое, каб адмахнуцца ад патрэбаў чалавека, аргумэнтаваць сваё нежаданьне хоць што-небудзь зрабіць для яго.

Вось і лёс Леаніда Кнігі — адзін з прыкладаў гэтага. Чалавек працаздольнага ўзросту, зь сярэдняй спэцыяльнай адукацыяй, у свой час працаваў майстрам на заводзе і начальнікам участку ў саў-

гасе. Мяркуючы па працоўнай кніжцы, меў шмат заахвочваньняў на сваіх пасадах. Ужо адзінаццаць год ён безвынікова дамагаецца хоць якой-небудзь працы. І гэта ў краіне, дзе, як сьцьвярджае афіцыйная прапаганда, беспрацоўя амаль няма, а ва ўсіх рэгіёнах дзейнічаюць фінансаваныя зь бюджэту шматлікія праграмы стварэньня новых працоўных месцаў.

## *Васіль Гапуноў, вёска Летцы, Віцебскі раён*

***01.03.2008***

**Паважаны Валянцін Жданко. Мне і ўсёй нашай брыгадзе падабаюцца вашы перадачы і тое, як вы адказваеце на лісты слухачоў. За гэта — дзякуй. Але нядаўна адзін чалавек пытаўся ў вас, якую зарплату атрымліваюць нашы міністры, дэпутаты ды іншыя начальнікі. Вы ліст зачыталі, і на гэтым — усё, адказу не далі. Ці гэта ў Менску такая таямніца? А людзям жа цікава.**

**Вось мы тут у Летцах даведаліся ў адной работніцы банку, што, напрыклад, галоўны беларускі банкір Пракаповіч атрымлівае штомесяц не адну тысячу даляраў. Калі верыць гэтай работніцы, дык яму аднаму плацяць столькі, колькі ў нашым калгасе — усяму калектыву. Пракаповіч абяцаў, што да 2015 году сярэдні заробак у Беларусі будзе тысяча эўра, ці паўтары тысячы даляраў. Дык яно і цяпер, калі скласьці ягоны заробак і мой (350 тысяч беларускіх рублёў), то сярэдні ў нас на**

**дваіх будзе больш як паўтары тысячы даляраў. Мару пра тое, каб хоць адзін месяц спадар Пракаповіч атрымаў маю зарплату, а я — ягоную. Дужа хараша было б.**

**Адзін наш мэханік кажа: надта разумны той чалавек, які вынайшаў такую сыстэму падліку сярэдняй зарплаты. Трэба яму даць Нобэлеўскую прэмію за такі спосаб адурманьваньня простага народу.**

**І яшчэ адно пытаньне ў нас — да кіраўнікоў беларускага ўраду. Вельмі б хацелася, каб яны зрабілі разьлік (ці склалі мэню), каб людзям было зразумела, як пры сёньняшніх беларускіх цэнах пражыць на 185–200 тысяч рублёў. Няхай напішуць: якую вопратку купляць, які абутак, якія прадукты? Бо, напрыклад, наш аграном хоць і мае вышэйшую адукацыю, але зрабіць такія разьлікі для нас ня можа.**

Дэпутаты, міністры ды іншыя высокапастаўленыя чыноўнікі пра памер сваіх даходаў гавораць неахвотна. Афіцыйным шляхам здабыць дакладную інфармацыю наконт гэтага даволі складана. Тым ня менш аб прыблізных лічбах меркаваць можна. Так, 21 лютага міністар абароны Беларусі генэрал-палкоўнік Леанід Мальцаў на прэс-канфэрэнцыі ў Менску паведаміў, што за месяц цяпер зарабляе 3 мільёны 700 тысяч беларускіх рублёў. Прыблізна такія ж заробкі і ў дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў: ім пасьля рэфэрэндуму 1996 году пачалі плаціць як міністрам.

## *Леанід Цыбульскі, Рэчыца*

***24.03.2008***

**Люблю я вас, свабодаўцы, за праўду. Мне 71 год, але па-сапраўднаму я яшчэ ня жыў і не жыву.**

**Летась у нас у горадзе правялі ўсебеларускія «Дажынкі». Рэчыца стала як велікоднае яйка. Але гэта — звонку. А што ўнутры?**

**Пабудавалі мост цераз чыгунку, пашырылі цэнтральныя вуліцы — гэта добра. А ўскраіны якія занядбаныя былі, такія ж і засталіся. Была ў нас лазьня — разбурылі. Кажуць, з вышыні птушынага палёту кепска выглядала, псавала панараму. Цяпер на ўвесь 50-тысячны горад засталася адна лазьня на 13 месцаў. А на пытаньне «Дзе мыцца?» адказ у чыноўнікаў адзін: «У нас побач Дняпро».**

**За вялізныя грошы пабудавалі амфітэатар — шэдэўр архітэктуры, які ні дня не працаваў. Цяпер яго аблюбавалі галубы. А да іх прыставілі ахову.**

**Нядаўна вырашылі будаваць яшчэ і лядовы палац, бо наш прэзыдэнт вырашыў зрабіць Беларусь хакейнай краінай.**

**Штрафныя санкцыі цяпер — на кожным кроку, усюды. Аказваецца, мы ня маем права курыць расейскія цыгарэты, есьці ўкраінскае сала (паспрабуй перавязі іх празь мяжу). Спаліў туалетную паперу ў сябе ў двары — штраф; перайшоў вуліцу без павязкі, якая адбівае сьвятло (флікера), — таксама штраф.**

**Не ўпільнаваў, што на гародзе вырасла каліва дзікага маку ці канапель — плаці; несвоечасова прыбраў апалае лісьце — таксама плаці.**

**І за тое, што чытаеш забароненую газэту. І што выйшаў на рэчку зь лішнім рыбалоўным кручком альбо злавіў больш за пяць кілаграмаў рыбы... Цікава, што саму рэчку ўлада здала ў арэнду, і ўзаконеныя браканьеры вычэрпваюць зь яе ўсё. Атрымліваецца так: аматар падкормлівае рыбу і ловіць на кручок, а законны браканьер ня корміць, а рыбу выбірае сеткай. Што гэта за ўлада, якая дазваляе такое?**

Наша радыё нядаўна паведамляла, што з ініцыятывы дзяржаўных лясгасаў увялі буйныя штрафы тым, хто наважыцца нарыхтоўваць бярозавы сок. Што далей? Магчыма, увядзеньне абавязковых ліцэнзіяў на збор грыбоў і ягад альбо платных санкцыяў на адпачынак на беразе возера?

## *Кастусь Сырэль, Ушачы*

***19.04.2008***

**Колькі каштуюць сёньня ў нашай краіне нечалавечыя пакуты, зламанае жыцьцё і пажыцьцёвае калецтва васьмігадовага хлопчыка? Колькі каштуюць гора і сьлёзы яго няшчасных бацькоў? Зусім нямнога — усяго адзін мільён беларускіх рублёў. Гэта — сярэдні месячны заробак жыхара нашай сталіцы.**

**Мінулай восеньню ў адным са сваіх лістоў на Радыё Свабода я расказаў пра трагедыю, якая здарылася ў нашым райцэнтры.**

**У двары аднаго зь пяціпавярховікаў па вуліцы Камсамольскай гулялі дзеці, гушкаліся на арэлях. Незамацаваныя арэлі перакуліліся і зламалі васьмігадоваму хлопчыку абедзьве нагі.**

**Міколка (так завуць хлопчыка) ужо ходзіць, але вельмі дрэнна. Пра тое, каб бегаць, няма і гаворкі. Дарога на футбольнае поле ці хакейную пляцоўку для яго закрыта. Кажуць, у яго няправільна зрасьліся косьці, патрэбна складаная хірургічная апэрацыя. Ці дасьць яна плён — невядома. Магчыма, хлопчык застанецца на ўсё жыцьцё калекам, яму будуць недаступныя ня толькі спартовыя гульні, але і шмат якія мужчынскія прафэсіі.**

**Нядаўна адбыўся суд, які прысудзіў выплаціць бацькам Міколкі адзін мільён беларускіх рублёў. Вінаватых не знайшлі, а «стрэлачніка» гэтым разам «прызначыць» не ўдалося. Аб размовах пра тое, як вялося сьледзтва і як праходзіў суд, распавядаць ня буду, бо яшчэ ўпаяюць гадоў сто за паклёп на нашу самую «чэсную» ў сьвеце ўладу.**

Давайце параўнаем гэтую кампэнсацыю дзяржаўных службаў за калецтва васьмігадовага хлопчыка з тымі кампэнсацыямі, якія адсудзілі ў недзяржаўных газэт высокапастаўленыя беларускія чыноўнікі — за тое, што журналісты нібыта зьняважылі іхныя гонар і годнасьць. Такім чынам: пазоў дзяржсакратара Савету бясьпекі Віктара Шэймана да газэты «Навіны» і журналіста Сяргея Аніські — каля 50 тысяч даляраў; пазоў былога старшыні Камітэту дзяржкантролю Анатоля Тозіка да газэты «Наша свабода» і журналіста Міхаіла

Падаляка — каля 56 тысяч даляраў; пазоў дэпутата Нацыянальнага Сходу Сяргея Гайдукевіча да газэты «Народная Воля» — каля 45 тысяч даляраў.

Атрымліваецца, жыцьцё і здароўе дзіцяці суд ацэньвае больш як у сто разоў ніжэй, чым патурбаванае самалюбства надзеленага вялікай уладай начальніка. У каго-небудзь яшчэ застаюцца пытаньні пра ступень незалежнасьці такіх судоў і ўзровень маральнасьці такіх начальнікаў?

## *Аляксандар Корж, Гомель*

***03.05.2008***

**Распавяду, як у адным з райцэнтраў Гомельскай вобласьці звычайна адзначаюць так званыя «працоўныя перамогі» — падсумаваньне вытворчых вынікаў за год і ўганараваньне перадавікоў. Першая частка ўрачыстасьцяў адбываецца адкрыта: гучаць фанфары, калгасьнікам і рабочым за іхную стаханаўскую працу ўручаюць ганаровыя граматы і малакаштоўныя падарункі. Імпрэза заканчваецца сьвяточным канцэртам мясцовай мастацкай самадзейнасьці. Пасьля чаго простыя працаўнікі, натхнёныя наказам на зьдзяйсьненьне новых працоўных подзьвігаў, вяртаюцца ў свой звычайны шэры сьвет штодзённай рутыны.**

**А вось прэзыдыюм сходу і чыноўнікі райвыканкаму са сваімі набліжанымі поўным складам кіруюцца на шыкоўны банкет. Там няма ганаровых грамат, затое ёсьць значна больш рэальныя**

**рэчы. Банкет адбываецца паводле прынцыпу «халява, сэр», але з абавязковай умовай — конкурсам, хто лепш пахваліць кіраўніка мясцовай адміністрацыі. Атрымліваецца так: калгасьнікам — граматы і канцэрт, начальнікам — выпіўка і закусь. А самае цікавае пачынаецца пасьля банкету. Не пасьпявае адʼехаць апошні з запрошаных, як падʼяжджае шыкоўная машына аднаго з кіраўнікоў «вэртыкалі» — і пачынаецца інтэнсіўная загрузка харчоў і пітва, якія засталіся ад банкету. А застаецца, як правіла, нямала. Ня ў крыўдзе і чэлядзь: ім таксама перападае з панскага стала.**

**Такая карціна — звычайная для правінцыйнага жыцьця мясцовай «багемы». Тым больш што нагодаў для сьвяткаваньня хапае.**

**Ды вось бяда для намэнклятуры: людзі ўсё гэта бачаць, ім хустку на вочы не накінеш. Няўжо мясцовыя чыноўнікі так гаруюць, што ня могуць абысьціся бяз гэтага? А можа, для іх ужо надышла сьветлая будучыня ў так званай «сацыяльна арыентаванай» дзяржаве?**

Такая намэнклятурная традыцыя цягнецца яшчэ з савецкага часу. Падобнае ўласьціва, бадай, любому беларускаму рэгіёну. Праўда, ня думаю, што рэшткі са сьвяточнага стала прызначаюцца для кіраўніцтва «вэртыкалі». Калісьці, у часы татальнага дэфіцыту харчаваньня і пітва, так, магчыма, і было. Але цяпер для высокага начальства — гэта надта дробязна. Калі злоўжываньні адбываюцца — дык у іншых месцах і пры іншых абставінах. І дзеляць там зусім ня пляшкі каньяку і не кавалкі вяндліны.

## *Мікалай Лабанаў, вёска Вейна, Магілёўскі раён*

***24.05.2008***

**Нас рабуюць, абкрадаюць розныя прыхадні дзень і ноч — а ўлада амаль не рэагуе і нанесеную шкоду не кампэнсуе. Вось і маё жытло (а гэта хата майго бацькі, камандзіра Чырвонай Арміі, які загінуў на вайне) абакралі на два мільёны рублёў. Міліцыя злачынна бязьдзейнічала і нікога не знайшла, хоць у сяле ўсе факты — на паверхні. Мае скаргі абышлі ўсе суды, але я не атрымаў ад міліцыі кампэнсацыі ні рубля. Наадварот, у Вярхоўным судзе зь мяне, жабрака, садралі ні за што 70 тысяч рублёў (гэта з маёй пэнсіі, якая складае 88 тысяч).**

**Я нарадзіўся і жыву ў гэтым раёне. У вайну за радзіму загінулі 26 чалавек маёй радні. Сам я атрымаў калецтва ў Савецкай арміі, у 1968 годзе, за бязглузды так званы «інтэрнацыяналізм». А нармальнага жыцьця не было і няма.**

**Лес за вёскай Вейна, канавы, дарогі ў лесе ўсыпаны касьцямі, чарапамі, трыбухамі ўкрадзенага быдла. Улетку смурод — не прайсьці. Вось некалькі прыкладаў. Вёска Зімніца. Улетку з фэрмы ўкралі двух коней. Прыехала міліцыя. Рабочыя паказваюць сьляды і пытаюцца: «А дзе ваш сабака? Зь ім злодзея хутка б знайшлі». А сьледчы адказвае, што ягоная справа — паперы, і раіць шукаць участковага, якога ніхто тыднямі ня бачыць.**

**Вёска Косьцінка. У пэнсіянэра Клопава ўначы вывелі карову, за хлявом забілі, мяса вывезьлі. Тое ж самае — у вёсцы Халмы ў Каралёвай Зіны. Вёска Запрудзьдзе. У Клачковай Ніны і Зайцавай Натальлі ўкралі сьвіней... І такіх фактаў — мноства. А злодзеяў ніхто не знаходзіць. Хоць усе пасады ў міліцыі занятыя, усе акуратна атрымліваюць высокія заробкі ды яшчэ і льготы маюць.**

Яшчэ некалькі дзесяцігодзьдзяў таму падобныя выпадкі былі чымсьці выключным для беларускіх вёсак. Не прыпомню, каб у 70–80-я гады ў маёй роднай вёсцы на Гарадзеншчыне хоць аднаго разу здарылася нешта падобнае. Адпаведна, і працы ў мясцовага ўчастковага міліцыянта было ня надта багата — нягледзячы на тое, што ён адзін павінен быў сачыць за парадкам у некалькіх дзясятках вёсак. Хіба што рэйды па навакольных лясах у пошуках самагоншчыкаў даводзілася час ад часу наладжваць.

З таго часу многае зьмянілася ў норавах вясковых жыхароў і ў крымінальных зводках сельскіх раёнаў. А штатны расклад раённай міліцыі і колькасьць участковых, відаць, засталіся нязьменнымі ці нават скараціліся. Затое цэлыя палкі міліцыі і АМАПу ў Менску і буйных гарадах сочаць за палітычнай апазыцыяй, ловяць распаўсюднікаў улётак і газэт, займаюцца разгонам пікетаў і мітынгаў. Хоць бы дзясятую частку гэтых сілаў — на дапамогу такім людзям, як Мікалай Лабанаў, Зіна Каралёва, Натальля Зайцава, якім сапраўды патрэбна дапамога міліцыі.

## *Васіль Валошка, пасёлак Радашкавічы, Маладэчанскі раён*

***06.06.2008***

Усе ведаюць прымаўку: «На здароўі не эканомяць». А вось наша дзяржава эканоміць на здароўі ўласных грамадзянаў. Да прыкладу, адно з найважнейшых для жывога арганізму пытаньняў: якасьць спажыванай вады. Хто скажа, які працэнт насельніцтва забясьпечаны сапраўды якаснай вадой? Думаю, пашанцавала значна меней чым палове беларускага насельніцтва. Узяць хоць бы абезжалезваньне вады. Ці ва ўсіх паселішчах праводзіцца гэтая працэдура? Для прыкладу, у Маладэчне палова насельніцтва п’е ваду, якая праходзіць гэты цыкль, а другая палова фільтруе ваду пры дапамозе ўласных унутраных органаў. Справа ў тым, што ў горадзе два водазаборы: на адным станцыя абезжалезваньня ёсьць, а на другім няма (яна там ужо шмат гадоў на стадыі будаўніцтва). Упэўнены, што такая ж сытуацыя ў сотнях і тысячах паселішчаў па ўсёй Беларусі.

Хто багацейшы, купляе ваду ў краме. Але пераважная частка насельніцтва дазволіць сабе гэта ня можа і вымушана піць іржавую вадкасьць, што цячэ з водаправоднай трубы. На жаль, тыя, ад каго залежыць будаўніцтва такіх станцыяў, самі п’юць ачышчаную ваду, іх гэтая праблема непасрэдна не датычыць.

А можа, нам усім разбавіць гэтую самую ваду (ачышчаную зь неачышчанай) — і атрымаем вад-

**касьць з дапушчальнай канцэнтрацыяй шкодных рэчываў? У нас жа ў гэтай справе вялізны досьвед. Калі вылічваецца сярэдні заробак па краіне, то складаюць даходы мільянэра і жабрака — і ў выніку атрымліваецца 355 даляраў на чалавека.**

У тысячах і тысячах беларускіх вёсак людзі ня маюць доступу ня тое што да абезжалезенай — а ўвогуле да вады, якая б прайшла хоць першасную ачыстку і фільтрацыю. Бяруць ваду адтуль жа, адкуль бралі продкі на працягу апошніх стагодзьдзяў — з калодзежаў, а то і з адкрытых вадаёмаў. Раней, калі на палях не было мінэральных угнаеньняў ды ядахімікатаў, грунтовыя воды былі параўнальна чыстыя. А цяпер?

## *Уладзімер Цішуроў, вёска Навапрудзьдзе, Круглянскі раён*

***23.06.2008***

**Часам думаецца, што паэты, пісьменьнікі цяперашняга часу адлучаныя ад уладнай, дзяржаўнай увагі і літаратурны занятак зрабіўся амаль дармовым, неаплатным. Плата калі і ёсьць, то — мізэрная. Улада найбольш турбуецца пра сваіх чыноўнікаў розных рангаў, і некаторыя зь іх, кажуць, атрымліваюць за месяц да 15 тысяч даляраў. Самі чыноўнікі пра свае аклады маўчаць, як і прэса, якая іх абслугоўвае.**

**Ня так даўно мне за аповесьць прыслалі так званы «ганарар». Ён склаў крыху больш як 200**

даляраў. Гэта — за аповесьць, над якой трэба працаваць, сушыць мазгі не адзін месяц. Паводле якіх мерак і кім прызначаецца такая плата — невядома, але, відаць, робіць гэта нейкі дыскрымінатар творчай працы.

За апошнія восем год я выдаў чатыры кніжкі: дзьве — вершаў і дзьве — прозы. За якія ж грошы? У асноўным зьвяртаўся да людзей — служачых, калгасьнікаў, пэдагогаў, пэнсіянэраў. Давалі хто пяць, хто дзесяць рублёў. Якія былі свае грошы — і тыя аддаваў на выданьне кніжкі. Вось так яна ствараецца, мая літаратура, помнік майму жыцьцю і творчасьці.

Але калі народ абраў такую ўладу, калі галасаваў, то галасаваў за беднасьць пісьменьнікаў. Хаця школьныя настаўнікі пра пісьменьнікаў гавораць узьнёсла, як пра сьвятых ці апосталаў... Стрэўшы мяне на вуліцы, вучні доўга ўглядаюцца, вывучаюць. Якія робяць высновы, вывучыўшы маю зьнешнасьць — невядома... Але, мусіць, бачаць, што настаўнікі кажуць адно, а жыцьцё паказвае іншае.

Пагардлівае стаўленьне да роднай мовы, літаратуры — паказьнік культуры цяперашняй улады. Значныя сумы грошай выдаткоўваюцца на хакей (зь вядомай прычыны), на аграгарадкі (у гэтым слове так многа гырчаньня, немілагучнасьці). Дый будуюцца яны з тым жа гырчаньнем, паскоранымі тэмпамі, у пажарным парадку — што дай бог, каб усё гэта ня скончылася, як савецкае вёскабудаваньне. Дарэчы, тыя савецкія пабудовы, якім ня болей за трыццаць год, руйнуюцца, бурацца і закопваюцца ў зямлю. Ня так даўно ў адной вёсцы нашага раёну пахавалі

**кароўнік. Сьцены бурылі экскаватар і бульдозэр. Белая цэгла была яшчэ прыдатная для будоўлі, сылікатныя блёкі — таксама. Але ўсё гэта было ссунута бульдозэрам у загадзя выкапаны роў і засыпана зьверху зямлёй. Выходзіць так: бацькі аралі зямлю, апрацоўвалі, стараліся вырасьціць добры ўраджай, даілі каровы, гадавалі цяляты, будаваліся. А дзеткі іх працу — у роў...**

**Але дыктатура ёсьць дыктатура. Яна дыктуе сваё і ў гаспадараньні, і ў архітэктуры, і ў культуры, і ў журналістыцы... У выніку — безабліччнасьць, бездухоўнасьць, занядбаньне нормаў маралі. Але змагаймася за правы, за мараль і духоўнасьць. Вось цяпер зноў спрабую зарабіць грошай, каб выдаць кніжку — хаця б 200 асобнікаў.**

Ня ўсе пісьменьнікі ў сёньняшніх беларускіх умовах бядуюць і зьбіраюць па капейцы грошы на выданьне ўласных кніг. Ёсьць і тыя, што і да дзяржаўных выдавецтваў дапушчаныя, і неблагія ганарары маюць, і ўзнагароды з рук чыноўнікаў атрымліваюць. Пра раскол у пісьменьніцкім асяродзьдзі і пра яго наступствы Свабода на працягу апошніх гадоў ня раз паведамляла. Самі літаратары добра ведаюць, што ад іх патрабуецца дзеля таго, каб займець чыноўніцкую ласку і допуск да дзяржаўных грошай. Ласкі гэтай, аднак, не шукалі ні Васіль Быкаў, ні Пімен Панчанка, ні Янка Брыль. Не шукаюць і тыя пісьменьнікі, на якіх трымаецца сёньняшняя літаратура — Рыгор Барадулін, Ніл Гілевіч, Генадзь Бураўкін, Сяргей Законьнікаў, Уладзімер Арлоў...

*Аляксандар Корж, Гомель*

***25.06.2008***

**Ня так даўно на будынку інтэрната папяровай фабрыкі гораду Добруша зьявіўся плякат з выявай задаволеных падлеткаў і надпісам: «Шчасьлівыя дзеці. Што можа быць лепш?..» Але давайце зазірнем у інтэрнат і паглядзім на гэтае шчасьлівае жыцьцё. На некалькі дзясяткаў сем'яў, якія жывуць у інтэрнаце, прадугледжаныя такія, так бы мовіць, «выгоды», як агульныя кухні, агульныя прыбіральні, адсутнасьць гарачай вады і немагчымасьць прыняць штодзённы душ. Ня кажучы ўжо пра тэлефон альбо доступ да інтэрнэту. На радасьць «шчасьлівым дзецям» ды іхным бацькам зусім нядаўна пабудавана гарадзкая грамадзкая лазьня — усяго за паўкілямэтра ад інтэрната. З другога ж боку ад гэтага будынку разьмясьціўся Цэнтар дзіцячай творчасьці. Але ад яго тэрыторыі чыноўнікі адрэзалі ладны кавалак зямлі пад індывідуальны службовы дом для галоўнага раённага начальніка. Вось там будуць усе сучасныя ўмовы, усе выгоды.**

**І цяпер ня могуць простыя бацькі пераканаць сваіх інтэрнацкіх дзетак у тым, што наша дзяржава аднолькава клапоціцца пра дабрабыт кожнага чалавека — кім бы ён ні быў.**

**Пераканацца ў праўдзівасьці апісаных мной фактаў можа кожны ахвотны, наведаўшы горад над ракой Іпуць. Вось толькі спыніцца там на некалькі дзён ня ўдасца — бо гарадзкі гатэль абваліўся.**

Рабочыя інтэрнаты — зьява аднолькава сумная што ў Добрушы, што ў Гомелі, што ў Менску. Калісьці яны задумваліся як часовы прытулак для бескватэрнай і несямейнай моладзі. Але для многіх інтэрнацкае існаваньне расьцягваецца на дзесяцігодзьдзі. Нядаўна праз адну зь менскіх FM-станцыяў я пачуў, як суседзі па рабочым інтэрнаце віншавалі нейкага Лёніка з пакоя нумар 17 з нараджэньнем унука. Жывучы ў інтэрнаце, Лёнік ажаніўся, нарадзіў, выгадаваў і пажаніў дзяцей, стаў дзядулем — а асобнай кватэры так і не дачакаўся.

## *Антон Мелюх, вёска Багданаўка, Лунінецкі раён*

***25.06.2008***

**Я — інвалід другой групы зь дзяцінства. Жыву адзін, у нястачы і крыўдзе. Як жыць далей — ня ведаю. З кожным днём усё даражэе. Крамы для такіх, як я, ператвараюцца ў музэі: паглядзець можна, а купіць — не. У маёй асабістай гаспадарцы нічога няма. Я апынуўся ў вельмі складаным становішчы. Майму жыцьцю не пазайздросьціць ніводзін сабака.**

**У мяне і жытло абы-якое. Парожніх хат у нас шмат — паўвёскі, але ў мяне няма грошай.**

**Прыяжджала па маіх сыгналах шмат камісіяў. Кажуць: «Вам няма дзе жыць? Але і ў нас няма на гэта сродкаў».**

**Куды зьвяртацца — ня ведаю.**

**Вось вы па радыё ўсё абвінавачваеце Лукашэнку. А ён, можа, нічога і ня ведае пра тое, як мы жывем. Усім прэзыдэнт не дапаможа.**

**Я вось тут зьвярнуўся ў нямецкі Чырвоны крыж — каб падарылі мне 9 тысяч эўра. Каб хапіла купіць дом, мэблю, паліва, прадукты, лекі — словам, усё. Мінула ўжо тры гады — ні адказу, ні прывітаньня. Можа, чаго-небудзь вы даб'яцеся ад іх у гэтай справе?**

Пра сваіх сацыяльна неабароненых грамадзянаў найперш павінна дбаць беларуская дзяржава, а не нямецкі Чырвоны крыж. Вы ж, спадар Мелюх, ходзіце на выбары галасаваць не за дэпутатаў Бундэстагу і не за нямецкага прэзыдэнта.

Так, кіраўнік дзяржавы можа ня ведаць пра бядотны стан канкрэтнага чалавека. Але ж тыя раённыя начальнікі, якія прыяжджалі па вашых скаргах і якіх прызначыў на пасады прэзыдэнт, напэўна ж, ведаюць вашу сытуацыю. Дапамагаць такім, як вы — іх непасрэдны службовы абавязак.

Дарэчы, знайсьці ў вёсцы кінутую хату, выкупіць яе за сымбалічную плату (а то і ўвогуле забраць бясплатна) для раённай «вэртыкалі» ня ёсьць надта вялікай праблемай. Прынамсі, 9 тысяч эўра на гэта не запатрабуецца.

## *Мікалай Рыбакоў, пасёлак Копысь, Аршанскі раён*

***28.06.2008***

**Летам у сьпёку прыемна сесьці ў лодку ды паплыць па Дняпры. Але не заўважыш, як аднекуль ззаду падкрадуцца гэтыя так званыя «ахоўнікі». Лодкі ў іх зь японскімі рухавікамі — рухаюцца практычна нячутна. Непадрыхтаванага чалавека выгляд гэтых інспэктараў ня можа не спалохаць. Спыняюць. У руках — аўтаматы АК-74 з кароткім ствалом. Адразу наладжваюцьператрус лодкі. Паводзяць сябе часта непрыязна, некарэктна. Гэта выклікае адпаведнае стаўленьне ў адказ. Няма таго каб падплыць адкрыта, з усьмешкай, назваць сябе, паказаць пасьведчаньні... Тады б і да іх было зусім іншае стаўленьне.**

**А колькі ў нас сапраўды сур'ёзных праблемаў у экалёгіі! Паглядзіце, колькі бруду скідаюць у Дняпро розныя прадпрыемствы, колькі атручваецца рыбы, колькі гіне яе ад кіслароднага голаду на азёрах. А тут злавілі браканьера зь некалькімі кілязрамамі рыбы — і лічаць вялікім дасягненьнем. Неяк не па-людзку ўсё гэта робіцца.**

**Ці яшчэ адзін прыклад — з нашага лясгасу. Летам робяць прарэджваньне — высякаюць хмызьняк, маленькія елачкі, якія самі насяяліся. А зімой, пад Новы год, лясная ахова сядзіць у засадзе, каб, крый Божа, ніхто ня высек елачку. Самі нішчаць больш, чым тыя так званыя «незаконныя вырубшчыкі». Не разумею я такую ахову лесу.**

На працягу апошніх гадоў лясная ды водная ахова атрымалі ад улады такія паўнамоцтвы і такую экіпіроўку ды ўзбраеньне, пра якія колішнія савецкія рыбінспэктары ды лесьнікі нават ня марылі. Іншая рэч — супраць каго накіроўваюцца гэтыя аддзелы апранутых у вайсковую ўніформу і ўзброеных дэсантнымі аўтаматамі людзей? У аблогу трапляюць найчасьцей вясковыя мужыкі, якія спрадвеку лавілі рыбу на гэтых рэках і азёрах, нарыхтоўвалі дровы ў навакольных лясах. Да кіраўнікоў заводу, вытворчыя сьцёкі якога труцяць усё жывое на сотні кілямэтраў уніз па рацэ, гэтых узброеных людзей чамусьці не накіроўваюць... Хоць страты, якія наносяць прыродзе вытворчая хімія, прамысловая нарыхтоўка рыбы і татальная высечка лясоў леспрамгасамі, непараўнальныя з тымі, якія церпяць рэкі і азёры — ад нерата, а лясы — ад сякеры мясцовых жыхароў.

## *Міхаіл Мялешка, вёска Дашкаўка, Магілёўскі раён*

***30.07.2008***

**Я — актывіст апазыцыі з 80-х гадоў. Удзельнічаю ў выбарах і назіраю, як агенты спэцслужбаў сочаць за ўсімі намі. Заўважыў: не пасьпее моладзь пайсьці на справу (разгарнуць пікет ці вывесіць нацыянальны сьцяг) — як іх ужо чакае міліцыя.**

**Лябедзька сваіх прыхільнікаў у рэчыцкім лесе спрабаваў сабраць — і там яго хутка знайшлі.**

**Нават у Расейскай імпэрыі царская «ахранка» баялася сунуцца ў лес, а цяпер не баяцца.**

**Добраахвотныя памочнікі кадэбістаў тэлефануюць у міліцыю, як толькі ўбачаць, што сабраліся некалькі апазыцыянэраў. Маўляў, праверце, сабраліся тэрарысты. Агенты нават у сёлы засяліліся і актыўнічаюць.**

**На мяне тэлефанавалі, калі я яшчэ зьбіраў подпісы за Пазьняка. Паведамлялі ўсе прыкметы: «Паліто шэрае, шапка чорная, высокі, з сумкай» — і мяне ўжо сустракалі.**

**Падазраю, што робяць гэта агенты Масквы — сочаць, палююць на актывістаў беларускага нацыянальнага руху. Усё пытаюць: «Хто ты, адкуль?» Нахабныя, ваяўнічыя. У спрэчках нярэдка можна пачуць ад іх: «Вось хутка Расея ўвядзе свае войскі», альбо пра беларусаў: «Такога народу ніколі не было, яго выдумалі»...**

**І выбух 4 ліпеня ў Менску, я лічу, не абышоўся без рукі Масквы. Яны запалохваюць Лукашэнку.**

Тое, што ў Беларусі спэцслужбы ўцягнутыя ў выбарчую кампанію — шырока вядома. Нядаўна мы падрабязна распавядалі пра гісторыю кобрынскага апазыцыйнага актывіста Алеся Меха. Ён запісаў на дыктафон, як кіраўнік мясцовага аддзелу КДБ пагражаў яму звальненьнем з працы, калі ён адважыцца ўдзельнічаць у выбарчай кампаніі ў якасьці кандыдата ў дэпутаты. І свае пагрозы ўлада ажыцьцявіла: Алеся Меха звольнілі з працы ў Белтрансгазе.

Ня думаю, спадар Мялешка, што агентаў спэцслужбаў адмыслова засяляюць у вёскі, каб сачылі за

апазыцыянэрамі. Звычайна робіцца гэта прасьцей: КДБ знаходзіць так званых «інфарматараў» зь ліку мясцовых жыхароў, якія за невялікую плату, а то і бясплатна, з ідэйных меркаваньняў, даносяць на «нядобранадзейных» суседзяў ды аднавяскоўцаў.

## *Віктар Кляноўскі, пасёлак Друя, Браслаўскі раён*

***10.09.2008***

**Маёй маме 70 год, усё жыцьцё адпрацавала ў калгасе бухгальтарам. Нядаўна цэлы дзень прасядзела ў полі, чакаючы камбайна, які б абмалаціў яе ячмень. А камбайнэры адмовіліся: маўляў, са стагоў не бяром, нам нявыгадна паўгадзіны стаяць на адным месцы. А за камбайн, між іншым, трэба заплаціць 30 тысяч — і розьніцы няма, гектар ён абмалоціць ці 5 сотак. А калі ты ў калгасе не працаваў і не працуеш — дык 50 тысяч.**

**Вось тут і задумаесься: а навошта ўсё гэта патрэбна? Ці не лягчэй і прасьцей купіць усё патрэбнае ў калгасных «несуноў»? А што? Мех крадзенага збожжа — дзьве «бомбы» «шамурлы». І зладзеямі большасьць людзей такіх несуноў ня лічаць. Кажуць так: «У калгасе красьці — ня грэх», альбо «Мы бяром тое, што нам недадае дзяржава».**

**Ці яшчэ адзін прыклад. Да вайны, пры Польшчы, у нас гадавалі якасны лён, які ішоў на экспарт, у Заходнюю Эўропу. Сяляне, якія займалі-**

**ся гэтай справай, мелі добрую капейку. А што цяпер? Вось я, спадзеючыся на высокі заробак, пайшоў у калгас на льноўборачны камбайн. Працаваў цэлы месяц, ад восьмай да восьмай. Толькі некалькі дзён выходных — з-за дажджу. І што зарабіў? 120 тысяч рублёў. Вось гэта даход — аж 50 даляраў за месяц цяжкай працы...**

**А якія ўмовы? Спэцвопраткі не даюць, амаль уся тэхніка дабітая. Камбайн толькі што з капітальнага рамонту, але за месяц дайшоў да ручкі, бо льняное поле — як пасьля бамбёжкі. Хто вінаваты? Напэўна, той мэханізатар, які араў і культываваў поле. Навошта яму старацца, калі можна зьліць салярку з трактара і прадаць спэкулянтам (як яны самі кажуць — «зэканоміць»)?**

Не сваё поле, ня свой трактар і камбайн, нізкі калгасны заробак, які толькі ўмоўна залежыць ад аб'ёму і якасьці тваёй працы... Усё гэта — старыя невылечныя хваробы створанай камуністамі калгаснай сыстэмы. У СССР яна трымалася на шчодрых дзяржаўных субсыдыях — і ўсё роўна не магла забясьпечыць краіну ні малаком, ні мясам, ні хлебам.

Наколькі адрозьніваецца ад той савецкай калгаснай вёскі сёньняшняя вёска беларуская? Калгасы перайменавалі ў каапэратывы — СВК, але і «несуны», і безгаспадарчасьць, і нізкія заробкі, і незацікаўленасьць селяніна ў выніках сваёй працы — усё прынцыпова важнае, на чым грунтаваліся калгасы, — засталося нечапаным.

## *Павал Шэўчык, вёска Любань, Лунінецкі раён*

***01.10.2008***

**Дэпутатам Палаты прадстаўнікоў ад нашай акругі апошнія чатыры гады была Ларыса Вершаловіч. У вясковым асяродку чулася наконт яе дэпутацкай дзейнасьці нямала незадаволеных галасоў. У нашай Лахве два гады таму закрылі ўчастковую бальніцу. Людзі наракаюць, што дэпутаты прагаласавалі за адмену льготаў, асабліва на праезд. Шмат дзе платным стала навучаньне, а заробкі вельмі нізкія. І шмат іншых праблемаў.**

**Але начальства вырашыла пакінуць Ларысу Вершаловіч дэпутаткай. Прывезьлі яе да нас на сход. А як туды завабіць людзей? Начальнікі адчуваюць, які настрой у насельніцтва. Дык што прыдумалі? У СВК «Новае Палесьсе» старшыня ў загадным парадку прымусіла ўсіх спэцыялістаў (бухгальтараў, вэтэрынараў, заатэхнікаў) зьявіцца на сустрэчу з кандыдаткай. А ня прыйдзеш — залічаць прагул на працы. Так што і кворум быў, і сход адбыўся.**

А 28 верасьня ў Лунінецкай акрузе ў такім жа стылі адбылося галасаваньне, у выніку якога, калі верыць афіцыйным вынікам, дэпутат Ларыса Вершаловіч ужо ў першым туры атрымала пераканаўчую перамогу і засталася ў дэпутацкім крэсьле яшчэ на чатыры гады. Ну і на каго цяпер наракаць лахвіцкім дзядзькам і цёткам, што бальніцу ў вёсцы пры маўклівай згодзе дэпутаткі Вершаловіч закрылі, а каб дабрацца да раённай бальніцы, гэтым жа

дзядзькам і цёткам трэба плаціць удвая даражэй, чым раней (за гэта прагаласавала зноў жа дэпутатка Вершаловіч)?

## *Уладзімер Цішуроў, вёска Навапруды, Круглянскі раён*

***15.10.2008***

**Свабода — лічы, адзіная праграма, дзе чуваць праўда жыцьця, галасы людзей, розныя меркаваньні пра тую ці іншую грамадзкую зьяву. Дзяржаўнае радыё замоўчвае актуальныя праблемы. Яно проста запалохана чыноўнікамі ад ідэалёгіі, якія верна служаць Лукашэнку, а той іхную службу добра аплачвае. Нядаўна вычытаў у адным выданьні пра 28-разрадную шкалу аплаты працы ў Беларусі. Можа, я і памыляюся, але падумалася: калі адзін грамадзянін, які на ніжэйшай прыступцы гэтай шкалы, атрымлівае сто тысяч беларускіх рублёў, дык другі — у 28 разоў болей, г.зн. 2 мільёны 800 тысяч? І прэзыдэнт пасьля гэтага заяўляе пра сацыяльную арыентаванасьць нашай дзяржавы?**

**Калі слухаеш нашага «бацьку», дык здаецца, жывеш у краіне-казцы. А зірнеш на навакольнае жыцьцё — казка даволі страшная. Страчаны маральныя каштоўнасьці і арыенціры. У пагоні за залатым цяльцом зьнікаюць сумленнасьць, праўдзівасьць, прыстойнасьць. Зьявілася воўчая псыхалёгія. Раней ідзеш па дарозе, паднімеш руку перад спадарожнай машынай — падбяруць, падвязуць. Цяпер машыны праносяцца па**

**шашы, як злосныя чмялі. І ніхто ня спыніцца. Расьце колькасьць злачынстваў. Церпячы псыхалягічны, маральны дыскамфорт, людзі вёскі сьпіваюцца. Зь іхнымі меркаваньнямі ніхто ня лічыцца, іхнага голасу ніхто ня хоча чуць.**

**Дзякуй, што агучылі даходы дэпутатаў, зьвесткі пра іхнае пэнсійнае забесьпячэньне. Цяпер зразумела, чаму некаторыя «вэртыкальшчыкі» кінуліся ў дэпутаты. Аказваецца, там кавалак тлусьцейшы.**

**Быў перад выбарамі ў адной кампаніі. Жанчына-пэнсіянэрка разважала пра тое, хто будзе дэпутатам: «Дык гэта цяпер у нас Іваноў будзе, яго прызначаць дэпутатам...» Бачыце, якая сьвядомасьць? А колькі ў нас такіх цёмных, затурканых грамадзянаў са сьвядомасьцю сярэднявечнага пэрыяду... Ім загадалі галасаваць за гэтага чалавека — яны так і зрабілі. Ад агульнай булкі дадуць кавалачак — яны і задаволеныя.**

У маёй выбарчай акрузе ў менскім раёне Ўручча пераможцам на выбарах абвешчаны вылучэнец улады, начальнік вайсковай акадэміі. Задэклараваны гадавы даход новага дэпутата, які, заўважым, працаваў на дзяржаўнай службе і атрымліваў грошы зь дзяржбюджэту, — каля 176 мільёнаў рублёў. Гэта прыблізна 7 тысяч даляраў за месяц. Даходы настаўнікаў, выхаваццеляў дзіцячых садкоў, мэдыкаў, якія таксама атрымліваюць свае заробкі зь дзяржаўнага бюджэту, — у 30–40 разоў ніжэйшыя. Пра якую сацыяльна арыентаваную мадэль можна казаць, калі сама «вэртыкаль» сьвядома стварыла такую бездань паміж кіроўнай элітай і асноўнай масай насельніцтва?

# 2009

*«І чаму ў Менску павінны вырашаць,
калі мне ў Докшыцкім раёне можна ісьці
ў ягады?»*

***«З 2011 году, я ўпэўнены, мы будзем жыць як у Эўропе», — сказаў Лукашэнка сьвінаводам і чыноўнікам, прыехаўшы на сьвінакомплекс у Ляхавіцкім раёне ў жніўні 2009 году. Многіх гэтыя словы тады абнадзеілі, а многіх расьсьмяшылі. Усе памяталі, што пачаўся той год з раптоўнай 20-працэнтнай дэвальвацыі беларускага рубля.***

## *Павал Давыдзенка, пасёлак Парычы, Сьветлагорскі раён*

***07.01.2009***

**Пасьля ўсяго, што адбылося *(размова ідзе пра рашэньне ўлады ў адзін момант, рэзка абясцэніць нацыянальную валюту. — В.Ж.)*, не магу спакойна глядзець у вокны, дзе засядаюць разумнікі з прэзыдэнцкай «вэртыкалі». Мне падаецца, што з тых вокнаў тырчаць для простага народу адны кукішы…**

**У нас у Беларусі, як у ніводнай іншай краіне, сілу набрала карупцыя, прадажнасьць чыноўніцкага апарату. А людзей ператварылі ў рабоў і па-**

**рабкаў. Дамагчыся справядлівасьці — амаль немагчыма. На працягу апошніх 15 гадоў спрабую абараніць свае правы, вырашыць канфлікт — і паўсюль натыкаюся на сьцяну чыноўніцкай раўнадушнасьці. Усё безвынікова, атрымліваю на свой адрас суцэльныя адпіскі ды пагрозы.**

**Маю ўласны рэцэпт ад сёньняшняга крызісу. Лічу, неабходна неадкладна напалову скараціць увесь чыноўніцкі апарат, міліцыю, ахову Лукашэнкі. Зрабіць суды незалежнымі ад выканаўчай улады. Прыняць закон аб раўнапраўі чыноўніка і рабочага. Народ павінен кантраляваць усю ўладу — ад пассавету да прэзыдэнта. Яны ж самі кажуць, што ўлада — для народу.**

**А апазыцыі трэба ісьці ў народ, дапамагаць грамадзянам адстойваць свае правы, а не крычаць па завугольлі.**

**Начальнікі ў нас цяпер такія, што гатовыя зьняць зь цябе апошнюю кашулю, распрануць нават голага. І ніякай свабоды мы не дачакаемся, пакуль ня будзем мець сапраўднага нацыянальнага лідэра, які ўзначаліць рух за рэальныя перамены.**

Недахопу ў палітычных дзеячах, якія гатовыя ўзяць на сябе такую адказнасьць, у Беларусі як быццам няма. Ня раз ужо абвяшчалася і стварэньне палітычных і грамадзкіх рухаў за перамены — з адпаведнымі гучнымі назвамі. Пытаньне ў тым, ці гатовая большасьць грамадзтва прызнаць каго-небудзь з гэтых палітыкаў за свайго лідэра, пайсьці за ім і ахвяраваць хоць чым-небудзь асабіста дзеля зьменаў у сваёй краіне. Да нядаўняга часу адказ на гэтае пытаньне быў відавочны — несуцяшальны

для амбіцыяў тых апазыцыйных палітыкаў, што прэтэндавалі на ролю лідэра. Але новая эканамічная рэальнасьць, у якой апынулася з пачаткам году большасьць беларускага грамадзтва, стварае падставы для істотных зьменаў у настроях і памкненьнях беларусаў у блізкай будучыні.

## *Дзяніс Барэйка, вёска Юркаўшчына, Докшыцкі раён*

***18.02.2009***

**Яшчэ гады два-тры таму прэзыдэнт Лукашэнка казаў, што Беларусь будзе абыходзіцца без замежных крэдытаў, каб не закабаляць дзяцей ды ўнукаў. Цяпер жа гэтыя крэдыты беларуская ўлада выпрошвае ледзь не на каленях — і на Ўсходзе, і на Захадзе. Набудуюць лядовых палацаў у кожным горадзе, а настане час гэтыя крэдыты вяртаць — вось тады мы і паспытаем, што такое фінансава-эканамічны крызіс. А так званая беларуская мадэль разьвіцьця пацерпіць поўны крах.**

**Нават у суровыя сталінскія гады ўлада не ўсталёўвала тэрмінаў збору лясных ягад і ня ўводзіла штрафаў за іх парушэньне. І чаму ў Менску павінны вырашаць, калі мне ў Докшыцкім раёне можна ісьці ў ягады? Перасьпелыя ягады асыпаюцца, а пайдзі іх зьбіраць — зьяўляецца міліцыянт і выпісвае штраф. Няўжо дзяржаве выгадней купляць сокі за мяжой, чым даць сва-**

**боду сваім людзям, якія самастойна забясьпечаць сябе вітамінамі?**

**Ці яшчэ адна праблема. З высокіх трыбунаў любяць гаварыць, што ў нас з году ў год расьце ўраджайнасьць збожжа. Дык чаму ў такім разе ўвесь час падвышаюць цэны на хлеб? Можа, тая ўраджайнасьць — «дутая»?**

Узважваць ці то збожжа, ці мяса, ці малако так, каб атрымаць лічбы, якія б спадабаліся начальству, у калгасах за гады камуністычнай улады навучыліся віртуозна. Паводле ўсіх зводак і справаздач, у Савецкім Саюзе вырошчвалася і выраблялася неверагодная колькасьць ежы — прычым лічбы ад пяцігодкі да пяцігодкі расьлі ў разы. На старшынь калгасаў ліўся залаты дождж ордэнаў і мэдалёў. А савецкі рабочы, прыйшоўшы пасьля працы ў харчовую краму, бачыў на паліцах замест мяса — гавяджыя капыты, а замест масла — бляшанкі «ількі ў тамаце».

І яшчэ — наконт імкненьня сёньняшняй улады залезьці ў кішэню вясковага жыхара і вытрасьці адтуль апошнія грошы. У Беларусі ўведзеныя вялізныя штрафы і нават крымінальная адказнасьць за тое, што чалавек без дазволу зловіць рыбу ў сваёй рацэ альбо ўпалюе зайца ў сваім лесе. Тое, што большасьць вясковых людзей ня можа нармальна харчавацца на мізэрныя калгасныя заробкі, у разьлік пры гэтым не бярэцца. Цяпер вось, як бачна, у чыноўнікаў дайшлі рукі і да лясных ягад.

## *Галіна Александроўская, Магілёў*

***11.03.2009***

**Зьбіраюся ў краму. Дастала кашалёк: грошай у ім няма. Пачала ўспамінаць і разьбірацца. Так, сёньня — 21-га чысла. Пэнсію я атрымала 10-га. Звычайна, аплаціўшы ўсе камунальныя рахункі, рэшту я кладу ў таемнае месца і потым па меры патрэбы выдаткоўваю на ўсё неабходнае. Зазірнула ў сваю схованку. Божа, у мяне засталася апошняя дваццатка! А да пэнсіі — больш як два тыдні. Я была ў шоку. Ператрэсла ўсе сумкі, кішэні. Не магла паверыць, што патраціла ўсе грошы. Але я захоўваю касавыя чэкі, таму супакоілася, села і пералічыла ўсе выдаткі. Выявілася, нічога я не згубіла. Усе мае грошы засталіся ў крамах — у выніку таго, што цэны амаль на ўсё падскочылі.**

**Сёньня назірала, як на вуліцы недалёка ад мяне пасьлізнулася і ўпала пажылая жанчына. Я падышла, дапамагла ёй падняцца, спыталася: «Чаму ідзяце пехатой, а ня едзеце аўтобусам?» Яна адказала: «На праезд няма грошай. Да пэнсіі яшчэ далёка, а ў кішэні — толькі сем тысяч». Ёй 78 год. Хацела пехам дайсьці да крамы «Эўраопт»: там прадукты крыху таньнейшыя.**

**У мяне на вачах зьявіліся сьлёзы. У той час як пажылыя людзі, пазбаўленыя льготаў, вымушаныя эканоміць на гарадзкім транспарце, Лукашэнка, як хлопчык-падлетак, з кайфам катаецца з гор то ў Сэрбіі, то ў Армэніі. А хто ж будзе думаць пра старых ды нямоглых, пра тое, як выбірацца з гэтай ямы, у якую мы ўсё глыбей улазім? Можа, Трусаў, Патупа ды іншыя? За час**

**крызісу няблага было б нам пазбавіцца ад усіх трутняў, якія абселі Беларусь, а карысьці ад іх няма ніякай.**

**Для мяне і такіх, як я, гэта ўжо ня крызіс, а самае сапраўднае бедзтва. Усё больш пераконваюся ў тым, што ўлада кінула нас на волю лёсу. Ад кепскага харчаваньня школьнікі і студэнты трацяць прытомнасьць, у пэнсіянэраў ды інвалідаў паніжаны гемаглябін у крыві, слабы імунітэт, таму ўсе часта хварэюць. А на лячэньне няма грошай. Мы асуджаныя на выміраньне. А ўлада тым часам выхваляецца, што з золатавалютнымі запасамі ў яе поўны парадак. Назьбіралі за кошт народу залатых зьліткаў, сядзяць на іх, як Кашчэй, і ўсьміхаюцца. А народ тым часам галадае.**

Уяўленьне пра тое, што беларуская дзяржава надта багатая, што сховішчы Нацыянальнага банку перапоўненыя залатымі зьліткамі і замежнай валютай, даволі распаўсюджанае ў беларускім грамадзтве. Тут пастаралася афіцыйная прапаганда, якая часта паказвае сюжэты, у якіх мільгаюць горы золата і гучаць бадзёрыя камэнтары кіраўнікоў Нацбанку пра тое, што золатавалютныя запасы ў Беларусі ўвесь час растуць. А агаломшаныя пэнсіянэры ў выніку ня могуць зразумець: чаму ж пры такім багацьці ўсе наўкол такія бедныя?

Хоць насамрэч заспакаяльныя рапарты Нацбанку і аптымістычныя рэпартажы пра мітычнае багацьце трансьлююцца галоўным чынам дзеля таго, каб на тле крызісу людзі не паднялі паніку і не пабеглі забіраць з банкаў свае грашовыя ўклады.

## *Мікалай Кернажыцкі, Слуцак*

***15.07.2009***

**Раскажу, як у тых калгасах, празь землі якіх мяркуецца рух прэзыдэнцкага картэжу, рыхтуюцца да прыезду высокага госьця. Вось атрымалі такую каманду з райвыканкаму і ў вядомым на Случчыне аграгарадку Казловічы. Тэрмінова абапал кілямэтровай цэнтральнай вуліцы ў вёсцы Казловічы абнавілі агароджы. А на фарбаваньне іх з ініцыятывы ідэалягічнага аддзелу райвыканкаму ў вёску прыслалі з гораду брыгаду культработнікаў — чалавек дваццаць. Цэлы тыдзень яны шчыравалі з пэндзлямі, ловячы на сабе цікаўныя позіркі вяскоўцаў. За працу гасьцей бясплатна кармілі ў калгаснай сталоўцы.**

**А пазьней стала вядома, што прэзыдэнт Казловічы не наведае, бо выбраў іншы паказальны аб’ект, дзе яго, магчыма, і не чакалі.**

**Паказуха набывае ў краіне характар масавага ўгодніцтва і халуйства.**

Пра тое, як у гарадах ды вёсках рыхтуюцца да ягонага прыезду, сам прэзыдэнт Лукашэнка ведае. Ня раз казаў пра гэта публічна. Лёгіка ў яго такая: любы гаспадар рыхтуецца да прыезду гасьцей і імкнецца паказаць усё самае лепшае. Да таго ж прэзыдэнт хутка зьяжджае, а адрамантаваныя вуліцы і пафарбаваныя дамы застаюцца. І мясцовым жыхарам гэта, вядома ж, падабаецца.

Іншая справа, што думаюць пра гэта тыя культработнікі — бібліятэкары, рэжысэры, музыканты — якіх прымусова адхіляюць ад працы і пасы-

лаюць з пэндзлямі ў руках фарбаваць агароджы. Фармальна гэта — парушэньне закону: ніводзін працоўны кантракт не прадугледжвае, каб гарадскі бібліятэкар працаваў маляром у калгасе. Але ва ўмовах Беларусі адмовіцца ад прымусовай працы можна толькі цаной страты працоўнага месца.

## *Мікалай Бельскі, вёска Малая Беліца, Сеньненскі раён*

***26.08.2009***

**Еду я неяк на сваім матацыкле «Днепр» у вёску Пламя. Толькі выехаў на асфальт — што за ліха? Уся дарога, пачынаючы ад прыпынку і да забалочанага выезду на асфальт — на сотню мэтраў услана макулятурай. Напэўна, нядбайны вадзіцель не замацаваў як сьлед груз, а дарогі ў нас выбоістыя — вось і вытрас. Я спыніўся. Дай, думаю, прыхаплю што-небудзь пачытаць. Іду, разглядаю асартымэнт. І тут раптам голас над вухам: «Коля! Не чапай! Гэта — маё!» Гляджу, аж гэта мой аднавясковец драпежна раскінуў рукі над гарой макулятуры, а побач — фурманка. Ужо гатовы схапіць і везьці знойдзенае ў пункт нарыхтоўкі....**

**З чаго раптам гэта ўспомнілася? А справа ў тым, што я чуў адну гісторыю з ваеннага часу. Толькі што вызвалілі вёску Маргойцы ў нашай мясцовасьці. Было шмат забітых немцаў. Дык перад тым як пахаваць, іх распраналі дагала. А зьнятае адзеньне складалі ў адну вялікую кучу.**

**Дык мясцовыя людзі ўсё ўспамінаюць адну бабу, якая паўзла на тую кучу і таксама крычала: «Гэта — маё!»**

Напэўна, спадар Мікалай, вам варта было б расказаць тую гісторыю свайму аднавяскоўцу, які так апантана абараняў знаходку. Хоць, увогуле, не ад добрага жыцьця кінулася тая жанчына на кучу трантаў, зьнятых зь нябожчыкаў. І, напэўна, ня надта раскашуе ваш знаёмы, калі такія надзеі ўскладае на прыбытак ад здадзенай нарыхтоўшчыку макулятуры.

Ня так даўно ў адным менскім парку я назіраў, як два бамжы кінуліся ў бойку за знойдзеную парожнюю піўную бутэльку. Білі адзін аднаго жорстка і зацята, да крыві — за капеечную шкляную пасудзіну. Сумнае відовішча...

## *Яўген Стужыньскі, Нясьвіж*

***09.09.2009***

**Ці вялікі плён ад паездак Лукашэнкі па краіне? Такія наведваньні прыносяць больш клопатаў працаўнікам вёскі ў гарачы час, чым карысьці. Даводзіцца адрываць людзей ад працы, каб дастойна спаткаць высокага госьця. Трэба і фасады дамоў падмаляваць, і новыя агароджы паставіць, і стэнды з паказчыкамі на поле вывезьці... Раённае начальства кожны дзень не дае спакою.**

**Пра вёску Сноў шырока вядома яшчэ з часоў СССР, калі ўсе абласныя сродкі ішлі на стварэнь-**

не тут узорнай гаспадаркі. І прэзыдэнт прыяжджае сюды ня першы раз — напэўна, яму вельмі хочацца падкрэсьліць, што ў посьпехах найбольшая ягоная заслуга.

Езьдзячы па Берасьцейскай вобласьці, Лукашэнка паабяцаў: «З 2011 году мы будзем жыць як у Эўропе». Але большасьць вясковых людзей ніколі не была ў Эўропе. Яны прывыклі верыць беларускаму тэлебачаньню і дзяржаўным газэтам, і думаюць, што найлепшае жыцьцё — у Беларусі. Выклікае вялікае пытаньне: як пачнуць працаваць эўрапейскія тэхналёгіі, калі вёска сьпілася, працягвае выміраць, а начальства ўмее кіраваць толькі пры дапамозе мацюкоў і пугі?

Мы яшчэ не пазбавіліся ад савецкай спадчыны, якой прасякнута ўсё, ад палітыкі да гаспадаркі. Калі так хочацца прэзыдэнту, па старой звычцы, наведаць нейкую гаспадарку, дык варта рабіць гэта бязь лішняга шуму і натоўпу дзяржаўных журналістаў з загадзя падрыхтаванымі пытаньнямі. Гэта вельмі проста: пасадзіў верталёт без папярэджаньня на любым калгасным полі і пагутарыў з калгасьнікамі пра жыцьцё, без усялякай «паказухі». Але тут усё зразумела: прэзыдэнт даўно пачаў перадвыбарчую кампанію (ён вядзе яе бесьперапынна), а абяцаньне «жыць па-эўрапейску» прымеркавана на 2011 год, калі павінны адбыцца чарговыя выбары.

Нешта не чуваць, каб прэзыдэнты суседніх краін лёталі над палямі і стваралі выгляд нястомных барацьбітоў за ўраджай.

Старэйшыя людзі расказваюць, што калісьці некаторыя адукаваныя памешчыкі выходзілі раніцай разам зь сялянамі на касьбу. У вачах

**сялян такі памешчык вырастаў і рабіўся паважаным чалавекам, які разам зь імі не цураецца простай фізычнай працы.**

**А «чэсныя» журналісты шчыруюць, пішуць, расказваюць і паказваюць, які здольны беларускі прэзыдэнт. Ён і шайбу на лёдзе можа паганяць, і на матацыкле пракаціцца. Але вось за гады свайго кіраваньня ня змог вывучыць беларускую мову. Неяк крыху сорамна робіцца за яго, калі швэдзкі дыплямат размаўляе пабеларуску, а ён — не. Але гэтаму спрыяюць і самі беларусы. Не чуваць беларускай мовы ў Менску ды іншых гарадах на вуліцы, сярод дзяржаўных чыноўнікаў (ня будзем тут казаць пра Латушку). Скажыце, хто сёньня змагаецца за беларускую мову? Трэба браць прыклад з прэзыдэнта і змагацца за яе так, як ён змагаецца за сваю ўладу. Яшчэ ў старажытнасьці гаварылі: «Народы, якія перастаюць змагацца, выраджаюцца маральна і паступова распадаюцца».**

**Вечарам, калі ўся краіна ператворыцца ў тэлегледачоў і пачне жаваць жуйку БТ, а «па скрыні» пакажуць, як прэзыдэнт косіць траву ў Драздах, многія беларусы ўсклікнуць: «Вось гэта — свой хлопец, сапраўдны мужчына!» Вельмі трапна калісьці напісаў рускі паэт Сяргей Ясенін:**

***...Эх, пяро — ня граблі, і каса — ня ручка,***
***І радкі кладуцца ў ранішні туман,***
***Каб іх прачытала кожная карова,***
***Кожная карова, кабыла і баран...***

Асабіста для Аляксандра Лукашэнкі беларуская мова ня ёсьць вялікай праблемай, спадар Яўген. У

дзяцінстве звычайны вясковы хлопчык Саша Лукашэнка і ў хаце, і на вуліцы, і ў школе размаўляў зусім не па-расейску. Ягоныя беларускамоўныя карані і сёньня відавочныя для кожнага, хто слухае яго. Каб перайсьці на беларускую мову, беларускаму прэзыдэнту спатрэбіліся б не гады і нават ня месяцы — некалькі тыдняў.

Іншая справа — ці ўхваліла б такі пераход само беларускае грамадзтва, той электарат, які выбірае прэзыдэнта?

Тое ж можна сказаць і пра шматлікія паездкі Аляксандра Лукашэнкі па палях ды фэрмах. Прадукцыйнасьць сялянскай працы ад такіх візытаў, вядома ж, ня вырасьце: касіць, жаць ды даіць прэзыдэнт нікога не навучыць. Але ўявіце: як бы адрэагавала большасьць беларускага грамадзтва, калі б Лукашэнка адмовіўся ад такіх паездак? Рэакцыя была б зусім не на ягоную карысьць.

## *Зьміцер Хведарук, Жодзіна*

***23.09.2009***

**Нават у салдацкай казарме я застаюся сталым слухачом Свабоды. Штодня ў вольны час уключаю прымач і хаджу па памяшканьні ў пошуках месца з найлепшым сыгналам. Такім чынам можна пастаянна быць у курсе падзеяў у Беларусі і за яе межамі. А паколькі ў казарме такога панятка, як асабістая прастора, не існуе, то і ў хлопцаў зьяўляюцца новыя тэмы для размоў.**

**Праўда, у гэтай мясцовасьці сыгнал Свабоды даволі моцна глушыцца. Даводзіцца літаральна**

**лавіць кожнае слова. Але ад гэтага і асалода, і стаўленьне да ўсяго пачутага зусім іншыя. Нішто ня спыніць голасу Свабоды. Увогуле, адчуваеш сябе нібы ў 50-х гадах. Тым больш што і ў войску многае з тае пары засталося нязьменным.**

**Асаблівую цікавасьць выклікаюць культурніцкія перадачы. Нядаўна слухалі, як адбывалася прэзэнтацыя новай кнігі Сяргея Дубаўца, якая складаецца з эсэ, што гучалі па Свабодзе.**

Некаторыя нашы сталыя слухачы паважнага ўзросту, сапраўды, згадваюць пра тое, што падчас хрушчоўскай адлігі і брэжнеўскага застою ім удавалася слухаць у казармах і на баявых караблях так званыя «варожыя галасы» — Свабоду, «Голас Амэрыкі», Бі-бі-сі. Сёй-той дзеля гэтага, калі верыць пісьмовым сьведчаньням, нават выкарыстоўваў казённае абсталяваньне. Але гэта, натуральна, было выключэньнем, бо спалучалася зь вялікай рызыкай. Атрыбут казармы ўзору 50-х гадоў — гэта ўсё ж не караткахвалевы прымач, а так званы «ленінскі пакой», паліцы з прапагандысцкай літаратурай ды «радыёкропка», па якой з раніцы да вечара гучалі рапарты аб працоўных перамогах ды бадзёрыя маршы.

## *Мікола Корбут, вёска Міхалёва, Бабруйскі раён*

***30.09.2009***

**На чыгунцы ў кірунку Асіповічы — Магілёў ёсьць невялікая станцыя Вонічы (правільна: Войнічы). Там засталіся чатыры хаты, у якіх людзі жывуць у «каменным веку». Ліхтары на слупах каля станцыі запальваюцца ўначы столькі разоў, колькі праходзіць цягнікоў. І праз хвіліну ўсё выключаецца. У хаце да выключальніка ўначы дабіраесься вобмацкам. Каму патрэбна такая эканомія, калі ў нас у Бабруйскім раёне ёсьць фэрмы, дзе тыя ж ліхтары на слупах часта зьзяюць цэлымі днямі, спаборнічаючы з сонцам?**

Тое, што чыгунка намагаецца ашчаджаць электраэнэргію, зусім зразумела, спадар Мікола. Можа, і няма патрэбы ў тым, каб бязьлюдная станцыя зьзяла ўсю ноч? Ня дзеля таго ж гараць на вуліцы ліхтары, каб было сьветла ў хатах і вы маглі лёгка знаходзіць выключальнік. Зрэшты, калі гэта стварае нязручнасьці жыхарам тых чатырох хат, — можа, варта праз сельсавет знайсьці нейкі разумны кампраміс? Галоўнае ж для гэтых людзей, відаць, ня тое, каб станцыя асьвятлялася, а — каб было сьветла ля ўласнай хаты. А для чатырох сядзібаў хопіць на вуліцы і аднаго сьціплага ліхтара.

Дарэчы, наўрад ці здолеюць доўга існаваць пры ўключаным круглыя суткі асьвятленьні і тыя бабруйскія фэрмы, пра якія вы, спадар Мікола, пішаце. Час, калі любыя страты калгасаў кампэнсавала са свайго бюджэту дзяржава, мінае.

## *Уладзімер Іваноў, Смаргонь*

***14.10.2009***

**Згадваю падзеі 13-гадовай даўніны — рэфэрэндум лістапада 1996 году, у выніку якога ў Беларусі была кардынальна зьменена Канстытуцыя і прэзыдэнт набыў права пажыцьцёва заставацца пры ўладзе. Я тады працаваў лекарам у доме-інтэрнаце для псыхічна хворых у Верхнядзьвінскім раёне і быў уключаны ва ўчастковую выбарчую камісію. На жаль, давялося ўдзельнічаць у тым падмане. Напрыканцы галасаваньня мне прапанавалі выйсьці з пакоя, дзе падлічвалі галасы. Я чуў, як званілі па тэлефоне і патрабавалі забясьпечыць 90-працэнтны ўдзел у галасаваньні. Так што асабіста для мяне зразумела, як былі падлічаны тыя галасы.**

**Пад націскам адміністрацыі давялося ўступіць у БПСМ, так бы мовіць, засьведчыць сваю ляяльнасьць.**

**Цяпер я не працую. Зь верасьня 2008 году — інвалід другой групы. Жыць стала цяжка, ледзь зводжу канцы з канцамі. Штомесяц залажу ў даўгі — недзе да ста тысяч рублёў. Уладкавацца на працу немагчыма: з другой групай інваліднасьці нідзе не бяруць. Так што наступствы фінансавага крызісу адчуваю на сабе.**

**Раз на год дапамагае Чырвоны крыж. А адрасная сацыяльная дапамога мне, аказваецца, «не паложана». Калі яшчэ год таму я пры маіх даходах мог дазволіць сабе турпаездку, дык цяпер — не.**

**Калі б наша квітнеючая дзяржава дабавіла да пэнсіі хаця б сто тысяч — было б лягчэй. А так... Я аддаў лепшыя гады жыцьця дзяржаўнай сыстэме аховы здароўя. А ўлада спасылаецца на фінансавыя цяжкасьці. Хоць сама пры гэтым будуе лядовыя палацы, бярэ крэдыты на будоўлю небясьпечнай і, я лічу, непатрэбнай АЭС у Астраўцы. І прасьвету ня бачна.**

Такія ж ці падобныя пытаньні задаюць сёньня многія беларускія пэнсіянэры. Пэнсіі ў Беларусі не падвышалі ўжо больш як год, тым часам як гадавая інфляцыя ў краіне вымяраецца двухзначнай лічбай. Гэта значыць, жыцьцёвы ўзровень пажылых людзей ды інвалідаў пасьлядоўна штомесяц зьніжаецца.

Ці павінна ў такіх умовах дзяржава па-ранейшаму выдаткоўваць мільёны даляраў на дарагія і зусім не першачарговыя будаўнічыя праекты? Ці маюць маральнае права высокапастаўленыя чыноўнікі і дэпутаты атрымліваць шматмільённыя зарплаты ў той час, калі значнай частцы пэнсіянэраў не хапае грошай на самае неабходнае?

Пытаньні выглядаюць рытарычнымі, але самі пэнсіянэры вельмі б хацелі пачуць на іх канкрэтныя і пэўныя адказы ад той улады, якая запэўнівае, што дужа клапоціцца пра ўсіх сацыяльна неабароненых.

## *Кастусь Сырэль, Ушачы*

***14.10.2009***

**Зацікавіла тэма паездак прэзыдэнта Лукашэнкі па ўзорных гаспадарках. Тое, ЯК адбываюцца гэтыя паездкі, толькі шкодзіць іміджу Лукашэнкі і ягонаму аўтарытэту, зьніжае ягоны рэйтынг.**

**Распавяду адну гісторыю.**

**...Гарадзеншчына, ясная жнівеньская раніца ў разгар жніва. На жытнёвым полі — з паўдзясятка камбайнаў, акуратна пашыхтаваныя ўступам. Тут жа, побач, некалькі грузавікоў, «УАЗ-469», «Волга», яшчэ пара легкавушак. Камбайнэры, вадзіцелі аўтамабіляў — на сваіх месцах, за стырнамі тэхнікі, усе апранутыя, як на кіназдымкі пра «тружанікаў сяла». За якіх пару соцень мэтраў ад усяго гэтага, на бліжэйшым пагорку, стаіць малады мужчына з... біноклем на шыі, час ад часу ён прыкладае сваю оптыку да вачэй і пільна ўглядаецца ўдалячынь. Мінае гадзіна, другая. Вось ужо і ранішняя раса зьнікла, выпарылася з набрынялага зернем калосься, сонейка пачало прыпякаць. Чаму ж стаяць камбайны, ня жнуць, час жа прысьпешвае? І што ж там робіць той, што на пагорку, куды ўглядаецца? З кабіны аднаго з камбайнаў вылазіць камбайнэр, пачынае спускацца па лесьвіцы. З уазіка спрытна, нягледзячы на стокілясграмовую вагу, выскоквае мажны мужчына і пагрозьліва крычыць:**

**— Пятро, ты куды, так тваю перагэтак! А ну, назад!**

**— Дык гэта, Іванавіч, я на хвіліначку, надта напёрла, ня вытрываю! Я тут, побач, кола пamaчу — і назад.**

**— Ах ты, гэтак тваюператак! Давай, толькі бягом — і ў кабіну!**

**Мінае яшчэ дзьве гадзіны. Раптам той, зь біноклем, зрываецца зь месца і бяжыць да камбайнаў, крычучы на ўвесь голас:**

**— БАЦЬКА ЕДЗЕ!!!**

**Мажны мужчына з уазіка крычыць: «ДАВАЙ!!!»**

**Грымнулі амаль аднachасова рухавікі камбайнаў і грузавікоў, ажно здрыганулася зямля, залапаталі барабаны, зашамацела салома ў матавілах, пасыпалася зерне ў кузавы — вось яно, жніво, як яго паказваюць у тэленавінах. А на даляглядзе, на чорнай шашы, паказаліся спачатку некалькі міліцэйскіх машын зь мігалкамі, пасьвістваючы час ад часу сырэнамі і крычучы нешта ў магутныя дынамікі, а потым праляцела калёна чорных легкавікоў, і зноў заміргалі міліцэйскія, і вось прамчаліся ўжо побач — і зьніклі, бы й не было іх, пакінуўшы толькі мроіва над чорным асфальтам. Спыніліся камбайны і грузавікі, вылезьлі зь іх мужчыны, маладыя і старэйшыя, стомлена прыселі і прылеглі на ўзьмежку…**

**Цяпер скажыце мне — якая карысьць ад такіх спэктакляў краіне? Якая ад іх карысьць прэзыдэнту? І што будуць думаць пра прэзыдэнта і кіраўніцтва краіны ўдзельнікі гэтых агра-шоў? Каму патрэбная гэтая паказуха?**

Самае дзіўнае, спадар Кастусь, што надта вялікага абурэньня і злосьці сярод удзельнікаў гэтых

шоў няма. Мне таксама даводзілася размаўляць з тымі, хто ўдзельнічаў у падобных, так бы мовіць, «паказальна-пастановачных» імітацыях бурнай дзейнасьці. Так, пасьміхаюцца, так, бурчаць, але каб хтосьці наадрэз адмовіўся ўдзельнічаць у «масоўцы», не апрануў адмыслова прывезены начальствам парадны камбінэзон — такога няма. Людзі ўспрымаюць гэта як нейкі абавязковы рытуал, безь якога, думаюць, — хто яго ведае — можа, і непрыстойна сустракаць высокае начальства?

## *Ірма Табушава, Менск*

***28.10.2008***

**Гадзіну таму, знаходзячыся на сваім працоўным месцы (а пасада ў мяне «важная» — вахцёр будаўнічага інтэрната), пачула па радыё, што ў судах пакаралі 17 удзельнікаў недазволеных акцыяў — тых маладых людзей, каму баліць за Беларусь.**

**А ў гэты час побач са мной праходзіць сход, на які загадана прыйсьці ўсёй моладзі інтэрната. Агітуюць уступаць у БРСМ. Многія з тых, хто на сходзе, ужо лічацца ў гэтай арганізацыі. Як распавядалі мне, кагосьці прымусова загналі, калі служыў у арміі, кагосьці — падчас вучобы ў вучылішчы.**

**А вось абяцаньні агітатараў:**

**— спрыяць у будаўніцтве ўласнага жытла;**

**— выдаваць добрыя характарыстыкі, безь якіх нікуды ня прымуць;**

**— спрыяць удзелу ў экскурсіях ды паездках;**

**— атрымліваць зьніжкі на квіткі ў дыскатэкі, цырк і г.д.;**

**— проста належаць да лепшай часткі моладзі.**

**Кошт уступленьня невысокі: плаціш чатыры тысячы рублёў — і ты ў БРСМ. Запісаліся ўсе. Тых, хто на сход не прыйшоў, перапісалі.**

**На мае пытаньні да некаторых — навошта запісаліся? — у асноўным адмахваліся: маўляў, адчапіся.**

**Агітатары ж сышлі задаволеныя. Выхавальніца — таксама.**

**Разумею, нічога новага я не паведаміла. Але калі сам прысутнічаеш пры гэтым — заставацца спакойнай немагчыма.**

**Ці вось яшчэ прыклады так званай «працы з моладзьдзю» за апошні час. Іх адмыслова возяць, каб пастаялі ўздоўж трасы, па якой будзе катацца на лыжах ці на роліках самы галоўны спартсмэн Беларусі. Альбо наладжваюць паездкі на «Лінію Сталіна» і нават па маршруце Шклоў — Александрыя — Магілёў.**

**І так — паўсюль, ня толькі ў інтэрнаце Менскага будаўнічага камбінату.**

Цяжка паверыць у сьветлую будучыню грамадзкай арганізацыі, якая такімі спосабамі заваблівае (ці зацягвае) моладзь у свае шэрагі. Здаецца, БРСМ імкнецца ва ўсім браць прыклад з колішняга камсамолу. Але ж нават там не прымалі ў арганізацыю гуртам, на сходзе. Быў сякі-такі індывідуальны прыём на бюро райкаму камсамолу. І зьніжак ды льготаў там не абяцалі: гарантавалі толькі, так бы

мовіць, «самаадданую працу дзеля будаўніцтва камунізму». Але гэта — для мільёнаў шараговых камсамольцаў. Самі высокапастаўленыя функцыянэры УЛКСМ на пачатку 90-х гадоў апынуліся ў першых шэрагах тых, хто, прыхапіўшы колішнюю камсамольскую ўласнасьць і напляваўшы на ідэалы, якім служыў, ператварыўся ў новую постсавецкую буржуазію. І гэта — на вачах колішніх сяброў ВЛКСМ, якім яны на працягу дзесяцігодзьдзяў абяцалі бясклясавае грамадзтва ўсеагульнага дабрабыту без прыватнай уласнасьці. Павучальны ўрок для тых тысяч маладых беларусаў, якія ці то добраахвотна, ці то пад прымусам прымацавалі да штрыфляў пінжакоў чырвоныя значкі, што сваімі абрысамі дакладна паўтараюць значкі камсамольскія.

## *Адась Качаноўскі, Маладэчна*

***19.11.2009***

**У першыя пасьляваенныя гады іх было вельмі шмат паўсюль — бяз рук, бяз ног, з пакалечанымі тварамі. Па сутнасьці, гэтых няшчасных людзей кінулі на волю лёсу. Іх можна было ўбачыць на кожным вакзале, у любым людным месцы. Спынялі прахожых, прасілі на ежу... І раптам недзе ў 50-я гады іх ня стала. Мяне гэтае раптоўнае зьнікненьне цікавіць і хвалюе дагэтуль. У свой час я спрабаваў распытваць у сваім асяродзьдзі: куды маглі раптоўна зьнікнуць інваліды вайны? Ніхто мне на гэта адказаць ня змог.**

**На пачатку 90-х гадоў у маскоўскім часопісе «Юность» я прачытаў верш «Інваліды», у якім былі наступныя радкі:**

***Как-то сразу их не стало, как-то сразу***
***замолчала***
***Эта музыка войны. Не видны и не слышны***
***Те, что гибли в плащ-палатках и потом***
***на танцплощадках,***
***Оголив свои медали, чуть хромая,***
***танцевали...***

**І хто дапаможа разгадаць гэты рэбус? Я ня ўпэўнены, але ёсьць адна здагадка: ці ня сталі яны ахвярамі камуністычнага генацыду, на які бальшавікі, як вядома, былі вялікімі майстрамі?**

Гаварыць пра генацыд тут наўрад ці выпадае, а вось тое, што на пачатку 50-х гадоў савецкія ўлады распарадзіліся ўсіх беспрытульных інвалідаў выслаць з гарадоў у адмысловыя дамы-інтэрнаты — дакладна. Такіх людзей налічваліся сотні тысяч. Без жытла, безь сям'і, пакалечаныя, без належнага догляду, на самаробных інвалідных вазочках, што грымелі на ўсю вуліцу. І адначасова — увешаныя савецкімі мэдалямі і ордэнамі. Гэта быў жывы папрок усяму камуністычнаму ладу.

Іх, як правіла, зьбіралі за адну ноч з усяго гораду адмысловыя нарады міліцыі і дзяржбясьпекі, звозілі на чыгуначныя станцыі, грузілі ў цяплушкі кшталту тых, што перавозілі зьняволеных — і накіроўвалі ў аддаленыя раёны СССР у так званыя «дамы-інтэрнаты», далей ад людзкіх вачэй. Пры гэтым адбіралі пашпарты і салдацкія кніжкі. Адна

зь мясьцін, куды прымусова звозілі савецкіх інвалідаў, — выспа Валаам сярод Ладаскага возера, што на расейскай поўначы, у Карэліі. Там у мурах колішняга праваслаўнага манастыра інвалідзкі дом-інтэрнат праіснаваў з 52-га па 84-ты год.

*Мікола Міхед, Фаніпаль, Менскі раён*

***02.12.2009***

**Ехаў я нядаўна ў прыгарадным цягніку. Побач сядзелі чатыры кабеты-пэнсіянэркі. На выгляд — былыя чыноўніцы. Нечакана зайшлі рэвізоры. І як жа гэтыя кабеты ашчэрыліся супраць кантралёраў. Маўляў, чаму пэнсіянэрам нельга езьдзіць бясплатна, як у Расеі ці ва Ўкраіне? Адзін з рэвізораў адказаў ім так:**

**— Дык бярыце сьцяг у рукі і — да Дому ўраду. А мы тут пры чым?**

**Навісла цішыня. Але як толькі рэвізоры пакінулі вагон, у гэтых жанчын рот раскрыўся, як той мех. Тут панеслася, што Лукашэнка — добры, а Юшчанка — дрэнны, бо нядаўна пры сустрэчы з Лукашэнкам размаўляў толькі па-ўкраінску.**

**Я хацеў запярэчыць, але, паглядзеўшы на іхныя твары, перадумаў. Зразумеў: гэта — электарат Лукашэнкі. Яны нагледзеліся і наслухаліся афіцыйнай прапаганды і цяпер замбаваныя да канца жыцьця.**

**Што да спадара Юшчанкі, то ён даў Лукашэнку добры ўрок. Паказаў, хто ў доме гаспадар, як**

**гэты гаспадар павінен ставіцца да мовы свайго народу.**

**А Лукашэнка — адзіны палітык на былой савецкай прасторы, які ня хоча размаўляць на роднай мове. На працягу свайго прэзыдэнцтва ён зрабіў столькі дзеля вынішчэньня беларускай мовы, што да такога не дадумалася нават савецкая ўлада.**

**Але я веру: настане час, калі ўсё стане на сваё месца. За зьняважаную мову, за апаганеныя герб і сьцяг яны яшчэ адкажуць.**

Не, спадар Міхед, Лукашэнка — не адзіны палітык на былой савецкай прасторы, які ня хоча размаўляць на роднай мове. Ёсьць такія і ва Ўкраіне, і ў Малдове, і нават у краінах Балтыі — зь ліку тых, хто мроіць пра аднаўленьне былой расейскай імпэрскай велічы. Праўда, час такіх палітыкаў хутка сплывае, і саміх іх, чым далей ад распаду СССР, тым становіцца меней.

А вось сярод прэзыдэнтаў незалежных дзяржаў такі выпадак, каб агульнанацыянальны лідэр пагардліва ставіўся да дзяржаўнай мовы таго народу, які ён узначальвае, — сапраўды ўнікальны. Ну, але тут многае залежыць ад самога гэтага народу. Калі б самі беларусы ў сваёй большасьці па-іншаму ставіліся да роднай мовы — напэўна, загаварылі б на ёй і чыноўнікі, і прэзыдэнт.

## *Станіслаў Тунік, вёска Шупейкі, Сьветлагорскі раён*

***09.12.2009***

**Нарэшце будзем жыць так, як жыве Эўропа — Лукашэнка гэта прылюдна паабяцаў падчас наведваньня сьвінакомплексу ў Ляхавіцкім раёне. Прыходзяць на памяць падобныя выказваньні правадыроў савецкага часу — напрыклад, абяцаньне Хрушчова, што цяперашняе пакаленьне савецкіх людзей будзе жыць пры камунізьме. Усе ведаюць, чым тое будаўніцтва скончылася.**

**Я не магу зразумець, што меў на ўвазе Лукашэнка, калі казаў гэтыя словы. Можа, ён гаварыў пра цэны на харчаваньне? Тады — так, яны ў нас ужо і цяпер такія ж, як у Эўропе. А можа, меліся на ўвазе заробкі і пэнсіі? Тады гэта — нездаровая фантазія, у якую ў нас сёньня ніхто не паверыць.**

**А можа, наш кіраўнік проста ня мае рэальнага ўяўленьня пра ўзровень жыцьця ў Эўропе? Пятнаццаць год ізаляцыі ўсё ж зрабілі сваю справу. За такі час, сапраўды, можна страціць арыентацыю.**

**Я ў сувязі з гэтым згадваю пачуты па Свабодзе расповед аднаго слухача пра тое, як у калгасах рыхтуюцца да прыезду прэзыдэнта. Гэта — вышэйшая ступень паказухі і падхалімства.**

**А зрэшты, чаму б і не абяцаць... Абяцаў жа ўжо некалі і савецкія ўклады вярнуць, і маёнткі ў «царскіх сёлах» вакол гарадоў адабраць.**

Заўважу, спадар Станіслаў, што з таго часу мінула ўжо чатыры месяцы, і да гэтай тэмы (абяцаньня, што беларускія грамадзяне праз год будуць жыць як у Эўропе) больш ні разу публічна не вяртаўся ні прэзыдэнт, ні іншыя высокапастаўленыя чыноўнікі. Мяркую, усё ж сэнс славутай фразы трэба разглядаць у кантэксьце той жнівеньскай паездкі Аляксандра Лукашэнкі па палях ды фэрмах Ляхавіцкага раёну. Гаварыў ён тады пра тэхналёгіі жывёлагадоўлі, якія трэба пераймаць у Эўропе, пра тое, што пачынаецца рэвалюцыя ў сьвінагадоўчай галіне. Вучыў, як правільна абыходзіцца з саломай. І сказаную сярод усяго гэтага фразу, што «з 2011 году мы будзем жыць як у Эўропе, падцягнуўшы і іншыя напрамкі», наўрад ці варта ўспрымаць як абяцаньне эўрапейскіх заробкаў ці эўрапейскага ўзроўню жыцьця.

## *Валеры Ганчарэнка, пасёлак Багушэўск, Сеньненскі раён*

***10.12.2009***

**Я — былы кандыдат у дэпутаты абласнога савету. Цяпер знаходжуся ў палаце сухотнага лепразорыю. Нас тут схавалі, бо мы носьбіты бактэрыялягічнай зброі і небясьпечныя для іншых грамадзянаў.**

**Чуў, што ў Беларусі пры лячэньні такіх, як я, хворых адмаўляюцца ад замежнай дапамогі. Дый навошта, калі ёсьць уласныя сродкі 40-гадовай**

даўніны? А зьменшыць колькасьць хворых на сухоты вельмі проста — калі прычыны сьмяротнасьці сьпісваць на іншыя хваробы.

Ну вось, цяпер я зноў кандыдат, толькі не ў дэпутаты, а ў каралеўства Аіда. Жыць мне засталося — некалькі месяцаў. Гэта мая доля — што зробіш. Але ёсьць у мяне жаданьне зрабіць радзіме нешта добрае. Вунь колькі нераскрытых злачынстваў у Беларусі — нягледзячы на тое, што міліцыі ў нас ужо больш, чым вайскоўцаў. Дык магу прапанаваць сьпісаць усе гэтыя злачынствы на мяне. Вось статыстыка раскрывальнасьці адразу палепшыцца!

Тым больш што досьвед такі ў міліцыі ўжо ёсьць. Ужо другі раз супраць мяне заведзена крымінальная справа паводле артыкула 205 — абвінавачваюць у крадзяжы ровара. Апэратыўнікі Чыгуначнага РАУС злавілі мяне праз суткі. На гарачым учынку не злавілі, але... Відаць, вельмі пакрыўдзіліся ў 2007 годзе, калі гэтак жа абвінавачвалі мяне паводле артыкула 206, а я паскардзіўся ў Адміністрацыю прэзыдэнта. Тады справа была спынена.

Шукаць праўды ў іх няма сэнсу. А ніякага ровара я ня краў. Гэта — фабрыкацыя чыстай вады.

А тое, што я, па сутнасьці, бомж, што сацыяльнага жытла не атрымаў, пэнсіі па інваліднасьці не аформіў, на працу з прычыны сваёй хваробы не ўладкаваўся — гэта клопат нашай дзяржавы аб хворых на сухоты. Што ж, няхай гэтая ўлада ставіць кропку, я не жадаю жыць у такой дзяржаве!

Вельмі сумна было чытаць гэтую вашу, спадар Валер, поўную безвыходнасьці, крыўды і адчаю споведзь. Ня складвайце рукі, не адчайвайцеся, змагайцеся. Якая б ні была хвароба — гэта не прысуд.

## *Мікалай Рыбакоў, пасёлак Копысь, Аршанскі раён*

***23.12.2009***

**Паўсюль абыякавасьць: нават у вёсцы ўжо спрадвечную народную гарэлку ніхто вырабляць ня хоча. Няхай гніюць яблыкі, сьлівы — ніхто рукі не прыкладзе. Думаеце, міліцыі баяцца? Ды міліцыя тут ні пры чым. Проста разгультаіліся людзі.**

**Ад сьліў сёлета ўлетку і ўвосень аж гольле ламалася. А тым часам «чарніла» на вінзаводах вырабляюць з канцэнтратаў — розных «Юпі» ды «Інвайтаў». Памятаеце, як у рэкляме: «Проста дадай вады». Добра, што апошнім часам улады, здаецца, пачалі скарачаць выраб гэтага пойла.**

**Увогуле, лічу, што ў 70–80-я гады гэтыя шырока вядомыя ў народзе пладова-ягадныя вырабы ў параўнаньні зь цяперашнім «чарнілам» маглі б лічыцца належнымі да клясы «прэміюм». Бо яно і сапраўды так. Тады не было ні фарбавальнікаў, ні араматызатараў, ні іншай хіміі. Усё натуральнае: яблыкі, сьлівы, дрожджы. Ну, яшчэ цукар.**

**Але знаўцы ведаюць: нішто па якасьці ня можа зраўняцца з прадуктам уласнай хатняй вытвор-**

**часьці, выробленым выключна з натуральных кампанэнтаў. У адпаведнасьці са старымі рэцэптамі продкаў. Ды толькі здрабнелі людзі, страцілі кваліфікацыю. Але ж ня ўсе…**

Ня ўсе, спадар Мікалай, страцілі кваліфікацыю. Далёка ня ўсе.

Перад сьвятамі нашы рэгіянальныя карэспандэнты адмыслова дасьледавалі стан рэчаў у розных вядомых гэтым народным прадуктам мясьцінах Беларусі — і ў старадароскіх лясах, і ў Налібоцкай пушчы, і на Нарачы, і на Шчары… Зь першых рук атрыманыя самыя дакладныя зьвесткі: народны промысел не забыты, дзедавы рэцэпты шырока выкарыстоўваюцца. Па-ранейшаму можна пакаштаваць і «жытнюю», і «пшанічную», і «цукроўку», і «чыгуноўку»… Дзяржава, вядома, пабойваецца за сваё манапольнае права на гарэлачныя даходы і спрабуе змагацца з самадзейнымі броварамі. Ну, але гэта, як сьведчыць гісторыя, — працэс ня надта плённы, шматгадовы, а можа, і бясконцы.

# 2010

*«Беларускае ноў-хаў — плуг, разьлічаны на адну цяглава-чалавечую сілу»*

***Коней у калгасе няма, трактару на вузкім агародзе няма дзе разьвярнуцца, а на матаблёк у вясковых людзей няма грошай… Беларуская прамысловасьць дапамагла: асвоіла выпуск плуга, у які можна ўпрагаць не каня, а чалавека.***

## *Станіслаў Тунік, вёска Шупейкі, Сьветлагорскі раён*

***13.01.2010***

**Падышоў у нашай сьветлагорскай краме да мясного аддзелу. Чаргі няма. Прадаўшчыца выкарыстоўвае вольную хвіліну: вільготнай анучкай працірае каўбасы коштам 39 тысяч рублёў і вышэй. Відавочна, каб надаць таварны выгляд заляжаламу далікатэсу. Убачыўшы мяне, хуценька хавае анучу…**

**Іду далей. У іншым аддзеле прыцягнуў увагу плуг са зьменным абсталяваньнем, разьлічаны (увага!) на адну цяглава-чалавечую сілу. Кошт — 150 тысяч рублёў. Купляй, упрагайся замест каня — і наперад! У цяжкія пасьляваенныя гады было тое ж самае, толькі аралі плугам, разьліча-**

ным на адну конскую сілу. Таму цягнулі плуг некалькі чалавек. А цяпер вось як далёка ў Беларусі пасунуўся праґрэс, якое ноў-хаў! Вынаходніку трэба даць прэмію імя Лукашэнкі.

…У аддзеле бытавой тэхнікі беларускія тэлевізары «Гарызонт» і «Віцязь» з экранам 32 цалі прадаюцца за 2 мільёны 320 тысяч рублёў. Ведаю, што ў Расеі такія тэлевізары каштуюць прыблізна 12 тысяч расейскіх рублёў — гэта значыць, амаль удвая таньней.

Амаль такая ж сытуацыя з цэнамі на цукар, малочныя прадукты і многія іншыя тавары. Вось так улада выяўляе бацькоўскі клопат пра нас, сваіх падданых. За кошт непамерных коштаў забясьпечваюць сабе і прамысловым прадпрыемствам бязьбеднае жыцьцё. Ведаю, што ў Менску самыя высокія заробкі ў Беларусі. За адну і тую ж працу там плацяць вышэй, чым у рэгіёнах, матывуючы тым, што ў сталіцы вышэйшы кошт жыцьця. А я мяркую, што прычына ў іншым. Проста ўлада баіцца менчукоў, апасаецца, каб ня выйшлі на плошчу. Таму і спрабуе прыкарміць. А яшчэ праз усе сродкі масавай інфармацыі намагаецца насадзіць аптымізм, абяцаючы сьветлую будучыню.

Так, за час кіраваньня Лукашэнкі жыцьцё зьмянілася, але ня дзякуючы так званаму «мудраму кіраўніцтву», а насуперак яму. Прадпрымальныя, ініцыятыўныя прыватнікі апранаюць і кормяць большую частку насельніцтва, а ўлада, чыноўнікі толькі ставяць розныя перашкоды і абмежаваньні ў выглядзе розных інструкцыяў ды ўказаньняў.

Чуткі пра надзвычай высокія менскія заробкі дужа перабольшаныя, спадар Станіслаў. Розьніца, вядома, ёсьць — і ў зарплатах, і ў кошце жыцьця. Гэтая зьява ўласьцівая амаль усім краінам. Але ў Беларусі адрозьненьні тут меншыя, чым, напрыклад, у Расеі ці ва Ўкраіне. Настаўнікі, мэдыкі, рабочыя на большасьці менскіх прадпрыемстваў зарабляюць прыблізна гэтак жа, як і ў вас у Сьветлагорску. Для бюджэтнікаў у Беларусі дзейнічае адзіная тарыфная сетка аплаты, а прамысловыя гіганты сёньня амаль паўсюль у цяжкім стане. Выробленае прадаецца зь цяжкасьцю, многія заводы перайшлі на няпоўны працоўны тыдзень…

Вядома, ёсьць галіны, якія крызіс закрануў у меншай ступені. Напрыклад, многія будаўнікі з маленькіх гарадоў шукаюць і знаходзяць працу на менскіх будоўлях: заробкі тут часам у некалькі разоў вышэйшыя, чым у рэгіёнах. Асаблівая каста ў Беларусі — менскія чыноўнікі зь іхнымі высокімі рангамі і пэрсанальнымі акладамі ды пэнсіямі… Але ўсё ж у цэлым падкупіць, прыкарміць усю двухмільённую сталіцу — а гэта амаль чвэрць насельніцтва краіны — улада сёньня ня здольная.

…А што да апісанага вамі, спадар Станіслаў, выпадку ў мясным аддзеле, то гэта шырока вядомая сярод прадаўцоў невялікая хітрасьць — праціраць ляжалыя вэнджаныя каўбасы алеем. Пакупнікоў на іх пры такіх коштах няшмат, а страты крамы кладуцца цяжарам на і без таго ня надта высокія заробкі прадаўцоў. Вось яны і выкручваюцца як умеюць…

## *Мікола Корбут, вёска Міхалёва, Бабруйскі раён*

***20.01.2010***

**Хто-небудзь можа сказаць, колькі дакладна нам сёньня не хапае электраэнэргіі? Насельніцтва ж у краіне скарачаецца. У многіх вёсках ужо толькі па адной жылой хаце засталося.**

**Некаторыя спосабы эканоміі самі напрошваюцца. Напрыклад, у нас у Бабруйску з савецкага часу і па сёньняшні дзень ва ўсіх шматкватэрных дамах на цэлы пад’езд — адзін выключальнік (на лесьвічнай пляцоўцы першага паверху). А паколькі на першым паверсе лямпачкі часьцей за ўсё няма (з розных прычынаў), дык і незразумела, уключана сьвятло на верхніх паверхах ці не. Так што ў многіх месцах лямпачкі гараць і ўначы, і ўдзень. Няўжо нельга ўсталяваць на кожным паверсе сучасныя выключальнікі, як у новых дамах?**

**А ў моладзевых інтэрнатах што робіцца — проста жах! Чалавек засяліўся, уключыў сьвятло — і выключыць яго ў лепшым выпадку толькі пры перасяленьні ў новую кватэру. Няўжо пабудаваць АЭС таньней, чым усталяваць у кожным пакойчыку лічыльнік?**

**Мабыць, сапраўды, мы ідзем не за цывілізаваным сьветам. А разабрацца ў гэтым нам толькі Бог дапаможа, як сказала па Свабодзе адна слухачка.**

У Беларусі з савецкага часу амаль некранутай засталася сыстэма дзяржаўных камунальных службаў. Манапалісту, які прывык наракаць на стратнасьць сваёй сфэры і жыць на бюджэтныя датацыі, мала рупіць тое, што недзе суткамі гараць лямпачкі альбо цякуць водаправодныя трубы. Усталёўваць лічыльнікі, весьці ўлік, наладжваць кантроль — гэта ж клапотна. А так усё ідзе як ідзе: большымі будуць страты — больш кампэнсацыі павінен заплаціць манапалісту дзяржбюджэт. Такая завядзёнка існавала дзесяцігодзьдзямі. І працягвае існаваць. Ушчуваць і ўпрошваць дзяржаўныя ЖЭСы — марная справа. Прайдзіце па шматкватэрных дамах, якія абслугоўвае ня ЖЭС, а таварыства ўласьнікаў. Там і энэргазьберагальныя лямпы, і выключальнікі, што рэагуюць на рух: усё імгненна мяняецца там, дзе зьяўляецца асабістая зацікаўленасьць чалавека ў эканоміі.

## *Васіль Валошка, Радашкавічы, Маладэчанскі раён*

***17.03.2010***

**Шмат разоў назіраў у аптэцы такую сытуацыю. Падыдзе чалавек да акенца, пачуе ад фармацэўта, колькі каштуюць выпісаныя яму доктарам лекі — і адыходзіць, нічога не купіўшы. Яшчэ страшней, калі гэтыя лекі былі прызначаныя дзіцяці...**

**Наша ўлада часта хваліцца, што беларусы нібыта жывуць лепш, чым людзі ў суседніх**

**постсавецкіх краінах. Але як жа лепш? Я ведаю, што, напрыклад, у Літве хранічна хворыя маюць ільготы на лекі — незалежна ад таго, лічацца яны інвалідамі ці не. Ва Ўкраіне грамадзяне, якія нарадзіліся незадоўга да вайны ці падчас яе, афіцыйна прызнаныя дзецьмі вайны, і для іх таксама ўведзены льготы, у тым ліку на лекі. І гэта ў той краіне, зь якой кпяць нашы ўлады — маўляў, там хаос і некіраванасьць у эканоміцы.**

**А ў нас тым часам у вялізнай колькасьці па ўсёй тэрыторыі краіны ўзводзяцца лядовыя палацы. Чыноўнікі апраўдваюцца: маўляў, спорт — найлепшыя лекі ад хваробаў. Хоць усе ведаюць, адкуль такая любоў да хакею і ў каго паталягічнае захапленьне гэтай гульнёй. У гэтага апантанага хакеіста нават пэрсанальная хакейная каманда ёсьць. Цікава, з чыёй кішэні яна аплачваецца?**

**Вось задаць бы нашаму прэзыдэнту пытаньне: калі б у ягонай сям'і нехта захварэў — што б ён купіў: лекі для гэтага хворага ці хакейную амуніцыю для кагосьці іншага зь сям'і (пры ўмове, што сямейнага бюджэту хапае толькі на нешта адно)? Думаю, што куплены былі б усё ж лекі. Дык чаму ў дзяржаве ўсё па-іншаму? Чаму свайму электарату, які за яго ўвесь час галасаваў (а сярод гэтых людзей нямала дзяцей вайны), ён замест танных лекаў, адрамантаваных паліклінік і бальніц спрабуе ўпіхнуць хакейныя клюшкі і канькі?**

**Вось такая ў нас, так бы мовіць, сацыяльная накіраванасьць.**

Сапраўды, хакей — забава не для бедных. Невыпадкова, што сярод невялікіх краін, сувымер-

ных зь Беларусьсю па колькасьці насельніцтва, масавае разьвіцьцё гэтай гульні дазваляюць сабе пераважна краіны багатыя — Фінляндыя, Нарвэгія, Швэцыя, Швайцарыя, Данія, альбо прынамсі значна больш заможныя, чым Беларусь — Чэхія, Славакія... Ва ўмовах, калі адна хакейная клюшка каштуе больш, чым мае пэнсіі беларускі калгасьнік, масавае будаўніцтва лядовых палацаў у райцэнтрах, якія ледзь зводзяць канцы з канцамі, выклікае шмат пытаньняў. Зрэшты, магчыма, што беларускае насельніцтва сапраўды апантана хакеем і гатова ўкласьці мільёны даляраў не ў бальніцы і паліклінікі, якія, здараецца, па 30–40 гадоў ня ведалі рэканструкцыі, а ў лядовыя арэны? Можа, у такім разе ў гэтага насельніцтва і варта спытаць на мясцовых рэфэрэндумах, што яно выбірае — перш чым распачынаць пампэзныя спартовыя будоўлі, на якія выдаткоўваецца ільвіная доля мясцовых бюджэтаў?

## *Павал Сац, вёска Асавая, Маларыцкі раён*

***31.03.2010***

**У нашым калгасе ў Макранах не хапае саломы — бяруць у суседніх Ляхаўцах. Адметна, што раней, калі камбайны зьбіралі салому ў копы, а потым тыя копы сьцягвалі ў стагі — саломы было ўдосталь. А цяпер усё расьцярушана па палях і ўзімку ляжала пад сьнегам. Толькі ля Асавой**

**засталося няўбранага гектараў 60, а ў іншых мясьцінах яшчэ больш...**

**У Макранах рулёны саломы на полі ляжаць, усю зіму былі сьнегам засыпаныя, гніюць. Побач, ля мяжы, сена скасілі, скруцілі ў рулёны — таксама ўсё пад сьнегам засталося. У сапраўднага гаспадара так не было б. А яны цяпер езьдзяць па іншых гаспадарках, просяць: «Салома патрэбна»...**

**Да такой ступені ўсе прывыклі да безадказнасьці, безгаспадарчасьці. І ніхто ні за што не адказвае. Вось такая яна, калгасная вытворчасьць.**

Памятаю, як у 70-я гады цэлыя калёны грузавікоў зь Віцебшчыны напрадвесьні прыяжджалі ў Гродзенскую вобласьць па салому: маўляў, выручайце, скаціну няма чым карміць. Улетку, падчас касьбы і жніва, гэтак жа выпрошвалі мэханізатараў: на трактарах і камбайнах не было каму працаваць... У Заходняй Беларусі, якая значна пазьней, чым Усходняя, сутыкнулася з калгаснай сыстэмай, тады яшчэ і стаўленьне да сялянскай працы было іншае, і ўцёкі зь вёскі ў горад не былі такімі масавымі. Але за апошнія дзесяцігодзьдзі розьніцы паміж Усходам і Захадам амаль не засталося. Калгасная сыстэма, выглядае, паўсюль атрымала канчатковую перамогу — і над сялянскім ладам жыцьця, і над здаровым сэнсам.

*Лявон Брагінскі, Менск*

***07.04.2010***

**У нас працавала адна інтэлігентная жанчына сталага ўзросту, якая добра ведала даваенны Менск. На працу ёй даводзілася хадзіць ля будынку МУС, што на скрыжаваньні цяперашняга праспэкту Незалежнасьці і вуліцы Ўрыцкага. Там у падвальных памяшканьнях — камэры для вязьняў. Гэта цяпер акенцы там замураваныя, а ў 30-я гады былі проста закратаваныя. Дык яна ўспамінала: ідзеш увечары ў халоднае надвор'е — а адтуль пара валіць. Значыць, камэры поўныя. А раніцай пары ўжо няма. Пытаньне: куды за ноч падзеліся тыя няшчасныя? А ўздоўж будынку хадзіў чырвонаармеец у будзёнаўцы і гучна папярэджваў: «Не задерживаться!» Так было аж да пачатку вайны.**

**Сваяк (цяпер ужо вельмі стары) пасьля чаркі расказваў. Калі пачалася вайна, яму было гадоў пятнаццаць. Вайскоўцы загадалі на фурманцы адвезьці ў райцэнтар праваслаўнага сьвятара. Сьвятар узяў з сабой толькі Біблію. Усю дарогу чытаў яе і нават не спрабаваў уцячы. Калі прыехалі да будынку НКВД, выйшлі двое ў форме, завялі сьвятара ў двор і застрэлілі там. Гэта было ў Лоеве, дзе нядаўна пабываў наш прэзыдэнт.**

**У маёй бабулі было шмат братоў, сёстраў, іншых сваякоў. Большая частка іх паспытала так званага камуністычнага «раю» ў Варкуце, Котласе, Іркуцку, Пермі, Улан-Удэ. Цікавая геаграфія. Я бачыў тых, каму ўдалося выжыць. Ссохлыя зморшчаныя твары, рукі ў мазалях...**

**Дык пад якім сьцягам павінны былі ісьці чыстыя беларускія душы, каб бараніцца ад усяго гэтага? Няўжо пад тым чырвоным, пад якім усё гэта рабілася?**

**Часта ўспамінаюць, што бел-чырвона-белы сьцяг выкарыстоўвалі калябаранты падчас Другой сусьветнай вайны. А чаму не ўспамінаюць расейскі трыкалёр, пад якім уласаўцы добра папалілі беларускія вёскі? А што, чырвоны тэрор лютаваў не пад чырвоным сьцягам?**

**І наконт перамогі. Вядома, было шмат гераізму, шмат ахвяраў. Але ўявіце: ваш сусед дапамог вам, а потым вырашыў застацца ў вас назаўсёды. Ды ня проста як госьць, а як гаспадар. І як гэта можна назваць?**

Калі на пачатку 90-х гадоў постсавецкія краіны, якія толькі што здабылі альбо аднавілі незалежнасьць, вырашалі пытаньне пра дзяржаўную сымболіку, ніводная зь іх пры выбары нацыянальнага сьцяга не пажадала ўзяць за аснову чырвонае камуністычнае палотнішча. Гэта тычылася нават сярэднеазіяцкіх рэспублік, якія да савецкага пэрыяду ня мелі сваіх дзяржаўных сьцягоў.

Тое, што адбылося з нацыянальнымі сымбалямі ў Беларусі ў 1995 годзе — выпадак выключны. Зрабіць гэта ў той час у дэзарыентаваным, зьбяднелым, агаломшаным грамадзтве, апанаваным настальгіяй па няхай не заможным, але стабільным і параўнальна сытым савецкім мінулым, новай уладзе было зусім не складана.

Але пакаленьні зьмяняюцца. Сёньня найбольш дзейная, маладая, энэргічная частка грамадзтва — тыя людзі, якія ўвогуле ня памятаюць савецкай

рэчаіснасьці і ня маюць ніякага сантымэнту да таго пэрыяду. І рана ці позна гэтыя новыя пакаленьні зададуць сабе зусім простае і лягічнае пытаньне: чаму і ў 1918-м, і ў 1991-м гадах продкі, абвяшчаючы стварэньне незалежнай Беларусі, выбіралі ў якасьці сымбаляў Пагоню і бел-чырвона-белы сьцяг, а мы жывем пад сымбалямі савецкай эпохі, калі ніякай незалежнасьці беларусы ня мелі?

## *Галіна Александроўская, Магілёў*

***28.04.2010***

**Яшчэ дзьве надбаўкі па 10 працэнтаў да пэнсіі былой дэпутаткі Палаты прадстаўнікоў Вольгі Абрамавай — і яна (разам з такімі ж былымі і цяперашнімі прыўладнымі дэпутатамі) стане тройчы мільянэркай. За кошт чаго ўлада такім чынам плодзіць мільянэраў? За кошт таго, што абдзірае просты народ.**

**Вельмі сумняюся, што дэпутатаў з такімі пэнсіямі (ня кажучы ўжо пра заробкі) можа надта хваляваць лёс простых пэнсіянэраў, якія, па 30 і больш гадоў адпрацаваўшы на заводах і ў калгасах, маюць пэнсію 350–400 тысяч рублёў. І колькі ж такіх вось Абрамавых, Гайдукевічаў і да іх падобных прыліпла да Лукашэнкі дзеля гэтых мільённых пэнсіяў! А ўсё ж гэта робіцца коштам галечы іншай часткі насельніцтва. А дойдзе чарга падвышаць пэнсіі, зьедзеныя інфляцыяй, — усім падвысяць, так бы мовіць, «аднолькава, справядліва» — на 10 працэнтаў. Толькі начальнічкі**

**прамаўчаць, што для такіх, як Абрамава, гэтыя 10 працэнтаў — 250 тысяч рублёў, а для простага пэнсіянэра — 35 тысяч. Карыстаючыся гэткім няхітрым ашуканствам з працэнтамі, улада адбірае ў простых грамадзянаў сродкі, патрэбныя ім для больш-менш прымальнага існаваньня. І ўсё дзеля таго, каб былыя дэпутаты і чыноўнікі жылі прыпяваючы, у раскошы. Хочацца сказаць гэтым людзям: «Майце сумленьне, спадарства».**

Звычайна беларускія чыноўнікі і дэпутаты зьвесткі пра свае заробкі ды пэнсіі стараюцца трымаць у сакрэце — каб не дражніць просты люд. Але журналістцы «Народнай Волі» Вользе Грынявіцкай у нядаўнім інтэрвію з былой дэпутаткай Палаты прадстаўнікоў Вольгай Абрамавай удалося выпытаць, што пэнсія апошняй складае 2 мільёны 358 тысяч рублёў. Гэта пры тым, што сярэдняя пэнсія ў Беларусі — 449 тысяч. На пытаньне — «Чаму ў такім выпадку не ўздымаеце праблему глыбокага расслаеньня ў пэнсійным забесьпячэньні?» — экс-дэпутатка спаслалася на тое, што ня мае для гэтага грамадзкай трыбуны. Маўляў, вось ствару арганізацыю, якая будзе гэтым займацца, — тады і ўзьніму пытаньне.

## *Аляксандар Пекар, вёска Аточка, Старадароскі раён*

***19.05.2010***

**Патлумачу, чаму трэба слухаць Радыё Свабода. Калі ўвесь час слухаеш радыё афіцыйнае, то складаецца ўражаньне, што беларусы жывуць лепш за ўсіх на сьвеце. Што ў нас усё самае лепшае, мы самыя разумныя, а кругом — дурні. У нас усюды чыста і прыгожа, а недзе ў іх у Эўропе ці Амэрыцы ходзяць па калена ў гразі. Мы сытыя і абутыя, а яны — босыя і галодныя. Нашы трактары і МАЗы самыя лепшыя, а іхныя «Форды» і «Мэрсэдэсы» — куча мэталалому. Праўдзівую інфармацыю пра падзеі ў Беларусі я атрымліваю толькі ад Свабоды.**

Афіцыйнай прапагандзе так званых «найвышэйшых посьпехаў савецкай сыстэмы» ня надта верылі і 25–30 год таму, хоць тады савецкіх грамадзянаў надзейна трымалі за жалезнай заслонай, і параўноўваць сваё жыцьцё з жыцьцём на Захадзе ім даводзілася галоўным чынам па чутках ды па адрывачных зьвестках з тых жа перадач заходніх радыёстанцыяў. Што ўжо казаць пра сёньняшні дзень, калі беларускі грамадзянін сам лепш за любога экспэрта разьбіраецца, чым нямецкі аўтамабіль адрозьніваецца ад цуду савецкага аўтапраму — аўтамабіля «Жыгулі»... Нават дзіва бярэ, што ў гэтых новых умовах беларускае кіраўніцтва ўсур'ёз зьбіраецца перасадзіць беларускіх аўтааматараў з заходніх аўтамабіляў на састарэлыя мадэлі іранскіх аўто айчыннай зборкі.

*Кастусь Сырэль, Ушачы*

***02.06.2010***

**Сустрэў нядаўна свайго знаёмага, які працуе ў камбінаце бытавога абслугоўваньня. Ён паведаміў, што апошнім часам усё часьцей даводзіцца выяжджаць на пахаваньні ў раён — разы два на тыдзень. Раней такога не было. Я ўдакладніў інфармацыю зь іншых крыніц — насамрэч, гэта так. Справа ў тым, што на сяле часта ўжо і хаваць няма каму, да такой ступені вымерла вёска. Насельніцтва ж у асноўным сканцэнтравана ў нешматлікіх аграгарадках.**

**На пачатку тыдня да нас у кватэру завіталі доктар і мэдычная сястра. Пацікавіліся станам здароўя — маім і жонкі, памералі ціск, далі некалькі парадаў. Я падумаў: «З чаго б гэта такі візыт, такая ўвага?» Празь дзень дазнаюся: аказваецца, у раёне за 1 квартал бягучага году сьмяротнасьць на 20% перавысіла паказчык 1-га кварталу 2009-га году. Вось мэдыкі і занепакоіліся — якая прычына? І насамрэч, на пачатку 2010 году вельмі многа памірала людзей, асабліва маладых, ва ўзросьце 30–50 год, — гэта было заўважна. На мой погляд, прычыны тут сацыяльныя — стрэсы, няпэўнасьць будучыні, нізкія заробкі і зьвязанае з гэтым дрэннае харчаваньне. Ну і, канечне, злоўжываньне алькаголем, прычым вельмі нізкай якасьці. Сьпіс гэты можна прадоўжыць.**

Я б яшчэ ў гэтай сувязі згадаў пра нядаўнюю кампанію масавага закрыцьця вясковых фэльчарска-акушэрскіх пунктаў ды амбуляторыяў. Нерэн-

табэльна, маўляў, трымаць фэльчара ці мэдсястру ў акрузе, дзе ўсе вёскі — малалюдныя. Заадно паадмянялі і аўтобусныя маршруты ў аддаленыя паселішчы — таксама дзеля эканоміі. І як цяпер тым старым дабрацца да райцэнтру, знайсьці там раённую паліклініку, адстаяць у даўжэзнай чарзе, а потым вярнуцца дахаты? Гэтых людзей, па сутнасьці, пазбавілі даступнай мэдыцыны. І нават калі ўжо ў самым скрайнім выпадку бабулька наважваецца выклікаць хуткую дапамогу — гарантыяў таго, што гэтая дапамога сапраўды будзе хуткай, што ў бабулькі не запатрабуюць бэнзіну, каб заправіць машыну, што не адмовяцца ехаць, спаслаўшыся на бездарожжа, — няма ніякіх.

## *Міхал Іваноў, Магілёў*

***30.06.2010***

**Мне 74 гады. Маю ўласнае аўто — ЗАЗ, ён жа «Запарожац». Набыў яго ў 1980 годзе. Вельмі дорага абышлася мне гэтая машына. 15 год стаяў у чарзе. Столькі ж часу зьбіраў грошы (5100 рублёў пры зарплаце 80–150 рублёў). Выдалі дазвол як перадавіку вытворчасьці — паводле характарыстыкі з цэху, дазволу прафкаму і зацьвярджэньня гарвыканкаму. Скончыў курсы. За ўсе мінулыя гады ніякіх заўвагаў ад Дзяржаўтаінспэкцыі ня меў.**

**Але цяпер мой ЗАЗ стаў для мяне занадта дарагі. Мэдкамісія, страхоўка, тэхагляд — за год набягае тысяч 200. Сама мая машына столькі не каштуе. Тым больш што я ў горад амаль ня еж-**

джу, за год выяжджаю з гаража разоў 15–20. І куды выяжджаю? На пахаваньні да сяброў і знаёмых ды па прадукты. Дык чаму мяне прыраўналі да тых, хто мае сучасныя эўрапейскія машыны? Несправядліва, крыўдна.

А як прайсьці тэхагляд? Усе ж ведаюць, што машыны ў тыя гады ў СССР рабілі цяп-ляп. Мой ЗАЗ жарэ бэнзіну да 14 літраў на 100 кілямэтраў. Майстэрні ў рамонт яго не бяруць, бо любы рамонт даражэйшы за само аўто ў некалькі разоў. Таму і выяжджаю я з гаража вельмі рэдка, і то па-партызанску, цішком. Навошта ж такі зьдзек з заслужаных пэнсіянэраў ды іхных «Запарожцаў»?

Пакуль я жывы, гэтае аўто будзе са мной. Мой ЗАЗ — частка майго жыцьця, і я рады яму. Пэнсія ў нас далёкая ад паўсядзённых патрэбаў, не хапае нават на добрае харчаваньне ды на лекі. А яшчэ ж і на пахаваньне трэба адкладваць.

І што рабіць нам, старым? Я ня супраць аддаць уладзе свой ЗАЗ, але няхай яна тады забясьпечыць мяне транспартам. Ці няхай верне таго каня, якога забрала ў калгас. Калі забіралі, абяцалі, што будзем жыць пры камунізьме, што ўсяго дадуць удосталь. Як жа, далі — адабралі ў рабочага і селяніна апошняе. І пляцемся ў хвасьце адсталых краін. Што цікава — самі начальнікі на «Запарожцах» езьдзіць чамусьці ня хочуць — ня бачыў такога ніводнага.

Прашу ўладу: перастаньце абдзіраць і прыгнятаць нас, заслужаных будаўнікоў камунізму, а сёньня — жабракоў-пэнсіянэраў зь ліку абяздоленых рабочых і сялян. Зрабіце нам такую ласку хоць перад сьмерцю.

Копію гэтага ліста спадар Міхал накіраваў міністру ўнутраных спраў.

Ня ведаю, што адкажа ўлада старому мэханіку. Фармальна міністар можа спаслацца на закон, паводле якога ўладальнікі сучаснага «Мэрсэдэса» коштам 100 тысяч даляраў і 30-гадовага «Запарожца» коштам 50 даляраў аднолькава павінны плаціць і за тэхагляд, і за страхоўку, і за ўсё астатняе...

Але ў сапраўднасьці менавіта ўлада нясе маральную адказнасьць перад спадаром Міхалам і сотнямі тысяч ягоных аднагодкаў, якія гэтак жа, як і ён, аддалі дзесяцігодзьдзі цяжкой і малааплатнай працы на тое, каб перад пэнсіяй праз прыніжэньні і зьнявагі атрымаць ад камуністычнай улады вялікую ласку — дазвол набыць за шалёныя грошы цуд тэхнікі — аўтамабіль «Запарожац», падобны да гібрыду інваліднай мотакаляскі і ваеннага матацыклета.

Гэты «Запарожац» для спадара Міхала, вядома, нешта значна большае, чым куча старых жалязяк, на якой ён умудраецца перамяшчацца ў прасторы. Гэта — сымбаль усяго яго мінулага жыцьця, зьдзейсьненых і нязьдзейсьненых мар, спраўджаных і падманутых спадзяваньняў.

Відавочна, што гэты «Запарожац» нават у новым стане ніколі не адпавядаў ніякім экалягічным нормам і прайсьці тэхагляд пры аб'ектыўным падыходзе ён ня здольны паводле азначэньня. Гэтак жа відавочна, што ў спадара Міхала ніколі ня будзе грошай, каб набыць сабе больш-менш прыстойную дзесяцігадовую машыну заходняй вытворчасьці. На пачатку 90-х гадоў у яго і такіх, як ён, адабралі апошнія зьберажэньні з ашчадных кніжак, а цяпер крывадушна робяць выгляд, што гэтыя грошы ні-

быта бясьследна зьніклі: зьела інфляцыя. Нікуды яны ня зьніклі: надзейна ўкладзеныя ў катэджы ў Драздах ды іншых маляўнічых мясьцінах на ўскраінах гарадоў, у шыкоўныя аўтамабілі, на якіх езьдзяць высокапастаўленыя чыноўнікі. Вось адмовіўся б спадар міністар ад адной сваёй месячнай зарплаты ды набыў Міхалу Іванову якую-небудзь кітайскую малалітражку — як кампэнсацыю за ўсе крыўды, рэквізыцыі, недаплачаныя заробкі і пэнсіі, абясцэненыя ўклады — так бы мовіць, дзеля трыюмфу сацыяльнай справядлівасьці, пра якую так шмат гаворыць цяперашняя ўлада... Але ж ня будзе гэтага ніколі.

## *Лявон Карповіч, вёска Лунна, Мастоўскі раён*

***14.07.2010***

**Жыцьцё прыносіць усё новыя сюрпрызы. І часта зусім не прыемныя. Нядаўна шакаваў мяне дзёньнік унука, які вучыцца ў адной з гімназіяў у Горадні. Сам дзёньнік выдадзены на беларускай мове. Але ў ім настаўніца (клясная кіраўніца) адзінаццаць разоў зрабіла адзін і той жа запіс (цытую): «Заполняй дневник на русском языке».**

**Ці ня вартыя гэтыя настаўніца і вучань, каб пра іх даведаліся ва ўсёй краіне (а можа, і за яе межамі)?**

Наўрад ці варта абвінавачваць гэтую настаўніцу ў непрыхільнасьці да беларускай мовы, спадар

Лявон. Вінаватая не яна, а тыя, хто вызначае моўную палітыку ў сыстэме адукацыі. Гімназія, як можна меркаваць, расейскамоўная (як і амаль усе іншыя і ў Горадні, і ўвогуле ў Беларусі). І настаўніца проста агучвае агульныя патрабаваньні. А вось цьвёрдасьці, прынцыповасьці і ўпартасьці вашага ўнука, выяўленым у гэтай сытуацыі, можна толькі пазайздросьціць.

## *Ванда Сушчэня, вёска Урведзь, Клецкі раён*

***04.08.2010***

**Люблю слухаць ваша радыё — самыя розныя перадачы: навіны, гутаркі за круглым сталом, камэнтары аглядальнікаў, «Званкі на Свабоду», «Званочкі» ды іншыя... Аддаю перавагу менавіта Беларускай Свабодзе. Праўда, на працягу многіх гадоў нас прывучалі і прывучаюць гаварыць па-расейску, але мы тут у вёсцы працягваем размаўляць галоўным чынам па-беларуску ці на «трасянцы».**

**Я — інвалід другой групы, за доўгія гады нажыла цэлы букет розных хваробаў. Зь цяжкасьцю хаджу, абапіраючыся на дзьве кульбы. Што тут скажаш: звычайная самотная састарэлая хворая пэнсіянэрка. Дзедава хата, у якой жыву, развальваецца. А пэнсію атрымліваю сацыяльную: на пачатак году яна складала 162 800 рублёў. Пражыць на такія грошы вельмі цяжка, амаль немагчыма.**

**Мой бацька і два родныя дзядзькі загінулі ў 1945-м годзе пад Бэрлінам. Двух іншых дзядзькаў немцы пры адступленьні расстралялі як партызанаў. Я доўгі час даглядала цяжкахворых маму і бабулю, а потым захварэла сама. Працоўнага стажу праз гэта ня маю, і цяпер пэнсія ў мяне на нулі. Сям'і не было, і дапамагчы цяпер няма каму. Але пакуль яшчэ жывая, цікава, што адбываецца на сьвеце.**

Ведаю, што ў беларускіх вёсках такіх самотных бабулек з жабрацкімі сацыяльнымі пэнсіямі вельмі шмат. Не памерці з голаду на гэтыя 162 тысячы рублёў, напэўна, можна, а вось як пры гэтым умудрыцца аплаціць паліва, электраэнэргію, лекі — загадка. Мясцовыя чыноўнікі пра гэта ня могуць ня ведаць. І тым ня менш — моўчкі ўхваляюць рашэньні пра будаўніцтва чарговага лядовага палаца ў чарговым райцэнтры, наладжваюць пампэзныя фэстывалі і сьвяткаваньні, укладваюць мільярды бюджэтных рублёў у фарбаваньне фасадаў і платоў уздоўж трасаў, па якіх можа праехаць высокае начальства...

## *Кірыл Семянчук, вёска Азёры, Гарадзенскі раён*

***08.09.2010***

**Усё пачалося з таго, што я паскардзіўся на сваё начальства ў Міністэрства працы і сацыяльнай абароны. Быў такі выпадак: працаваў у дождж, не было спэцадзеньня, бо нам ня выдалі. У выні-**

**ку прамок і захварэў. Пасьля скаргаў начальства пачало на мяне ціснуць, чапляцца да кожнай дробязі. То за тое, што спазьніўся на пяць хвілін, то яшчэ за што... Хоць на будоўлі бывае ўсялякае: і спазьняюцца значна больш, чым я, і гарэлку п'юць на працоўным месцы, і будматэрыялы крадуць... Іншым усё сыходзіць з рук, а мяне нават за дробязь — да адказнасьці.**

**У канчатковым выніку выклікае мяне да сябе прараб і кажа: з тваёй віны зламаная жалезабэтонная пліта. Ня звольнісься зараз з працы падобраму — дык яе «павесяць» на цябе і будзеш за яе плаціць. А апроч таго, «уклеяць» у працоўную кніжку артыкул — і ўсё роўна звольняць.**

**Я паехаў да начальніка. Той выслухаў і кажа: карацей, звальняйся па-добраму, альбо будуць у цябе праблемы. Мне расказалі, што ты апазыцыйныя газэты раздаваў сярод рабочых...**

**У выніку я вымушаны быў звольніцца па ўласным жаданьні. А цяпер уладкавацца ў якую-небудзь арганізацыю ці на прадпрыемства не магу: аддзел кадраў стэлефаноўваецца з папярэднім месцам працы, а ўжо там выдаюць адпаведную характарыстыку... Вось такая сытуацыя ў мяне склалася. Цяпер мушу выпраўляцца на працу на будоўлю ў Маскву. Але і там я змагу весьці агітацыю сярод беларусаў-гастарбайтэраў — за свабоду і дэмакратыю ў нашай краіне.**

Сытуацыя, апісаная вамі, спадар Кірыл, — тыповая для сёньняшняй Беларусі. Часьцей нават здараецца так, што адміністрацыя, каб пазбавіцца ад грамадзка актыўнага і тым нязручнага ёй работніка, не абцяжарвае сябе пошукамі зачэпак —

проста без тлумачэньня прычынаў не працягвае зь ім працоўны кантракт.

Зьява гэтая ў сёньняшняй Беларусі масавая. Многія людзі запалоханыя. Тым больш што шукаць праўды няма дзе: афіцыйныя прафсаюзы моўчкі прыслужваюць адміністрацыі. А суды спасылаюцца на тое, што фармальна адміністрацыя мае рацыю: скончыўся кантракт — можна любога выкінуць на вуліцу.

Эўрапейскія рабочыя працавалі ў такіх умовах хіба што напрыканцы 19-га ці на пачатку 20-га стагодзьдзя, у пэрыяд дзікага капіталізму. У выніку масавае абурэньне і пратэсты спарадзілі магутны рух незалежных прафсаюзаў і маштабныя страйкі. Беларускія ўлады, напэўна, разьлічваюць на тое, што ў Беларусі людзкое абурэньне бясконца будзе заставацца ў задушаным стане.

## *Мікалай Рыбакоў, пасёлак Копысь, Аршанскі раён*

***13.10.2010***

**Заходжу ў краму пасёлку Копысь Аршанскага спажыўтаварыства. Бачу шматлікія абвесткі пра тое, што прымаюць у насельніцтва: баравікі па 10 тысяч рублёў, апенькі па 3 тысячы, бульбу па 850 рублёў і г.д. Ну, а я вырашыў здаць мех часныку. Карысны, здаровы прадукт. Да таго ж, кажуць, вельмі добра адганяе д’ябла. У краме сказалі, каб патэлефанаваў у Воршу — без каманды адтуль прыняць ня могуць. Ну, каманду далі. Але**

**патрэбна яшчэ даведка, што маю прысядзібны ўчастак, што часнык вырасьціў сам.**

**Цікаўлюся: «А можна такое простае пытаньне вырашыць безь бюракратычнай валакіты?»**

**Можна, — кажуць, — але тады вылічым падатак — 12 адсоткаў.**

**Ліха зь ім, я б пагадзіўся. Але, аказваецца, разьлічвацца са мной на месцы яны не зьбіраюцца. Грошы будуць невядома калі.**

**Прадаўцы ня надта зацікаўленыя ў тым, каб прыняць як мага больш сельгаспрадукцыі ад насельніцтва. Як ні круціся, а зарплата тая ж — 300 тысяч. Шчыра кажучы, у мяне зьнікла ахвота нешта прадаваць спажыўтаварыству.**

**Цяпер я не зьдзіўляюся, што спажыўтаварыства працуе без прыбытку, а ў людзей гіне большасьць ураджаю яблыкаў, іншай садавіны, а таксама гародніны. Адказ просты: павярнуліся да людзей адным месцам — вось і маеце.**

**Можа, трэба прызначыць старшынём спажыўтаварыства габрэя? Тады, глядзіш, і зрухі будуць.**

Думаю, спадар Мікалай, справа зусім не ў нацыянальнай прыналежнасьці старшыні спажыўтаварыства, а ў прынцыпах дзейнасьці гэтай сыстэмы. Спажыўтаварыствы — фактычна манапалісты ў гандлі на вёсцы. Так павялося з савецкага часу. Індывідуальныя прадпрымальнікі, якія наважваюцца скласьці канкурэнцыю сяльпоўскім крамам, сутыкаюцца з жорсткім ціскам з боку мясцовай улады. Мы шмат разоў расказвалі ў сваім эфіры пра падобныя выпадкі. Наважыцца, напрыклад, прыватнік прывозіць хлеб са сталічнага хлеба-

камбінату — а на яго нацкуюць санстанцыю, міліцыю, падаткоўцаў, каб спыніў гандаль. Бо ягоны хлеб смачнейшы і таньнейшы, чым мясцовы, якім гандлюе крама спажыўкаапэрацыі. Чыноўнікі пры гэтым спасылаюцца на тое, што абараняюць інтарэсы мясцовай пякарні, мясцовага гандлю і мясцовага бюджэту. А тое, што тутэйшыя людзі ў выніку павінны плаціць за ўсё гэта з уласнай кішэні, атрымліваючы няякасны і дарагі тавар, у разьлік чамусьці не бярэцца.

## *Іван Шадзюль, вёска Пагародна, Воранаўскі раён*

***01.12.2010***

**Вельмі цяжка апазыцыйным кандыдатам дайсьці да кожнага чалавека. Іх хаваюць ад народу, нават прозьвішчаў не называюць у дзяржаўных СМІ. Але — калі ўзяўся за гуж, не кажы, што нядуж.**

**Наш народ замбаваны, многія сапраўды вераць, што краіна квітнее, што Беларусь ператворана ў рай. Трэба, каб людзі расплюшчылі вочы, каб убачылі праўду. Як гэта зрабіць?**

**Апазыцыя павінна мець на ўвазе: не ўва ўсіх ёсьць кампутары і інтэрнэт, ня ўсе ўмеюць карыстацца сучаснымі сродкамі камунікацыі. Дык дзеля такіх людзей выбарчыя штабы павінны выпрацаваць маляўнічую наглядную агітацыю. Вось, напрыклад, нядаўна я даведаўся зь незалежных крыніцаў, якія грашовыя дапамогі атрымліваюць беспрацоўныя ў Беларусі і ў суседніх краінах.**

**Гэта ж проста шок. Літва — 830 тысяч беларускіх рублёў, Латвія — больш як мільён, Эстонія — мільён семсот пяцьдзясят тысяч, Украіна — 200 тысяч. А ў Беларусі — 45 тысяч беларускіх рублёў. І пры гэтым Лукашэнка на нядаўнім зьезьдзе сваіх прыкормленых прафсаюзаў заявіў, што гэтую дапамогу яшчэ больш зьбіраюцца ўрэзаць. Гэта што — клопат пра абяздоленых людзей?**

**Кандыдатам варта было б знайсьці такія ж параўнальныя зьвесткі і наконт заробкаў, і цэнаў на самае неабходнае, і пэнсіяў, і іншых сацыяльных выплат. Каб народ зразумеў, як ён насамрэч «квітнее» дзякуючы дарагому прэзыдэнту.**

**Адзін красамоўны прыклад. Паспрабуйце зьвярнуцца ў нашу бясплатную паліклініку да стаматоляга, каб паставіць зубныя пратэзы. Пэнсіянэраў ужо ня лечаць, не пратэзуюць. Можа, разьлічваюць, што ў нас вырастуць новыя зубы, а мы будзем амалоджвацца ў прэзыдэнцкіх лядовых палацах?**

**Гаварыце пра тое, як растуць цэны на хлеб, малако, цукар, як мізарнее наш рубель, як ігнаруюць нашы просьбы аб вяртаньні абясцэненых савецкіх укладаў...**

Магчымасьці ў апазыцыйных сілаў цяпер ня надта вялікія, спадар Іван. І не выпадае чакаць, што дэсант дэмакратычных актывістаў з маляўнічымі плякатамі і лёзунгамі калі-небудзь зьявіцца ў вашай вёсцы і патлумачыць дэзарыентаваным бабулькам, які насамрэч іхны рэальны фінансавы стан і як іхнае жыцьцё адрозьніваецца ад жыцьця равесьнікаў у эўрапейскіх краінах. Выбарчыя пікеты апазыцыйныя кандыдаты здольныя аргані-

заваць нават не ўва ўсіх райцэнтрах — што ўжо казаць пра вёскі ды хутары... Так што пакуль самі насельнікі вёскі не захочуць даведацца праўду і не прыкладуць дзеля гэтага (самастойна ці з дапамогай дзяцей ды ўнукаў) хаця б мінімальных намаганьняў — разьлічваць асабліва няма на каго.

## *Мікалай Іваноў, Клайпеда, Літва*

***08.12.2010***

**Прамысловасьць у нас у Літве амаль цалкам зьнікла, бо не змагла выпускаць канкурэнтаздольную прадукцыю. Зямля апрацоўваецца наўрад ці на траціну і паступова ператвараецца ў цаліну. Безь дзяржаўных датацыяў сяляне ня ў стане вырошчваць прадукцыю, якая была б таньнейшая за завозную. Краіна папросту ператварылася ў рынак збыту для Захаду.**

**Нехта з вашых кандыдатаў упэўнены, што варта раздаць зямлю сялянам — і яны адразу пачнуць працаваць так, як славуты фэрмэр Шруб. Але ж у мінулым гэты фэрмэр быў старшынём калгаса, у яго за плячыма досьвед і веды. У ЗША, напрыклад, ніводзін банк ня дасьць пад сельгаспраекты крэдыт таму чалавеку, які ня мае адпаведных ведаў, падмацаваных дыплёмам.**

**А што зь міграцыяй насельніцтва? Тут у Эўразьвязе цікавая сытуацыя. Лёндан, Дублін перапоўненыя, так бы мовіць, «адэмакрачанымі» гастарбайтэрамі з Усходняй Эўропы. Але заўважце: там амаль не сустрэнеш замардаванага дыктатурай беларуса. Толькі не расказвайце**

**мне пра свабодны рух працоўнай сілы ўнутры Эўразьвязу. Усе ў вас ведаюць, як на гэты рынак трапіць. Падкладзіце пад фатаздымак памерам 3х4 шэсьцьсот ангельскіх фунтаў стэрлінгаў (гэта месячны заробак гастарбайтэра-пачаткоўца) — і вам зробяць самы сапраўдны літоўскі пашпарт. Па такіх дакумэнтах жыве асноўная маса выхадцаў з Украіны.**

Сапраўды, спадар Мікалай, гастарбайтэраў-беларусаў рэдка сустрэнеш у Дубліне ці Лёндане. Але паедзьце на будоўлі катэджаў для «новых рускіх» Масквы і Падмаскоўя, на нафтавыя і газавыя радовішчы Заходняй Сыбіры альбо ў ваколіцы Санкт-Пецярбургу, дзе пракладаецца новы газаправод... Беларусы там — на кожным кроку. На заробкі ў Расею выехалі, паводле розных ацэнак, каля мільёна беларускіх грамадзянаў. А паколькі праца там у многіх выпадках — нелегальная, а норавы ў маладога расейскага капіталізму мала падобныя да эўрапейскіх, то надзвычай частыя выпадкі, калі вяртаюцца адтуль беларусы і бяз грошай, і без дакумэнтаў. А часам і ўвогуле зьнікаюць бязь сьледу.

Былі б адкрытыя ў Беларусі заходнія межы — не сумнявайцеся: езьдзілі б беларусы на заробкі ў Лёндан і Дублін гэтак жа, як і літоўцы. А прапанаваны вамі, спадар Мікалай, крымінальны мэтад атрыманьня літоўскага пашпарта для беларускага грамадзяніна ня надта падыходзіць. Нават калі нехта і наважыцца парушыць закон і скарыстацца ім, — дык дзеля гэтага ж спачатку трэба трапіць у Літву, у Эўразьвяз. А для беларуса гэта — не нашмат прасьцей, чым трапіць у той жа Дублін.

*Алена Ляшкевіч, Менск*

***30.12.2010***

**А можа, гэтае пакараньне і заслужанае? Іх жа папярэджвалі, прасілі, угаворвалі: паглядзіце праўдзе ў вочы! Якія ў вас шанцы? Хто вас ведае? Хто верыць, што вы (за выключэньнем аднаго-двух) сабралі па сто тысяч подпісаў? Дык навошта ўдзельнічаць у чужым спэктаклі?**

**Але дзе там! Каб яны, такія геніяльныя палітыкі, — ды зьнялі свае кандыдатуры! Ні за што! Кожны ж у марах бачыў сябе Напалеонам. Вось і вылезьлі амбіцыі бокам. Цяпер, пэўна, дакараюць сябе. Ды позна. А апазыцыя павінна ўжо цяпер вылучыць са сваіх шэрагаў адзінага кандыдата. Ды такога, каб за яго не было сорамна, каб не чапляўся за пасьведчаньне кандыдата на пасаду прэзыдэнта як за маршальскае жазло. Каб атрымаць такое жазло, спачатку трэба выйграць бітву. А большасьць нашых кандыдатаў да 19 сьнежня абсалютна не разумелі, што такое барацьба за ўладу і колькі гэтая ўлада каштуе. У нас жа так: хочаш быць кандыдатам на пасаду прэзыдэнта — рыхтуйся да турмы.**

Уявім, што позна ўвечары 19-га сьнежня не было б гэтай шалёнай жорсткай атакі, паляваньня АМАПу на бяззбройных людзей. Ні выбітых зубоў, ні зламаных рэбраў, ні соцень затрыманых, ні кінутых у засьценкі КДБ кандыдатаў у прэзыдэнты… І што б здарылася? Зусім не агрэсіўны натоўп разышоўся б праз гадзіну-другую, прыцісьнуты марозам і стомлены бязмэтным стаяньнем. А нешматлікіх

ці то правакатараў, ці то неадэкватных асобаў, якія нетаропка і млява трушчылі шыбы ў Доме ўраду, лёгка маглі вылушчыць з натоўпу і затрымаць некалькі нарадаў міліцыі. Самі арганізатары мітынгу павінны былі дапамагчы ім у гэтым.

Дагэтуль незразумела, чым кіраваўся Аляксандар Лукашэнка ў той вечар, калі аддаваў загад на такі жорсткі разгон і масавыя арышты. Што ці хто так неверагодна напалохаў яго? У кожным разе, цяжка паверыць, што кіраўнік дзяржавы, які адчувае ў сябе за сьпінай падтрымку 80 працэнтаў насельніцтва, які верыць у шчырую ўсенародную любоў да сваёй пэрсоны, дзейнічаў бы падобным чынам.

Сапраўды, ва ўмовах беларускай рэчаіснасьці той палітык, які наважваецца абвясьціць сябе кандыдатам на пасаду прэзыдэнта, павінен быць гатовы найперш не да жыцьця ў прэзыдэнцкім палацы, а да турэмнай камэры і баланды. Лёсы Міхаіла Чыгіра, Аляксандра Казуліна, Міхаіла Марыніча былі жывой ілюстрацыяй да гэтага няпісанага правіла сучаснай беларускай палітыкі.

# 2011

*«Беларуская эканоміка квітнела-квітнела — і, відаць, адцьвіла…»*

***Безнадзейныя маркотныя чэргі ля банкаўскіх абменьнікаў, на акенцах якіх звыклы надпіс: «Валюты для продажу няма і сёньня ня будзе»... Разгубленыя людзі ля паліцаў у крамах, дзе лічбы на цэньніках, здараецца, за адзін дзень павялічваюцца напалову, а то і ўдвая. А многія кандыдаты ў прэзыдэнты, за якіх беларусы галасавалі летась у сьнежні — у турме...***

## *Ганна Пашкевіч, Івейскі раён*

***05.01.2011***

**Паслухала славуты тэлевыступ Яраслава Раманчука, калі ён нешта там мармытаў сабе пад нос, не паднімаючы вачэй ад паперкі, — і стала вельмі балюча і прыкра. Справа ў тым, што калі зьбіралі подпісы за вылучэньне кандыдатаў, я падпісалася менавіта за Яраслава. Ну і што тут такога? — спытаеце вы. Так, амаль нічога, калі ня ўлічваць той факт, што дзеля гэтага мне давялося паехаць у сталіцу (хоць сама я жыву ў Гарадзенскай вобласьці). Я проста ня ведала, дзе можна падпісацца ў маёй мясцовасьці…**

**Зарплата на вёсцы невялікая (у мяне — дзесьці 340–350 тысяч). І гэтая паездка абышлася мне ў капеечку. Але жалю не было. Наадварот — адчувала нейкі гонар за свой учынак.**

**Ну вельмі ж я паверыла Раманчуку. Нават некаторых сваіх знаёмых загітавала галасаваць за яго.**

**Цяпер мае сябры глядзяць на мяне зь недаўменьнем. Добра, што яшчэ ня ведаюць пра сапраўдную мэту той маёй паездкі ў Менск — давялося сказаць, што езьдзіла купляць боты, — а то зусім засьмяялі б.**

**Бывай, Яраслаў. Ты кажаш, што хочаш вызваліць Анатоля Лябедзьку. А як жа астатнія, якія пакутуюць у турме? Ня ведаю, як там што складзецца ў тваім жыцьці. Але асабіста для мяне ты назаўсёды застанесься здраднікам.**

Пра сапраўдныя матывы таго фатальнага тэлевыступу Яраслава Раманчука ў ноч з 19-га на 20-га сьнежня дагэтуль існуюць супярэчлівыя зьвесткі. Ён хацеў уратаваць ад турмы Анатоля Лябедзьку і захаваць сваю партыю? Але Лябедзька застаецца ў засьценках КДБ, а рэпутацыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі найбольш пацярпела якраз ад учынку Раманчука. Ён чакаў абяцанай кіроўнай пасады ва ўрадзе? (Калі верыць ягоным заявам напярэдадні галасаваньня, у Адміністрацыі прэзыдэнта яму прапаноўвалі нават партфэль прэм'ер-міністра). Але ўрад ужо сфармаваны, і прозьвішча Раманчука там не фігуруе. Праўда, Аляксандар Лукашэнка падчас сваёй прэсавай канфэрэнцыі на наступны дзень пасьля разгону Плошчы сказаў, што Раманчуку можа знайсьціся месца — дзе-небудзь у

гарадзкой ці абласной «вэртыкалі» (гэта значыць, пасада чыноўніка зусім не галоўнага калібру).

Напэўна, гэта вельмі цяжкая доля — апынуцца адрынутым усімі: і сваімі, і чужымі.

## *Іван Знаёмцаў, вёска Друцак, Талачынскі раён*

***02.02.2011***

**Усяму свой час, і кожнаму ўзросту — свой занятак. Можа, каму і падабаецца, як чалавек перадпэнсійнага веку ганяе клюшкай шайбу па лёдзе. Ну што кепскага, што ён напоўніцу кампэнсуе тое, чаго ня мог атрымаць у маленстве? Яно так, калі б гэтае ягонае захапленьне не распаўсюджвалася на эканоміку і фінансы дзяржавы. У нас маленькая і ня самая багатая краіна, а лядовыя палацы будуем так, нібы мы Нарвэгія ці Канада... У гэтую забаву кідаюцца мільярды рублёў — і не асабіста прэзыдэнцкіх, а народных. Хакею ўсё больш, а жыхароў у Беларусі ўсё менш. За гады, так бы мовіць, «спартыўнага» кіраваньня насельніцтва зьменшылася на 700 тысяч чалавек. Людзі паміраюць рана. Хакей фізычна нямоглага чалавека не ўратуе — яму б добры шпіталь, мэдычнае абслугоўваньне. Мала таго, што якаснай і даступнай мэдыцыны ў нас няма, дык яшчэ паўсюль пануе псыхалягічны дыскамфорт. На працы з чалавекам цяпер як абыходзяцца? Толькі і чуеш: «Ня нравіцца ў нас — ухадзі с работы, увальняйся! За тваёй сьпіной дзесяць**

**работнікаў у вочарадзі стаяць!» І гэта праўда. Колькасьць працоўных месцаў мінімальная, а колькасьць прэтэндэнтаў — максымальная. Вось начальства і казырае гэтым.**

**Увогуле, беспрацоўе ў нас, асабліва ў правінцыі, — вялізнае. Сотні тысяч беларусаў зарабляюць на жыцьцё на будоўлях у Падмаскоўі, на так званых «шабашках». Добрыя заробкі ў Беларусі толькі ў чыноўнікаў ды «мянтоў».**

Думаю, спадар Іван, вы агучылі тое стаўленьне да так званай «хакейнай ліхаманкі», якое сёньня ўласьцівае многім у Беларусі. Улада, відавочна, адчувае гэтыя зьмены грамадзкай думкі. Наўрад ці выпадкова тое, што падчас мінулай выбарчай кампаніі прэзыдэнт Лукашэнка свае дасягненьні ў будаўніцтве новых лядовых палацаў асабліва не афішаваў, новых арэнаў не адкрываў. Хоць тое зусім не азначае, што ў гэтай справе нешта зьмянілася: масавае маштабнае будаўніцтва хакейных аб'ектаў у Беларусі не спыняецца — нягледзячы на вялікія фінансавыя праблемы.

Іншая справа — праблема беспрацоўя. Паводле афіцыйнай статыстыкі, гэтай праблемы ў Беларусі ўвогуле не існуе: колькасьць людзей, якія ня маюць працы, вымяраецца нібыта мізэрнай лічбай — менш як адзін працэнт. Ніводная разьвітая краіна сьвету ня можа пахваліцца такім дасягненьнем. Але ж людзі ведаюць сапраўдную цану гэтай лічбе. Улада лічыць толькі тых беспрацоўных, якія афіцыйна рэгіструюцца на біржы. А каб яны не рэгістраваліся, дапамогу па беспрацоўі зрабілі проста сьмешнай — нешта каля 15 даляраў на месяц. Гэта — абсалютны эўрапейскі рэкорд. Пры гэтым

афіцыйна беспрацоўнага могуць яшчэ накіраваць на абавязковыя грамадзкія працы — прыбіраць на вуліцы сьнег ці сьмецьце...

*Раман Багданаў, Ворша*

***16.03.2011***

**Перапалоханыя начальнікі перад выбарамі, каб залагодзіць людзей, зрабілі школьнікам бясплатны праезд у грамадзкім транспарце. Але вось выбарчая кампанія скончылася — і бясплатны праезд у дзяцей фактычна забралі. Пакінулі толькі права езьдзіць безь білета ў рабочыя дні ад дому да школы і назад. Як жа так? Перад выбарамі ж і дэпутаты, і прэзыдэнт казалі: дзецям трэба даць магчымасьць наведваць аддаленыя музычныя, спартыўныя, мастацкія школы. І на Ўсенародным сходзе пра гэта так прыгожа гаварылі. І Лукашэнка тады аддаў жорсткі загад. А што цяпер?**

**Наша Ворша — няпросты горад у пляне крыміналу. На працягу многіх гадоў у нас часта здараліся масавыя жорсткія бойкі з удзелам падлеткаў розных раёнаў. Даходзіла да таго, што ішлі сьценка на сьценку з нажамі, былі ахвяры. Чаму ж не завабіць усімі магчымымі спосабамі гэтую моладзь у гурткі і сэкцыі? А платны праезд у грамадзкім транспарце — вялікі ўдар для сямейных бюджэтаў. Асабліва для шматдзетных сем'яў.**

Даць дзецям ільготы за месяц да выбараў і фактычна адабраць праз два месяцы пасьля выбарчай

кампаніі — гэта вельмі красамоўны крок, які сьведчыць пра ўзровень маральнасьці тых, хто прымаў такое рашэньне. А ўвогуле, ільготны праезд для дзяцей у грамадзкім транспарце — агульнапрынятая практыка амаль ва ўсіх эўрапейскіх краінах. Дзеці плацяць напалову альбо нават на тры чвэрці меней, чым дарослыя. І пры гэтым ніхто не кантралюе, у школу яны едуць, у гурток ці па нейкіх іншых справах.

*Сьвятлана Асаёнак, Менск*

***23.03.2001***

**Пры аднолькавым працоўным стажы ў аднаго пэнсія — 300 тысяч рублёў, а ў другога — 3 мільёны. І такая несправядлівасьць існуе ўжо на працягу 15 год. Мы, пэнсіянэры, б’ем у званы, але адпаведныя міністэрствы, парлямэнт, Адміністрацыя прэзыдэнта не ўнікаюць у гэтую праблему. Больш за тое, якраз чыноўнікі і дэпутаты і ўстанавілі такі парадак. А народны прэзыдэнт падпісаў — відаць, не разабраўшыся. І цяпер чыноўнікі не інфармуюць прэзыдэнта пра недапушчальную сытуацыю з пэнсіямі. А каб адцягнуць увагу, настройваюць яго на зьнішчэньне апазыцыі — замест таго каб наладжваць зь ёй супрацоўніцтва, як робяць гэта ў братняй Расеі.**

**Хіба можна мірыцца з фактамі, калі рабочы, лекар, настаўнік, якія адпрацавалі на сваіх месцах па сорак гадоў, атрымліваюць пэнсію ўдвая**

**меншую за самых дробных чыноўнікаў шматлікіх выканкамаў і міністэрстваў, падатковых інспэктараў, міліцыянтаў? І гэта пры тым, што стаж у гэтых клеркаў часта ў два ці тры разы меншы…**

**За што ж такія прывілеі? Відаць, прэзыдэнту проста не даводзяць, чым займаюцца гэтыя чыноўнікі на сваіх працоўных месцах. Прайдзіце па выканкамаўскіх кабінэтах… Цішыня. Чыноўнікі сядзяць у інтэрнэце, бавяць час за кавай і чакаюць падвышанай ільготнай пэнсіі, якую гарантуе ім закон, падпісаны прэзыдэнтам.**

**Народ гатовы перачакаць цяжкасьці ў краіне, але ня можа цярпець несправядлівасьці. Чаму не скарачаецца колькасьць чыноўніцкага апарату? Да якога часу будзе існаваць такая дзікая несправядлівасьць у налічэньні пэнсіяў? Што творыцца з цэнамі? Чаму квітнее карупцыя? Пэнсіянэры, не аблашчаныя прэзыдэнтам, ня могуць зьвесьці канцы з канцамі. А ён хоць і шмат і прыгожа гаворыць, але не пра тое, пра што мы хочам пачуць. А хочам мы паслухаць пра тое, якія рэальныя заробкі і пэнсіі, з аднаго боку, у працоўнага люду, а з другога — у чыноўнікаў, міліцыянтаў, кадэбістаў ды іншай прыслугі.**

Увогуле, пэнсіянэры лічацца той часткай грамадзтва, якая найбольш пасьлядоўна і аддана падтрымлівае дзейную ўладу на ўсіх выбарах і рэфэрэндумах. Але і сярод людзей сталага веку нямала тых, якія гэтак жа, як Сьвятлана Асаёнак, параўноўваюць, супастаўляюць факты са свайго штодзённага жыцьця і спрабуюць шукаць адказы на нязручныя для ўлады пытаньні. І сапраўды,

за якія такія асаблівыя заслугі столаначальнік у выканкаме, які ўсё жыцьцё перакладваў паперы з аднае шуфляды ў другую, атрымлівае ўдвая ці ўтрая большую пэнсію, чым трактарыст, даярка, сьлесар? Чым праца міністэрскага клерка больш адказная, цяжкая ці небясьпечная за працу настаўніка і лекара?

Відавочна, чыноўнікі, якія распрацоўвалі пэнсійнае заканадаўства і шматлікія падзаконныя акты, крыўдзіць самі сябе не зьбіраліся. А што ж, так бы мовіць, «народны прэзыдэнт», які падпісваў гэтыя законы? Можа, і праўда падмахнуў ня гледзячы, ня ведаючы, не ўнікаючы ў сутнасьць? Ды не, спадарыня Асаёнак. Справа тут у іншым. Гэта ў палітычна зацішныя пэрыяды чыноўніцкая раць мірна дрэмле ў мяккіх крэслах, шастае па сацыяльных сетках у інтэрнэце ды бавіцца кавай падчас бясконцых перакураў. А ў часе выбараў? Хто фармуе бездакорны склад выбарчых камісіяў? Хто арганізуе гарантаваны падлік галасоў? Хто забясьпечвае чарговую «элегантную перамогу»? І яшчэ ў большай ступені гэта датычыць міліцыянтаў, кадэбістаў ды іншых асобаў у мундзірах. Так што тут сыстэма наладжана якраз паводле прынцыпу «адзін за ўсіх і ўсе за аднаго». Праўда, большасьць грамадзтва застаецца ўбаку ад гэтага «міжсабойчыка», у якім між сваімі дзеляць зарплаты, пэнсіі ды прывілеі. Ну, але для гэтага можна ўвесьці рэжым сакрэтнасьці. І ня варта зьдзіўляцца, што прафсаюзы ды СМІ пра гэтую праблему маўчаць. Яны ж у Беларусі — частка сыстэмы, рэальнай незалежнасьці ня маюць.

## *Алег Князевіч, Менск*

***06.04.2011***

**Беларуская эканоміка квітнела-квітнела — і, відаць, адцьвіла. Цяпер замест кветачак зьявіліся ягадкі.**

**Учора абышоў паўдзясятка абменьнікаў, каб купіць 50 даляраў. Знайшоў толькі ў адным, і не 50, а 15.**

**А ўвечары па тэлевізары галоўны банкір Пракаповіч супакойваў: ніякай дэвальвацыі ён не дапусьціць, валюта ёсьць і будзе, ня слухайце тых, хто разносіць панічныя чуткі. Добра, я іх ня слухаю і ня веру. Але чаму тады немагчыма купіць 50 даляраў? Дзе тая валюта, якая нібыта ёсьць?**

**У тое, што дэвальвацыі ня будзе, верыць, напэўна, толькі Пракаповіч. Ды ці верыць і ён? І дзеля чаго з апошніх сілаў рабіць выгляд, што ўсё цудоўна і ўсё пад кантролем, калі насамрэч усім усё зразумела і рубель коціцца пад адхон? Каму патрэбная гэтая імітацыя і хлусьня?**

Падчас апошняй выбарчай кампаніі беларускім грамадзянам было абяцана: да канца 2010 году сярэдні заробак — 500 даляраў, да канца 2015-га — тысяча. (Натуральна, у беларускіх рублях, паводле афіцыйнага курсу Нацбанку). І ў мінулым сьнежні, перад выбарамі, абяцаныя 500 даляраў, калі верыць афіцыйнай статыстыцы, сапраўды былі дасягнуты. Іншая справа — якім коштам. Ужо на пачатку году гэтая лічба пад уплывам інфляцыі істотна ўсохла. А калі зараз дэвальваваць рубель — як будзе вы-

глядаць у вачах людзей улада, якая раздавала тыя абяцаньні? Іншая справа, што нерэальна нізкі валютны курс, які ўпарта трымае Нацбанк і па якім набыць у банках валюту практычна немагчыма — таксама немінуча адбіваецца на іміджы ўлады зусім пэўным чынам.

## *Алег Пяткевіч, Полацак*

***18.05.2011***

**Працую ў школе настаўнікам. Дзеткі цягнуцца да ўсяго нашага, роднага. Пытаюцца: «А што? А як? А калі?» Але ж цяпер усё беларускамоўнае (і ўвогуле ўсё беларускае) вельмі звужана. Падручнікі — толькі на расейскай мове. Гавораць дзеці паміж сабой таксама толькі па-расейску.**

**Як на мой погляд, дык дзеля таго, каб пашырыць беларускамоўнае асяродзьдзе, трэба, каб нашы эмігранты патроху вярталіся на радзіму.**

**Напрыклад, наш славуты зямляк Сяржук Сокалаў-Воюш. Ён, праўда, кажа, што ў яго роднай вёсцы Астроўшчына Полацкага раёну няма ніякіх зьменаў і ён ня зможа ўладкавацца на працу. Я ў 2009–2010 гадах працаваў у будаўнічай фірме. І мы будавалі вялікі грамадзка-культурны цэнтар якраз у вёсцы Астроўшчына. Іараблялі няблага. У гэты цэнтар уваходзяць паліклініка, дзіцячы садок, лазьня. Лічу, нашым эмігрантам ня трэба баяцца сваёй Бацькаўшчыны. Чым болей нас будзе, тым хутчэй мы разам даможамся сапраўднай незалежнасьці. Мы павінны самі**

**разам будаваць сваю краіну. А чынавенству да нас няма ніякай справы. Ім галоўнае — каб іх не чапалі, не заміналі займацца ўласнымі праблемамі**.

Людзі, якія эміґравалі на Захад, вельмі рэдка вяртаюцца на жыхарства назад у Беларусь. На тое ёсьць шмат прычын — і палітычных, і эканамічных, і ў кожнага — асабістых, сямейных. Наўрад ці варта за гэта дакараць эміґрантаў: кожны сам выбірае свой лёс. Беларуская нацыянальна арыентаваная эміґрацыя чым можа дапамагае сваёй радзіме ў моўных і культурных справах. Але разьлічваць у моўным адраджэньні толькі на яе сілы — прынамсі наіўна і бясплённа, спадар Алег. Лёс і беларускай мовы, і беларускамоўнай адукацыі вырашаецца тут, на беларускай зямлі, беларускімі ж грамадзянамі.

## *Павал Сац, вёска Асавая, Маларыцкі раён*

***08.06.2011***

**Нядаўна ў нашай вёсцы сабралі ўсіх алькаголікаў і абвясьцілі: «Будзеце працаваць, пойдзеце ў лячэбна-працоўны лягер. Там з вас усю дурноту выб’юць».**

**Кажуць, у Нямеччыне пры Гітлеру нешта падобнае было. Лукашэнка абвясьціў, што трэба браць прыклад з Андропава. Паглядзім, што атрымаецца. У Андропава дык неяк ня надта каб атрымалася. Можа, не пасьпеў…**

**Людзі радуюцца, што пэнсію хутка паднімуць. А чаго радавацца, калі цэны даўно абагналі тое падвышэньне? І навошта хваліцца, калі рэальна ў людзей сталі меншымі і пэнсіі, і заробкі…**

**Я вось днямі зайшоў у краму. Запалкі на паліцы — па 700 рублёў. І якраз падвезьлі новую партыю. Такія самыя запалкі — але ўжо па тысячы. І што гэта за запалкі? Толькі кожная сёмая загараецца адразу — такая якасьць. Вось пры палях і немцах тая ж пінская фабрыка вырабляла зусім іншы тавар. Запалку можна было раскалоць на 6 частак — і рэдка якая з гэтых расколінак давала збой. Людзі былі ашчадныя і выкарыстоўвалі гэта. І пры саветах пінская фабрыка вырабляла запалкі значна лепшай якасьці. Вось у мяне запалкі 1990 году выпуску. І нічога, ня страцілі сваіх уласьцівасьцяў — гараць добра.**

Ну, спадар Павал, калі вы запалак яшчэ ў 90-м годзе на дваццаць год наперад назапасілі — значыць, традыцыі беражлівасьці і ашчаднасьці ў нас жывуць і квітнеюць. А ўлады ўсё зьдзіўляюцца ды абураюцца: чаму гэта людзі кінуліся раскупляць цукар, соль, воцат, алей, бытавую тэхніку, будматэрыялы… Ды таму і кінуліся, што добра памятаюць, як вымушаны былі дзяліць кожную запалку на шэсьць частак. І ня без падстаў пабойваюцца, што цяжкія часіны ў любы момант могуць вярнуцца.

## *Марыя Касьцюкевіч, вёска Пазяненты, Івейскі раён*

***13.07.2011***

**Паважанае Радыё Свабода! Вось у нас у Пазянентах было 15 кароў. А цяпер, у гэтым 2011 годзе, усю пашу для прыватных кароў мясцовы калгас заараў. Давялося ўзяць кароўку на вяроўку — навязаць.**

**Калейка, па якой мы пасьвілі кароў, разладзілася. Бо пашы для статку фактычна не засталося. Хоць малако калгасу мы здаем. Вось вам праўда — як заціснулі людзей на вёсках.**

**А хто ўжо ня мае сілы, той вымушаны жывёлу, перазімаваўшы, прадаць. Мы зьвярталіся да кіраўнікоў. Чыноўнікі нам адказалі: навязвайце сваіх кароў і коней хоць на печы. Вось такая народная праўда.**

У сваёй вёсцы ў Шчучынскім раёне я быў сьведкам падобных гісторый у 80-я гады. Саўгаснае начальства разворвала апошнія лапікі пашы, ігнаруючы ўсе сьлёзныя просьбы людзей. У адказ на скаргі адкрыта хамілі: «Можаце пасьвіць у лесе — там травы хапае». Скардзіцца было бессэнсоўна: саўгасны начальнік выконваў дырэктыву райкаму партыі — павялічваў ворны клін і валавы збор збожжа. За што людзі яго праклінал, за тое партыйнае кіраўніцтва ўзнагароджвала чырвонымі сьцягамі і прэміямі.

І што ж у выніку? Няма сёньня ў маёй вёсцы ніводнай прыватнай каровы. Як няма і ніводнага

разаранага і апрацаванага калгаснага поля ў ваколіцах — усё зарастае кустоўем ды быльнягом.

Паважаныя івейскія кіраўнікі! І ў Пазянентах будзе тое самае, калі вашы падначаленыя будуць думаць не пра людзей, а толькі пра высокія лічбы ў справаздачах.

## *Аляксандар Лешык, Баранавічы*

***10.08.2011***

**Ходзіш па калідорах гарвыканкаму і думаеш: божухна, колькі ж тут кабінэтаў — сотні. І амаль у кожным — па чатыры чыноўнікі. Сядзяць, паперкі перакладваюць, рэзалюцыі пішуць... А якая з гэтага карысьць? Такое ж становішча на прадпрыемствах. Рабочых людзей на заводах — добра калі адна траціна. Астатнія — наглядчыкі, падлікоўцы, кантралёры ды ідэолягі... Які росквіт эканомікі можа быць пры такіх парадках? Здаецца мне, што ўлада зусім забылася, каму і як яна павінна служыць. Рабочы чалавек, які стварае багацьце для дзяржавы, павінен за сваю працу атрымліваць не жабрацкую падачку з панскага стала, а дастойны заробак. Ён мае права пасьля працоўнага дня зайсьці ў рэстаран ці бар, сустрэцца там зь сябрамі ў прыстойных умовах. А што ў нас? Паўсюль нават сталоўкі ліквідуюць — тыя самыя, што ў брэжнеўскія часы былі на кожным кроку, танныя і зручныя. Рабочы чалавек зь цяперашняй зарплатай ня можа дазволіць сабе нават гарачы абед у сталоўцы.**

**Ды што казаць, калі нават папы ў цэрквах, гэтыя былыя камуністы, заломваюць цяпер за свае паслугі такія сумы, што валасы дыбарам. 30 хвілін памоліцца над нябожчыкам — давай 150 тысяч. Няўжо гэтаму іх Хрыстос навучаў?**

**Увогуле, калі на чалавека звалілася бяда, памёр нехта з блізкіх — дык толькі пасьпявай грошы даставаць. Паслугі ў моргу: 150 тысяч за 10 хвілін (за тое, што апрануць нябожчыка). А смурод там які! Зробіш заўвагу, дык кажуць: няма грошай утрымліваць маразільныя ды халадзільныя камэры. І ўсё гэта робіцца на тле лядовых палацаў, якія будуюцца ўжо ледзь ня ў кожным райцэнтры...**

Вашы, спадар Аляксандар, жыцьцёвыя назіраньні ўражваюць і схіляюць да зусім пэўных пытаньняў. Калі ў дзяржавы няма грошай на тое, каб утрымліваць у належным стане халадзільныя камэры, прызначаныя для нябожчыкаў — то ці мае яна маральнае права выдаткоўваць сотні мільёнаў даляраў на лядовыя забавы? Дарэчы, вялікіх грошай каштуе ня толькі будаўніцтва лядовага палаца, але і яго ўтрыманьне. Падтрымліваць у летнюю сьпёку ў працоўным стане халадзільнае абсталяваньне хакейнай арэны — прыемнасьць зусім ня танная. Прынамсі, гэта не ідзе ні ў якае параўнаньне зь лядоўнямі раённага шпіталя. Бюджэт вялікага гораду знайсьці на гэта грошы яшчэ можа. А як быць невялікаму райцэнтру, у якога не хапае сродкаў ня тое што на хакей — на самае неабходнае, мэдыцыну ды адукацыю? Няўжо разьлічваць на тое, што за ўсё заплацяць нешматлікія аматары катаньня на каньках?

## *Юры Кутузаў, Смаргонь*

***24.08.2011***

**У 1991 годзе нарадзілася мая другая дачка. Сам я на той час быў звычайным абывацелем, які ня лез у палітыку, амаль не разьбіраўся ў ёй. Між тым адчуваліся нейкія зьмены, ад якіх тады, як мне цяпер здаецца, лягчэй рабілася дыхаць. Я пачынаў цікавіцца грамадзкімі праблемамі, раіцца з дасьведчанымі сябрамі. Радаваўся вяртаньню гістарычных сымбаляў. Нават двойчы абіраўся сябрам выбарчых камісіяў. Чакалася, што маім дзеткам наканавана жыць у сапраўды самастойнай, заможнай дзяржаве, што іх чакае сьветлая будучыня. Але ня ўсё выходзіць так, як нам марыцца…**

**У 1994-м я ўсіх родных, знаёмых адгаворваў галасаваць за Лукашэнку — ня ведаючы нават дакладна, чаму. Як прадчуваў. А ў 96-м, калі была зьменена Канстытуцыя, ліквідаваны парлямэнт, калі пачаў усталёўвацца жорсткі аўтарытарны рэжым, я ўжо ведаў, што буду змагацца з гэтай хлусьлівай уладай, як магу. Так яно і ёсьць.**

**Дочкі вырасьлі. Старэйшая вучыцца на апошнім курсе акадэміі ў Варшаве. Другая, равесьніца Незалежнасьці, вучыцца завочна тут. Ужо выйшла замуж. Хоць па-бацькоўску з жонкай перажываем за іх, дапамагаем як можам, але ж, па вялікім рахунку, яны ўжо дарослыя, са сваім сьветапоглядам, прынцыпамі, з выбранай жыцьцёвай сьцежкай.**

**А ў сярэдзіне мінулага году зьявілася ў маёй сям'і яшчэ адно вялікае шчасьцейка — нарадзіў-**

**ся любы сынок. Вось за чыю будучыню найбольш шчыміць сэрца і не даюць спакою думкі. Тыя невялікія спадзяваньні на зьмены, што былі да 19 сьнежня мінулага году, разьвеяліся як дым. І што чакае майго Арсеньку? Ці будзе ён сьпяшацца з вучобы ці зь якой трэніроўкі хутчэй дахаты, каб, як некалі ягоны бацька, пасьпець у 18 гадзін уключыць сваё дарагое Радыё Свабода? Ці, можа (крый Бог!), давядзецца яму хавацца з маленькім прымачом дзе-небудзь у лесе ці пад коўдрай, каб толькі паслухаць навіны па Свабодзе і каб ніхто пра гэта не даведаўся, бо слухаць беларускую мову, а тым больш на такім «варожым» канале будзе небясьпечна? А вось калі майму хлопчыку ня трэба будзе сьпяшацца дахаты, а тым больш хавацца, таму што пазыўныя Радыё Свабода будуць гучаць з вокнаў, у аўтобусах, з рэпрадуктараў на вуліцы, а вакол паўсюль будзе чувацць беларуская гаворка, — вось тады я буду ўпэўнены, што мой сын расьце ў сапраўды незалежнай самастойнай дзяржаве, якой можна і трэба ганарыцца.**

Я ўпэўнены, спадар Юры, што і ў вашага Арсенькі, і ў майго маленькага сына, якому пакуль толькі крыху больш за год, і ў тысяч іншых сёньняшніх беларускіх дзяцей, калі яны падрастуць, ня будзе таго страху і яны зусім ня будуць стаяць перад тым выбарам, пра які вы з такім непакоем пішаце. Зрэшты, і караткахвалевымі прымачамі яны ўжо наўрад ці захочуць карыстацца. Будуць заходзіць на сайт Свабоды ў любы час і зь любога месца, карыстаючыся нэтбукам, мабільным тэлефонам ці якім-небудзь яшчэ больш сучасным прыстасаваньнем, якое на той час зьявіцца. Можа, і Радыё

Свабода падчас іхнай маладосьці ўжо ня будзе — адпадзе ў ім патрэба, калі свабоднымі стануць усе айчынныя сродкі масавай інфармацыі, калі людзі будуць свабодна выбіраць і пераабіраць сваю ўладу і гаварыць і пісаць пра яе ўсё, што яны сапраўды думаюць — без цэнзуры і бяз страху.

## *Раіса Катлярова, Магілёў*

***31.08.2011***

**Улетку вечарамі я на вуліцы. У мяне каля пад'езду вялікі кветнік: прыкладна сотка зямлі. За шэсьць гадоў я давяла яго да прыстойнага стану. Я яго і даглядаю, і проста з кнігай ля кветак адпачываю. За горадам участку ня маю, таму ўнучкі прыходзяць да мяне на канікулах як на дачу. Любуюцца кветкамі і прыстойныя людзі, мінакі. А непрыстойныя ўсе шэсьць год вынішчаюць — рвуць, топчуць, дратуюць катамі, сабакамі, нішчаць машынамі. Тым ня менш кветнік жыве, цьвіце, квітнее, як выспачка будучай квітнеючай Беларусі. Я лічу так: змагацца за Беларусь трэба ня толькі на працы, на мітынгу, у прэсе, але і па месцы жыхарства. Што я і раблю, мяркую, пасьпяхова. А ўсё пералічанае вышэй я ў свой час прайшла. І скажу вам, што даволі спрэчнае пытаньне, дзе лягчэй: ці ў масе людзей, ці аднаму — практычна, у аблозе п'яніц, сталінскіх стаханавак і маладых цынікаў.**

**Дарэчы, ці не абвясьціць на Радыё Свабода конкурс на тэму: як вы, змагары за свабоду, дэмакратыю і справядлівасьць, паказваеце**

**прыклад на працы, па месцы жыхарства? Упэўнена, што я ў гэтым конкурсе была б не сярод апошніх. Бо жывем мы ўсё-ткі не на Плошчы. Мы там толькі змагаемся. А расквітнее Беларусь сваімі падʼездамі, падворкамі, сялібамі, узьлескамі — словам, прыстойнымі месцамі агульнага карыстаньня.**

Так, спадарыня Раіса: дыктатары прыходзяць і сыходзяць, палітычныя рэжымы мяняюцца, бронзавыя манумэнты зямным уладарам паўстаюць і руйнуюцца — а кветкі ля ганку дбайнага гаспадара як цьвілі тысячу гадоў таму, так будуць цьвісьці ў наступным тысячагодзьдзі. Калі толькі палітыкі не давядуць чалавецтва да якой-небудзь катастрофы, пасьля якой не застанецца ні кветак, ні будынкаў, ні самога чалавека.

## *Тамара Краўчук, Камянец*

***21.09.2011***

**Гэта было на пачатку 50-х гадоў. Мне тады было гадоў сем ці восем. Да нас у хату прыходзілі бацькавы сябры. Маці накрывала на маленькі столік — нібыта госьці. Але мужчыны сядалі не за стол, а слухалі радыё. У нас была вялікая радыёла: можа трафэйная, а можа немцы пакінулі. А магчыма, яшчэ зь Белавежы, дзе да вайны жылі мае родныя. У таты былі мянушкі «Балаховец» і «Палітыкан». Што праўда, ён у рэальнасьці быў і тым, і другім.**

Дык вось, калі ў хаце пачыналі слухаць радыё, мяне з маёй крыху старэйшай за мяне сястрой выпраўлялі на вуліцу — пільнаваць, ці ня йдзе да нас хто чужы. Калі мы бачылі незнаёмага чалавека, то павінны былі стукаць у акно.

Мяне тады ахоплівала такое дзівоснае пачуцьцё таямніцы! Мы адчувалі, што дапамагаем у нейкай патаемнай важнай справе. Толькі дарослай я зразумела, што мой бацька і ягоныя сябры слухалі тады заходнія радыёстанцыі — Свабоду, «Голас Амэрыкі», Бі-бі-сі.

На жаль, тата рана памёр: мне было толькі 9 гадоў, а яму — 59. Мінулі цяжкое дзяцінства, школа. І настаў час, калі я сама стала слухаць тыя ж радыёстанцыі. Як я цяпер разумею свайго бацьку, прыкладаючы вуха да старэнькага прымача, каб пачуць родны голас беларускай Свабоды!

У савецкія часы я, назьбіраўшы за год грошай, пабывала па турыстычных пуцёўках у некалькіх краінах Эўропы. Бачыла, як адпачываюць старыя немцы на ўлоньні прыроды ў Саксоніі, прыехаўшы ў дамы адпачынку на ўласных «Трабантах». І думала пра няшчасную долю нашых пэнсіянэраў...

А потым разваліўся Савецкі Саюз. Якое цудоўнае тады было адчуваньне — колькі надзей і чаканьняў! Я была так узрушана, нібы мне падарылі нешта такое, пра што я марыла ўсё сваё жыцьцё і займець што дагэтуль не было ніякай надзеі. Гэта было так, нібы я ўсё папярэдняе жыцьцё была ў клетцы — а тут раптам мяне выпусьцілі на волю! Вось пра што марыў мой бацька!

**Але нядоўга мы цешыліся... Вельмі шкада. Мне ўжо за 60. Няўжо Свабоду я буду толькі слухаць? Няўжо мне не наканавана пажыць ва ўмовах свабоднай дэмакратычнай краіны?**

Думаю, спадарыня Тамара, вы агучылі думкі, пачуцьці, чаканьні і расчараваньні тысяч і тысяч беларусаў вашага пакаленьня. Ніякія аналітыкі ды прагназісты ня здольныя прадказаць, які будзе далейшы лёс беларускай дзяржавы, ці хутка грамадзяне Беларусі зноў адчуюць той смак свабоды, які так хмяліў і натхняў на пачатку 90-х гадоў. І ўсё ж многія і многія ў Беларусі не без падстаў спадзяюцца і вераць, што 17 год — дастатковы тэрмін для таго, каб грамадзтва асэнсавала, якую цану заплаціла за ўласныя ілюзіі ды памылкі, і знайшло ў сабе сілы зьмяніць уласны лёс.

## *Галіна Цялушкіна, Менск*

***12.10.2011***

**Усе мы, людзі, шукаем найперш уласнай выгады. І тут розьніцы няма, хто прэзыдэнт. Была б на месцы прэзыдэнта я ці вашы Лябедзькі — усё роўна кожны цягне коўдру на сябе.**

**Вось адна мая знаёмая ў свой час працавала на адказнай пасадзе ў Нацбанку, цяпер атрымлівае вялізную па нашых мерках пэнсію. Дык вось, у банку яна ўзначальвала партыйную арганізацыю. А цяпер — заўзятая верніца, сьпявае на клірасе. Яе дзеці, зяці — усе ў БРСМ ці ў «Белай Русі». Так што ўсе мы — прыстасаванцы.**

**А я ж вось трапіла на ваш кручок: наслухалася пра акцыі незадаволеных, далучылася. Затрымалі. Але паколькі я пэнсіянэрка, дык да мяне асабліва не чапляліся. Затое праз КДБ за мой «хуліганскі» ўчынак давялося адказваць дачцэ.**

**У вас таксама свае ўласныя інтарэсы. Праз такіх дурняў, як я, вы выжываеце і цудоўна сябе адчуваеце. Але ўсё гэта — падман, ня больш за тое. Больш вы не спадзявайцеся, што я траплю да вас на кручок.**

Нават і ня ведаю, што вам параіць, спадарыня Галіна. У БРСМ вас, напэўна, ужо не запішуць. А вось у «Белую Русь» папрасіцца можна — яны якраз ператвараюць гэтую арганізацыю ў палітычную партыю. Праўда, ці падвысяць вам за партыйства пэнсію — пытаньне складанае. Напэўна, трэба зьвяртацца з запытам у райкам ці абкам партыі...

Што да, кажучы вашымі словамі, «закідваньня кручкоў». Ні да якіх палітычных акцыяў мы не заклікаем. Удзельнічаць ці ня ўдзельнічаць у іх — справа вашага асабістага выбару. А вось інфармаваць пра грамадзкія пратэсты і пра тое, як улада помсьціць іх удзельнікам, мы будзем гэтак жа, як інфармавалі заўсёды. Кожны чалавек мае права на ўласныя палітычныя погляды і на публічнае іх адстойваньне, у тым ліку шляхам мірных пратэстаў і дэманстрацыяў. Гэтае прызнанае ва ўсім цывілізаваным сьвеце права мы шляхам распаўсюду праўдзівай аб’ектыўнай інфармацыі дапамагаем абараняць тым людзям у Беларусі, якія, адрозна ад вас, спадарыня Цялушкіна, ня лічаць прыстасаванства і крывадушнасьць чалавечымі вартасьцямі.

## *Алесь Яжэвіч, вёска Запольле, Чэрвеньскі раён*

***26.10.2011***

**Такога разгулу беларусафобіі, нянавісьці да беларускай мовы не было нават у Савецкім Саюзе. У агульнаадукацыйнай сярэдняй школе зь беларускай мовай навучаньня ў клясах, дзе вучацца мае дзеці, на мове выкладаюцца толькі тры прадметы (два зь якіх — сама беларуская мова, а таксама беларуская літаратура). Абсалютная бальшыня дысцыплін выкладаецца настаўнікамі па-расейску. Таксама на расейскай мове ў школе зь беларускай мовай навучаньня праходзяць лінейкі і бацькоўскія сходы.**

**Справа дыскрымінацыі беларускамоўных зайшла так далёка, што на працы іх адмаўляюцца нават разумець. Начальства ігнаруе паперы, напісаныя па-беларуску. Патрабуе перапісаць па-расейску.**

**Калі ты размаўляеш па-беларуску — у цябе могуць быць вялізныя праблемы з працаўладкаваньнем, прасоўваньнем па службе. Мая адукаваная беларускамоўная сям'я з чатырох чалавек даўно жыве за рысай беднасьці, а дакладней сказаць — выжывае. Не заплаціць альбо ўрэзаць заробак, абмежаваць у выбары працы, звольніць паводле сфальшаваных прычынаў, давесьці да галечы — вось цяперашняя палітыка беларускай дзяржавы ў адносінах да іншадумцаў.**

**Кіраўнікі прадпрыемстваў, ведаючы, як у вярхах ставяцца да мовы, баяцца браць бела-**

**рускамоўных на працу. А тыя, хто ўсё ж узяў, імкнуцца хутчэй пазбавіцца — каб не наклікаць на фірму бяды.**

**Я неяк уладкаваўся на працу мэнэджэрам па грузаперавозках. Сваю «аську» на працоўным кампутары ўсталяваў па-беларуску. Дырэктар фірмы, калі ўбачыў гэта, хуценька ўласнаручна перавёў яе на расейскую мову. А праз гадзіну мяне звольнілі. Трэба шукаць новай працы, а значыць — саступаць сумленьню і пераходзіць на расейскую мову. Са сваім статутам у чужы манастыр ня пойдзеш. Хто ня мае досьведу шматгадовых зносін на беларускай мове, не ўспрыняў гэтую мову сэрцам — той не зразумее, як гэта балюча, млосна, цяжка...**

**Настаўнікі разумеюць, што беларуская мова ў нашай дзяржаве амаль нідзе не патрэбная. Добрасумленныя дзеці, якія палюбяць мову, стануць ахвярамі нашай беларускай рэчаіснасьці і ня змогуць потым працаўладкавацца. Таму, кіруючыся найлепшымі намерамі, настаўніца хіміі прапанавала дзецям перайсьці на расейскую мову. Бо школа, урокі — яны ж не для адзнак, а для жыцьця. На заклік настаўніцы станоўча адрэагавалі амаль усе вучні. Яны пайшлі ў школьную бібліятэку і памянялі беларускамоўныя падручнікі на расейскамоўныя, акуратна падрыхтаваныя дзеля гэтага загадзя. Адмовіўся гэта зрабіць толькі мой сын Вітаўт. І я ганаруся сваім сынам.**

У свой час у 70–80-я гады мне давялося вучыцца ў дзьвюх беларускамоўных школах. Наколькі памятаю, нікому з настаўнікаў і ў галаву не прыходзіла мяняць беларускія падручнікі на расейскія.

Зрэшты, падручнікаў на расейскай мове ў школе проста не было: іх не дасылалі з раёну. Праўда, былі выключэньні: па-расейску выкладалі пачатковую вайсковую падрыхтоўку і замежную мову. Беларускіх падручнікаў па гэтых прадметах увогуле не існавала: іх выпускалі толькі маскоўскія выдавецтвы.

Тады, у апошнія гады існаваньня БССР, многім здавалася, што дыскрымінацыя, заняпад, вынішчэньне беларускай мовы дасягнулі апошняй ступені, што горш ужо проста ня можа быць. Аказалася — можа.

У многіх лістах на гэтую тэму гучыць пытаньне: ці ёсьць увогуле ў сёньняшняй Беларусі сілы, здольныя спыніць гэты зьнішчальны працэс, які ўсё больш набліжаецца да свайго сумнага фіналу. Спадзявацца на тое, што адраджэньня мовы запатрабуе большасьць беларускага грамадзтва, відавочна, не выпадае. На тое ёсьць шмат прычынаў — тым, хто знаёмы зь беларускай спэцыфікай, яны добра вядомыя. Надзея — на тое, што сама беларуская ўлада (цяперашняя ці тая, што прыйдзе ёй на зьмену) у адно цудоўнае імгненьне нарэшце зразумее: калі не ўратуе мову, то не ўратуе і нацыю, і дзяржаву — а значыць, і саму сябе. Хаця б дзеля ўласнага самазахаваньня яна павінна гэта зрабіць.

## *Генадзь Кузьміч, Менская вобласьць*

***07.12.2011***

**Хвалімся на ўвесь сьвет, як наша дзяржава дапамагае сельскай гаспадарцы. А ці даходзіць тая дапамога да простага селяніна? Скажаце, будуюцца аграгарадкі? Так, жыльлё за дзяржаўны кошт будуецца, але без уліку таго, ці ёсьць у гэтых калгасах працоўныя месцы з добрымі заробкамі. А бяз гэтага ці пагодзяцца маладыя спэцыялісты на переезд?**

**Добра ведаю з уласнага досьведу: абсталяваньне мэхмайстэрняў у большасьці калгасаў не абнаўлялася гадоў 50. Спэцыялістаў па апрацоўцы мэталу практычна няма — асабліва кавалёў. А як на вёсцы без каваля?**

**Вясковым пэнсіянэрам практычна ніхто не дапамагае ў вядзеньні гаспадаркі, падтрыманьні ў належным стане жытла. Усе размовы пра клопат і ўвагу — пустая балбатня. Людзі для гэтай улады — адпрацаваны матэрыял. Даходы ў вяскоўцаў — кот наплакаў. Але людзі ня плачуць і ня скардзяцца на цяжкае жыцьцё, а проста пакрысе ціхенька сыходзяць на пагост. Веры няма нікому, адно расчараваньне. За доўгія гады ўсе ўжо зразумелі: у прыгожай птушкі надта ж непрыгожы голас. І, відаць па ўсім, бяз моцных узрушэньняў нічога ў нас ня зьменіцца.**

**Нават з саманарыхтоўкай дроваў на зіму давялі праблему да маразму. Для чыноўнікаў галоўнае — трымаць і не пускаць. Нібы мы не ў лясной Беларусі, а ў Афрыцы. Вось і задумваемся мы, вясковыя жыхары: ці не падацца нам у**

**партызаны (як, дарэчы, і Лукашэнка заклікае)? А можа, лепш адразу здацца ў палон на літасьць пераможцы?**

Вясковыя людзі ў Беларусі ніколі не жылі надта багата, да раскошы не прывыклі і ад улады эканамічных цудаў не чакаюць. Нават пастаяннае зьніжэньне рэальных пэнсіяў і заробкаў вяскоўцаў ня надта моцна абурае: жывая яшчэ памяць пра не такія далёкія часы, калі пэнсіяў не плацілі ўвогуле, а за цяжкую працу ў калгасе разьлічваліся напрыканцы году мехам збожжа. Давесьці беларускага селяніна да абурэньня можа хіба што сытуацыя, калі ў яго адбяруць тое апошняе, чаго не адбіралі нават бальшавікі падчас калектывізацыі і акупанты-немцы. А менавіта: спрадвечную, дадзеную Богам магчымасьць карыстацца і карміцца з таго, што даюць рака, возера, лес. І вось жа ўсё часьцей прыходзяць з розных вёсак сыгналы, што ўлада накладвае сваю цяжкую далонь якраз на гэтыя спрадвечныя негалосныя «прывілеі»: у лясной вёсачцы нельга бясплатна прывалачы сухастоіну на дровы, а рыбнагляд хапае і цягне ў суд жыхара прыазёрнай вёскі, які адвеку ні ў кога не пытаў дазволу на тое, каб злавіць рыбы на юшку.

# 2012

*«Купіць лівэркі — не такая простая справа. У некаторых крамах нават запісвацца трэба»*

***Вёсак — меней, школ — меней, шпіталяў — меней… І насельніцтва ў Беларусі за апошнія два дзесяцігодзьдзі скарацілася на мільён чалавек. Каго стала значна болей, дык гэта чыноўнікаў.***

*Мікола Скок, Баранавічы*

***01.02.2012***

**Немагчыма ўжо цярпець самаўпраўства незьлічонай арміі чыноўнікаў, якія дбаюць толькі пра сябе... А іх разьвялося — процьма. Вось хоць бы як у нас у Баранавічах. У цэнтры гораду на вуліцы Савецкай — 6-павярховы гмах. На другім паверсе раней была сацыяльная ўстанова. Для пэнсіянэраў зручна дабірацца. Дык гэтую ўстанову перавялі на вуліцу Грыбаедава. У дождж туды без гумовых ботаў ня дойдзеш. А яе месца заняў камсамол (БРСМ).**

**У цэнтры — вялікі 3-павярховы будынак былога гаркаму партыі. Была ў ім некалі мастацкая школа для дзетак. Дык цяпер дзяцей вытурылі чыноўнікі, паставілі міліцэйскі пост. Далей на**

Савецкай вуліцы — 2-павярховы дом для чыноўнікаў. (Гэта ўжо, лічы, 11 паверхаў дармаедаў). А прыплюсуйце сюды па 5–6 паверхаў на тэкстыльным камбінаце, заводзе аўтаматычных ліній ды на іншых прадпрыемствах. Я налічыў больш за 50 паверхаў чыноўнікаў.

Для іх у кінатэатры «Кастрычнік» — начны клюб, у самім гаркаме — раскошны бар. Насупраць гаркаму ў гатэлі «Турыст» — казіно. Затое ва ўсім горадзе з 200-тысячным насельніцтвам ня знойдзеш простай крамы з гароднінай ды садавіной. А былі ж гэтыя крамы — «Бурачок», «Рэпка» ды іншыя. Гародніну ды садавіну можна знайсьці на кірмашах, але ўсе яны на ўскраінах гораду... У цэнтры быў кірмаш — так званы «пятачок». Дык зачынілі яго. Тэрыторыю абнесьлі высокім жалезным плотам. Там будуць нібыта залі кампутарных гульняў.

Два крокі адсюль — крама «Кулінарыя», дзе стала групуюцца чырванашчокія дзяцюкі-мянялы. Трэба даляры — дык у іх таньней. І бяз пашпарта.

За «Кулінарыяй» — малады парк. Пры ўваходзе з самай раніцы тоўпяцца цыганкі — прыходзяць як на працу. Ловяць моладзь — угаворваюць пагадаць. Цераз парк ідуць міліцыянты, чыноўнікі, судзьдзі — і ўсе робяць выгляд, што не заўважаюць ні мянялаў, ні варажбітак. Адварочваюцца. А вось калі якая бабка прысядзе тут, каб прадаць які бурачок, — міліцыянты тут як тут. І цягнуць яе за рог — штрафаваць. Я назіраў неяк такую карціну. Старая пры гэтым крычала: «Ды не спэкулянтка я. Хачу прадаць, каб лівэркі купіць…» Дарэчы, купіць лівэркі —

**не такая простая справа. У некаторых крамах нават запісвацца папярэдне трэба.**

Чыноўніцкая каста, сапраўды, мае вялікую схільнасьць да памнажэньня ўласных шэрагаў. Здавалася, пасьля 1991 году, калі распусьцілі КПСС, колькасьць featrofs рознага кшталту начальнікаў павінна была істотна скараціцца. І на першым часе гэта сапраўды адбывалася. Будынкі былых гаркамаў, абкамаў і райкамаў партыі аддавалі пад мастацкія школы, самім былым партыйным функцыянэрам давялося шукаць новую працу. Але вось мінула два дзесяцігодзьдзі. Прайдзіцеся па тых самых будынках. Усюды — чыноўнікі (цяпер ужо не «партыйныя», а «вэртыкальныя»). Усе раней страчаныя пазыцыі бюракратыя адваявала, ды яшчэ скардзіцца, што і гэтага мала: трэба, маўляў, ствараць новыя структуры... Гэта пры тым, што насельніцтва Беларусі за гады прэзыдэнцтва Лукашэнкі скарацілася на мільён чалавек. Адпаведна, тых, кім належыць кіраваць, значна паменела...

*Іван Кавалёў, Ворша*

***08.02.2012***

**Напрыканцы мінулага году мясцовае тэлебачаньне паказала сэсію гарсавету. Сумнае, ганебнае, вартае жалю відовішча. Старшыня гарвыканкаму Лісоўскі чытае даклад-справаздачу, не паднімаючы вачэй ад тэксту. Бубніць нешта сабе пад нос. Нават ужо хворы Леанід Ільіч Брэжнеў на зьездах ды пленумах выступаў значна больш**

**эмацыйна. Рэакцыя ў залі — адпаведная. Адны дэпутаты панура маўчалі, іншыя проста драмалі.**

**Нарэшце вынік падвёў намесьнік старшыні аблвыканкаму Навацкі: Ворша — датацыйны горад, большасьць прадпрыемстваў — стратныя, пэрспэктывы — цьмяныя... Цікава, хто ж да гэтага давёў? Раней, у СССР, Ворша была пасьпяховым прамысловым горадам. Ільнокамбінат, «Лягмаш», «Чырвоны Барацьбіт», інструмэнтальны завод, сылікатны — усе прыносілі прыбыткі. А сёньня чамусьці — адны страты.**

**Ня толькі я думаю, што гораду проста не шанцуе на кіраўнікоў. Малаадукаваныя, безынiцыятыўныя, бяз творчага падыходу, бязь яркіх ідэяў... Дзе толькі Лукашэнка такіх знаходзіць? Ад людзей жа нічога не схаваеш. Мы ж бачым, хто кіруе намі. То нячысты на руку, то выпівоха, то лайдак, то жулік... Што абуральна — нават цалкам заваліўшы працу, яны не зьнікаюць. Як правіла, усплываюць то ў якім-небудзь савеце, то ў Палаце прадстаўнікоў, становяцца дэпутатамі. Да чаго ж мы дойдзем з такім кіраўніцтвам?**

Такая, спадар Іван, сыстэма ўлады ў Беларусі. Кіраўнік раёну, гораду, вобласьці сваёй службовай кар'ерай абавязаны выключна адной усім вядомай асобе, якая яго на гэтую пасаду прызначыла. Ад думкі мясцовых жыхароў начальнік гораду залежыць мала. Не яны яго абіраюць, не яны звальняюць. Ня перад імі ён трымае справаздачу. Так што грамадзкая думка яго мала абыходзіць. Галоўнае, каб быў задаволены адзін галоўны візытэр, да прыезду якога ўздоўж усёй трасы фарбуюць платы,

тынкуюць сьцены і кладуць асфальт. І што з таго, што потым праз гэтае марнатраўства жыхары іншых раёнаў гораду патанаюць у гразі альбо ня могуць адрамантаваць дахі, бо ў мясцовым бюджэце не засталося грошай?

*Язэп Ідолінскі, вёска Чудзенічы, Лагойскі раён*

***23.05.2012***

**Асабіста для мяне абрэвіятура РБ — не Рэспубліка Беларусь, а Рэспубліка Бутафорыя. Усюды, на кожным кроку нам імкнуцца пусьціць пыл у вочы. Прыкладаў шмат. Вось новыя аўтобусныя прыпынкі: нібыта прыгожыя, са шкла і пластыку. Але зроблена ўсё так, што на іх не схаваесься ні ад сьцюжы, ні ад дажджу, ні ад ветру, ні ад сьнегу. Прычым — ні зімой, ні летам.**

**Тое ж можна сказаць і пра новыя жывёлагадоўчыя комплексы: звонку — прыгожа, а ўсярэдзіне — зьдзек з жывёлы.**

**А колькі ў нас пустой пахвальбы! Вось трубілі ўсе афіцыйныя СМІ, што летась сабралі звыш 8 мільёнаў тон зерня. Ды калі ў нас столькі хлеба, дык чаму кошты на гэты хлеб для ўласнага насельніцтва растуць кожны месяц? Дзе ж тыя вашы мільёны? Гэта ж не далікатэсы, не раскоша — асноўны харч для многіх бедных беларусаў.**

**А аграгарадкі? Паказуха на тле таго, як ціха, бяз стогну паміраюць сотні і тысячы іншых вёсак і вёсачак. Што зрабіла ўлада дзеля**

**іх выратаваньня за мінулыя 18 год? Ды нічога. Сытуацыя — горшая, чым пасьля вайны. Тады многія вёскі былі спалены фашыстамі, але яны хутка адрадзіліся: бо былі людзі, якія імкнуліся жыць на роднай зямлі. А пасьля цяперашніх, так бы мовіць, «акупантаў» гэтыя вёскі ўжо ніхто не адродзіць. Няма такой сілы. А бутафорыя — тут як тут. Новыя дамкі, пабудаваныя дзеля паказухі, стаяць на пагорку, а вялікай вёскі няма, памерла. Улада ў сілу сваёй прыхільнасьці да бутафорыі любіць называць Беларусь «сінявокай»... Прыдумалі ж такое! У мяне ў сувязі з гэтым штампам зусім іншыя асацыяцыі: замест сініх вачэй глядзіць сёньняшняя беларуская вёска на сьвет бельмамі зачыненых аканіц ды выбітых шыбаў у апусьцелых хатах. Аж крычаць хочацца ад бездапаможнасьці і абурэньня...**

Вельмі дакладныя назіраньні, спадар Язэп. Марудную сьмерць родных вёсак назіраюць сёньня некалькі пакаленьняў беларусаў. Прычым многія зь іх зусім ня супраць былі б жыць на роднай зямлі, у роднай хаце. Але як там заставацца, калі на калгасны заробак часта немагчыма выжыць, калі іншай працы няма, калі зачынілі школу, дзіцячы садок, амбуляторыю?.. У так званыя «прэзыдэнцкія дамкі» дзяржава за мінулыя паўтара дзесяцігодзьдзя ўклала мільярды даляраў. У шэрагу выпадкаў гэтае жыльлё так і засталося незаселеным, незапатрабаваным. Магчыма, калі б гэтыя мільярды былі ўкладзеныя ў стварэньне на вёсцы новых прывабных працоўных месцаў — вынік быў бы зусім іншы.

А што да паэтычнага вобразу «сінявокай Беларусі», то прыдумалі яго зусім не цяперашнія афіцыйныя ідэолягі. Яны актыўна (і часта недарэчы) выкарыстоўваюць яго ў сваіх прапагандысцкіх мэтах — гэта праўда. Але вобраз гэты зьявіўся задоўга да Лукашэнкі. Ёсьць такія вершаваныя радкі:

*Беларусь мая сінявокая,*
*Васілёчак мой дарагі,*
*Узьляцела ты ясным сокалам,*
*Над табою ляцяць сьцягі!*

Напісаны яны былі беларускай паэткай Нэлі Тулупавай шмат дзесяцігодзьдзяў таму — у 60-я гады мінулага стагодзьдзя.

## *Надзея Марчук, вёска Глінянка, Кобрынскі раён*

***13.06.2012***

**Для нас, вясковых людзей, палітыка — гэта ў першую чаргу цэны. І ня толькі тыя, што ў краме, але і закупачныя цэны на сельгаспрадукцыю, якую мы вырабляем у сваіх маленькіх хатніх гаспадарках і за кошт якой у значнай ступені выжываем. І вось тут дзяржава, па сутнасьці, зьдзекуецца зь селяніна. Колькі нам плацяць за здадзенае малако, мяса, зерне, бульбу?**

**Вось прыклады. Малако тлустасьцю 3,6 працэнта дзяржава купляе ў нас па 2955 рублёў за літар, а прадае? Бывае, што і больш як за сем тысяч.**

**Пшаніцу (збожжа) у нас купляюць па 630 рублёў за кіляграм. А колькі каштуе хлеб?**

**Проса — 730 рублёў за кіляграм. А ў краме цана разоў у пяць вышэйшая.**

**Ведаю, гарадзкія людзі скардзяцца, што цэны ў крамах для іх надта высокія. Можа, яны думаюць, што мы ў тым вінаватыя, што купаемся ў грошах за іхны кошт, што звышпрыбыткі атрымліваюць сяляне і калгасы? Але гэта зусім ня так.**

Цэны ў краме ня могуць супадаць з тымі закупачнымі цэнамі, па якіх вы, спадарыня Надзея, здаяце сваё малако нарыхтоўшчыку. Транспарт, перапрацоўка, упакоўка, захоўваньне, паслугі гандлю — усё гэта каштуе грошай. Але зразумела і тое, што розьніца ў цэнах не павінна складаць сотні працэнтаў, як гэта шмат калі назіраецца ў сёньняшняй Беларусі. Хто ж атрымлівае звышпрыбыткі? У многіх выпадках гэта — шматлікія пасярэднікі, якія з дапамогай зладзеяватых чыноўнікаў і кіраўнікоў дзяржаўных прадпрыемстваў настваралі фірмаў і фірмачак, праз якія перапампоўваюцца паперы і грашовыя плыні. Ні да малака, ні да мяса, ні да зерня яны, як правіла, ніякага дачыненьня ня маюць. Уся іхная праца — адшчыкнуць працэнт ад зробленых ня імі грошай ды падзяліцца гэтым працэнтам з тымі, хто даў ім дазвол на гэтую, так бы мовіць, «дзейнасьць».

## *Леанід Кулеш, вёска Сіняўка, Клецкі раён*

***04.07.2012***

**За камуністамі мне даводзілася чуць такую прыпеўку:**

***Нам сонца ня трэба —***
***Нам партыя сьвеціць!***
***Нам грошай ня трэба —***
***Работу давай!***

**Час нібыта зьмяніўся, але прыпеўка (хоць і ў новай рэдакцыі) зноў актуальная. Цяпер яна павінна гучаць так:**

***Нам праўды ня трэба —***
***Нам «бацька» ёсьць праўда!***
***Нам розум ня трэба —***
***Гарэлку давай!***

Зьедлівыя радкі, якія вы, спадар Леанід, згадваеце ў сваім лісьце (пра тое, што «нам сонца ня трэба — нам партыя сьвеціць...»), я ўпершыню пачуў у 1986-м годзе ў раённай газэце, куды толькі што прыехаў на працу пасьля ўнівэрсытэту. Што адметна — пачуў я іх ад сакратара партыйнай арганізацыі рэдакцыі. Калі аўтарытарнай сыстэмы перастаюць баяцца і пачынаюць зь яе насьміхацца (нават тыя, хто закліканы ёй аддана служыць) — сыстэма гэтая доўга не праіснуе. Прынамсі, такую выснову я зрабіў з уласнага досьведу працы ў савецкім друку эпохі перабудовы і галоснасьці.

## *Вольга Дуброўская, вёска Ляскоўка, Менскі раён*

***11.07.2012***

**Грамадзтва наша ў сваёй бальшыні абыякавае да таго, што адбываецца наўкол. Калі чалавек мае ўласную думку і наважваецца адкрыта выказваць яе — гэта разглядаецца як выклік.**

**Сама я — з 40-х гадоў. Бачыла, як прыніжалі маіх родных, якія перамаглі фашызм...**

**І цяпер таксама пры ўладзе жорсткія прыстасаванцы. Адраджэньне маральнасьці ўсяляк тармозіцца. Чыноўнікі, судзьдзі робяць што хочуць. А простыя людзі выжываюць як умеюць. Таемна раскрадаюць тое, што яшчэ засталося, адгароджваюцца высокімі платамі ад рэчаіснасьці.**

**Хачу расказаць пра сваю вёску Ляскоўка, што ля Бараўлянаў. Раней тут быў саўгас. А цяпер усё разрабавана, разбурана, расьцягнута. На месцы колішняй жывёлагадоўчай фэрмы — рэстаран «Парыж».**

**Па вуліцы Цэнтральнай у былым дзіцячым садку разьмясьцілася пошта. Астатнія грамадзкія пабудовы пустуюць. Пры гэтым патрэба ў дзіцячай дашкольнай установе абвастраецца. Паблізу будуюцца два вялікія шматкватэрныя дамы. У канцы вёскі на 800 зямельных участках інтэнсіўна вядзецца індывідуальная забудова. І пры гэтым жанчыны цяжараюць таксама інтэнсіўна: думаюць, што пры шматдзетнасьці іхнае сацыяльнае становішча значна палепшыцца. Між тым будынак дзіцячага садку прадаец-**

ца. Людзі пішуць, просяць захаваць гатовы і прыстасаваны будынак — але ніхто іх ня чуе... Лёзунг «Дзяржава для народу» ў нас — пусты гук. Прыгожы будынак і маляўнічая мясьціна, дзе ён разьмешчаны, неўзабаве стане асабістым уладаньнем якога-небудзь набліжанага да ўлады алігарха.

Побач зь вёскай — сухотны дыспансэр. Колькі гадоў насельніцтва просіць, каб хворыя не расьсейвалі сухотную палачку па навакольлі. Пры бачнасьці аховы хворыя ходзяць наўкол свабодна. Прылеглы да дыспансэра лес забруджаны сьмецьцем і фэкаліямі. У звалку пераўтвораны лясны заказьнік. Самасьвядомасьць у хворых нізкая: у асноўным тут людзі з асацыяльнымі паводзінамі і страчанай цікавасьцю да жыцьця. Усё — ад галечы і ўбоства.

Распаўсюд сухотаў расьце і сярод абслугавага пэрсаналу, але гэтыя зьвесткі трымаюцца ў сакрэце.

У заказьніку будуюць свае шматпавярховыя даражэзныя катэджы «новыя беларусы». Але ці схаваюцца яны за сваімі высокімі платамі ад навакольнага жабрацтва, п’янства, безвыходнасьці?.. А галоўнае — ад сухотнай палачкі? Пагаворваюць, што сухотны дыспансэр будуць кудысьці пераносіць. Але ці забяруць тады ж і палачку Коха, якая асемяніла ўсю вёску — бо менавіта ў гэтым лесе гадамі захоўваліся адкіды зь мясцовага сухотнага дыспансэру?..

Яшчэ цепліцца надзея на нармальнае чалавечае жыцьцё, хоць з часам яе ўсё меней. Выбачайце, што не падпісваюся сапраўдным прозьвіш-

**чам: гэта не ад страху, а ад вельмі верагоднага прыніжэньня.**

У нашай пошце часта сустракаюцца падобныя лісты — са шматлікімі скаргамі на неўладкаванасьць жыцьця, на самаўпраўства чыноўнікаў, на абыякавасьць людзей. Ведаю, што дзясяткі і сотні тысяч такіх скаргаў атрымліваюць разнастайныя дзяржаўныя кантрольныя органы ў раённых і абласных цэнтрах, у сталіцы. Абвешчаная ўладай «дзяржава для народу» пакідае гэтаму народу магчымасьць куды заўгодна скардзіцца і чакаць, што аднекуль «зьверху» прыедуць і навядуць парадак, але фактычна адхіліла яго ад магчымасьці самастойна ўладкоўваць уласнае жыцьцё. Хто вінаваты, што ў вёсцы Ляскоўка развалілі і раскралі саўгас; што хочуць прадаць будынак дзіцячага садку; што ня сочаць як сьлед за бясьпекай сухотнага дыспансэру? Чаму людзі не выбіраюць з уласнага асяродзьдзя такіх дэпутатаў, якія здольныя агучыць і разьвязаць гэтыя праблемы? А калі мясцовы «вэртыкальны» начальнік ігнаруе просьбы і скаргі — то чаму дэпутаты зацьвярджаюць яго на чарговы тэрмін?

Зразумела, што, адказваючы на гэтыя пытаньні, трэба рабіць папраўку на добра ўсім вядомыя беларускія палітычныя рэаліі. І тым ня менш сёньня, за некалькі месяцаў да парлямэнцкіх выбараў, многім беларусам варта над гэтымі пытаньнямі паразважаць...

*Павал Ялец, Драгічын*

***01.08.2012***

**Божа мілы: працуеш дзеля таго, каб паесьці ды набыць адзеньне ў сэканд-хэндзе: на нешта большае нашых заробкаў проста не хапае. Да чаго мы дакаціліся! Вымушаны рабіць за капейкі. Як тыя будаўнікі Беламорканалу за часы Сталіна. Мусім працаваць, каб выжыць. А так хацелася б, каб праца прыносіла найперш радасьць і задавальненьне. І ўсё гэта, лічу, толькі праз аднаго ўсім вядомага чалавека!**

**Працую на будоўлі. Цяпер мы вахтавым мэтадам будуем у Менску інтэрнат для студэнтаў, які, як мяркуецца, будзе выкарыстоўвацца падчас хакейнага чэмпіянату 2014 году.**

**Прашу Свабоду зьвярнуць у сваіх перадачах большую ўвагу на чалавека працы. Болей пішыце пра тое, як у нас жывуць будаўнікі, настаўнікі, дворнікі. Нас жа фактычна ператварылі ў дармовую рабочую сілу. Давёў ён краіну да ніткі. І што адметна: з часам становіцца ўсё горш і горш.**

**Падтрымлівайце змаганьне рабочых прадпрыемства «Граніт» у Мікашэвічах. Падтрымлівайце палітвязьняў і свабодныя прафсаюзы. Усё гэта ў цяперашніх умовах вельмі патрэбна і важна.**

Мы, спадар Павал, падрабязна паведамляем пра сытуацыю на «Граніце», пра выпадкі на іншых прадпрыемствах, калі рабочыя аб’ядноўваюцца, каб супольна адстойваць свае правы. Працоўная салідарнасьць — вялікая сіла. Згадайма хоць бы,

якога посьпеху ў свой час здолелі дамагчыся незалежныя прафсаюзы «Салідарнасьць» у Польшчы. Таталітарная машына аказалася няздольная супрацьстаяць волі соцень тысяч людзей, аб'яднаных ідэяй справядлівасьці і дэмакратыі.

Менавіта таму беларускія ўлады так жорстка спыняюць нясьмелыя спробы беларускіх рабочых аб'ядноўвацца ў незалежныя прафсаюзы, так брутальна душаць найменшыя пратэсты. Але гвалт і перасьлед бясьсільныя, калі рабочы люд здолее аб'яднацца ў вялікіх маштабах.

*Іван Кузьняцоў, Полацак*

***08.08.2012***

**Мяне сапраўды па-добраму ўзрушыла акцыя швэдаў, якія раскідалі цацачных мядзьведзікаў над Беларусьсю, ледзь не даляцеўшы да рэзыдэнцыі Лукашэнкі. Вось і дачакаліся: Беларусь, як маленькі асколак СССР, мае ўласных Матыясаў Рустаў. Прычым у мядзьведжых масках.**

**Праўда, дэсантная мядзьведжая высадка ў Івянцы пацярпела лякальную няўдачу: «дэсантнікаў» пахапала міліцыя. А вось на ўскраіне Менску некалькі плюшавых парашутыстаў аселі-такі на кансьпіратыўных кватэрах у новых гаспадароў. Асабіста я жадаю, каб падобнае паўтарылася.**

**Па сутнасьці, невялікая швэдзкая рэклямная кампанія даслала антыбеларускай дыктатуры сымбалічную «чорную метку». Схіляю галаву перад адвагай і вытрымкай таго чалавека, які не**

**збаяўся спачатку навучыцца кіраваць самалётам, а потым — рызыкнуць жыцьцём, паспрабаваўшы прарваць нашу так званую «супэрсучасную» супрацьпаветраную абарону. Гэта выглядала асабліва эфэктна на тле таго, што напярэдадні на парадзе ў Менску ўлада хвалілася супрацьпаветранымі комплексамі «Тор», прызначанымі для малых вышыняў. Цікава, куды гэтыя комплексы паехалі пасьля параду? А можа, яны толькі для парадаў і прызначаныя? Так што, аказваецца, рассыпаць улёткі над Беларусьсю можна беспакарана. І ня толькі з самалёта.**

Ня думаю, спадар Іван, што нехта ў блізкай будучыні адважыцца паўтарыць бясстрашную акцыю швэдзкіх пілётаў. Рызыка насамрэч была вялізная. Памятаючы пра тое, як у сярэдзіне 90-х гадоў на загад Лукашэнкі ў беларускім небе бязьлітасна расстралялі паветраны шар зь бяскрыўднымі амэрыканскімі спартоўцамі — можна ўявіць, які лёс напаткаў бы швэдаў, калі б іх выявілі ды паднялі ў паветра зьнішчальнікі.

А наступствы гэтага на першы погляд легкадумнага палёту могуць быць вельмі сур'ёзныя. І справа ня толькі ў адстаўках генэралаў.

Калі дыктатара баяцца і дрыжаць перад ягонай ваеннай машынай — ён толькі ўмацоўваецца. А вось калі зь яго насьміхаюцца і доказна дэманструюць, што расхваленая вайсковая магутнасьць — усяго толькі блеф, пустая пахвальба — гэта для дыктатуры зьнішчальны ўдар.

...Нагадаю, што камуністычны рэжым у СССР пасьля прызямленьня Руста на Краснай плошчы праіснаваў чатыры гады...

## *Хрысьціна Багданоўская, пасёлак Акцябрскі, Смалявіцкі раён*

***22.08.2012***

**Пайшла я нядаўна ў бібліятэку. Выбрала пару кніжак Быкава і вырашыла яшчэ замовіць штонебудзь гістарычнае. На мой запыт бібліятэкаркі перапыталі:**

**— Дык вам пра вайну?**

**— Не, — кажу. — Што-небудзь з больш даўняй гісторыі Беларусі.**

**У адказ пачула: «А хіба да вайны ў нас штонебудзь было?»**

**Убачыўшы, што ў пытаньні гістарычнай літаратуры мы адзін аднаго не зразумеем, трохі падумаўшы, цікаўлюся:**

**— А Гётэ ў вас ёсьць?**

**І зноў чую адказ, які выклікае ў мяне вялікае ўзрушэньне.**

**— А ён замежны пісьменьнік? — пытаецца ў мяне бібліятэкарка.**

**Пачуўшы ад мяне станоўчы адказ, яна ўзрадавана кажа:**

**— Ну, тады вам вунь тая палічка…**

**І яшчэ адно цікавае бібліятэчнае назіраньне. Гляджу бібліятэчную картку на вокладцы кнігі Караткевіча «Хрыстос прызямліўся ў Гародні». Кніга ня новая, 80-га году выданьня. Па картцы бачна, калі яе бралі. Першы раз — у 81 годзе, другі — у 82-м; трэці — у 83-м; потым — у 90-м… І ўсё. З Быкавым — тая ж самая карціна. А «Фаўста» Гётэ за ўвесь час увогуле ніхто ня браў — ні**

**разу за трыццаць гадоў. Асабіста для мяне выснова тут відавочная. Як кажа з гэтай нагоды мой бацька, выратаваць гэтую краіну здольная не эканоміка, а тым больш — не ідэалёгія і не прапаганда, а толькі адраджэньне нацыянальнай культуры.**

**Пішу вам ня часта, бо, зважаючы на ўзрост (маю 14 гадоў), у мяне надта шмат розных спраў. Вучуся ў гімназіі-каледжы мастацтваў імя Ахрэмчыка. Граю на беларускім народным інструмэнце — цымбалах. Зь цікавасьцю сачу за ўсімі навінкамі «Бібліятэкі Свабоды».**

Прыемна даведацца, Хрысьціна, што, маючы безьліч спраў, вы знаходзіце магчымасьць шмат чытаць, у тым ліку тыя кнігі, якіх школьная праграма не вымагае. Сярод вашых равесьнікаў гэта сёньня не такая ўжо і распаўсюджаная зьява.

Што да вашых сумных бібліятэчных назіраньняў. На жаль, узровень аплаты працы бібліятэкара ў Беларусі цяпер такі, што высокаадукаваных спэцыялістаў у бібліятэцы сустрэнеш ня часта. Ня думаю, што выпускнікі Ўнівэрсытэту культуры ня ведаюць, на якой мове пісаў Гётэ. Але ці даяжджаюць тыя выпускнікі з дыплёмамі да беларускіх бібліятэк? Ведаю, што вельмі часта раённыя аддзелы культуры вымушаны браць на шматлікія вакантныя месцы ў бібліятэкі людзей, як кажуць, «з вуліцы» — без усялякай адукацыі.

*Мікалай Козіч, Менск*

***19.09.2012***

**Было гэта напрыканцы 60-х гадоў. Я тады працаваў на заводзе аўтаматычных лініяў. Аднаго разу начальства сабрала нас у актавай залі — дзеля таго каб мы паназіралі, як будуць прапясочваць ідэалягічных дывэрсантак. Аказалася, што КДБ вылавіў дзьвюх непаўналетніх дзяўчатак, якія раскідвалі па паштовых скрынях у дамах у раёне кінатэатру «Зьмена» нейкія ўлёткі (здаецца, антысавецкія). У актавай залі сабралася шмат народу — усім цікава было паглядзець на гэтых, як тады казалі, «шпіёнак». Выступалі маладыя інжынэры, партыйныя актывісты: казалі пра ідэалягічныя недапрацоўкі, пра тое, што школа аддае недастаткова ўвагі ідэйнаму выхаваньню. Быў там і дырэктар школы нумар 62, што разьмешчана ў раёне заводу. Яму дасталося на арэхі больш за іншых.**

**Былі два супрацоўнікі КДБ. Пра зьмест улётак асабліва не распавядалі, сказалі толькі, што гэтыя дзьве «шпіёнкі» заклікалі ўступаць у шэрагі антысавецкага супраціву.**

**Гэтых дзьвюх непаўналетніх дзяўчатак увялі ў залю. Гадзіны дзьве іх бэсьцілі, прыніжалі, псыхалягічна апрацоўвалі ў нас на вачах...**

**...Мне ўжо 85 год. 13 зь іх я адпрацаваў на заводзе аўтаматычных лініяў. Часам успамінаю даўні выпадак са «шпіёнкамі». Цікава, як склаўся лёс тых дзяўчатак. Увогуле, што гэта быў за рух супраціву? Да чаго яны заклікалі? Як увогуле адважыліся ў той змрочны час на такі ўчынак?**

Хутчэй за ўсё, ніякага арганізаванага руху супраціву не было — размова ішла, напэўна, пра дзёрзкі адважны ўчынак некалькіх падлеткаў, якім абрыдла шэрая будзённасьць брэжнеўскай эпохі, і яны вырашылі ва ўлётках напісаць пра яе тое, што сапраўды думаюць. Калі б у рэальнасьці існавала падпольная антысавецкая арганізацыя, то, мяркую, гэтых дзяўчатак не прапясочвалі б на сходзе грамадзкасьці, а вельмі хутка б кінулі ў «Амэрыканку» і аддалі пад суд. Зрэшты, ім пашанцавала, што гэта былі ўжо параўнальна лібэральныя 60-я гады. На пачатку 50-х за такія ўлёткі нават непаўналетніх пасылалі ў лягеры гадоў на дваццаць.

Нешта больш канкрэтнае, ня ведаючы прозьвішчаў, сказаць пра гэты выпадак цяжка, спадар Козіч. Можа, нехта са сьведак тых падзей адгукнецца на гэтую перадачу і раскажа больш падрабязна.

*Ніна Гетманчук, Берасьце.*

***19.09.2012***

**Пасьля вайны ў Камянцы зьявілася процьма міліцыянтаў. Усе — з усходу, расейцы. Езьдзілі конна, на брычках, на санях: машын не было. Часта рабавалі мясцовых людзей: забіралі што хацелі. Вельмі многа пілі. А вось да працы прывучаны не былі. І вельмі хутка ўся конная гаспадарка ў іх прыйшла ў заняпад. А мой бацька быў вельмі працавіты, усё ўмеў. Яны пра гэта ведалі. І вось аднаго разу прыехалі, пасадзілі яго ў фурманку. Сказалі: «Давядзеш у нас да ладу збрую, коней — і адпусьцім». Бацька так стараўся, што**

за месяц усё было ў парадку. Ён прасіўся дадому: шмат працы па гаспадарцы, дзяцей трэба гадаваць. Але яму сказалі: «Ніколі! Або тут — або Сыбір». Грошай яму не плацілі, жыў пры конях. Ежу сабе гатаваў у разбураным будынку. Раз на тыдзень прыходзіў дадому — браў хлеб, сала, бульбу. Усе мы былі ў адчаі.

І вось мінула зіма. Ён прасіўся: трэба араць, дзеці памруць з голаду. Не пусьцілі. Тады ён пайшоў сам. Дзень араў, а назаўтра прыехалі, зьвязалі, кінулі ў фурманку тварам уніз — і павезьлі. Толькі празь месяц мы даведаліся, што ён у турме ў Берасьці.

У вялікую камэру без усялякай мэблі іх набілі чалавек сто. Днём стаялі, а ноччу падалі на падлогу ў два ярусы. Ноччу ніжнія выпаўзалі наверх, потым зноў мяняліся месцамі, як парасяты. Цягнулася гэта доўга, месяцы паўтара-два. Ніякіх допытаў не было. Давалі баланду і выводзілі ў прыбіральню два разы на суткі — рана і ўвечары. Зьявіліся вошы, потым — хваробы. Людзі пачалі паміраць — напэўна, ад тыфу. Ніякай мэдычнай дапамогі не было — ні лекаў, ні дактароў. Нябожчыкаў станавілася ўсё болей. Неўзабаве камэра перастала быць цеснай.

І вось абʼявілі, што пачынаецца суд. Адчынілі дзьверы ў калідор. Там стаяў стол, накрыты чырвонай анучай, і сядзелі тры важныя энкавэдысты. Выклікалі па адным, не пыталі ні слова — толькі зачытвалі прысуд. Віна вядомая: нехта пра Сталіна казаў кепска, нехта — пра бальшавіцкую ўладу. Большасьці быў прысуд — расстрэл, меншасьці — 25 год Сыбіры. На дзесяць год асудзілі толькі аднаго.

Бацьку выклікалі ў ліку апошніх. Пра свой лёс ён ужо здагадваўся, на ватных нагах падышоў да стала. І тут здарылася неверагоднае: няйначай, Бог пашкадаваў нявіннага чалавека. Аказалася, бацькавы паперы згубіліся. «Судзьдзі» захваляваліся, паслалі аднаго шукаць, але той нічога не прынёс. Бацька імгненна здагадаўся: гэта быў шанец для яго. Яго сталі распытваць: якое злачынства ўчыніў. Бацька прыдумаў на хаду: кажа, пасварыўся з суседам з-за таго, што сабака задраў курыцу. Ну, вось той і напісаў на яго ўчастковаму.

Усе зьдзівіліся. А самы галоўны закрычаў: «Вон адсюль!» Тады адзін з памагатых падышоў да бацькі, схапіў за каўнер, прывалок да дзьвярэй і з размаху з усяе сілы выцяў ботам па хрыбце. Бацька апынуўся за дзьвярыма, падняцца ня мог. Дапоўз да сьцяны і сядзеў. Міліцыянты, што бегалі сюды-туды, сьмяяліся зь яго: «Што, не наседзеўся?»

Мэтраў за 300 ад турмы ў Берасьці — царква. Папоўз туды. Калекі, жабракі яго пакармілі, далі на дарогу хлеба, яблык і кій. Так ён выправіўся дахаты — за 65 кілямэтраў. Часам добрыя людзі падвозілі на фурманках. Начаваў у вёсках. Ішоў тыдзень.

Калі ўвайшоў у хату — мы ўсе вельмі крычалі. Ці то ад радасьці, ці то ад страху. Бо прыйшоў жывы труп. Калі арыштоўвалі, важыў 85 кілаграмаў, калі вярнуўся — 45.

Пасьля гэтага бацьку паралізавала, ён некалькі гадоў не паднімаўся. Добра, што старэйшы сын пасьля вайны ўладкаваўся правадніком, езьдзіў у Польшчу і Нямеччыну, прывозіў адтуль бацьку

**лекі — і той урэшце стаў на ногі. Але працаваць ужо ня мог. Да канца жыцьця хадзіў з палачкай. Доўга маўчаў пра ўсё тое, што перажыў: баяўся. А расказаў толькі тады, калі я была ўжо дарослая, падчас хрушчоўскай адлігі. Тая драматычная гісторыя бацькі потым трагічна адбілася на ўсёй нашай сям'і.**

Дзякуй вам, спадарыня Ніна, за гэты шчыры пранізьлівы аповед. Калі я гляджу цяперашнія афіцыйныя падручнікі па гісторыі савецкага пэрыяду, у якіх распавядаецца выключна пра «гераічныя зьдзяйсьненьні», «працоўны энтузіязм» і «вялікія будоўлі сацыялізму», мне заўсёды згадваюцца падобныя гісторыі — іх могуць расказаць ледзь ня ў кожнай сям'і, асабліва — у Заходняй Беларусі. Думаю, ня надта далёкі той час, калі нашы дзеці будуць вучыцца па праўдзівых падручніках. Ну, а пакуль што ж — мы самі раскажам ім тое, пра што баяцца казаць настаўнікі ў школах.

## *Міхаіл Яўсееў, Магілёў*

***17.10.2012***

**Уся наша ўлада займаецца тым, што перакладвае паперкі зь месца на месца. Папераў шмат — а працы няма і працаваць няма каму. У начальніцкіх кабінэтах — адны трутні. Затое колькі пахвальбы — і гэта ў нас найлепшае, і таго мы дасягнулі. Як некалі казалі ў такіх выпадках: «Гітлер хваліцца, а фрыцы валяцца». Ялавічына ў краме — ужо больш як 100 тысяч за кіляграм.**

**Вось гэта дасягненьне! На мароз бы ўсіх гэтых трутняў зь цёплых кабінэтаў...**

**Вядома, людзі выжываюць хто як можа. Многія — крадуць. Балюча глядзець, як пасьля вандалаў застаюцца зьнявечанымі помнікі, фасады дамоў, элемэнты аздабленьня вуліц, паркаў, сквэраў. Прыкладаў — сотні. Чыгунныя каналізацыйныя люкі зьнікаюць дзясяткамі. Рабуюць і калгасныя мэхдвары, зрэзваюць драты зь ліній электраперадач, залазяць у хлявы сялян... А колькі надмагільных помнікаў апаганена: усё дзеля мэталу. А чаго хацець, калі па вобласьці працуе каля 400 пунктаў скупкі нарабаванага? Зьвяртаесься ў міліцыю, а там адказваюць: «Закрыць ня можам, гэта ўказаньне Аляксандра Рыгоравіча».**

Беларусь мае буйны мэталюргічны камбінат у Жлобіне, але ня мае ўласнай жалезнай руды — адсюль гэтыя настойлівыя спробы ўлады наладзіць ва ўсіх рэгіёнах масавы скуп лому чорных і каляровых мэталаў. Колькасьць гэтых нарыхтоўчых пунктаў, сапраўды, даўно ўжо не адпавядае колькасьці таго мэталалому, якога калісьці, за камуністамі, было шмат (нават піянэраў прымушалі яго зьбіраць), а цяпер таго лому фактычна нідзе няма — усё даўно паздавана. Затое шмат даведзеных да галечы людзей, якія ня могуць знайсьці нармальную працу і часта ад безвыходнасьці крадуць каналізацыйныя люкі ці, рызыкуючы жыцьцём, лезуць на электрычныя слупы, каб зрэзаць і здаць у скупку мэталічны дрот.

## *Уладзімер Башкіраў, Магілёў*

***12.12.2012***

**Дзе толькі не шукаюць грошы нашы міністры — і на Ўсходзе, і на Захадзе. А ў мяне ёсьць свая прапанова. Трэба проста скараціць усе сілавыя структуры і чынавенскі апарат — хаця б да ўзроўню 1994 году. І ўсё — грошай паболее настолькі, што, можа, і ніякіх пазыкаў шукаць не давядзецца...**

Мне ў сувязі з вашай, спадар Уладзімер, прапановай згадваецца, як у 1988 годзе да нас у Дом друку, у рэдакцыю «Звязды», дзе я тады працаваў, прыяжджаў тагачасны кіраўнік БССР Яфрэм Сакалоў. Чорную «Волгу», у якой ён прыехаў, суправаджала адна машына ДАІ. А ахоўвалі першага сакратара ЦК КПБ (кіраўніка 10-мільённай рэспублікі) два чалавекі ў цывільным...

Тым, хто хоць аднойчы назіраў, якімі манэўрамі соцень міліцыянтаў і агентаў Службы бясьпекі прэзыдэнта суправаджаецца любая паездка цяперашняга кіраўніка Беларусі, сёньня ў гэта нават цяжка паверыць.

## *Васіль Тур, Берасьце*

***12.12.2012***

**Нарадзіўся я ў Камянецкім раёне. У нас была свая мова — яе называлі «сельскай». Гаворка адрозьнівалася нават у суседніх вёсках — што**

**ўжо казаць пра літаратурную мову. У Берасьці мова была «гарадзкая». Скончыўшы восем клясаў, пераехаў у Берасьце: бліжэй сярэдняй школы не было. Размаўляў я тады ў школе на сваёй мове. Дужа яе любіў. «ДАЖЫ НЕКОТОРЫ ДЫТЫ ПЫТАЛІСЯ ЗА МНОЮ ГОВОРЫТЫ НА МОІЕЙ МОВЫ, ДОБРА ПОМНЮ...» На ўроках адказваў і па-беларуску, і па-расейску — залежна ад прадметаў. Тады, у 60-я гады, беларускай мове аддавалі ўвагі значна больш, чым цяпер.**

**Мая былая жонка лічыла сябе расейкай, яе маці зь Петраграду, а бацька — былы вайсковец. Яна многіх маіх слоў зусім не разумела. Вось такую я выбраў. Думаў, перавыхаваю, навучу... Але не на тую нарваўся.**

**Мой старэйшы сын пры паступленьні на экзамэнах пісаў сачыненьне на беларускай мове. Але дома называў мяне «папой», ня «татам». Так яго выхавала мама. Мы з жонкай на той час ужо разьвяліся, але сын часта прыбягаў да мяне, шмат чаму вучыўся. З малодшым сынам атрымалася па-іншаму: гэта ўжо быў цалкам жончын сын, такім і застаўся...**

**Але кропля камень точыць, а пад ляжачы камень вада не цячэ. Будзе сьвята і на нашай вуліцы (дарэчы, у нас кажуць «ГУЛІЦЫ»). Добрая справа набліжаецца, і вы на Свабодзе ёй спрыяеце. Посьпехаў вам. Хацелася б ведаць, якую адзнаку паставіце за мову мне як «заходніку» (так называла мяне цешча).**

Адзнака — выдатная, спадар Васіль. Вельмі цікавыя назіраньні — дзякуй вам за іх. На поўдні Берасьцейшчыны, сапраўды, адметныя гаворкі, якія

значна адрозьніваюцца ад беларускай літаратурнай мовы. Гэта ў розныя гістарычныя пэрыяды спрыяла ўзьнікненьню сэпаратысцкіх альбо праўкраінскіх груповак, якія, зрэшты, ня мелі значнай грамадзкай падтрымкі. Моўныя адметнасьці (часта — вельмі істотныя) характэрныя для асобных рэгіёнаў практычна ў кожнай краіне. Паўночны немец з-пад Гамбурга часам зь цяжкасьцю разумее баварца, а расеец, які жыве пад Волагдай, з усьмешкай успрымае гаворку жыхара Стаўрапольля... Тым ня менш нацыю згуртоўвае найперш адзіная літаратурная мова, на якой павінна весьціся выкладаньне ў школах і ВНУ, якая павінна гучаць у чыноўніцкіх кабінэтах, на радыё і тэлебачаньні.

## *Мікола Глінянка, Карэліцкі раён*

***26.12.2012***

**У нашым калгасе мінулай вясной пасадзілі ажно 200 гектараў бульбы. Навошта так шмат — невядома. Напэўна, разьлічвалі на вялікія прыбыткі. Сяк-так выкапалі. А падзець няма куды: бульбы паўсюль поўна, ва ўсіх урадзіла.**

**Адборную бульбу здаюць усяго па 200 рублёў за кілягram на Сноўскі крухмальны завод. Але ўсё завод нават за такія маленькія грошы не забярэ.**

**Які вынік? Бульба гніе, і яе сотнямі тон возяць на звалку.**

**Што цікава: мясцовыя людзі ўвосень прасілі ў калгаснага начальства — прадайце нам. Але ж**

**начальнікі заламалі цану — 800 рублёў за кілаграм. Задорага.**

**Добра было б, каб вашы карэспандэнты прыехалі ды сфатаграфавалі ўсё гэтае марнатраўства. Шкада, што цяпер паўсюль сьнег і завіруха, усё наўкол замяло. Але ж сотні тон бульбы — не іголка ў стозе сена: неяк знойдзеце**.

Няблага было б, спадар Мікола, каб вы самі зрабілі здымкі ды выслалі нам. Вам як мясцоваму чалавеку, які добра ведае ўсё, што адбываецца ў калгасе, зрабіць гэта нашмат прасьцей.

...А з бульбай, сапраўды, шмат якія калгасы сёлета пралічыліся. Усё пачалося гады два таму, калі здарыўся вялікі бульбяны неўраджай у Расеі і многіх іншых краінах. У выніку кошты даходзілі да паўдаляра за кілаграм. Расейскія нарыхтоўшчыкі гналі грузавікі ў Беларусь, гатовыя былі выкладваць за бульбу вялікія грошы. А яна тады ня надта ўрадзіла і тут. Да таго ж і плошчы пад яе былі адведзены ня надта вялікія. Лукашэнка тады шмат езьдзіў па калгасах, загадваў неадкладна павялічыць бульбяныя плянтацыі і будаваць бульбасховішчы. Беларускае тэлебачаньне шматкроць паказвала эфэктны кадар: Лукашэнка выбірае з баразны некалькі буйных клубняў і трасе імі перад зьніякавелымі калгаснымі начальнікамі: «Вось, — кажа, — усяго некалькі бульбін — і ўжо даляр...»

Начальства, як заўсёды, кінулася выконваць дырэктыву. Хоць усім добра вядома: сёлета бульба не ўрадзіла — а наступны год можа быць ураджайны. Напрыклад, каб зарабіць на бульбе даляр сёлета, трэба было прадаць яе ня два кілаграмы, а цэлы дваццацікіляграмовы мех.

***Раней, да камуністаў, у беларускай вёсцы ў разгар сяўбы ці жніва цяжка было знайсьці чалавека нападпітку, а тым больш — п’янага. Цяпер — у любую пару году цяжка знайсьці цьвярозага.***

## *Мікалай Бусел, вёска Пружынішчы, Акцябрскі раён*

***02.01.2013***

**На тэму п’янства ў вас шмат гаворкі. Вы канстатавалі, што на кожную беларускую душу на год прыпадае ўжо 1,3 дэкалітра сьпірту. Але — без аналізу зьявы. Між тым гэта дакладны паказьнік краху эканамічнай палітыкі рэжыму. П’е найперш бедны пласт народу. І, відаць, гэты пласт у нас значны, калі і на маю долю (чалавека, што рэдка ўжывае алькаголь), і на долю маёй жонкі, што за год выпівае мо паўшклянкі таго сьпірту, і на долю маіх дачок і сына, што ня п’юць увогуле — на кожную душу прыпадае ладнае вядро той вадкасьці (кубел на сям’ю на год).**

**Ведаю, было такое ў маёй улюбёнай Ірляндыі (я там, праўда, ніколі ня быў, я амаль нідзе**

ня быў) — калі ўсе гналі і пілі. Ад страшэннай беднасьці, галечы. Дык дзе ж ваш аналіз гэтага страшнага зьявішча, панове?

Пра цяперашні масавы алькагалізм можна багата казаць. Я ня раз чуў меркаваньне, што дзяржава даўно і наўмысна спойвае людзей.

От узяць наш па плешку непэрспэктыўны край. У нашу вёску, як найнеабходнейшы прадукт, нядаўна прывезьлі мо сорак скрынак «чарніла»: амаль па скрынцы на душу.

Што ж выйшла з такіх «клопатаў»? Дарваўшыся да таннага пойла, тутэйшыя работнікі панапіваліся і не пайшлі на працу на фэрму. У цяперашнім калгасе, які колісь насіў імя «1 Мая», практычна няма нікога, каго б міліцыя не пазбаўляла трактарных правоў. Але некаму ж працаваць трэба. То з маўклівай згоды начальства, заплюшчыўшы вочы, гэтых экс-трактарыстаў ізноў саджаюць на які-небудзь трактар ці пагрузчык. І такі чалавек працуе, цундзіць «чарніла» ў працоўны час, яго ізноў ловяць і праганяюць. І саджаюць іншага, і гісторыя ізноў паўтараецца. Гэта кашмар!

Адзін брыгадзір на гэта сказаў: «Лукашэнка ўсіх ператруціць гідролізам». А калі адна з жанок у краме папракнула нейкую начальніцу з Акцябрскага райспажыўгандлю («Навошта вы прыперлі такую процьму пойла?»), тая маўчала, бо як разумна і ўцямна можна апраўдаць такі алькагольны прэсінг на бедны народ? Ужо не мужыкі, а жанкі, былыя даяркі з прафэсійнай хваробай «хранічны запой», амаль у пеўні соўгаюцца па хатах, просячы хоць чаго-небудзь алькагольнага глыкануць, хоць карвалолу, хоць

**валяр’янкі, хоць мурашынага сьпірту. У крамах пойла даюць нават на сьпіс.**

**Вы ж бачыце, бедным начальнікам — 50% падвышка заробкаў, а народу — 20% рост цэнаў на ўсё плюс ачмурэньне ад пуза.**

**Дык ці ж можна вінаваціць моцна люд за п’янства, калі ўлада цынічна правакуе яго?**

**Заробак у тутэйшага люду — ад паўтара да двух мільёнаў рублёў. Гэта — хімэрычны даход, зь якога нічога ня выкраіш, акрамя як на самае неабходнае — агіднае казённае пойла.**

**Дык чаму вашы спэцкары ня сходзяць у шоп-туры на дэгустацыю ў пойлавыя склепы, не раскажуць сакрэты пойларобства, вытворчыя і творчыя пляны хімічнага вынішчэньня народу?**

**Чаго не дарабілі Гімлер і Гарбачоў, тое пасьпяхова робіць Аляксандар Рыгоравіч, зьняўшы ўсякае табу з нашага легендарнага мафіёзнага «чарніла», правільней — перавёўшы Беларусь у постчарнільную, пойлавую фармацыю. (Знаўцы і аматары з тугой успамінаюць тое збольшага натуральнае «чарніла», асабліва народна-патрыятычна-папулярныя цэны на яго).**

Што да масавага п’янства — з такой праблемай сутыкалася ня толькі Ірляндыя, але і іншыя эўрапейскія краіны (што праўда, пераважна паўночныя, з халаднаватым, як і ў нас, клiматам). Амаль усюды стаўка была зроблена на жорсткае дзяржаўнае рэгуляваньне. І гэта вельмі хутка дало плён. Напрыклад, сёньня ў скандынаўскіх краінах (Швэцыі, Нарвэгіі, Фінляндыі) вельмі мала крамаў, якія маюць права гандляваць алькаголем. Працуюць яны, як праві-

ла, у будні да 17-й гадзіны, а па выходных увогуле зачыненыя. Пры гэтым кошт бутэлькі гарэлкі — ад 40 даляраў і вышэй. Рэкляма алькаголю забаронена ўвогуле… У выніку на вуліцах Стакгольма і Осла п'янага ўбачыш вельмі рэдка.

У сёньняшняй Беларусі гарэлка прадаецца на кожным рагу, а каштуе не нашмат даражэй за кока-колу. Пры гэтым улады, апраўдваючы ўласную бязьдзейнасьць, апэлююць да аднаго і таго ж тэзісу: «Усё роўна будуць піць»... Будуць — але не ў такіх маштабах і не з такімі наступствамі. Досьвед скандынаваў гэта выразна паказвае.

Якраз нядаўна, спадар Мікалай, нашы магілёўскі і гомельскі карэспандэнты хадзілі па вінна-гарэлачных крамах і ў сваіх рэпартажах падрабязна распавялі пра асартымэнт пладова-ягадных вінаў, якія ў народзе называюць «чарнілам». Зьвярталіся мы да гэтай тэмы 11 студзеня — у сувязі з тым, што напрыканцы мінулага году прэм'ер-міністар Міхаіл Мясьніковіч абяцаў з 1 студзеня спыніць выраб такіх напояў. Меркавалася, што замест іх вінзаводы пачнуць вырабляць больш якасныя, «палепшаныя» віны.

Ці выканана гэтае рашэньне? Выявілася, што і ў Гомелі, і ў Магілёве, і паўсюль па Беларусі ў крамах па-ранейшаму гандлююць гэтымі алькагольнымі сурагатамі, кошт якіх вагаецца ў межах 12–16 тысяч рублёў за паўлітра. Якасьць гэтай вадкасьці выклікае вялікі сумнеў нават у параўнаньні з тым морам «чарніла», у якім патанаў брэжнеўскі Савецкі Саюз у 70-я гады мінулага стагодзьдзя. Тады, прынамсі, вінзаводы ня мелі (а таму не маглі выкарыстоўваць) рознага кшталту хімічных фарбавальнікаў, араматызатараў ды кансэрвантаў.

*Леанарда Роменская, Маладэчна*

***23.01.2013***

**Трэба вам шукаць і знаходзіць такія тэмы, якія па-сапраўднаму непакояць людзей. Вось, напрыклад, труцяць нашых людзей усялякімі незразумелымі прадуктамі з рознай хіміяй. Хто ведае, чым гандлюе той прадпрымальнік у сваім шапіку, а то і проста зь зямлі, з асфальту? Раней за спэкуляцыю ў турму саджалі. А цяпер гэтыя асобы — не злачынцы і злодзеі, а — бізнэсмэны, зарабляюць вялікія грошы на простых людзях.**

**Ці вось яшчэ адна тэма. Увосень як толькі ня хваляцца ўлады багатым ураджаем. Маўляў, ніколі столькі зерня мы ня мелі, нейкія нечуваныя мільёны тон. З гэтай нагоды паўсюль — гульбішчы, песьні, танцы, «Дажынкі» з раздачай розных багатых падарункаў. А што маем у выніку? Хлеб даражэе амаль кожны дзень, і ўжо ня кожнаму і не заўсёды ён па кішэні. Раней ураджаі былі не такія вялікія. А хлеб у любой савецкай сталоўцы быў бясплатны, і галодны чалавек заўсёды мог узяць кавалак хлеба. І не было столькі бамжоў ды кінутых дзяцей... Многае можна ўспамінаць, але ўсё, вядома, не апішаш.**

Бясплатнага хлеба ў савецкіх сталоўках ня памятаю. Падчас майго студэнцтва, у 80-я гады, кавалак хлеба ў сталоўцы каштаваў адну капейку. Гэта, вядома, было вельмі танна і агульнадаступна. Зрэшты, студэнты 60-х згадваюць, што ў іх час за хлеб у сталоўках, сапраўды, не плацілі ўвогуле. Тады, адрозна ад цяперашняй Беларусі, таннай была ежа,

а ня выпіўка. Сёньня абед у менскай сталоўцы каштуе прыблізна столькі ж, колькі бутэлька гарэлкі. У 80-я бутэлька гарэлкі каштавала 10 рублёў: на такія грошы студэнт мог пракарміцца амаль тыдзень. Суадносячы гэтыя факты і лічбы, міжволі задаеш сабе пытаньне: якую ж мэту ставіць цяперашняя ўлада такой цэнавай палітыкай: каб не было галодных — ці каб не было цьвярозых?

...Што да вашых, спадарыня Леанарда, заўвагаў пра бізнэсоўцаў, якіх вы называеце спэкулянтамі. Бяз гэтых, так бы мовіць, «спэкулянтаў» мы б сёньня працягвалі стаяць у чэргах па самае неабходнае — мяса, каўбасу, імпартны абутак, адзеньне... Згадайце савецкі час: чаго тады ўдосталь было ў дзяржаўных крамах? Хіба толькі таго ж хлеба. Усё астатняе — ці з-пад прылаўка, ці пасьля стаяньня ў даўжэзных чэргах. Што да якасьці цяперашніх тавараў, якія прадаюцца на рынках... Вядома, не выпадае спадзявацца, што за маленькія грошы можна набыць высакаякасную фірмовую рэч. Хоць, зрэшты, і для прыватных прадпрымальнікаў, і для дзяржаўнага гандлю дзейнічаюць адны і тыя ж санітарныя і гігіенічныя нормы. І ёсьць адмысловыя службы, якія павінны сачыць, каб на рынку і ў краме не гандлявалі небясьпечнымі для здароўя прадуктамі.

## *Павал Сац, вёска Асавая, Маларыцкі раён*

***06.02.2013***

**Прыціснула Расея Лукашэнку да самай сьцяны. Толькі і чуеш, як іхныя песьні пачынае сьпяваць. Хіба вы гэтага не прыкмецілі?**

**А вось просты народ тое на кожным кроку цяпер заўважае. З коштамі і тарыфамі літаральна на ўсе тавары і паслугі робіцца нешта неверагоднае. Я тут неяк за вываз сьмецьця забыў заплаціць. Дык пеня раптам вырасла да пяці тысяч рублёў... Ужо і ня ведаю, які рахунак выставяць за апошні месяц. А вольных грошай няма. Дык вось думаю, што рабіць... Напэўна, скасую зь імі дамову наконт сьмецьця. А заадно і на электраэнэргію. А што? Столькі плаціць за электрычнасьць, як яны цяпер паднялі цэны, — ніякай пэнсіі ня хопіць. Дык абыдуся і безь яе. Газавую лямпу я маю, сьвеціць яна добра. Хлусьлівае тэлебачаньне мне і задарма не патрэбнае. А Свабоду я слухаю праз радыёпрымач: ён на батарэйках працуе. Так што без праўдзівых навін не застануся. Як вам такая ідэя?**

Ідэя гэтая, як для пачатку 21-га стагодзьдзя, то ня вельмі, спадар Павал. Не сумняюся, што вы, як чалавек вялікай жыцьцёвай загартоўкі, і без электрычнасьці, і бяз вывазу сьмецьця лёгка абыдзецеся. Многія беларускія вёскі да 60–70-х гадоў мінулага стагодзьдзя жылі пры газавай лямпе — і нічога, неяк абыходзіліся. Але ўявіць сёньня побыт безь

лядоўні, бяз праса, бяз пральнай машыны... Пэрспэктыва даволі змрочная.

Дарэчы, рахункі за электраэнэргію ў першыя месяцы новага году зьдзіваць і ўразяць ня толькі Паўла Саца. Урад ужо двойчы з пачатку году вельмі істотна падняў тарыфы на электраэнэргію, увёў нормы спажываньня — так што некаторым давядзецца плаціць шматкроць больш, чым раней. Не выключаю, што ня толькі спадар Павал будзе шукаць на гарышчы газавую лямпу і стары чыгунны прас на вуглях...

## *Мікалай Бусел, вёска Пружынішчы, Акцябрскі раён*

***27.03.2013***

**Пішу вам з глыбокім агульным смуткам. 28 лютага пахавалі аднавяскоўку. За некалькі дзён да гэтага я бачыў, як яе забірала хуткая дапамога. У жанчыны было цяжкое запаленьне лёгкіх. Жыла яна адна, дзеці ў горадзе, пра старую матку не паклапаціліся ў час. А яна проста мерзла ў хаце, ашчаджаючы дарагія дровы. І вось фінал...**

**Пэўна, трохі ў тым ёсьць віны і мэдыкаў: запозна пачалі лячыць... Дык пра якую платную мэдыцыну тут зьвягаць? Тады беднай частцы народу зусім капцы. Праўда, дзяржаве меней ратоў карміць трэба будзе...**

**А карміцца нам усё цяжэй. Цэны проста звар’яцелі. Дый як ім не буяць, калі самы галоўны рот і ня думае іх стрымліваць? Наадварот, пад-**

вучвае сваіх, як лацьвей падвышаць: «Працэнтаў па пяць на тыдзень». Гэта ж, па сутнасьці, падвучваньне да крадзяжу: маўляў, крадзь патроху, ня так прыкметна будзе. Зноў жа, цягне цэны пад расейскія. Хай бы заробкі цягнуў да гэтых «агульнасаюзных». Дык не! Абрыдла ўжо чуць эканамічныя трызьненьні. Мо час нам займець міністэрства інфляцыі? І калі ўжо скончыцца гэты бэдлам?

Вось цяпер скасавалі 10- і 20-рублёвыя купюры. Значыцца, акругленьне правялі да пяцідзесяці, і не на нашу карысьць.

Заўчора прыйшла жонка з крамы, жаліцца: хлеб зноў падаражэў. На 700 рублёў, больш як на 10 працэнтаў. І зь якой прычыны? Мы не ваюем, ураджаі рэкордныя, дажджы ў адпаведнасьці з раскладам... А хлеб кожную дэкаду даражэе. Званю ў Рудабельскі райвыканкам, у эканамічны аддзел. Там ня ў курсе спраў, параілі пазваніць у гандаль. Доўга раіліся, даваць нумар тэлефону ці не: «Гаварыт па-беларускі, абрашчался пісьменна і усна». Урэшце далі, бо я і бязь іх той нумар знайшоў бы.

От забыўся папрасіць нумар ідэалягічнай вэртыкалі. Паспавядацца хачу. Пачуць афіцыйныя словы суцяшэньня і спагады.

Памятаю, у сярэдзіне 50-х гадоў маладыя дзеўкі, надрываючыся на калгаснай дарэмнай працы, праклiналі жыцьцё, лічачы лепшым выйсьцем атамную бомбу. Цяпер яны дажываюць сваю страшную долю — нікому не патрэбныя, задураныя і занядбаныя.

На інфляцыю чыноўнікі, сапраўды, ня надта зважаюць. За два першыя месяцы году рост цэнаў у гадавым вылічэньні склаў 23 працэнты — хоць улады абяцалі, што інфляцыя за год не перавысіць 12-ці. Гэта нават большыя тэмпы, чым летась. Адметна, што пры такім шпаркім росьце цэнаў валютны курс беларускага рубля на працягу апошняга году застаецца практычна нязьменным. Такім чынам забясьпечваецца выкананьне даўняга абяцаньня Лукашэнкі — давесьці сярэдні заробак у краіне да 500 даляраў. У выніку тыя 500 даляраў сярэдні беларус у хуткім часе будзе мець — тут сумневаў няма. Іншая справа, што набыць на тыя даляры цяпер у Беларусі можна значна меней тавараў і паслугаў, чым год ці два таму. І гэта не адзінае засмучэньне для беларусаў. Рост коштаў у валюце робіць беларускую прадукцыю значна менш прывабнай на вонкавых рынках. З гэтым ужо сутыкнуліся многія беларускія экспартэры.

## *Надзея Марчук, вёска Глінянка, Кобрынскі раён*

***03.04.2013***

**Разам зь лістом дасылаю фатаздымак. На ім — прыцярушанае сьнегам поле, па якім згорблены мужчына сталага веку цягне нешта ў самаробным вазку. Здымак гэты зроблены мной 1 сьнежня мінулага году — у першы дзень зімы і ў першы сьнег. На фота — мой недалёкі сусед. Яму больш**

**як 70 год. Калі прыгледзіцеся, то на здымку ўбачыце і ягоную сядзібу — хлеў і капец бульбы.**

**І вось гэты сталага веку чалавек на вазку, змайстраваным са старой дзіцячай каляскі, возіць гной на свае соткі. Да сьнегу, відаць, не пасьпеў, бо ў вёсцы цяжка наняць і каня, і трактар.**

**Дый ворыва ягонае зарасло травой. А асеньні гной па тэхналёгіі патрэбна заараць, прытым цяплом... І тут ён не пасьпеў. Марная яго праца...**

**Калі сусед увесну і пасадзіць бульбу, дык баранаваць яе давядзецца таксама саматугам — самому ці з дапамогай жонкі. Сучасныя дзеці і ўнукі на такую працу ня здатныя.**

**І такі ён не адзін. З году ў год паўтараецца адна і тая ж карціна. Вось яна, наша сёньняшняя беларуская сялянская штодзённасьць. Такое жыцьцё прымушае плакаць...**

Сапраўды, спадарыня Надзея, калі паглядзіш на гэтую карціну, дык неяк само сабой адпадае пытаньне: чаму моладзь любой цаной імкнецца ўцячы зь вёскі? Чыноўнікі хваляцца, што на падтрыманьне сельскай гаспадаркі выдаткоўваюцца трыльёны рублёў. Але трыльёны гэтыя даходзяць у лепшым выпадку да калгасных кантор і да кішэняў сельскагаспадарчых начальнікаў. Рэальныя ж вясковыя жыхары (асабліва ў аддаленых вёсках) застаюцца са сваімі праблемамі і клопатамі самнасам. Такога, каб баранаваць поле ды вывозіць гной даводзілася на ўласным карку, не было нават пры савецкіх калгасах (хіба што толькі ў першыя пасьляваенныя гады).

## *Васіль Шпак, вёска Варані, Столінскі раён*

***10.04.2013***

**Я — удзельнік вайны ў Аўганістане, мне 49 гадоў. На Свабоду пішу ўпершыню, хоць слухаю ваша радыё ўжо даволі даўно. Раней слухаў праз прымач, цяпер — праз спадарожнікавую «талерку», праз тэлевізар. Афіцыйную прапаганду ня слухаю, не гляджу і не чытаю з 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя. Наеўся ёю напоўніцу за гады савецкай улады. Акрамя таго, пэрыядычна выпісваю газэту «Народная Воля». Хацеў напісаць у газэту, але ня ўпэўнены ў адказе. А Свабода ўсё ж бліжэй — так бы мовіць, кожны дзень з намі.**

**Сутнасьць пытаньня ў наступным. Надоечы хацелі мяне пэўныя асобы ад улады зацягнуць у так званы «Беларускі саюз вэтэранаў вайны ў Аўганістане». Я катэгарычна адмовіўся, бо калісьці, яшчэ пасьля камсамолу, даў сабе слова: ні ў якія саюзы і суполкі болей не ўступаць.**

**Дый дзе быў гэты «саюз», калі кіроўная прыўладная мафія забірала ў людзей, якія прайшлі празь пекла аўганскай вайны, апошнія ільготы?**

**Дык што — уступаць толькі дзеля таго, каб плаціць складкі, якія невядома куды і на што пойдуць? Хопіць, наплаціліся калісьці ў камсамоле.**

**І цікава было б даведацца ад Свабоды, колькі чалавек уступіла ў гэты «саюз» — у працэнтах ад агульнай колькасьці вэтэранаў-аўганцаў. І ці**

**многа сродкаў ідзе празь бюджэт на гэтую арганізацыю? На якія мэты?**

Арганізацыя, пра якую вы, спадар Васіль, пытаеце, ствaралася і дзейнічае пад пільнай апекай улады. Мяркуючы па ўсім, чыноўнікі ставілі задачу зрабіць яе як мага больш масавай, каб прыцягнуць для выкананьня зусім пэўных палітычных задач у інтарэсах дзейнага рэжыму. Запісваюць у гэты «саюз» ня толькі тых, хто ваяваў у Аўганістане ў 70–80-я гады, але і ўвогуле ўсіх былых вайскоўцаў, хто служыў у розных канфліктных рэгіёнах сьвету — у Віетнаме, Анголе, Мазамбіку, Этыёпіі... Дайшло да таго, што запрашаюць нават удзельнікаў расейска-чачэнскай вайны зь ліку расейцаў, якія нядаўна пераехалі ў Беларусь. Паводле мінулагодніх зьвестак кіраўніка арганізацыі генэрала Гайдукевіча, у саюзе такім чынам назьбіралася каля 10 тысяч чалавек, у той час як сярод беларусаў, паводле розных ацэнак, ад 20 да 25 тысяч удзельнікаў аўганскай вайны. Як бачыце, ня здолелі сабраць нават палову ўсіх «аўганцаў».

Увогуле, вэтэранскіх грамадзкіх арганізацыяў у Беларусі нямала. Вядомыя і Саюз вэтэранаў баявых дзеяньняў, і Беларускі саюз афіцэраў, і Саюз вэтэранаў МУС. Ёсьць сярод вэтэранаў-аўганцаў і людзі дэмакратычных поглядаў, якія таксама спрабуюць аб'яднацца. У свой час мы нямала пісалі пра такія ініцыятывы Аляксандра Камароўскага, Алега Гулака ды іншых... Асабліва вялікую хвалю абурэньня сярод вэтэранаў-аўганцаў выклікала рашэньне ўладаў напрыканцы 2007 году адабраць у іх сацыяльныя льготы.

*Данута Крупіца, Ліда*

***22.05.2013***

**Добра памятаю засушлівы 1979 год. Штодня павінны былі выпраўляць групу працаўнікоў, як мы тады казалі, «на ветачкі». Натуральна, адрывалі на гэты час ад асноўнай працы. Мы, «акладнікі» на МКК, працавалі на нарыхтоўцы галінак і ўсе суботы.**

**Што цікава: не чуваць было, каб на гэтую ідэю спакусіўся хто-небудзь з прыватных гаспадароў. Тыя чамусьці зь сякерамі па галінах дрэў не скакалі... Ці на іхных лугах засухі не было.**

**Вось успомніла пра тое і моцна задумалася... Здаецца мне, што і тады, і цяпер у калгаснай сыстэме вечна чагосьці нестае з той простай прычыны, што значная частка кармоў ды іншых рэсурсаў проста раскрадаецца... Цягнуць і простыя працаўнікі, але асабліва — загадчыкі. Людзі кажуць пра выпадкі, калі ў асобных загадчыкаў калгасных фэрмаў на ўласным падворку — да 20 галоў жывёлы. Чым іх карміць? Няўжо толькі ўласнымі кармамі?**

**Мясцовыя начальнікі ведаюць пра гэта, але заплюшчваюць вочы. Ну як жа: заробкі на фэрме нізкія, а работа вельмі цяжкая. Звольніш гэтых людзей — дык адкуль возьмеш іншых? У чарзе на такую працу кандыдаты не стаяць. І такія парадкі цягнуцца дзесяцігодзьдзямі.**

**Цікава, што яшчэ зусім нядаўна амаль усе калгасы і саўгасы насілі напышлівыя камуністычныя назвы: «Шлях Леніна», «Сьцяг Саветаў», «Зара камунізму»... А ў той «Зары» ўвесну**

**скаціну часта ня мелі чым карміць. Цяпер пыхі стала меней, назвы, як правіла, памянялі. Але з кармамі лепей ня стала...**

**Вядома, былі і іншыя прыклады, калі калгасы былі заможнымі, людзі там добра зараблялі і кармоў там было ўдосталь. Вось, напрыклад, згадваецца калгас «Рассвет» імя Арлоўскага Кіраўскага раёну... Ня ведаю нават, у чым быў сакрэт тых пасьпяховых калгасаў, якія грымелі на ўвесь Саюз і куды сапраўды імкнуліся ўладкавацца многія людзі.**

Сакрэт такіх калгасаў (іх яшчэ называлі «маякамі») быў просты. Паваротлівыя і настойлівыя старшыні, казыраючы сваімі ордэнамі, званьнямі, дэпутацкімі і партыйнымі пасадамі, «выбівалі» з абласных і рэспубліканскіх фондаў значна большыя рэсурсы, чым іншыя. Пры гэтым спасылаліся на выключны статус сваіх гаспадарак як узорных калгасаў, якія павінны паказваць прыклад іншым — як трэба працаваць, да чаго варта імкнуцца.

Што да колішняй даўняй эпапэі з нарыхтоўкай галінкавага корму... Сапраўды, прыватныя гаспадары для сваёй жывёлы гольле ня секлі. Так, год быў засушлівы, многія лугі высахлі. Але на балотах і ў лясах сакавітай травы было нямала. Браў чалавек у рукі касу ды выбіраўся ў зусім няблізкі шлях... Работа гэтая нялёгкая, дый даставіць скошанае часам было няпроста. Але для ўласнай гаспадаркі людзі працы не шкадавалі... Ну, а калгасным каровам у тую зіму давялося жаваць гольле з дрэў.

*Ігар Пасноў, Віцебск*

***04.07.2013***

**Тарыфны аклад лекара сёньня — 1 мільён 50 тысяч рублёў (гэта я з уласнага досьведу ведаю). З надбаўкамі за пасаду — 2 мільёны. Так, людзі бяруць дадатковую нагрузку, працуюць на 2–3 участках, дзяжураць у выходныя — каб выжыць. Ці сыходзяць… Сындром прафэсійнага выгараньня, стомленасьці ад такога існаваньня.**

**Асабіста я дагэтуль у шоку ад трагічнай гібелі полацкіх лекараў, якіх выправілі на канфэрэнцыю ў Менск на няспраўнай, разьдзяўбанай машыне хуткай дапамогі… Аварыя, сьмерць — гэта апошні званок па нашай раённай мэдыцыне. Амаль ва ўсіх раёнах Віцебшчыны мэдыкі езьдзяць на выклікі на такіх жа развалюхах. Шпіталі ляжаць у руінах, капітальныя рамонты цягнуцца гадамі. У шпіталях хворыя з сардэчным прыступам і інсультам ляжаць на старых зламаных ложках з панцырнымі сеткамі. Няма прыстасаваных для хворых туалетаў… А ў гэты час у абласным цэнтры знаходзяць грошы на дарагі падземны пераход пад вуліцай Леніна, ля фэстывальнага амфітэатра. Вядзецца рэканструкцыя музэю прыватных калекцыяў пад чыюсьці сядзібу. (Напэўна, кагосьці з высокапастаўленых чыноўнікаў.) Сьлёзы крыўды і роспачы ад усяго гэтага… На дарагія забавы грошы ёсьць, а на дыхальна-наркозныя апараты для анкабальніцы — няма…**

Кантроль за будаўніцтвам за дзяржаўны кошт дарагіх і прэстыжных аб’ектаў — гэта найбольш ласы кавалак для прагных да хабару чыноўнікаў. Выдзяленьне зямлі ў цэнтры гораду, дазвол на будаўніцтва, тэндэры на пастаўку абсталяваньня і будматэрыялаў — усё гэта мала чым абмежаваныя магчымасьці для атрыманьня шматмільённых «адкатаў» ад камэрсантаў, якія змагаюцца за права доступу да выгаднага дзяржаўнага падраду. Як кажуць дасьведчаныя людзі, сума адкатаў у выглядзе напакаваных валютай чамаданчыкаў, што перадаюцца чыноўнікам-хабарнікам, даходзіць да 20 працэнтаў ад кошту аб’екту. Гэта — дзясяткі і сотні мільёнаў даляраў. Таму мала дзіўнага, што ў сталіцы ды абласных цэнтрах так шпарка ўзводзяцца рознага кшталту палацы ды арэны і ў такім занядбаным стане застаецца дзяржаўная мэдыцына. Ня так даўно факт надзвычай высокай карумпаванасьці будаўнічай галіны і зьвязаных зь ёй чыноўнікаў прызнаў і Аляксандар Лукашэнка, назваўшы карупцыянэрамі ледзь ня ўсё кіраўніцтва Менгарвыканкаму. Але хто, калі ня ён, гэтае кіраўніцтва прызначае?

## *Галіна Чарняк, Іўе*

***31.07.2013***

**Хочацца проста крычаць, зьвяртацца да ўсяго нашага народу Беларусі і да міжнароднай супольнасьці. Няўжо нельга прыняць ніякіх мер да гэтага Лукашэнкі і ягоных памагатых, якія пазабівалі нашых здаровых сьвіней і парасят?**

**Абгрунтоўваюць гэта тым, што нібыта чума. Ды ніякай чумы ў нас не было. А гэта нейкае вучэньне з рабункам — крадзеж таго, што людзі нажылі сваёй цяжкай штодзённай працай. Бо што такое сьвіньня ў гаспадарцы простага чалавека? Гэта ж колькі грошай трэба было аддаць на муку, на камбікорм... Асабіста я на 600 тысяч купіла... А колькі бульбы? А колькі цяжкіх саганоў трэба было цягаць, кормячы скаціну!**

**І вось яны ўрываюцца ў хату, у хлеў, за адну гадзіну забіраюць і сьвіньню, і парасят — і ні капейкі за гэта ня плацяць. Што ж гэта такое робіцца!**

**Афіцыйнае тэлебачаньне і радыё паведаміла, што людзям нібыта кампэнсуюць страты: па 14 тысяч за кілягram. Але ж гэта няпраўда! Ніякай кампэнсацыі нам не давалі. Проста абрабавалі — і ўсё! Няхай яны будуць праклятыя!**

Няцяжка зразумець роспач і крыўду гэтай жанчыны. Хатняя гаспадарка для многіх у вёсках і невялікіх гарадах, дзе цяжка знайсьці працу, засталася галоўнай крыніцай даходу і спосабам выжываньня.

Чыноўнікі, спадарыня Галіна, спасылаюцца на тое, што адразу выплаціць кампэнсацыі ня маюць магчымасьці, абяцаюць, што грошы знойдуцца бліжэйшым часам.

Грошы яны, можа, і знойдуць. А вось людзкі давер — наўрад ці. Не выпадае спрачацца наконт сур’ёзнасьці небясьпекі, якая ўзьнікла ў сувязі з эпідэміяй. Але хто замінаў уладзе цярпліва і даходліва растлумачыць усё людзям, перш чым высылаць гэтыя, так бы мовіць, «зьнішчальныя» атрады?

Урэшце, чаму было адразу не парупіцца пра грошы на кампэнсацыі, каб на месцы выплачваць іх людзям і хоць гэткім чынам крыху ўлагодзіць крыўды і непаразуменьні?

*Андрэй Чарнякевіч, Рагачоў*

***11.09.2013***

**Размаўляць па-беларуску пачаў, калі адчуў нейкую повязь з продкамі. Стала крыўдна, што ўсё наша, роднае, сваё — падаюць як калгаснае. У 18 год зразумеў, што гісторыя, якую нам выкладалі і якую ведаў, — няпоўная і няпраўдзівая. Аказалася, што ёсьць шматвяковая гісторыя ВКЛ, што ёсьць матэрыяльныя помнікі той вялікай эпохі... А я ж думаў, што апроч гісторыі Расейскай імпэрыі ў нас і няма нічога. А яшчэ выявілася, што ёсьць нямала людзей, якія размаўляюць на беларускай мове. Апроч таго, вельмі мяне чапляла, калі мне казалі: «Які ж ты беларус, калі размаўляеш па-расейску»...**

**І вось вырашыў адразу пасьля ўнівэрсытэту зрабіць сабе падарунак: пачаў гаварыць па-беларуску. Дзе і як карыстаюся мовай? Паўсюль! Вось толькі ў школе (яна рускамоўная) выкладаю хімію і біялёгію па-расейску. Ну, бывае, у краме, калі бачу, што суразмоўца мяне не разумее, выкарыстоўваю расейскія словы (але зь беларускім калярытам).**

**Ва ўсіх жыцьцёвых сытуацыях яшчэ ніхто мне не сказаў нешта дрэннае з нагоды маёй мовы. Наадварот. Ну, бывае, нехта скажа, што**

**мова падаецца яму грубай, альбо нейкае слова — сьмешным...**

**Праўда, на працу ўладкавацца цяжкавата: пачуўшы мову, глядзяць на цябе падазрона. Але потым, калі ўсё ж удасца нейкім чынам уладкавацца, наадварот, яшчэ і ганарацца, што ёсьць у школе такі настаўнік. Ну і, на жаль, кар'еру з мовай ня зробіш...**

**Словам, цяжкасьці ёсьць. У пэўным сэнсе беларускамоўнасьць — гэта пляма. Хоць і ня чорная, але, напэўна, для многіх ты на ўсё жыцьцё ўжо — апазыцыянэр. Вельмі цяжка ў 30-тысячным горадзе быць практычна адзіным беларускамоўным.**

Падобныя гісторыі, упэўнены, можа распавесьці кожны беларускамоўны грамадзянін, які прынцыпова карыстаецца мовай у любых жыцьцёвых сытуацыях. Пасьля гэтага неяк няёмка і непрыемна чуць запэўніваньні чыноўнікаў, што ў Беларусі нібыта няма ніякай дыскрымінацыі па моўнай прыкмеце і што беларускую мову ніхто не ўціскае і не перасьледуе.

## *Міхаіл Мялешка, Магілёў*

***25.09.2013***

**Даўно пара дзяржаве зьвярнуць увагу на шкодніцкую сутнасьць сучаснай моды. Яна ж прыносіць вялікія страты народнай гаспадарцы. Напрыклад, да чаго вядуць голыя сьпіны, якія мы бачым на кожным кроку? Да радыкуліту, хан-**

**дрозу, артрозу, рэўматызму ды іншых хваробаў. І вось гэтую модніцу, якая яшчэ ўчора была на 100 працэнтаў здаровай працоўнай адзінкай, сёньня ўжо трэба лячыць — марнаваць грошы на мэдыцыну ды на аплату лістка непрацаздольнасьці. І, дарэчы, мала каго цалкам вылечваюць.**

**Я ўжо не кажу пра высачэзныя абцасы. Тыя, хто іх носіць, — гэта будучыя інваліды і новыя страты для дзяржбюджэту. Адны пакалечаць ногі, другія паломяць пальцы, трэція будуць пакутаваць ад скрыўленьня пазваночніка.**

**А яшчэ многія жанчыны нарошчваюць пазногці, вейкі. А потым на вытворчасьці і ў праектных бюро гоняць брак, не трапляюць пальцамі па патрэбных клявішах. Зьнікаюць добрыя адмыслоўцы, павялічваецца колькасьць трутняў.**

**Лічу, што гэта якраз той выпадак, калі лепш хваробы і калецтвы папярэдзіць, чым потым лячыць. А таму ўлада павінна быць заклапочана гэтай праблемай і распачаць яе вырашэньне. Магчыма, хтосьці і будзе абурацца, але гэта галоўным чынам вытворцы і гандляры, якія зарабляюць на модзе. А дзяржава павінна рабіць тое, што ёй выгадна. А выгадна ёй, каб усё насельніцтва было здаровым і працаздольным. Дзеля гэтага інтарэсамі моднай індустрыі і гандляроў-спэкулянтаў можна і ахвяраваць.**

Калі кіравацца вашай, спадар Мялешка, лёгікай, дык найлепшае адзеньне — гэта ватоўка, а найлепшы абутак — кірзавыя боты. Ніякіх голых сьпінаў, ніякіх абцасаў. Мінімальныя выдаткі на вытворчасьць, і адначасова — поўная гатовасьць апранутага такім чынам чалавека да працоўных

зьдзяйсьненьняў — ці ў шахце, ці на чыгунцы, ці на лесапавале... Нешта ў гэтым бачыцца знаёмае, вельмі падобнае да сталінскіх працоўных лягераў, куды гвалтам была загнана ледзь не палова насельніцтва. Вось там і апранутыя, і абутыя ўсе былі аднолькава. Можа, спадар Міхаіл, усё ж варта даверыць самім людзям вызначаць, як ім апранацца і абувацца, якую касмэтыку ўжываць (ці не ўжываць ніякай)? Гісторыя сьведчыць: калі такімі праблемамі пачынае займацца дзяржава — нічым добрым для людзей гэта не канчаецца.

*Аляксей Былінскі, Рэчыца*

***02.10.2013***

**Аднаго разу быў сьведкам таго, як у цягніку выпадковая спадарожніца — супрацоўніца «Гомсельмаша» — скардзілася на тое, як цяжка ўладкаваць дзіця ў беларускамоўную школу. Усе школы ў раёне — рускамоўныя, а чыноўнікі да скаргаў не прыслухоўваюцца.**

**У Беларусі гэта сапраўды стала вялікай праблемай. Беларуская мова імкліва размываецца расейскамоўнай стыхіяй. Моўная праблема становіцца прадметам частых дыскусіяў, а часам і палітычных рознагалосьсяў.**

**Ведаю, як стварыць перадумовы дзеля таго, каб бяз гвалту і прымусу перайсьці да паўсюднага і ўсеагульнага авалоданьня беларускай мовай. Проста трэба адмовіцца ад падзелу школ (ня толькі сярэдніх, але і вышэйшых) на расейска- і беларускамоўныя. Гэты мэтад я б назваў «спа-**

**лучаным навучаньнем мовам». Сутнасьць яго ў тым, каб у рускамоўных школах на ўсіх прадметах (за выключэньнем урокаў рускай і замежных моваў) выкладчык да 30 працэнтаў часу вёў прадмет на беларускай мове — у адвольным спалучэньні з выкладаньнем па-руску. Усе тлумачэньні як у руска-, так і ў беларускамоўнай школах павінны рабіцца на абедзьвюх мовах — аж да поўнага авалоданьня тэмай навучэнцамі. Натуральна, самі пэдагогі павінны дасканала валодаць мовамі выкладаньня. Пры гэтым было б лягічна заахвоціць іх да гэтага — скажам, падвышкай акладу ў памеры 15–20 працэнтаў, як пэдагогам вышэйшай катэгорыі.**

**...Гэтая мэтодыка прапанаваная мной шэрагу дзяржаў. Лукашэнка адмаўчаўся, што зусім натуральна для нашай улады. А вось з Расеі адказалі. Выплацілі невялікі ганарар і ўкаранілі ў некалькіх месцах кампактнага пражываньня нацменшасьцяў.**

**Цяперашняя ўлада — часовая, і ейнае панаваньне безнадзейна і ганебна завяршаецца. Так што не сядзіце пад венікам, а дзейнічайце.**

На пачатку 90-х гадоў, у кароткі пэрыяд нацыянальнага адраджэньня, ужо гучалі падобныя прапановы. Праўда, тады многія пэдагогі і мэтадысты схіляліся да думкі, што пачаткова варта ва ўсіх расейскамоўных школах перавесьці на беларускую мову выкладаньне гуманітарных навук — гісторыі, геаграфіі, грамадазнаўства... У шмат якіх школах гэтая ідэя пачала нават ажыцьцяўляцца. Але ўся праграма беларусізацыі была згорнута і забыта з прыходам да ўлады Лукашэнкі.

Зусім магчыма, што ёсьць рацыянальнае зерне і ў прапанаванай вамі, спадар Былінскі, мэтодыцы. Хоць рэалізаваць яе ў сёньняшняй Беларусі, як вы ўжо і самі пераканаліся на ўласным досьведзе, — маларэальна.

## *Кастусь Сырэль, Ушачы*

***08.11.2013***

**У ноч на 23 верасьня ў суседняй сёмай палаце памёр яшчэ зусім не стары мужчына. Мы, насельнікі шостай палаты, даведаліся пра гэта на досьвітку.**

**Яму было ўсяго 57 гадоў, нават да пэнсіі не дацягнуў. Як кажуць, жыць бы ды жыць. Хвароба была невылечная — рак на апошняй стадыі. Выратаваць гэтага чалавека было ўжо немагчыма...**

**...Я ляжаў той раніцай на сваім ложку і думаў. Думаў пра сваё, але зьвязанае з гэтай заўчаснай сьмерцю.**

**Шмат год таму мой сын, тады студэнт чацьвертага курсу, будучы інжынэр-праграміст, пісаў для рэспубліканскай навуковай канфэрэнцыі працу па тэме раньняй дыягностыкі раку з выкарыстаньнем кампутара. Праз год ён скончыў унівэрсытэт з чырвоным дыплёмам, а яшчэ праз нейкі час адна амэрыканская карпарацыя зацікавілася ім і запрасіла на працу ў ЗША. І вось ужо адзінаццаць год сын жыве і працуе ў далёкай заакіянскай краіне. Хто ведае, можа, каб мой сын і многія такія таленавітыя маладыя людзі, як ён,**

**былі б запатрабаваныя на сваёй Радзіме больш, чым у далёкай заакіянскай дзяржаве, то сёньня мы б мелі нешта такое, што магло б папярэдзіць многа вось такіх недарэчных, заўчасных сьмерцяў. Магчыма, мы былі б на пярэднім краі навукі, сталі б стваральнікамі і ўладальнікамі самых сучасных тэхналёгіяў у самых розных галінах. І ня нашы чыноўнікі пасылалі б вучыцца сваіх дзяцей у Кембрыджы, Оксфарды ды Гарварды, а іхныя пасылалі б сваіх дзяцей да нас...**

**Але пакуль мы маем тое, што маем. Мільён нашых суайчыньнікаў вымушаны зьехаць працаваць за мяжу. А нашых бацькоў і мацярок, братоў і сясьцёр, нашых дзяцей возяць у шпіталі на дапатопных УАЗіках замест годных аўтамабіляў па разьдзяўбаных гравійках замест годных дарог. У той час як нахабнае, бессаромнае чынавенства складае пляны, якім яшчэ чынам залезьці ў нашы кішэні, каб выцягнуць адтуль апошнія грошы — быццам бы на мэдыцыну. На якую мэдыцыну, шаноўнае спадарства, дазвольце спытаць? На тую, што абслугоўвае іх, чыноўнікаў? Ці, можа, на чарговую лядовую цацанку, чарговую дажыначна-славянска-базарную забаву або чарговы «Боінг» з залатым унітазам?**

**Ох, мае рацыю доктар Ігар Пасноў ды іншыя нашы змагары зь цяперашнім рэжымам! Застаялася, загніло за дзевятнаццаць год гэтае балота — наша «доблесная» ўлада! Трэба, ой, трэба час ад часу гэтае балота ўскаламучваць, каб чэрці ў ім не заводзіліся!**

Тыдзень таму беларусы былі сьведкамі таго, як Аляксандар Лукашэнка прымаў гасьцей у

толькі што пабудаваным на ягоны загад Палацы Незалежнасьці, які адначасова стаў ягонай новай рэзыдэнцыяй. Мармур і граніт, сусальнае золата і бронза, габэлены і жывапіс, крышталёвыя люстры... Багатая цацка абышлася зусім не заможным беларусам больш як у 100 мільёнаў даляраў. Лукашэнка, відавочна, адчувае, наколькі вялікае абурэньне выклікае такое марнатраўства ў грамадзтве, значная частка якога вымушана змагацца зь беднасьцю і галечай. За некалькі дзён да адкрыцьця палаца ён публічна заявіў, што ня ўзяў на будоўлю зь дзяржаўнага бюджэту ні капейкі. Незалежныя мэдыі тут жа знайшлі дакумэнты, якія абвяргаюць гэтыя сьцьвярджэньні. А нават калі праігнараваць гэтыя дакумэнты і цалкам паверыць Лукашэнку — то і тады адразу ўзьнікаюць пытаньні: калі грошы ўзятыя не зь бюджэту, то — адкуль? Хто зрабіў Лукашэнку такі шчодры падарунак? А галоўнае — за якія паслугі? І чаму гэтыя дзіўныя фінансавыя апэрацыі памерам у сотні мільёнаў даляраў, якія праварочвае першая асоба дзяржавы, застаюцца закрытымі для грамадзтва?

## *Фёдар Яўланаў, вёска Вузкаж, Рэчыцкі раён*

***27.11.2013***

**Не разумею, што гэта наўкол робіцца. У мяне такое ўражаньне, што ўся справа ва ўзроўні нашай мясцовай улады. Усё ж раней, за савецкім часам, гэтых людзей адпаведным чынам рыхта-**

**валі — прапускалі праз саўпартшколы, акадэміі, розныя курсы... А цяпер — ня ведаю, дзе і як іх вучаць.**

**Вось хто прыдумаў гэта — зьнішчаць хаты, у якіх ніхто не жыве? Побач са мной была адна такая сядзіба. У 2011 годзе прыгналі брыгаду рабочых, павалілі плот. Потым цэлае лета прыяжджалі розныя камісіі. У 2012 годзе прыслалі тэхніку, выкапалі на маім агародзе катлаван і закапалі ў яго суседнюю хату разам з садам. Чаму менавіта ў мяне? Навошта?**

**Можа, таму, што ў старшыні сельсавету панскія замашкі? А можа, і камэрцыйныя інтарэсы?**

**Вось такія ў нас правы чалавека — на сядзібу, на жыльлё, на зямлю... Нібыта права гэтае было замацавана законам, натарыяльна. Але ў выніку адышлі мае дзесяць сотак да чыіхсьці дзясяткаў гектараў...**

**Вось я і думаю: няўжо наша дзяржава такая багатая, каб столькі намаганьняў накіроўваць на гэтыя няшчасныя соткі?**

**Шмат у мяне і іншых пытаньняў. Вось, напрыклад, чыноўнікі нас пастаянна папракаюць, што не даплачваем за камунальныя паслугі. Нібыта плацім толькі 30 працэнтаў ад сабекошту. Прычым з году ў год называюць розныя лічбы. Апошнім часам гучала нават лічба 20 працэнтаў. Цікава атрымліваецца: кошты на камуналку для насельніцтва ўвесь час растуць, але, нягледзячы на гэта, мы ўсё большыя даўжнікі перад дзяржавай. Я тут нядаўна ўзяў у рукі самапіску ды падлічыў, колькі адлічэньняў на капітальны рамонт спагналі з нас за многія гады. Атрымалася, што**

**наша трохпавярхоўка ўжо павінна быць абліцавана мікашэвіцкім гранітам. А на самой справе адміністрацыя ня можа нават нармальную каналізацыю наладзіць: пакутуем ужо больш за трыццаць гадоў. Смурод, сваркі, рэклямацыі і пагрозы. І ніхто ня хоча выпраўляць хібы, дапушчаныя яшчэ пры будоўлі дому. Вось такія ў нас прыгоды на вёсцы. А вёсак такіх, думаю, вельмі багата ў Беларусі.**

Ніхто лепш за мясцовых людзей ня ведае, як аптымальным чынам уладкаваць іхнае жыцьцё, вырашыць мясцовыя праблемы. Ці трэба было ўвогуле зьнішчаць тую занядбаную сялібу, трацячы на гэта мільёны рублёў? Можа, варта было пашукаць сваякоў памерлых гаспадароў, каб яны самі распарадзіліся сваёй спадчынай, альбо, калі ўжо нікога нельга знайсьці — проста прадаць старую хату на дровы? Калі б жыхары вёскі самі распараджаліся бюджэтам сельсавету, калі б цалкам давяралі сваім дэпутатам (гэта значыць, калі б на вёсцы існавала рэальнае самакіраваньне) — і гэтыя, і многія іншыя пытаньні вырашаліся б зусім інакш.

Гэта датычыць і тых камунальных праблемаў, пра якія вы, спадар Фёдар, паведамляеце ў сваім лісьце. Людзі прывыклі наракаць і спадзявацца толькі на чыноўнікаў, не беручы практычна ніякага ўдзелу ў вырашэньні мясцовых праблемаў. А чыноўнікі, не адчуваючы колькі-небудзь значнай адказнасьці перад насельніцтвам, дбаюць галоўным чынам пра тое, каб служыць і дагаджаць начальству, а зусім не мясцовым жыхарам.

## *Галіна Вячорак, Баранавічы*

***04.12.2013***

**І дзядоў маіх, і бацькоў бурныя падзеі мінулага стагодзьдзя ня раз змушалі бадзяцца па сьвеце. Дзеда-чыгуначніка зь сям'ёй пасьля пачатку Першай сусьветнай вайны царскія ўлады эвакуавалі ўглыб Расеі, у Самару. Беларусаў там было багата. Дагэтуль у сям'і пераказваюць такі жарт:**

**Ходзіць па самарскім рынку мужык-беларус ды крычыць: «Каму яйцы вароныя!» Расейская кабета падыходзіць, зазірае ў кошык ды зьдзіўлена кажа: «Так они же куриные». Мужык ёй у адказ: «Я ж і кажу — вароныя»...**

**У савецкай Расеі дзяды заставацца не захацелі — у 1924 годзе вярнуліся дамоў, у Баранавічы. Тады гэта была Польшча. Бацька паехаў вучыцца ў Варшаву, атрымаў там дыплём інжынэра-чыгуначніка. Ажаніўся. Мама мая родам з гораду Кола, гэта цэнтральная Польшча. Жылі ў Варшаве. У сакавіку 1939-га нарадзілася я. А ў верасьні Варшаву бамбілі, пачалася вайна.**

**Бацьку як чыгуначніка польскія ўлады накіравалі ў Баранавічы, дзе вайны яшчэ не было. Дабіраўся ён туды ў асноўным пехатой, хаваючыся ў варонкі ад бомбаў. Стаптаўшы ўшчэнт боты — дайшоў.**

**Маці разам са мной пазьней ехала да Берасьця ў цягніку зь немцамі. У вагоне немцы пыталіся ў яе, навошта яна ўцякае ад іх у Баранавічы, калі яны ўсё роўна неўзабаве туды прыйдуць. Пазьней, дабраўшыся-такі да Баранавічаў, маці расказала пра гэта сваякам. На яе зашыкалі:**

нельга было такое казаць, маглі абвінаваціць у панікёрстве і антысавецкай агітацыі...

У 1940 годзе маці пайшла ў міліцыю афармляць пашпарт. У графе «Месца нараджэньня» напісалі: «Германія». Маці запярэчыла: маўляў, ніколі не жыла ў Германіі, нарадзілася ў Цэнтральнай Польшчы. Міліцыянт пагардліва адказаў: «Запомні, такой дзяржавы — Польшча — няма, не было і ня будзе!»

*(У якасьці ілюстрацыі спадарыня Галіна даслала ксэракопію таго савецкага пашпарту ўзору 1940 году, якія выдавалі жыхарам Заходняй Беларусі, пасьля таго як гэтую тэрыторыю заняла Чырвоная Армія. Пашпарт — цалкам расейскамоўны, пры гэтым аформлены нейкім паўпісьменным пісарам НКВД з памылкамі. Сапраўды, месцам нараджэньня ўладальніцы пашпарта названая Нямеччына. Калі б у чэрвені 1941-га карнікам НКВД не давялося так хутка кінуцца наўцёкі на Ўсход, гэта магло б мець для Галінінай маці фатальныя наступствы... — В.Ж.)*

Мне 74 гады. Адукацыя — вышэйшая. Цяпер — на пэнсіі, вэтэран працы. Адпрацавала 36 гадоў — праекціроўшчыкам-сантэхнікам у «Брэстграмадзянпраекце». Зарабіла пэнсію — 2 300 000. Доўгі час працягвала працаваць і на пэнсіі — амаль 19 гадоў. Так што агулам адпрацавала фактычна 55 гадоў. Але пераліку пэнсіі ў бок падвышэньня за гэты час ніводнага разу не было.

Слухаю ваша (і маё) радыё амаль зь дзяцінства. Ужо колькі дзесяцігодзьдзяў зьбіралася напісаць вам... Нарэшце — зьдзейсьнілася. Ня ведаю, можа, нарабіла шмат памылак, бо напісала

**гэты ліст па-беларуску. А звычкі ні пісаць, ні размаўляць на беларускай мове я ня маю. Такія вось мы, беларусы... Шкада. Прабачце, калі ласка.**

Уражваюць, спадарыня Галіна, і пакручастыя жыцьцёвыя сьцежкі вашых блізкіх, і ваша багатая біяграфія. А найбольш — тое, што за 55 год працы налічылі вам такую пэнсію... Цяперашняя пэнсійная сыстэма ў Беларусі такая, што памер выплат ад колькасьці адпрацаваных гадоў мала залежыць. Будзе ў цябе стаж дваццаць гадоў ці пяцьдзясят — сума ўрэшце ўсё роўна будзе вагацца каля двух мільёнаў рублёў. Выключэньне чыноўнікі і дэпутаты зрабілі толькі для сябе. У іх — асаблівы парадак налічэньня пэнсіяў і асаблівыя іх памеры, прынамсі ўдвая вышэйшыя, чым у простых сьмяротных. Чаму? За якія дасягненьні ці за якія асаблівыя ўмовы працы такі прывілей? Няма адказу... Хоць здагадацца пра сапраўдную прычыну няцяжка.

*Васіль Завадзкі, Маладэчна*

***25.12.2013***

**Кожны дзень слухаю вашы перадачы. Вельмі хвалююць падзеі ва Ўкраіне. Выказваю вялікую салідарнасьць з усёй дэмакратычнай часткай украінскага народу, якая выйшла на Майдан, каб далучыцца да Эўрапейскага Зьвязу. Думаю, у характары і цяперашніх паводзінах украінцаў многае тлумачыцца тым, што яны добра памятаюць Вялікі Галадамор 30-х гадоў, які прывёў да пакутніцкай сьмерці ня менш як 10 мільёнаў**

**людзей. Злачынны бальшавіцкі рэжым ператварыў заможны хлебны край у пустку, дзе панаваў жахлівы голад. Даведзеным да адчаю людзям не дазвалялі ўцякаць — акружалі войскамі НКВД і расстрэльвалі тых, хто спрабаваў прарвацца. Даходзіла нават да выпадкаў канібалізму...**

**Чытаю цяпер кнігу Вадзіма Дзеружынскага «Забытая Беларусь» — і жахаюся. Галадамор цягнуўся з 1930 па 1933 год. Ён зачапіў і Беларусь. Праўда, камуністычныя ўлады апраўдваліся, што гэта, маўляў, былі вельмі неўраджайныя гады і самі яны нібыта ні ў чым не вінаватыя.**

Ну так, гэта ж не яны зганялі людзей у калгасы, адбіралі зямлю і маёмасьць, канфіскоўвалі апошнія збожжа і бульбу ў галодных сялян, каб сталінскаму рэжыму было што накіроўваць на экспарт дзеля атрыманьня валюты... Некалі я спрабаваў даведацца ў сваёй бабулі Эміліі, як яе сям’я на Гарадзеншчыне перажыла тыя неўраджайныя 30-я гады, ад якіх пакутавала ня толькі савецкая Ўкраіна, але ў значнай ступені і савецкая Беларусь. Ці было нешта падобнае ў Заходняй Беларусі ў той час? Бабуля доўга спрабавала ўспомніць нешта надзвычайнае — і ня здолела. Не было ніякага голаду ў Заходняй Беларусі ні ў 30-м, ні ў 31-м, ні ў 32-м... Працавалі, як звычайна, на ўласнай зямлі. Мелі і хлеб, і да хлеба. Можа, і атрымалі ў засушлівыя гады збожжа меней, чым звычайна. Ну дык меней прадалі на рынку — а сабе заўсёды хапала.

# *Паказьнік асобаў*

**А**



**Б**

**В**



**Г**

**Л**

**М**

### Н



### П



### Р



### С

**Т**

**У**



**Ф**



**Х**



**Ц**



**Ч**

### Ш



### Ю



### Я

# *Ад рэдакцыі:*

Паважаныя сябры,

У гэтую кнігу ўвайшло каля 3% ад агульнай колькасьці допісаў, якія прагучалі ў перадачы «Паштовая скрынка 111». Так, вы прачыталі правільна — толькі тры з кожнай сотні лістоў, якія трапілі ў эфір за апошнія паўтара дзясятка гадоў. І гучалі, натуральна, ня цалкам — абмежаваны час перадачы вымагаў рабіць жорсткі адбор, часам цытаваць толькі адзін абзац з трох, пяці, дзесяці старонак допісу. Прыходзілі і бандэролі з рукапісным тэкстам і дакумэнтамі аб'ёмам больш за сто старонак.

Каб выдаць толькі тое, што гучала ў перадачах, спатрэбілася б яшчэ трыццаць такіх кніг, як гэтая. Усё ліставаньне заняло б больш за сотню тамоў.

Меркаваньні слухачоў гучалі таксама ў эфіры — штогод рэдакцыя атрымлівае многія тысячы камэнтароў па электроннай пошце, у сацыяльных сетках, праз тэлефон. Яны — неад'емны складнік радыёпраграмаў і публікацыяў у інтэрнэце.

Усе лісты на Свабоду, як і іншыя водгукі — бясцэнны гістарычны матэрыял эпохі, летапіс народнага духу, жыцьця, яго радасьцяў, расчараваньняў і надзеяў.

Дзякуй за ваш час і ўвагу. Заставайцеся са Свабодай!

# *Пра аўтара*




Валянцін Жданко нарадзіўся ў 1964 годзе на Гарадзеншчыне, у вёсцы Краснае Шчучынскага раёну. З залатым мэдалём скончыў сярэднюю школу. Журналісцкую адукацыю атрымаў у Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце.

Працаваў рэпартэрам у шчучынскай раённай газэце, у менскай «Чырвонай змене». З 1987 году — у газэце «Звязда». У 1995–1999 гадах — намесьнік галоўнага рэдактара «Белорусской деловой газеты». З 1999 году— кіраўнік Менскага бюро Радыё Свабода. Аўтар штотыднёвай перадачы «Паштовая скрынка 111».

У 1995 годзе ўзнагароджаны прэміяй імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-цэнтру.

Жанаты. Мае дзьвюх дачок і сына.

# *Пра Радыё Свабода*

Першая праграма Радыё Вызваленьне выйшла ў эфір 20 траўня 1954:

«Тут Радыё Вызваленьне. Вы слухаеце голас сваіх суродзічаў-Беларусаў з вольнага сьвету... Наш голас ёсьць вашым голасам, бо мы зьяўляемся часткай вас, часткай усіх Беларусаў...»

Першы склад супрацоўнікаў на просьбу амэрыканскага кіраўніцтва зьбірала Рада БНР, першым дырэктарам стаў Вінцэнт Жук-Грышкевіч (пазьней старшыня Рады БНР). Далей радыё ўзначальвалі Ўладзімер Дудзіцкі, Уладзімер Цьвірка, Масей Сяднёў, Юрка Сянькоўскі, Вячка Станкевіч, ад 1998 — Аляксандар Лукашук.

Беларусь — адзіная эўрапейская краіна вяшчаньня, дзе Радыё Свабода ніколі ня мела рэтрансьляцыі і заўсёды працавала на кароткіх і сярэдніх хвалях з-за мяжы. Эфірны час вырас ад паўгадзіны на пачатку вяшчаньня да васьмі гадзінаў у 2001; ад 2013 — 4 гадзіны. У 1998 быў заснаваны інтэрнэт-сайт svaboda.org; у 2002 заснавана выдавецкая сэрыя «Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе»; у 2008 пачалася тэлеперадача Свабоды на канале «Белсат». Сёньня радыё — мультымэдыйная інфармацыйная ўстанова, якая працуе на разнастайных дыгітальных плятформах, у тым ліку ў сацыяльных сетках.

Беларуская служба — ляўрэат найвышэйшай прафэсійнай узнагароды Амэрыканскага замежнага вяшчаньня «Прыз Дэвіда Бэрка за выдатную журналістыку» (2011).

Упершыню ў гісторыі ўзнагарода была прысуджана не асобнаму журналісту ці праекту, а ўсёй рэдакцыі. Грашовую частку ўзнагароды супрацоўнікі рэдакцыі перадалі сем’ям беларускіх палітвязьняў.

Архівы Радыё Свабода захоўваюцца ў Гувэраўскім інстытуце пры Стэнфардзкім унівэрсытэце ЗША.

Радыё фінансуецца Кангрэсам ЗША праз незалежную Раду кіраўнікоў вяшчаньня.

# *Summary*

Letters To Liberty — Epistolary dialogues between RFERL's Valiantsin Zhdanko and the station's listeners in Belarus, who tuned in over the years in spite of prohibitions, roadblocks and jamming. For these audiences, Radio Svaboda is not only a wellspring of impartial and accurate news and information and a window onto the world at large but also a trusted friend and soul mate of sorts. In "Letters to Post Office Box 111," Zhdanko, the long-running weekly feature's author and co-respondent, cites feedback from admirers as well as detractors — in all cases providing trenchant and thoughtful responses to a variety of questions on political, economic and social themes. The broad panorama of Belarusian society that emerges from this correspondence is testimony to the country's democratic potential.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.




**Дарога праз Курапаты.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty: Reflections for Belarus.** *Пераклады Веры Рыч.* Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.** Збор выступаў клясыка беларускай літаратуры ў этэры Радыё Свабода. Аўдыёдыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004.




**Дуліна ад Барадуліна.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА ў Беларусі.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2005. — 520 с.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—25.03.2006.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2006. — 400 с.: іл.




*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка.
50 аўтараў з этэру
Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2007. —
576 с.: іл.




*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы –
Капэнгаген –
Парыж – Мадрыд –
Атава – Менск.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2008. —
426 с.: іл.




**Начная чытанка 2.
50 аўтараў з этэру
Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны
дыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009.




**Адзін дзень
палітвязьня.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё
Свабода, 2009. —
364 с.: іл.




*Юры Дракахруст.*
**Акцэнты Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Як? Азбука паводзінаў.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 252 с.: іл.




*Міхась Скобла.*
**Вольная студыя.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 554 с.: іл.




**Барды Свабоды.**
Зборнік гутарак і песень 50 удзельнікаў аднайменнай перадачы Радыё Свабода. Мультымэдыйны DVD-дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




**Васіль Быкаў.**
**Доўгая дарога дадому.**
Чытае аўтар. Мультымэдыйны дыск.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская Атлянтыда. Кніга другая.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2010. — 352 с.: іл.




**Сто бардаў Свабоды.** Зборнік гутарак і песень 100 удзельнікаў перадачы «Барды Свабоды». Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Галіна Руднік.* **Птушкі пералётныя.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 192 с.: іл.




**Галасы Салідарнасьці.** Міжнародная падтрымка беларускай дэмакратыі. Мультымэдыйны DVD-дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Вячаслаў Ракіцкі.* **Сто адрасоў Свабоды.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 330 с.




**Саўка ды Грышка. Год першы.** Калекцыя 50 песьняў – падзеі году ў сатырычным дуэце Лявона Вольскага з самім сабой на Радыё Свабода. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011.




*Альгерд Бахарэвіч.* **Малая мэдычная энцыкляпэдыя Бахарэвіча.** Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 320 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Сьлед матылька. Освальд у Менску.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 390 с.: іл.




**Адзін дзень палітвязьня. 2009—2011.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2011. — 328 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Пакуль ляціць страла.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 400 с.: іл.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Аўдыёкніга.
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012.




*Сяргей Дубавец.*
**Майстроўня. Гісторыя аднаго цуду.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 464 с.: іл.




**Слоўнік свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 516 с.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Гамбурскі рахунак Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 428 с.: іл.




*Валер Каліноўскі.*
**Справа Бяляцкага.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2012. — 364 с.: іл.




*Юры Бандажэўскі.*
**Турма і здароўе.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 250 с.: іл.




*Алег Грузьдзіловіч.*
**Хто ўзарваў менскае мэтро?**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 354 с.: іл.




*Юрась Бушлякоў.*
**Жывая мова.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 294 с.: іл.




*Сяргей Навумчык.*
**Дзевяноста першы.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 536 с.: іл.




*Анатоль Лябедзька.*
**108 дзён і начэй у засьценках КДБ.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2013. — 434 с.: іл.




*Альгерд Бахарэвіч.*
**Каляндар Бахарэвіча.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2014. — 464 с.: іл.